# ПОЛЫМЯ

КНІГА ЧАЦЬВЕРТАЯ



*

## ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ ПОЛІТЫКІ ЭКОНОМІКІ ГІСТОРЫІ КРЫТЫКІ



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ

1930

ВЫДАВЕЦТВА

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ



ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕВЯТЫ





СТУДЗЕНЬ
1930

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930



**УЛАДЗІМЕР ІЛЬЛІЧ УЛЬЯНАЎ-ЛЕНІН**
**(1870 — 1924)**

# ПАРТЫЯ КЛІЧА

**Андрэй Александровіч**

Разьлівам
паводкі
за —
пяцёхгодку, —
ў бой навальнічны
партыя кліча!
Фабрыка—полк,
Цэх—узвод.
За крокам крок
— паход!

На межы —
разьбежна!
На хутар —
гуртам, —
у бой навальнічны
партыя кліча!

Фабрыка—полк.
Цэх—узвод.
За крокам крок
— паход!

Тварцоў
пакаленьне —
на здраду,
на цені, —
ў бой навальнічны
партыя кліча!
Фабрыка—полк.
Цэх—узвод.
За крокам крок
— паход!

За сьпеў
многаструнны,
за шчасьце
Комуны, —
ў бой навальнічны
партыя кліча!

Крык
варстата —
штык,
граната!

Нетраў
сок —
электра-
ток!

Рух
машыны —
плуг
далінам!

Поле,
нівы
коле-
ктыву!

Ў добры час!
Красуй колгас!
Рунь.
Рань.

— Угрунь!
— Паўстань!

Працуй краіна
бесьперапынна!

1930 г.

# НА НОВЫМ ЭТАПЕ [1])

**Цішка Гартны**

I

Хтосьці, напэўна блудлівы паўночны ветрык, украдкаю адчыніў няпрышчэпленае вакно ў Рыгоравым пакоі, і сьветлая раніца заліла яго майскім сонцам. Дыхала параным пахучым паветрам. Сіняе неба ветліва атульвала старыя стрэхі смагінскіх будынкаў. Непарушныя дрэўцы маўчалі ў асалодзе квітучага бытаваньня. Руцянеючы мох на страсе суседняе хаты хаваў шэрань беднаты, так непрыметнае ў гэты ясны, празрысты дзень.

Рыгор ня быў гаспадаром сваіх думак: яны пакінулі яго істоту і расплыліся ў шырокім гале вясновага дню, разьліўшыся на дрэўцах, па моху, у трапяткіх хвалях паветра. Павольна цюкала сэрца, як-бы адбіваючы подых сусьвету, прыгожага да чараваньня, вялікага да дзіву і магутнага да недасяжнасьці...

Вось яно—жыцьцё, цяганіна сусьветнага працэсу бясконцых зьмен, нясупыннага віраваньня і векавых перафармаваньняў. Навакола, у крупінках эфіру носяцца частачкі матэрыі, складаюцца, дробяцца і родзяць новае ды новае ў бязьмернасьці вякоў... Чалавек-жа...

— Страляюць?!—Рушыў з месца Рыгор і хапіўся за рамы вакна:— няўжо дэмонстрацыя? Ах, таварышы! На вошта яны мяне ізолявалі? Да чаго іх спачуваньне ў час барацьбы?

Яму стала балюча няёмка. У нутры згрудзілася цяжкае туманнае пачуцьце ні то ўпічышчэ, ні то агіды і злосьці...

Ён пастаяў колькі хвілін, пакуль ураўнаважыўся, і тут-жа выявіў перад сабою апошняе пасяджэньне камітэту. Здарэньні накіравалі ў чаканы бок.

„Сапраўды, мы не памыліліся ў сур'ёзнасьць першатравенскага выступленьня. Камітэт усебакова выявіў перад сабою магчымыя нечаканасьці ў павароце падзей“... Толькі прычым тут мая бясьпечнасьць?

Рыгораву думку абарвалі новых два стрэлы. Ён прасунуў галаву ў вакно і паглядзеў на двор. Направа не заўважыў нікога; але толькі павярнуў узрок налева, як перад ім мігнулася двое асоб.

---

[1]) Частка другая трэцяе квадры роману „Сокі цаліны“.

— Страляніна! Як-жа так, што я яшчэ ў хаце! — папікнуў сябе Рыгор і хутка быў гатовы да выйсьця. І толькі ён хапіўся за клямку ў дзьвярах, як пачуў іх націск з калідору:

— Можна, Рыгор Міхасевіч?—эдчыніўшы дзьверы, запытала растрывожаная Ліба.

— Прашу вас, Ліба! Хто страляе?

Перастрэлка!.. Я знарок прыбегла да вас, каб вы нікуды з хаты...

— Я? Чаму гэта?

— Нядаўна прыбегаў Памыйка і прасіў мяне... Я сьцерагла, каб у хаце ніхто ня стукнуў. Заперла браму...

— Ах да чаго ўсё гэта? На вуліцы дэмонстрацыя, а я...

Рыгор ізноў рвануўся да дзьвярэй, але Ліба перагарадзіла яму дарогу.

— Прашу вас астацца ў хаце... Няўжо вы думаеце, што бяз вас рэволюцыя згібне?.. Я толькі што з Майдані. Дэмонстрацыя скончылася і зараз адбываюцца лятучыя маніфэстацыі. Дэмонстранты разьбіліся на гурткі, рассыпаліся па вуліцах і маніфэстуюць неорганізавана...

— Але-ж паліцыя страляе?

— Не адна паліцыя, а і нашы...

— І нашы? Брава! Усё-ж я не дарую вам, што вы мяне захавалі ад дэмонстрацыі.

— Я выпаўніла просьбу, ці дырэктыву ўсяго камітэту.

— „Так, так!“—нездаволена праказаў Рыгор.

— Можа гэта да лепшага...

Рыгор нічога не адказаў і прыслухаўся... Да іх даняслося яшчэ некалькі аддаленых, прыглушаных стрэлаў. Стрэлы рушылі Рыгора з месца і ён рупліва пару разоў прайшоўся па пакоі. Ліба ўважліва правяла яго пільнымі ўзрокамі і намерылася выйсьці.

— Адну хвілінку. Вы не на вуліцу?

— Выйду. Можа вам?..

— Пачакайце каля хаты мяне. Я цераз хвіліну...

Ліба пакінула Рыгора аднаго. Ён хутка перагарнуў зложаныя на стале паперы і вышаў з пакою.

— Спынецеся, Рыгор, прашу вас...—замахала настрэч яму рукою Лібіна маці. Каля хаты спыніўся стражніцкі патруль... Прайдзеце на кухню... В-в-о бачыце...

Дваром між вокан прабегла некалькі чалавек. Лопат іх шагоў адбіўся глухім рэхам па пакоях карчмы...

— Дзе-ж Ліба?.. На яе ліха, як вецер, носіцца сюды-туды...

Старая рухава затупала па калідору.

Угледзіўшы Лібу, якая ў гэту хвіліну порстка варвалася з надворку ў хату, яна накінулася на дачку з востраю лаянкай:

Скруціш, дачушка, галаву дачасна... Пракуратая... Чаму табе больш трэба, як усім? Дабегаешся. Сядзі вось у хаце, а то...

— Што з вамі, мама?—несьцярпела Ліба:—Сябе пільнуйце. Нашлі..

— Кіньце гармідар! Хрума, Ліба?—падаў з бакавога пакою стары Крамнік:—майце розум...

Ліба дабегла да дзьвярэй і прагукала да Рыгора.

— Патруль паехаў да рынку. Давайце пройдам...

— Куда-ат т-табе-э іці... Ліба!

Старая Хрума нэрвова замахала паднятымі ўгору рукамі.

— Хоць-бы раз паслухалася мацеры... Ббожжа-а...

— Ды кінь-жа ты, нарэшце, няпрытомніца,—вылаяўся Крамнік,—вось ускруціцца, ускруціцца і цэлую раніцу...

Карчмар неасьцярожліва правёў рукою між носу і скінуў з яго пагнутыя, нядобра зачэпленыя за вушы акуляры. Гэта старога раззлавала, і ён моцна затупаў па дзюрпатай падлозе.

— Вы мяне дачасна ў магілу загоніце-э. Гусі кручаныя... Хай-бы ўжо хутчэй вы пакідалі адна другую... Ай, ай-яй. І што-а гэта ро-о-біцца-а!..

Рыгору было няёмка. Фактычна сварка паднялася з-за яго.

Ліба зразумела яго заразьлівае становішча і кінулася разьнімаць бацькоў.

Якраз ёй пасобіў у гэтым уваход Памыйкі. Старыя раптам змоўклі і разышліся па пакоях.

— Рыгор дома?—запытаў Памыйка, не заўважыўшы зразу Рыгора.

— Я тут!

— Пастой! Ня выходзь на вуліцу. Ужо пачаліся арышты: дваіх гарбароў стражнікі адвялі ў стан... Трэба нешта думаць... Кожную хвіліну могуць наведаць да цябе...

— Ці ліха? А Сроль? Ты яго ня бачыў?

— Ня бачыў!.. Хоць-бы з ім ня здарылася чаго дрэннага... Можа нам склікаць лятучую нараду?.. Га?

— Зойдам да мяне і абгаворым...

Ліба асталася адна.

— Я павартую вас!

Яны пашлі да Рыгора.

— Маніфэстацыя прайшла на славу...—пахваліўся Памыйка:—Забастоўка захапіла ўсе майстэрні; крамы да аднае зачынены. Сьвята—разумееш... як мае быць! Повен рынак людзей... Настрой... Але некаторым дасталося ад стражнікаў. Аднаму нават порткі прастрэлілі... Добра, што ня ў ногу... Толькі, вядома, гэтым ня скончыцца, не... Трэба чакаць вобыскаў і, магчыма, арыштаў... Табе я раджу, Рыгор, пераначаваць начоў колькі дзе-ні-дзе... Як думаеш? Сролю тое самае... Паліцыя раззлавана як зьвяр'ё...

Памыйкава данясеньне было прасякнута выразнай трывожнасьцю. Ен нэрвова бегаў па пакоі і аглядаўся на Рыгора.

Рыгор некі час маўчаў, задумаўшыся над словамі таварыша.

— Трэба адшукаць Сроля і парадзіць яму пра асьцярогу... Са мною, магчыма...

— Пашкадуюць? Самаўцеха! Кінь, Рыгор... Мне-то напляваць.

— Чаму так?

— А што я маю згубіць?..

— Волю! Ты, пэўна, яшчэ не перажыў пачуцьця гэтае страты... Ня так лёгка...

— Бадай што...

— Я табе кажу...

Памыйка раптам спыніўся і паглядзеў у вакно.

— Добра! Пасьля пра гэта будзем думаць, а зараз я цябе пакіну і пайду шукаць Сроля.

Яму абавязкова на некі час трэба зьнікнуць паліцейскага вока.

— Рацыя.

— Гэта слова было сказана Памыйкам ужо за дзьвярыма Рыгоравага пакою.

Сьпешныя крокі яго пацягнулі за сабою скрадлівыя гукі тупату.

Праз незачыненыя дзьверы Рыгор пачуў некалькі сказаў, якімі наляту Памыйка абмяняўся з Лібаю.

— Цікавы чалавек! Эпікурэец сапраўдны. Бесклапотны што да сябе, як птушка. Гэткіх жыцьцё песьціць... Ну, а са мною.

Кінутая ў прагальле наступнага думка, хутка пакінула Рыгорава адзнаньне. Ім завалодала глухая нядбайнасьць да ўсяго, што магло гразіць яму небясьпекай, ці простай няпрыемнасьцю. Сталёвым калпаком навісла ўпартая нячуласьць, за якой мужнела яго істота.

Каб ня Ліба, якая ізноў прышла пазваць Рыгора прайсьціся ў мястэчка, ён-бы праседзяў адзін у пакоі, бязмоўна і бязварухна, чалавекам, каторы скончыў сягоняшні урок і дае адпачынак напружаным нэрвам.

— Над чым задумаліся?

Рыгор устаў і засьмяяўся.

— Якраз-та нічога ня думаў.

— Знача, як ёсьць вольны?

— Бачыце. Тады...

Ліба прыслухалася да прагучэўшага за дзьвярыма вокліча.

— Ізноў маці расхадзілася. Яна ў нас сягоньня асабліва сварлівая.

— Так, трэба яе ўлагодзіць.

— Ня вельмі лёгка... Старая... Можа маеце хэнць выйсьці на вуліцу?

— З ахвотаю... Але маці?

— Нічога... Ня думайце-э што... Хадзем

Мацеры ня было ў хаце, калі яны прайшлі да высьця.

— Пашчасьціла!—пажартаваў Рыгор.

— Вось табе то і тое...

На суседняй вуліцы, дзесьці за прычынятаю брамаю ў двара, разьліваўся малады звонкі рогат. На яго адгукваўся выразны бразак падкоў,

ці то зմораных за дзень мяшчанскіх коняй, ці распуджаных стражніцкіх стаеньнікаў.

Не, згаварваючыся, Рыгор з Лібаю накіравалі ў бок вуліцы, якая бегла ў поле, да засмучанага пылам ветрака.

На сустрач ім, з дэмонстрацыйным рыкам сьпяшыла ў мястэчка лента выстраеных шэрагам кароў.

На вуліцы блізіўся вечар. У ціхім густым паветры насіліся кудлы пылу. Каля двароў хат, амаль ня спрэс, стаялі гурткі моладзі, горача абгаварваючы падзеі мінаючага дню. Чырванеючы захад залаціў зялёныя галы паплавоў, што разгарталіся перад прагнымі ўзрокамі Рыгоравага ваччу.

II

— Няўжо сем гадзін?—зьдзівіўся Рыгор, працягваючы руку за гадзіньнікам.

У пакоі было сьветла і ціха. Спаць не хацелася ні званьня. „А калі і раней сямі? Учора весь дзень адпачываў—за ноч выспаўся“.

Рыгор забыў паглядзець на гадзіньнік і палажыў яго пад падушку, а сам стаў адзявацца.

„Напэўна госьці на мінулую ноч раздумалі аддаць візыту“.

Ён абмыў твар і вышаў на вуліцу. Пастушкі толькі што займалі гавяду. Дзесьці каля царкві чуўся зык берасьцянкі. На яго адзываліся глухія стукі вешніц і траскучыя скрыпы варот.

Над шчытамі хат працягаліся чырвоныя касьнікі променю—ім таксама залаціліся верхавіны блізкага гайку і трапяткія лісьця разгацістага вязу ў двары суседняе хаты. Па стрэхах хат і на тым-жа вязе вароны справулялі вясельле.

Учарашняе трывогі, хваляваньня ні сьледу. Нівошта не дапамінала пра маніфэстацыю, патрулі, страляніну. На адгоне вярсты, за востраю страхою школы высілася вежная надбудова паліцэйскае цытадэлі.

„Няўжо ў ёй сядзяць заарыштаваныя ўчора гарбары? А мо‘ да іх далучаны, чаго добрага, Памыйка, або Сроль? І ўзброены старажнік адмярае вартавыя шагі? Ці той-жа спакой, які справадзіў мой сон, быў уласным для ўсіх жыхароў мястэчка, пачынаючы ад Сроля з Памыйкам і канчаючы станавым з стражнікамі?“

Адказаць было некаму.

І Рыгор моўчкі накіраваў у абход мястэчка, пастаўнікамі, да майстэрні.

Загінаючы за рог канцавое хаты, ён паглядзеў на гадзіньнік: было бяз дваццаці сем. Рыгор зьмерыў вачыма адгон да Шульцавага гароду, адлажыў прыблізных дваццаць хвілін для ціхае хады і прысеў на плоце.

Ад маладое травы на пастаўніках нясло мядовым водырам. Было лёгка дыхаць. У нутро надыходзіла рэзвае натхненьне, ткучы шаўкавістую тканіну ўзьнёсных, палкіх думак і намераў. Жыцьцёвая сіла таўхала ў бок ад штодзенных клапотаў існаваньня. Майстэрня, сувязь з Сілцамі,

думкі пра Пецярбуг, блізкія знаёмыя і дарагія таварышы—усё гінула, расплывалася ў руцяной зелені пастаўнікоў, у срабрыстым галёне праз-рыстай расы. Ці думаў хто пра яго ў мінулую ноч, ці не памыкаўся на яго паліцэйскі намер? А калі ды так—якое, сапраўды, яму дзела да таго цяпер вось, у гэтую хвіліну ўнутранога ўздыму!..

У версе, над галавою, неабмежны прастор блакітнага неба, аздобленага бруштынавым сонцам, а ногі на мяккім дывану поплаву... Побач—дэсэні рознастайнай загарадзі: шастаколу, пералазу, плятніку, драцяных нітак; за загарадзьдзю—зялёныя дрэвы, у маладым сьветлазялёным лісьце, а то і ў белым прашыве нераспушчанага цьвету. Не адарвацца вачом.

Але яму трэба іці.

Асалодна пацягнуўшыся, Рыгор зрабіў рукамі вольнае расьпяцьце, зяхнуў і пайшоў да рэчкі.

Заваленая лёгкаю павуцінкаю луні, Жаўранка выпірала яму вострае калена свайго залому і далей наўскос кіравала да Шульцавага поплаву. Адкуль яна выныраля—цяжка было выявіць, бо густыя кусты лазы ды алешніку хавалі яе ўлоньне. Толькі мо' на паўвярсту ўлева вынікаў з травы яе невялічкі кавалак, чорным вокам пазіраючы на Рыгора.

Рыгор павярнуў направа і накіраваў берагам успадарожжа вадзе.

Там, дзе Жаўранка бліжэй усяго падыходзіла да плоту, ён спыніўся. На гадзіньніку паказвала палова восьмае.

Рыгор пералез на пастаўнік і вузенькаю сьцежкаю пайшоў праўцом да задымлянага з невялічкаю трубою цагэльнага будынку.

Яго настрой крута зьмяніўся; думкі панясьліся ў майстэрню, уздымаючы вобраз яе ўнутранага зьместу.

Мігнулі шэрыя вобразы будзёншчыны. Учарашні дзень бліснуў празрыстаю маланкаю і згас. Зараз, вось, радком у шэсьцярых, пад наглядам Шульца, прыгнуцца яны над варстатамі і заскрыпяць па жалезе вострымі напільнікамі... Шульц завядзе свае моралы... Пачне пытаць пра ўчарашняе. Магчыма папікне ці пагіранізуе на чым.

— Рыгор, на хвілінку,—пачуў ён ззаду сябе.

То якраз быў Шульц.

Ён нагнаў Рыгора, прывітаўся з ім і, не спыняючыся, пашоў побач.

— Знача рашылі такі выспрабаваць непрыкрытую дэмонстрацыю? Не хапіла цярплівасьці...— пачаў першым Шульц, заглядаючы Рыгору ў вочы.

— Як ведаеце... А чым было дрэнна?

— А па маему дрэнна... Трэба было трымаць...—Нябось чуў мо', што ноччу адбыліся трухі чуць не па ўсяму мястэчку... Я проста зьдзівіўся, калі зьнянацку цябе стрэў. Глядзі, адно, каб не наведала паліцыя сёньня... Ня шкодзіла-б пераначаваць у мяне. Вось і з Памыйкам невядома.

— Можа стацца...

— Сроль доўгі—дык той хітрэйшы... Ён гэту ноч начаваў у нашай майстэрні.

— Ласьне?

— Так... Нават у нашага Стаўбуна трасьлі каля гадзіны...

З-за хаты паказаўся Памыйка.

— Цэлы, глядзі!—пасьмяяўся Шульц:—вам пашанцавала.

— У агні не гарымо, як кажуць, і...

— Не запэўняйся... Трэба лепш прысьцярагчыся, браце...

Яны падышлі да майстэрні. Шульц прапусьціў Рыгора ў дзьверы, а сам вярнуўся назад.

У дзьвярах Рыгора пераняў Сроль.

— Мне Карл Людвігавіч паведаміў, што ты ў гасьцях.

— Чакаю больш паўгадзіны...

— Толькі?..

— Сплючы ня думаў пра нікога.

Да іх падышоў Памыйка.

— Цэлыя?

— Мы не гаршкі, каб...

— І гаршчок да пары ваду носіць...

Карыстаючыся адсутнасьцю Шульца, яны вышлі з майстэрні і адышліся да кустоў агрэсту.

— Ведаеце што, таварышы,—паведаміў Сроль,—я надумаў сёньня ноччу пакінуць Смагін. Стаўбун, напэўна, тое самае зробіць... Яго-ж трасьлі .. Забралі ўсе кніжкі, пісьмы... Чаму не заарыштавалі—дзіва!.. Вось ня ведаю, як і што было ў мяне на кватэры—не наведываў... Хіба папрасіць Лібу Крамнік... даведацца?

— Куды-ж надумаў ехаць?—запытаў Памыйка.

— Радзьмася ў траіх—гэта-ж агульная справа... Ды... Тут усё агульнае: а можа па вашаму пакуль і ня сьлед ехаць? Ліха яго ведае... Кажэце...

Хлопцы хвілін з пяць думалі.

— Едзь, браце,—парадзіў Рыгор.—Нашаму брату ня можна доўга засежывацца на адным месцы... Годзе—папрацаваў. Перакідайся, пакуль цэлы... І ў другім месцы людзі патрэбны...

— Ды ўжо-ж, не прывыкаць да пераездаў...

Памыйка спагадліва паглядзеў на сур'ёзны, задумены твар Сроля і прамаўчаў.

— Ну, а па тваему, Павал?

— Па маему?.. Па маему... Я не паеду—гэта першае; а табе... магчыма Рыгор праў... каціся ў Вільню... Усё далей ад Сібіру ці Архангельску...

Ён у голас зарагатаў, пасьля раптам стрымаўся.

— Я люблю цябе, Павал, за тваю бясьпеку... Але—давай бяз жартаў...

У гэтым餘ролевым сказе і Рыгор і Памыйка адчулі лёгкае нутраное ваганьне—няпэўнасьць у тым, адобрываюць хлопцы яго намер, ці толькі выспрабоўваюць яго цьвёрдасьць.

— Я магу гэтак і так,—дадаў Сроль.

— Ня можа быць іншага выйсьця—едзь,—у адзін голас пастанавілі Рыгор з Памыйкам.

І рашучасьць іх слоў мігам адбілася на Сролевым твары; хлопец ураўнаважыўся, заспакоіўся і перашоў да іншых пытаньняў.

— Архіў і пячатку я застаўлю ў Сіменя Галаса... Надзейняйшы чалавек... Кравец з майстэрні Шамеса... Яго Павал ведае. Я скажу, каб ён да Рыгора прышоў. А вы, браткі, глядзеце за організацыяй... Ты Павал... асабліва, Рыгору пакуль нельга адкрыта, а ты...

— А мне пляваць... Чым даражыць?..

— Як-бы сабе ня было, а жыўцом аддавацца ў рукі—ня сьлед... Ды ты ня так паліцыі патрэбен, як патрэбна спаралюшаваньне твае працы.

— Мы ўжо паспыталі гэтага,—кажаш, не навіна,—пасьмяяўся Рыгор...

— Як-бы сказаць...

— А калі едзеш і з кім?

— Я назмроку забягу да Крамнікаў... Трэба зрабіць так, каб як найменш людзей ведала пра гэта...

Хлопцы заўважылі Шульца і вярнуліся ў майстэрню.

— Пара, хлопцы, да варстату,—паслаў Шульц ім удагон і, азірнуўшыся навакола, дадаў...—Нечага загаворы ладзіць...

— Ідом!—праказаў Памыйка...

— Пільная праца: сячкарню з маёнтку прывязьлі рапараваць... На сёньня павінна быць гатова...—папярэдзіў Шульц і зацікавіўся кустамі.

Сроль правёў таварышаў да майстэрні і павярнуў на сьцежку, па якой прышоў Рыгор.

Стук малатоў і бразак жалеза ў сьлясарнай справодзіў яго няўверaную хаду ў бок да Жаўранкі.

## III

— Рыгор Міхасевіч! Прыхма ды годзі! Вы бачыце-э? Лістоў, як да якога комэрсанту... Во... Адзін, другі, трэці... Сёньня ад вас належыць...

Ліба працягнула насустрач Рыгору зложаныя веерам лісты. Яе маці, старая Крамніха, седзячы на ўступах ганку, суцешна паглядзела на вяртлявую дочку і нешта прамармытала сабе пад нос.

— Абед гатовы?—справілася ў яе Ліба.

Рыгор пераняў ад Лібы лісты і пасьпяшыў да сябе. Клубок раптоўных, загадкавых думак занасіўся ў яго галаве. Выабражэньне стала пасьпешна плясьці рознастайныя комбінацыі зданых вобразаў. Яны затулілі настроі, з якімі Рыгор пакінуў майстэрню. Астыў узʻюшаны доўгай працай і сьвежым паветрам апэтыт.

— Сапраўды прыхма,—паціснуў Рыгор плячыма, ачуўшыся адзін на адзін.

— А вячэраць?—пачуў ён з-за дзьвярэй, але не адказаў.

Ліба з хвіліну недаўменна паглядзела ў непрычынятыя дзьверы і, не дачакаўшыся адказу, цішком адышла.

Рыгор заняўся лістамі. Ён дастаў іх з канвэртаў і паглядзеў на характар пісаніны. Гэта яму нічога не сказала. Тады ён прыняўся чытаць.

Першы ліст быў ад Гэлі...

Яна пісала пра справы свае трупы, пра спэктаклі, якія ёй прышлося разам з трупаю адыгрываць у цэлым шэрагу мястэчак і гарадоў.

Сур'ёзна і з замілаваньнем паведамляла яна пра той шумлівы посьпех, які справодзіў у розных мясцох іх спэктаклі і... яе выступленьні. З натхненьнем апісвала Гэля спэктакль „Паўлінка“ ў вадным прамысловым мястэчку, дзе рабочыя гэрбары падаравалі ёй пару выцяжак і букет красак за яе здольнае выкананьне ролі Паўлінкі...

Але, чамусьці, сьледам за бадзёрымі сказамі пра гэтыя здарэньні Гэля з сумам пераходзіла да сваіх суадносін з мужам. Яна рэкомэндавала яго Рыгору чарствым, халодным, бязудзельным да справы тэатру і да яе, як жонкі, чалавекам.

Яе ліст канчаўся ўспамінамі пра Сілцы, пра гутаркі з Рыгорам. У апошніх радкох яго Гэля выказывала спагаду таму, што „жыцьцё раскідала іх па розных кутках, паставіўшы кожнага ў розныя ўмовы“.

„Напішы адказ на Беласток—да выпатрабаваньня“.

Другі ліст пісаў Рыгору Сёмка...

Па размашыстым характару, што распаўзаўся ломанымі літарамі па бруднай плямістай паперы, выяўна адбывалася змардаваная рука таварыша хлебароба. Ад лісту нясло кіслым паўбульбяным хлебам ды пяшчанаю, няўроднаю зямлёю. Між радкоў мігаліся беглыя ўзрокі гаспадарнага ваччу Сёмкі.

Ліст адцягнуў да сябе ўсю Рыгораву ўвагу. Перад ім вырасьлі вобразы мінулага. Вось ён бачыць Сёмку на полі пры арбе. Пільнае вока заўзентага дбайніка-гаспадара аглядае кожную мясьцінку вузкае палоскі. Раз-ад-разу Сёмкаў узрок сягае ў бакі, дзе сьцелюцца шырокія галы ніў, якія сьціскаюць яго шнурок да памераў вузкае межкі...

Ліст прысьвечаны амаль ня цалкам грамадзкаму жыцьцю Сілцоў. У ім падносілася Рыгору суцэльная схэма сучаснага стану мястэчка ў одсьвеце політычных настрояў. Сілкаўцы ня дрэмлюць... Варушацца... Знашлося шмат новае моладзі, якая згуртавалася ў некалькі колак з мэтамі самаадукацыі. Удалося адчыніць бібліатэку-чытальню і правясьці зборы на політычных ссыльных... Сам ён, Сёмка, менш як раней аддае часу грамадзкай справе—зацягнуты ў бросьню будзённага жыцьця, заўсёды пад шчыльным наглядам паліцыі—аднак „не адарваны ад змаганьня“...

Ён жаніўся з Волькаю і гэта крыху звузіла яго грамадзкую працу.

Пятрусь піша Сёмку лісты і ў кожным пытае пра Рыгора. Хацеўбы бачыць яго хутчэй у Пецярбурзе, у асяродку рабочае гушчы... Сёмка дзівіцца, як трывае Рыгораў настрой, пасьля бурліва перажытых дзён...

„Ці асвойтаўся ты ў умовах ціхага местачковага жыцьця, ад якога гэтак уцякаў“.

Рыгора ўспамінае і Зося... „Выпадкова праз жонку дазнаўся, што атрымала ад цябе ўклон. Была задзіўлена і разам-жа зарадавана. Але... Ёй не да гэтага... Жыцьцё тузае і, яе, бедную, як знарок аброчаную на пакуту. Жыве на дзьве хаты: у Берага і ў бацькоў. Больш у бацькоў. Амаль што ня кожны месяц прочкі, сваркі... Прасіла кланяцца... Горкім дакорам мінулая абмылка“.

— „Твая маці доўгі час хварэла... Многа плакала ў роспачы, у разуверры ў тое, ці хаця жыў ты, ці хутка адгукнешся“... „З якою радасьцю пазвала мяне чытаць твой ліст! Якім шчасьцем было для яе атрымаць ад цябе грошы!“.

„Я заўжды суцяшаю старую, абнадзейваю“.

„Не патрабуй большага—ад сілы пасабляю“.

І нарэшце: Сёмка кратаў хваляваўшага яго пытаньня—пра выезд у горад. „Думаю пра горад... Ведаеш чым гусьцей сплятаюцца жыцьцёвыя сеткі тым большая прага вырвацца з Сілцоў. Але ці будзе на гэта магчымасьць, ці прыдзе час?..“

„Пра хатнія навіны піша маці... Пішы надалей! Твой Сёмка...“

Рыгор паглядзеў у вакно. Зьмеркалася—уваччу бегалі мурашкі.

Вакольнае жыцьцё было адгарожана ад яго неасажным прагалам... Рыгор жыў ня ў Смагіне, а ў Сілцох, за соткі вёрст ад яго. Асалода адчуваньня гэтага прагнала ўсякую ахвоту да яды.

Як прыемна, што ніхто ня трывожыць яго ў гэтыя хвіліны!..

„Ага... У мацерыным лісьце хатнія навіны“.

Ён падышоў бліжэй да вакна абапёрся локцямі на падаконьнік, а лобам да гладкае халоднае шыбы.

Шэрае сьвятло адвячорку разганяла літары. „Хто пісаў мацерын ліст? Сёмка? Не пазнаць—другі зусім характар. Ды ці ў гэтым справа.

„Мой даражэнькі, сыночак мой залаценькі, любы Рыгорка! Ластаўка мая лёгкакрылая,—пачынала маці.

„Як я рада, што цябе госпад захаваў і ты адазваўся на мае модлы... А столькі ўжо я папагаравала, столькі папапрасіла бога, каб ён цябе крыў. За гэты час я многа чаго працярпела, сынок мой! Здароўя без таго ня цікавае, а тут яшчэ гэты мітрэнгі... Дык сэрца гэтак ные, гэтак пятрае, што, здаецца, вось, сарвалася-бы з мейсца і паляцела-бы няма ведама куды... За край сьвету выбралася бы... Людзям замінаю, вузкі дарожкі, цесна... Дзякуй ім—адны Сёмкавы не адцураліся мяне... Сёмка—ну і да залаты-ж чалавек!.. Які ён, сынку, добры твой таварыш!.. Суджана было Вольцы сустрэць гэткага чалавека... Пашукаць падобнага ў сьвеце і не знайсьці... Я, бывала, плачу гарую,—ён прыдзе і, здаецца, здыме камень з грудзей:—мэрам ты сам пакажасься... Можа праз гэта і вытрымала..

„Твой-жа ліст, Рыгорка, уваскрасіў мяне, дальбог-жа, сынку мой мілы. Паверыш—ляжала як забітая, а адкуль узяліся сілы—паднялася і на су-

стрэч паштальёну. Зусім не спадзявалася, што ад цябе... Жарты і столькі часу—ня ведама і ня знана, жарты-і!.

„Пазвала Сёмку і моцна плачучы з радасьці, праслухала некалькі разоў. Паляцела-бы да цябе, Рыгорка... Панеслася-бы ветрам, сынку. Даруй, што доўга ня пісала... Сёмка езьдзіў у дарогу. Волька занятая, да Зосі ісьці—ня зручна. Заблыталася—а час праміную... І толькі цяпер, вось калі Сёмка вярнуўся, сабралася напісаць... Два вечары засаб пісалі...

„Што-ж табе сказаць пра мае жыцьцё? Цяжка жыву, дарагі сынок. Прыехаў-бы—паглядзеў. Але, ці можна табе наведаць мяне? Так тыдзень дастала твае грошы. Дзякую, сынок, каб табе бог пасабляў... Аднаго не хапае—ня разам... Каб гэта, ды як у іншых людзей...

Сёмка заўжды пры бацькох, Саўка... Другім іначай, а табе іначай... Зразумела, ня наша воля ды сіла ня наша, каб пераіначыць... Мабыць ужо нам суджана ня ўгледзецца больш. Усё-ж, калі будзе як,—не забывай... Ты ведаеш, што я адна... У мяне—ты любы Рыгорка, і больш нікога суйздром нікога... Не магу пісаць,—сьлёзы заліваюць паперу... А цяпер яшчэ дапішу навіны... Слухай, сынку, мо' не пазьней, як тыдзень таму, я гэтак прыўстала сяк-так з полу, зазірнула ў вакно, а ў двор завярнула нейкая дзяўчына... Хто-б яна—думаю і чакаю. Бачу—ідзе ў хату. „Дзень добры" —„дзендобры". „Ці тут хата Рыгора Нязвычнага"—пытае. Тут, кажу... Далей разгаварыліся. Сама з Рыгі, завецца—Ганна. Была ў сваіх раднякоў каля Ліцку і знарок заехала да мяне. Расказвала пра цябе... Цікавілася, дзе ты зараз... Пытала адрысу, але, прызнацца, пабаялася... Яна думала, што ты ў Пецярбузе і хацела, пэўна, бачыцца з табою, бо прызналася, што хутка мае ехаць туды сама. Яе хтосьці—не прыпомню, сынок, усяго,—запрасіў да сябе. А можа і не... Забыла ўжо... Яна пахавала надовечы сваю маці, згубіла службу і едзе ў сьвет... І ведаеш, сынку, на адыходзе дае мне пяць рублёў... Не хацела я, аднеквалася— з якое такое ласкі—а сілаю ўсучыла... Мусіла ўзяць... Ці паверыш? Якое было шчасьце! Без капейкі ляжала... І зьнянацку... Папрашу цябе, Рыгорка, калі часамі на паткаеш яе, перапрасі і падзякуй ад мяне старой. Дай ёй божа, чаго яна сама хоча... Узяла ад бацькоў Пятрусёў адрыс...

„Ну, а, вось, слухай далей—голькі ўчора Пятрусь надаслаў чарговы ліст да бацькоў і піша ў ім, каб ты не адкладна ехаў да яго... Як быццам-бы ён нашоў добрае для цябе месца... І я плачу, што ты ізноў выбярашся ў вялікі далёкі горад, не пабачыўшыся са мною... А ў гэтых гарадох—колькі розных неспадзяванак, сынок мой дарагі .. Яшчэ раз дзякую табе, што не забыў старое мацеры... Дзякую за тое, што выратаваў мяне ад цяжкае роспачы і надаў мне ахвоты да жыцьця... Дык цалую цябе шчырым матчыным пацалункам!.. Цалую ў шчокі, цалую ў вусны, рукі твае цалую!.. Не забывай, дарагі сынку, памятай пра мяне!..

„Дакладае, вось, Пятрусёў адрыс.

„Твая маці—Стэпа".

Апошнія радкі лісту расплыліся ў шэрані, і Рыгор прычытаў іх пачуцьцем.

Плойма разгойданых пудлівых, нечаканых думак закруціла яго голаў. Зрабілася цесна ў пакоі, і хацелася выбягчы на вуліцу, на сьвежае паветра, пацягнула да знаёмых, каб перадаць ім зьмест атрыманых лістоў, роджаных імі думак і ўзьнятых плянаў. Ён схапіў шапку і рушыў з пакою.

— Вы ўжо прачнуліся?—перапыніла яго за дзьвярыма Ліба.—Вас закалыхалі навіны. Я шкадавала вас будзіць—а вячэра застаялася. Даруйце, Рыгор Міхасевіч. Я, вось, зараз падагрэю...

Ліба мігам схавалася на кухні, і не пасьпеў Рыгор вырашыць, ці іці ці вярнуцца ў пакой, каб павячэраць, як яна ізноў ачулася перад ім, ужо з ежаю ў руках.

Ён вярнуўся да сябе, і прысеў да вячэры.

## IV

Рыгор ня скончыў вячэры і далёка не перабраў усіх настойна лезшых у голаў думак, як Ліба ізноў убегла ў пакой. На гэты раз без папярэджаньня, як заусёды і без перапрашэньня—яна падбегла да столу і праказала:

— Рыгор Міхасевіч,—вас Сроль просіць.

— Сроль? Чаму-ж ён не заходзіць да мяне?

— Ён чакае вас у маім пакоі.

Рыгор мігам падняўся з-за столу і пайшоў за Лібаю.

У пацёмку на калідоры стаяў Сроль, і толькі Рыгор вышаў з дзьвярэй, як ён хапіў яго за крысо і прытрымаў.

— Еду... разам з Якавам Стаўбуном... Ён пайшоў за могілкі, усьлед балаголу, а я, вось, забег па цябе. Правядзеш?

— А Павал дзе?

— Павінен зараз тут быць... Пачакай квадранец, а я забягу яшчэ на хвілю да Сімена Галаса...

— І я пайду з імі... Іх трэба вывесьці абочнымі сьцежкамі?

— Абавязкова... Але ці ня будзе за многа ў чацьвярых?

— Мы разаб'емся па дваіх...

Сроль памкнуўся выці, ды Рыгор яго прытрымаў:

— На хвілінку... Ведаеш браток, у мяне за сёньнешні дзень усе карты перабблыталіся...

— Чаму?—зьдзівіўся Сроль.

— Прыдзецца ісьці тваёю-ж дарогай... Пятрусь заве ў Пецярбург... Знашоў нават мне месца... І, наогул,—сёньнешні дзень для мяне браце мой, нешта надзвычайнае... Тры лісты і трыста навін... Кланяецца табе Сёмка і яго жонка Волька... Чуў? Уклон і ад Гэлі... Ну, але не затрымоўваю... Бяжы да Галаса... Да нас не вяртайся, мы зараз ідом...

Сроль порстка выбег з карчмы.

Праз пару хвілін вышлі на вуліцу Рыгор з Лібаю.

Цёмная зорная неба нізка-нізка апускалася над смагінскімі будынкамі. Местачковае жыцьцё замірала.

— Сролю спрыяюць абставіны,—цішком перадаў ён Лібе.

— Цемра абманчыва!—адказала тая.

— Вы правы. Можа па Сролевых сьлядох крадзецца не адзін паліцэйскі сабака.

Ліба міжвольна абярнулася назад і па бакох, правяраючы таемнасьць свае чыннасьці.

— Пойдам па-за двор'ю,—запрапанавала Ліба.

Хутка яны схаваліся за брамаю ў двары і прайшлі на гарод.

У стадоле забрахаў сабака.

— Вы асьцярожна, а то можна наткнуцца на калы...

— Пройдам гарод і выдзем на сьцежку, а там на школішча і праз адрэзкі да могілак,—расказала Ліба і першаю апынулася за пералазам.

Хвілін праз пяць яны ўжо ішлі няроўнаю грудастаю сьцяжынкаю толькі што засеянага гароду.

Рэдкія гумны цямнелі чорнымі камякамі між нізкіх платоў. За гародамі, управа і наперадзе, адкуль глядзела пяць вялікіх залітых сьвятлом вокан школы, даносіліся сьмех, выгукі і тупат. На рынку, што знаходзіўся на ўскасяк, між школішча і цэркаві, шоргалі жалезныя вакеніцы крам. У ваколіцах, напрамкам да могілак, рагаталі коні начлежнікаў; адтюль-жа далятаў заліхвацкі губны сьвіст.

Сьвіст не канчаўся, пакуль яны ня вышлі на школішча.

Толькі яны апынуліся на яго роўным брукаваным пляцы, як іх сустрэла шумлівая грамада людзей. То былі яўрэі, якія выходзілі з школы ні то пасьля модлаў, ні то пасьля сходу. Пэўней апошняе, бо Ліба растлумачыла Рыгору, што гутарка ішла пра перавыбары духоўнага рэзьніка.

У школе паступова гасла сьвятло... Апошні яго прамень пасьпеў перад іх вачыма асьвяціць кавалак вуліцы каля рагавога дому, за якім яна загінала да могілак. Яны зацішылі хаду, каб абысьці роў, і моўчкі мінулі першых дзьве хаты. За імі ўкрадліва нясьліся зацішаныя водгукі чужое гутаркі. Але, апроч таго, вакол усё маўчала. Рыгор вярнуўся ў думках да лістоў, і яму захацелася павядаміць Лібе некаторыя, вычытаныя ў іх навіны.

— Так, у мяне сёньня багата навін,—выказаў ён і на гэтым абарваў гутарку.

Ліба тузнула яго за рукаў і шапнула на вуха перасьцярогу. Рыгор пачуў стук шагоў, якія раптам ачуліся з-заду і хутка набліжаліся да іх.

— Дзе-ж та Павал дзеўся?—запытала Ліба, забыўшы пэўна, што сама супыніла Рыгора.

— Можа ён пойдзе адзін?..—адказаў Рыгор зусім не зазлаваўшы за гэта на Лібу.

Іх нагнала двое мужчын. У цемні ночы нельга было разглядзець, хто яны; ды ні Рыгор, ні Ліба не стараліся на іх углядацца.

Мужчыны абышлі іх, і мо' праз хату далей, пачалі прарваную гутарку.

— А вось, глядзі, мо' то і ёсьць Павал з кім-кольвечы другім?—дагадліва запытаў Рыгор.

— Мне паказалася, нібы Сролева хада,—з свайго боку ўсумнілася Ліба.

Іх сумненьне паглыбілася, калі яны ўскорылі хаду і ўгледзелі, што мужчыны не аддалёк ад могілак з правага боку вуліцы перайшлі на левы.

Яны падышлі да курганца на рагу агароджы і прыгледзеліся наперадзе сябе.

— Няма нікога?!—няўверана праказала Ліба.

Рыгор не пасьпеў адказаць, як з боку іх пры паркане, пачуўся ціхі сыгнальны кашаль.

— Во дзе,—адазваўся Рыгор.

Зрабіўшы некалькі крокаў наперад, яны прымецілі балагольскую будку і некалькі людзкіх хвігур. Хтосьці па іх адрасу выказаў.

— Нарэшце прышлі.—Сышоўшыся ўсе разам адышліся за прыпарканныя кусты гладзіньніку і пасталі для разьвітаньня.

— Чаму так доўга?—папікнуў Памыйка.

— Выбачайце,—перапрасіла Ліба:—мы не сьпяшаліся, бо думалі, што ні Сроля, ні вас яшчэ ня будзе.

— Вось бачыце... як вы бясьпечна...

— Ну, кінь, кінь,—пераняў таварыша Рыгор.

— Наперадзе нас ішло пара чалавек і мы не маглі выдаваць сябе...

— Падумаеш, не здавальняўся Памыйка:—ішлі і прайшлі...

— Годзе вам... Пара ехаць...

— Так... Давайце разьвітвацца...

Сроль першым падышоў да Рыгора і расцалаваўся з ім.

Тое зрабіў і Стаўбун.

— Будзеш ехаць—ня мінай,—праказаў Сроль да Рыгора.

— Напэўна хутка—пішы, брат. І толькі ня думай, што я без цябе не хачу заставацца ў Смагіне...

— Умовы так складаюцца...

— Кінь... Галас заменіць...

Сролеў голас зьліўся з асьцярожлівым воклічам балагола.

Хутка праважатыя пачулі глухі стук калёс пацягнуўшыся ў глыб цёмнае ночы.

## V

Майскія здарэньні выклікалі зацяжныя трухі па ўсяму Смагіну. Каля дзесятку рабочых падмайстэр'яў і сялян адведала халоднае. Допыты кожнага арыштованага справодзіліся пагрозамі, высылкі і астрогу. Станавы пакладаў многа стараньняў, каб вымусіць у кожнага арыштаванага прызнаньня ў яго належнасьці да соцыял-дэмократычнай організацыі. У існа-

ваньні яе станавы не сумняваўся, але яўных доказаў не знаходзіў. На допыце ён выпытваў іх адносіны да Сроля і да Памыйкі. У Сроля на кватэры быў зроблены старэнны трух і апытана сям'я гаспадара кватэры. Але ні да Рыгора, ні да Памыйкі паліцыя ня трапіла. Гэта зьдзіўляла іх абодвых. Рыгор рабіў усялякія дагадкі; ён разьлічваў, што гэтаму пасобіла яго адсутнасьць на вуліцах у дзень дэманстрацыі, альбо тут адыграў некаторую ролю Шульц. Аднак гэту акалічнасьць Карл Людвігавіч тлумачыў выключна „лібэральнасьцю" прыстава, „які трухі і прыводы ў халодную зрабіў для блізіру, абы не скомпромэтаваць сябе перад павятовым начальствам".

Праўда, тлумачэньняў Шульца зусім нельга было апраўдаць шэрагам іншых рэпрэсыяў з боку „лібэрала" станавога. Распараджэньнем апошняга была зачынена грамадзкая бібліотэка з конфіскацыяй кніг. Былі забаронены чарговыя спэктаклі, і ўведзена нешта накшталт ваеннага становішча, з раз'язнымі начнымі патрулямі, якое цягнулася болей двух тыдняў.

Не казала ў карысьць станавога і праведзены перапіс рабочых.

Аднак факт незачэпнасьці Рыгора—аставаўся фактам. Гэты факт як найлепей спрыяў далейшаму рэволюцыйнаму руху ў Смагіна. Памыйка, які ўвесь час выказваў поўнае нядбайства да небясьпекі, зараз пасьмялеў і стаў да дзерскасьці адкрытым.

Ужо на другі тыдзень пасьля першага травеня ён зьявіўся да Рыгора з думкаю склікаць местачковы актыў і абгаварыць плян наступнай працы.

— Паліцыя не зачэпіць!—уяраў ён, суцяшаючы Рыгора, і сябе разам.

— Організацыя мусіць мець сталае кіраўніцтва. Няровен час! Кожную хвіліну трэба чакаць чарговага выбуху...

Рыгор ахалоджваў няўмерную заўзятасьць таварыша.

— Трэба некі час пачакаць...

Каб паліцыя адумалася? „Сем бед—адзін адвет"... Ды табе што... Праз дзень-другі мы будзем праводзіць цябе, як праводзілі Сроля... А нам тут сядзець, пакуль ня вышлюць... Табе, я ведаю, не сядзіцца ўжо... Куды-ж там? І месца, і таварышы, і сталічны размах працы, і... Ганна... А мы павінны варушыцца...

Па маштабу. Мне дзіва, Рыгор, што ты на гэты раз забыў пра сваю ранейшую настойнасьць...

Апошнія словы Памыйкі і тон, якім яны былі выказаны, прыняліся Рыгорам за лёгкі ўкор. Гэта было чуць у пяршыню з боку Памыйкі. Ранейшыя яго ўпрызнаньні ў адданасьці Рыгору, хоць і нясьлі некаторай вычварнасьцю, усё-ж ня абяцалі таго, што Рыгор пачуў зараз.

— Ты на некага злы, а на мне спаганяеш злосьць,—суха адказаў Рыгор.

Памыйка ўлавіў Рыгораву нездаволенасьць і зьбянтэжаны пачаў выбачацца.

— Няўжо такі і ўпраўду ты пакрыўдзішся? Калі так—прашу дараваць. Я ніколі ня думаў гэтага... Я добра разумею, што ты падаў мне раду

з добрымі намерамі... Ну, ты-ж ведаеш, што я не з-за сябе ўзьняў гарачку...

Інцыдэнт паміж імі паступова згладзіўся, і праз некі час Памыйка ізноў прызнаваўся Рыгору ў сваіх цёплых пачуцьцях да яго. Рыгоравы пропозыцыі вярнулі ў Памыйкавым разуменьні прызнаную ім таварышаву непаграшымасьць.

Дзякуючы гэтаму абое бясспрэчна сышліся на тэрміне склiканьня сходу, на канец мая.

Але наперакор абодвым здарэньні пераставілі тэрмін, адначасова пераменіўшы і разьвіцьцё падзей. Зусім неспадзявана, каля дваццатага травеню, прыехаў з Пецярбургу Шульцаў сын Рудольф. Сам Шульц зьвёў сына з Рыгорам ды Памыйкаю на другі дзень пасьля яго прыезду. Расказаныя Рудольфам навіны захапілі вострасьцю і Рыгора і Паўла. Яны запрасілі Рудольфа зрабіць даклад на сходзе мясцовай організацыі. Рудольф ахвотліва згадзіўся.

— Організуйце і—завеце мяне,—сказаў ён.

З прычыны важнасьці дакладу, рэдкага для Смагіна, справа са сходам ішла згаворана, пагоджана і латва.

Бліжэйшаю суботаю, адвячоркам, пацягнулася смагінская моладзь рознымі дарожкамі і сьцяжынкамі ў памешчыкаў лес, вярстох у трох ад мястэчка. На сход сышлося да сотні чалавек.

Сходу быў прыдадзены характар маёўкі:

Рудольфа прывялі з сабою Рыгор з Памыйкам. Яго зьдзівіў настрой сходу; суцяшала таксама і колькасьць яго ўдзельнікаў.

Разложаная між кустоў на зялёнай мураве ежа сьведчыла аб прадугледжанасьці організатараў.

Рудольфу, якому даводзілася вярцецца больш усяго сярод студэнцкіх колаў, імпонавала даверлівая ды натхненная местачковая рамесьніцкая і сялянская моладзь.

Да дзесяці чалавек сталых, сур'ёзных мужчын, укрэпленых у яе, прыдавалі сходу паважную сталасьць і цьвёрдасьць.

Рудольф адразу запаліўся натхненьнем, і сказаў сваю прамову ўдала ды стройна пабудаваную, як-бы прачытаў верш у прозе. Прамова наэлектрызавала сход, які ў пазбыве небясьпекі прывітаў Рудольфа зычнымі воплескамі.

За прамоваю пачаліся пытаньні. На перабой кідалі іх „таварышу аратару“ ўдзельнікі сходу, і прагна лавілі яго адказы.

Пецярбург вырастаў уваччу кожнага прысутнага ў нешта вялікае, магутнае і неасяжнае. Падзеі з рэволюцыйнага руху, перавязаныя з махрастымі комбінацыямі праяў агульна-грамадзкага жыцьця, паказваліся казачнымі і настолькі моцнымі, што нараджалі сабою зьдзіў, плаваўшы па тварах натхненнае моладзі і сталых.

У цікавасьці да намалёванай Рудольфам рэволюцыйнай сытуацыі танула Смагінскае першае мая.

Напружанасьць становішча на Балканах, вакол якога завязваўся моцны вузел супярэчак паміж вялікімі дзяржавамі, на чым умела і тлумачана спыняўся Рудольф, яшчэ болей раскалыхала ўдзельнікаў сходу.

Па дарозе ў мястэчка толькі і было тэмы, як пра зданьні вайны. Разьбіўшыся па двое, па трое—усе былі злучаны аднастайнасьцю гутарак.

Але Рыгор да іх не далучаўся. Яго абыходзіла і расьцягнутая пахвальба смагінскаму актыву, што пасылаў яе Рудольф. Размову на гэту тэму з Рудольфам Рыгор уступіў Памыйку. Ён ухіляўся ад лібінага спадарожніцтва таксама. Штосьці адрывала яго ад усяго вакольваючага і на скрыдлах думак пераносіла ў Пецярбуг. І месца, што знайшоў яму Пятрусь і Ганна, якая паехала туды, і цэлы шэраг іншых акалічнасьцяй віхрам насіліся над буйнай сталіцай.

Сам горад — чудзішча паўставаў перад ім у зданных вобразах, у нямоўчным гулу людзкога натаўпу, у гудзеньні сырэн, у бляску электрыкі.

З сумных муроў вытыркаў халодны, акураны гмах вялізарнага заводу, ацятага агністым поясам вокан. Лахматыя камякі дыму кружыліся між небам і зямлёю. Вось-вось—лезе сопуха ў ноздры, у рот, труціць чадам, гар'ю. І не перашкаджае гэтаму ні чыстата ляснога паветру, ні водыр хваёвае смалы, разьлітае навакола.

Зрэдку, у развоі думак Рыгор уголас пераконваў сябе:

— Пара і мне ехаць адгэтуль, пара. Я ўжо тут сваю справу скончыў.

Памыйка касіў на яго вочы, ківаў галавою і кідаў сказам: „Ды ўжо-ж ты часовы госьць“. Шкадаваў. І між гутаркі з Рудольфам гадаў: „У сьвеце набліжаюцца вялікія здарэньні, а я астаюся ў глухім мястэчку“.

У Памыйкавых думках паўставаў Сроль, прамігваў Стаўбун. Іх абліччы паступова зьліваліся з тварам Рудольфа, да якога Памыйка шчыльна прыціскаўся. Рудольф лавіў яго цёплыя ўзрокі, але прапускаў іх задуменасьць, як і зацятыя раздумы Рыгора.

Рудольфа атуляў настрой праведзенага сходу. Ідылія сялянскае ночы, пікантнасьць нелегальнасьці справы, яе пяршыня для яго ў падобных умовах імпонавалі Рудольфу. Гарадзкія сходкі цьмелі на фоне местачковага мітынгу, іх інтэлігенцкая кіпучасьць згладжвалася перад цнотнасьцю пазываў местачковых рабочых. Наогул—студэнты, з якімі Рудольф больш усяго меў справу—далёка стаялі ад гэтых вось людзей. Там, здавалася яму, зусім ня чулася тае беспасрэднасьці, якая дыхнула на яго смагінскім сходзе. Калі яны апынуліся ў мястэчку, Рудольф прызнаўся:

— На мяне ваш сход рабіў агромністае ўражаньне. Смагін так вырас, што я ня веру, калі ўспомню хоць леташняе...

— Гэтаму многа пасобіў таварыш Нязвычны,—паракамандаваў Памыйка.

— Мэрам-бы чалавек кіруе падзеямі, а не на адварот. Эх, Павал!

— Не заварочвай у філёзофію... Толькі вось...

Памыйка хацеў паведаміць пра Рыгораў ад'езд, але стрымаўся.

— Я вельмі задаволены, што вы пад'ехалі да нас,—загладзіў ён папярэдні сказ.

— Ну, я не надоўга...

— Лепі, як ніяк...

— Перацэньваеце, Памыйка,—не схаваў ільсьцівасьці Рудольф.

— Не ў маёй натуры: я люблю выказваць тое, што думаю.

Яны падыходзілі да Крамнікавай карчмы, калі трое конных стражнікаў галопам прамчаліся ў бок поля.

— Няўжо дазналіся?

*(Працяг будзе)*

## НА ШЛЯХОХ ВОЛІ [1])

**Якуб Колас**

XV

Як пад коўдрай сьнегавою
Дубянела поле,
Ніклі вербы галавою
У надрэчным доле.
Як прынёс-жа ходыр-вецер
Чуткі аб прадвесьні,
Згайданулі вербы вецьце
У супольнай песьні.
Як схадзіў-жа сьнег з узгоркаў
І гулі патокі,
Вербы сьцішанай гаворкай
Іх віталі крокі.
А як грымнулі імкліва
З лесу перавалы,
Вербы слухалі пужліва.
Голас іх навалы.
А як рэчка разьлілася,
Скінуўшы паводзьдзе,
Галасілі вербы ў страсе,
Клянучы разводзьдзе.

Шуміць паводка бурнай плыні.
Старыя змыты берагі,
Пачаты новыя шляхі,
А я падходжу к палавіне
Сваіх „Шляхоў", і ў іх пуціне
Мне голас чуецца другі,
І перш чым рушыцца ў дарогу
У поэтычны іх прагал,
Зраблю кароткі тут прывал,
Крыху падумаю пра змогу,

---

[1]) Гл. „Полымя" № XI-XII 1929 г.

Ці траплю стаць з жыцьцём у ногу,
Ці ёсьць для гэтага запал.
Жыцьцё ня йдзе, а шкваліць бурай,
І што ні момант, што ні час,
Расьце парыў і творчасьць мас,
І за падмуркамі падмурак
Узводзіць моцная натура—
Нядаўні раб і сьвінапас.
Краіна грозная Саветаў,
Саюз рабочых і сялян,
Сягае ўперад, як тытан,
І ўзьлёт фантазіі поэтаў
Праўсходзіць поступ яе гэты,
Разьбіўшы ў прах адвечны зман.
І гэты поступ чуюць горы,
І нетры цёмныя зямлі,
І нашы ціхія палі,
Дзе з веку ў век свае узоры
Пісалі сохі ў нэндзы-горы
Ды смутак сеялі ў ральлі.
Зьнікаюць межы і загоны—
Прытулкі бульніку, шыпшын—
Пад пераможны гук машын,
А на званіцах моўкнуць звоны,
Бо ўзносіць сьцяг на іх чырвоны
Рука згуртаваных дружын.
Балоты, гіблыя балоты,
Дрыгвы, і хмызьніку брыжы,
Дзе толькі сыкалі вужы
Ды палахлівыя чароты
Шуршэлі шолахам сумоты
Над рудай жышкаю іржы,
Цяпер прыемна цешаць вока
Як стэпы, пожнямі ляжаць;
На іх буяе сенажаць,
На іх красуюць ніў валокі,—
На іх паложана глыбока,
Размаху творчага пячаць.
У гэтым поступе-тварэньні,
У віры-віхры нашых дзён
Поэм і песень ёсьць мільён,
І ёсьць прастор для іх натхненьня,—
Для поэтычнага бурленьня
Шырокі ёсьць табе разгон!

Але чаму-ж ты скуп, поэце?
Твае дзе творчыя шляхі?
Ці ты сьляпы? ці ты глухі?
Ці ты жывеш у ліхалецьце?
Ці ты што маеш на прымеце?
Ці тоіш намысел ліхі?
Такія закіды-дакоры
Ты чуў, поэце, і ня раз,
І трохі чысьцілі Парнас.
У тым ты бачыш ліха, гора,
Што ты „парнаскім“ размаворам
Адводзіш выкрадзены час,
Адбыўшы службу, пасяджэньне
І не адно—штук пяць на дзень,
Калі прамоўца-авадзень,
Пачаўшы нуднае гудзеньне,
Зьвядзе на ноль тваё натхненьне
І мысьлі вытравіць у пень;
Той час, калі зьняможа цела,
І атупее галава,
Сядзіш, асьлеплая сава,
І вобраз творыцца нясьмела,
І словы ткуцца дубянела,
І мысьлі нікнуць, як трава.
Я спачуваю ўсёй душою
Тваім згрызотам, мілы брат,
Бо ў гэтых скаргах праўды шмат,
Бо як ня згодзішся з табою,
Калі прамоваю-імглою
І мух атруціць іншы хват!
Прызнаць тут можна апраўданьне,
Прывесьці рад другіх прычын,
Каб згладзіць кволы твой пачын,
Але пастаў-жа запытаньне:
Ці зжыў, поэце, ты хістаньне?
Адказ дай ясны і адзін!
Рассунь-жа засаўкі няверы,
Спусьціся з гор крыху на ніз,
Пакуль у сьценах не закіс,
Ды расчыні ты шырай дзьверы
І вокам з большага хоць зьмерай
Жыцьця жывога рукапіс!
Паслухай—тукат, рух мільёнаў.
Шуміць зямля, гудзе завод—

Вялікі чуецца паход.
У тэмпе бурнага разгону
Пад сьцягам багрыста-чырвоным
Рубеж кладзе наш кожны год.
Сьмялей на шлях жывое працы!
Выходзь, поэце, на прастор!
На варце стань, ідзі ў дазор
І поўны пульс жыцьця намацай
І ў мур выводжаных палацаў
Сваю ўлажы цагліну—твор!
Жыцьцё-ж так казачна-імкліва
Пасьпець за ім так цяжка мне,
Каб на шырокім палатне
Нарысаваць яго завівы,
Адбіць і хвалі пералівы
На самай страшнай вышыні.
І я стаю на скрыжаваньні
Сваіх пісьменьніцкіх дарог—
Ва ўсе канцы заве разлог:
І сёньнешніх зарніц бліскаўне,
І наша заўтрашняе раньне,
І гром ўчарашніх перамог,
І ўсё, чым сэрца поўна, жыва,
Ды не знайшло ў акордах слоў
Адбіткаў яркіх, галасоў...
Плыве, бяжыць паток імклівы
Хай будзе-ж бег яго шчасьлівы,
А мой хай будзе добры лоў.
Цяпер варочаюся к тэме.
Далейшы сказ пачну з таго—
Трудней за ўсё пачаць яго,—
Што да гэрояў у поэме,
Хоць іх і так страката племя,
Яшчэ дадам тут аднаго.
Ён па профэсіі—рабочы,
А па паходжаньню—латыш.
З-пад Рыгі трапіў за Іртыш,
Этапаў многа перакрочыў
За тое, што за лёс сірочы
Гатовы быў пайсьці на крыж.
Ды грымнуў гром над царскай брамай,
З няволі вырваўся народ.
Вярнуўся Шкунда на завод
У Матавіліху над Камай,

Знайшоў таварышаў тых самых,
Што з ім траплялі ў пераплёт.
Жыцьцё навокал гнала хвалі,
Кіпела воляю, гуло,
І многа радасьці было,
Але і ў бурным паравале
Няволю новую кавалі.
І Шкунда ўзяўся за вясло
Перш-на-перш тут жа, на заводзе,
З рабочых перадавікоў,
Злажыў актыў бальшавікоў,
Як камень, цьвёрдых па прыродзе,
Каб абаронцам перашкодзіць,
Эсэрам і меншавіком...
Таварыш Шкунда ў гарнізоне
Ня так даўно на верх усплыў,
Хоць ён вайскоўцам і ня быў,
Але ў вайсковай плаваў зоне
І вельмі шкодзіў „абароне"
І на салдата меў уплыў.
Худы, касьцісты, доўгавязы,
Пануры трохі на пагляд,
Ён вёў работу між салдат,
Не саступаючы ні разу
З свае пазыцыі і базы
І не адыходзячы назад.
І ўсюды-ж дойдзе ён, пасьпее
І ўжо здарэньне ня міне,
Стаяць ня будзе ў старане,
А падальле свайго алею,
Няхай ад злосьці хоць шалее
Гарлівы дбальнік аб вайне.
Ці выпраўляюць на фронт роту
Пры дэлегатах ад палка
І настаўляюць земляка,
Каб гладка там рабіў „работу"
І не паддаўся ні на ёту
На шкодны зоў бальшавіка,
Глядзіш—а Шкунда ўжо, як злыдзень,
Выходзіць з натоўпу ўпярод,
Махае кепкаю ў народ
І пачынае „злы дух-скідзень",
Ці выдзе што тут ці, ня выдзе,
Казаць якраз наадварот.

**Шкунда:**

Таварышы салдаты!
Буржуйскія халопы
Вас гоняць у акопы,
Каб нішчыць свайго-ж брата.
Дык слухайце, што вам кажу я
І чуйце:
За пузатага буржуя
Не ваюйце!
Салдат, рабочы, селянін
Злучыць павінны фронт адзін:
Паўстаць супроць капіталістых
І ўладу зьнішчыць іх дачыста,
Каб свой завесьці іншы лад.
Дык павярнеце штык назад!
Ня слухайце кадэцкага літаньня
І іх падбрэхічаў-ваякаў!
З салдатам-немцам, з аўстрыякам
Вядзеце там братаньне!—
І шум узьнімецца страшэнны,
Крычыць і штацкі і ваенны:
— Далоў Вільгэльмаўскага шпега!
Штыком заткнуць падлюзе рот!—
Шалее проста патрыот,
Ад злосьці стаўшы бялей сьнегу.

**Галасы:**

Дзяржы праступніка і зьбега—
Расію губіць гэты зброд!
Але сапсована абедня
І ўвесь казённы той настрой,
Што нясе тхлінаю старой,
І як ня злосьць тут слухаць „брэдні"?
Ці-ж ён ня вырадак пасьледні,
Дарогі цёмнае гэрой?
І перад ротай пры народзе
Прамоўца выступіць другі,
Каб выскрабсьці уплыў благі,
А Шкунда зьнік і змыўся, злодзей.
Ён вечна ў бойках і паходзе
І ня зьбіваецца з нагі.
Ці правяць мітынгі эсэры
Ды строчаць швы-істужкі слоў,

Каб дух узьняць ваяцкі зноў,
Ды ў бойку рушыць натоўп шэры,
А ім уторацъ афіцэры
І націскаюць на „арлоў“,
І тут ён трапіць акуратна
І зручна выбера свой час,
Каб у мазоль салдацкіх мас
Пусьціць стралу сваю бясплатна
Ды зноў пра доўг напомніць „братні“
Бяз розных выкрутаў-закрас.
Злуюць эсэры і кадэты
За бальшавіцкі той раскол,
І ўсе засыкаюць вакол
І асабліва эполеты,
А Шкундзе сьвята—момант гэты—
Яму пляваць на іх дазвол!
Ідзе к сваім. Іх тут ня многа,
Затое-ж большасьць іх з салдат,
І кожны біць буржуя рад,
Каб не пакінуць ад старога,
Ні качарэжкі, ні парога,
Каб не знайшло дарог назад.
І Шкунда імі задаволен,
Бо цяжка іх было сабраць.
Расьце патроху яго раць,
І здольнасьць мае яго воін
Па часьці загваздак, расколін,
І Шкунду можа падтрымаць.
Яны па ротах і па ўзводах
Вядуць работу ціхачом
І бальшавіцкім таўкачом
З мазгоў вылузваюць „свабоду“,
Бо што салдату за выгода
Буржуйскім быць папіхачом?
Ваюй—за што? за інтарэсы
Эксплёататараў-падлюг,
За ненаедны іх лантух.
Ён белы сьвет табе завесіў,
А ты пішчы пад яго прэсам,
Пішчы, заціснуты ў катух.
Буржуй, банкір, капіталісты
І псярні розныя дваран
П'юць кроў рабочых і сялян,
А наш эсэр, соцыялісты,

З кадэтам разам сьцелюць лістам
І замацоўваюць іх стан!
Яны стаяць за наступленьне.
Супроць каго-ж тут наступаць?
За што братоў сваіх зьнішчаць?
Прыходзіць час паразуменьня,
Зрабіць нам трэба замірэньне
І нешта іншае пачаць.
А што пачаць? Тут трэба розум,
Каб разабраць, як што к чаму
Ды ўжо прыйсьці ўсім к аднаму,
Каб скінуць трутняў з свайго возу:
Капіталісцкую занозу
І буржуазную чуму.
Дык грымнуць трэба моцна, ёмка,
Каб крывасосы-кажаны,
Эксплёататары, паны
Пашлі на вецер, як саломка,
І да канца патрэбна ломка,
Каб з вечнай выбрацца маны!
Хто-ж нам бліжэй?—і больш спрыяе?
Адказ адзін—бальшавікі.
Далоў вайну!—іх клік такі.
Вайна варожай усёй зграі!
Уласьць саветам у край з краю!
Хіба-ж нам гэта ня з рукі?
На гэты трон навёў іх Шкунда.
Пад град насьмешак злых і кпін
Ён доўгі час быў тут адзін,
Сярод вайскоўцаў, як у тундры,
І бралі Шкунду на цугундры,
Але ён гнаў і гнаў свой клін.
На рынак пойдзе, на таўкучкі,
Об'ект нацэліць—земляка,
Пачне гаворку здаляка
І дабярэцца да калючкі.
Глядзіш—салдат зьбярэцца кучка,
Ён не шкадуе языка:
Расьпіша ўсе табе програмы,
Эсэраў возьме на прыцэл
І існасьць іх паводзін, дзел,
І меншавіцкія ўсе плямы
На сонца выведзе таксама,
Кадэтам вынесшы расстрэл.

Дзяўбе заложна і цярпліва
Гадзіны дзьве і больш падрад,
Каб прышчапіць другі пагляд
На гэты ход падзей імклівы
І на ўсе клясавыя зьвівы
І хто ёсьць вораг нам, хто брат.
Салдат, рабочы—вось дзьве сілы,
І трэба брацкі ім саюз,
Каб зьмесьці ўвесь варожы фуз
І скінуць гнёт і зман завілы,
Узяўшы згоднікаў у вілы,
Як непатрэбны шкодны друз.
Сваімі ўласнымі рукамі
Мы, беднякі, пролетар'ят,
Павінны свой завесьці лад.
Плячо ў плячо з бальшавікамі!
Хто за вайну, таго штыкамі!
Далоў гнілы Часовы ўрад!
        У часе гэтакіх паходаў
Яму траплялася ня раз
Пачуць і сьмех, і шум-галас,
І зубаскальства конаводаў
Прабегла-жульніцкага зброду
І бязьменных цёмных мас.
Ня мала стычак і баталій
І злосных лаянак-пагроз
На гэтым фронце перанёс,
Ды як яго ні шальмавалі,
Усякіх колераў канальлі,
Ён у вачох салдацкіх рос
І не зважаў на сьмех і кпіны,
На злосны сьвіст, на дзікі вой,
У праўдзе ўпэўнены сваёй,
Ішоў сваёю пуцявінай,
Ні перад чым ня гнуў ён сьпіны,
Такі быў новы мой гэрой.

27-XI—21-XII, 1929.

# МЕЖЫ[1])

*Аповесьць*

**Сымон Баранаў**

## Частка другая

### I

Макрына адчувала тугую гаркліvасьць у сваім, стомленым перажываньнямі, нутру. Гняло неашта цяжкае, валавянае, карцела, асядала ўскаламучанаю мутою,—прыкрасьцю не перамерзшых рабін-ягад.

Яна чакала Яўгеня.

Чакала яго ў той дзень, як пайшла да бацькі, чакала назаўтра, чакала пасьлезаўтра... А ён ня ішоў па яе. Каб прыйшоў ён, каб пакрыўдзіў яе моцна-моцна, уздыхнула-б яна вольнаю трапяткою порсткасьцю: спала-б з яе сэрца смуга.

А бацька... то кідаў на яе, скосы, сьлізготны зірк, то гаварыў,—не зьвяртаючыся да яе: адным звагам, як напільнікам па іржаваму жалезу, пільгокаў яе нутро сваімі тупымі словамі.

Надоечы сустрэўся быў стары Цімох з Яўгеням. Той сьпяшаўся некуды—ішоў па вуліцы, адрывіста, як маятнік, размахваючы рукою.

— Каторае з вас не памірыцца,—з прымушанаю ўсьмешкаю на твары запытаўся Цімох пры сустрэчы.—Як гэта... Што гэта яно ў вас вычвараецца?

Яўгень сутрымаўся як прыкурыць папяросу. Яму ні то сорамна стала, ні то крыўда хацела ўзяць верх над цесьцевым запытаньнем. Запнуўся быў, нібы хацеў закашляцца, а потым за адзін раз, з падскочыўшаю вастратою:

— Яна ведае, хто вінаваты. Яна добра ведае. І я больш не хачу, каб хто ведаў.

І пайшоў тою самаю паходкаю, пакінуўшы Цімоха сярод вуліцы.

Тады большая злосьць пераядала бацькава сэрца, больш пасьля гэтай сустрэчы дапякаў дачцэ чамярыцаю.

— Ды што-ж гэта будзе? Як гэта будзе, дачушка, дачушка?..

[1]) Гл. „Полымя“ № 10, 11—12 за 1929 г.

Матка перад бацькам дробным шротам рассыпала свае словы: адным звагам чаўпла, імжэла аднатонна:

— Ён, ліха яго матары, назьдзекавацца зажадаў. Ён думае — я паглятджу на яго, калі што...

І запаліўшы зрэнкі сваіх вачэй, фальшывым сьвятлом начнога чарвяка, каб асадзіць старога, каб астудзіць яго злосныя ўздымы,—кідала жмукі крыўдных слоў на яго іністыя валасы.

Вясна шырокімі ўзмахамі крыльляў білася ў вакно, лапатала па шкле шыбы, сушыла яе мокрую, заплаканую ад зімняй ледзяной скарынкі. Нехаця спаўзалі на падваконьнік апошнія кроплі, прэснай узмучанай вады. Дзень быў асыпаны густым яблычным цьветам, мяккім пахучым;—сонца не шкадавала сваёй трымцяча-спавіваючай белі. Цімаха ня было ў хаце і матка падыйшла да дачкі.

— Схадзі да Наталі,—сказала. Ён на полі. Пагутары з ёю як ён... Што ён кажа пра цабе.

Сонца расплёхала сваё малако па столі Цімаховай хаты,—густою лужынаю—„зайчыкамі“; яно не шкадавала сваёй узьбітай вясеньняй пены; яно сапло наскрозь расчыненаю сьвежасьцю. А Цімашыха казала:

— Ты-ж не маленькая. Я сама-б пайшла, каб зручней яно. Дакульжа гэтак яно будзе?.. Трэба было глядзець сябе, кабеціна. Ніхто ня вінен. Дзіва што той бацька грызе. Бо і варта. Па сяле вунь колькі чутак ходзіць. Дачуецца бацька, данясуць,—я ня буду цярпець за цябе. Хопіць.

— Усялякае ліха, усялякае безгалоўе—усё на маю тую галаву. Меншыя былі,—клопат быў; падрасьлі—думала пра сьветлаю гадзіну ўбачу. Дык на табе:—божухна, бацюхна!

І Макрына ішла цяпер агародамі заплаканая, пакрыўджаная невядомаю крыўдаю, нясучы ў грудзёх распырсканую боль. Ішла каб ня бачыў ніхто. А то зараз залататахкае вёска: „Прасіцца пайшла“. „Бацька прагнаў“.

Ішла раскідаючы скрадзены зірк па абапал агародаў. Разважала ідучы Макрына з чаго прыдзецца пачаць. Меркавала дзесяткамі пытаньняў: пачынала іх і не магла скончыць.

Чула ідучы і як скрозь сутарэньне: на галіне набрэнкшага вяснавою жывасьцю дуба, сьпяваў чорна-смуголісты шпак. Бачыла і як скрозь туман—то сям, то там, чынілася па блакітнаму небу кужэльнае, хмарнае, валакно.

Трымацела, карбавалася дзёрная бель. Слалася бель у Макрыніным ваччу шырокімі баваўнічнымі анталяжамі.

А калі ўвайшла ў Анісеву хату,—ня ведала чаго прышла.

— Што ў вас чуваць?—сядаючы на кант зэдліка, які стаяў каля шафы, спытала.

У хаце была адна Наталя. Зразумела Наталя Макрынін прыход. Бачыла яе блудлівы, збэрсаны зірк, але не паказала выгляду.

— Нічога такога...—адказала Наталя; і няпрыкметна, як-бы сама для сябе, як-бы так:

— Яўгень недзе на полі... а мой на гумне.

Макрына сядзела, глядзела на Яўгеневу жакетку, што вісела на біле ложка. Глядзела і бачыла ўшыты гузік... белаю суравою ніткаю. Сама ўшывала гэты гузік на тым тыдні. Ушывала тонкаю іголкаю. Ня было грубой. Дык ушываючы павярнула ў бок неяк і зламала іголку...

Наталя казала:

— Учора позна сядзелі: Атрахім быў, Захара быў, Васіль... Гаманілі нашчот калякты ву. Каб ты пачула што Атрахім... Сёньня прыдуць казалі...

А Макрына тугімі часойкамі слала свае аднатонныя думкі:

— Вуньдзека і папруга яго...—бачыла Макрына Яўгеневу папругу, бачыла літары на масенжавай спражцы...—...Вуньдзека аплятаны гаршчок пад прыпячкам... стары аплятаў... Яўгень прынёс дроту ад Васіля. Пазычыў...

— ...У Гутаўскай камуне.—Скрозь Макрыніны думкі клінам тышчыліся Наталіны словы.—Як выдуць на работу—пылам курыць работа, казаў. Ведама гурт. Тут і спорнасьць табе і здароўя свайго не падарвеш. Старшы іхны, а ўсё роўна: на раўне. Казаў Атрахім, калі трэ', дык і за плугам ідзе... Загадае, раскамандуе работу паміж усіх—і сам разам з усімі...

— ... Стары аплятаў...—бралі верх над словамі Макрыніны думкі.—Ён умее моцна аплятаць гаршкі. Вельмі-ж злаўчыўся аплятаць. Не пацячэ, калі ўцісьне дротам. Аж пакуль іржа не пераесьць, пакуль не перагарыць дрот...

— ...Калі выйдуць Гутаўцы на сенажаць. Валок за валком, капа за капою. За дзень—унь які аблог зграбуць, скідаюць у стагі! Дык дзіва што і ахвота будзе падшыхаць...

— ...Стары мусіць быў дужы. Не такім быў як цяпер Яўгень... Даўнейшыя людзі дужыя... Што ён цяперака робіць?..

Макрына далёка пайшла са сваімі думкамі. Ня чула Наталіных слоў. Чула нейкую аднатоннасьць, глядзела ў Наталіны вочы—паказвала выгляд, што слухае яна,—а ў думках сьвежыя і сьветлыя ўзьвівы:

— Ён мусіць як быў малады... Які ён цудны... Я ніколі больш ня сустрэнуся адно на адно. Я ніколі, ніколі... Яго гэтая барада...

— ... Аніось кажа, абы зорганізавалі гурт—уміг і трактар будзе. Уласьця цяпер ідзе на падмогу. Гэта-ж не даўніна...

Макрына спыніла, абарвала свае думкі. Яна не знарок неяк абмацала сук у зэдліку. Пасунулася тады на канец зэдліка і ўбачыла: іх зэдлік. Яўгеняў зэдлік, што прышоўся ад дзяліцьбы.

Аж паднялася неяк. Твар заліўся ружавізнаю. Па нутру расплылася сарамлівая прыкрасьць. І яшчэ і яшчэ падыйшлі наплывы ружавізны да твару. Падыйшлі і згусьцелі—разаслалі гаручы асадак чырвонай фарбы.

Тады вочы зрабіліся глыбокаю студняю.

Наталя заўважыла Макрыніны мокрыя вочы. Заўважыла, але зацерла—не паказала выгляду. Дадала Наталя:

— Дык вось што кажа мой.

І далей:

— Яўгень на полі, на авёс мяшае. З раньня ʻшчэ як пайшоў вось...

І каб не маўчаць, каб не апалі Макрыніны набрэнкшыя кроплі зьлёз, казала ня гледзячы на Макрыну:

— А я вось з малымі. Латы латаю. Пойдуць на двор,—для пяску самы раз.

Макрына бачыла, як падняла Наталя зрэбныя, афарбаваныя ў мучане штаны шасьцігадовага Зьмітрука, як падняла на супроць сваіх вачэй—глядзела дзе, трэба яшчэ зашыць, альбо даць адмысловую латку.

Не заўважыла Макрына, што глядзела Наталя косым зіркам з-за Зьмітруковых штаноў, на яе паўшыя расою вочы.

Склалася хвіліна ахутаная павуцінаю маўклівасьці. Толькі муха, зімовая вялікая грубым басам барабаніла па раме, па шкле. Макрына ня вытрымала і прабіла гэтую сетку маўклівасьці.

— Цётачка,—сказала Макрына,—што кажа Яўгень... пра мяне?

Наталя не адразу адказала. Меншы яе, трохгадовы Васіль, папрасіў седзячы на ложку:

— Мамка, дай мамка хлеба! Сквавынку дай!

Наталя ўстала ад вакна, а Макрына чакала. І гэтае чаканьне было такім доўгім, такім ліпкім, цягучым, без канцовым, круглым як вобад. У Макрыніных думках чамусьці карцела, пішчаніцаю лезла, як слота лезла:

— Можа ён мяне кінуў? Можа Яўгень кінуў мяне? Можа?.. Ён Яўгень... Ён не пакіне мяне ніколі, ніколі... Як гэта было?—на паўмежку... на мяжы, словы... Як яны доўга, як яны надоўга ў памяці...

І ізноў дрыжэў у яе ваччу сьлезна-квашаністы застой.

— Хто яго ведае,—сядаючы на тое самае месца казала Наталя.—Нічога ня кажа. Што мяркуе, як мяркуе. Моʻ і ведае мой. Я спытаю. Яны мужчыны:—павінны яны адзін другому выказаць. Магу запытацца.

Так і пайшла з гэтымі Наталінымі словамі.

Выходзячы з хаты папрасіла Макрына:

— Не кажэце, цётачка, што я была. Ня трэба. Я вельмі вас прашу.

Наталя дакляравала:—праводзіла Макрыну аж на ганак.

* * *

Калі Яўгень зьвярнуўся з поля, змрок апускаўся на стрэхі, на ліпу што над хлявом, на белы двор. Змрок з кожнаю хвілінаю гусьцеў, чапляўся за прадметы, рабіў іх абʻінеўшымі, нявыразнымі.

На захадзе чуць-чуць была яшчэ паджарыстая пасма неба.

На двары, калі Яўгень скідаў хамут цераз галаву каня, заўважыў: роўнаважна каля падпаведкі, пад водблеск асядаючай зараніцы захаду,

камары „таўклі мак". То ўверх, то ўніз... і зноў—то ўверх, то ўніз падымаліся камары, бэрсаліся, кідаліся гуртам, клубком, зьвінелі аднастойна, як тонкі волас у мэханізму далікатнай машыны.

— Гу-у-у-у-у...—і гэтак бесьперабойна, адным звагам і бяз конца.

— Пачулі цяпло...—памысьліў Яўгень сам сабе,—адкуль толькі жвавасьць у іх... От што значыць вясна тая прышла... Усякая мошка цешыцца, лезе з-пад кары...

А камары ня сьціхалі: нібы-то хтосьці плаціў ім за гэта:

— Гу-у-у-у-у...

Пусьціў Яўгень каня з вобраці і той, адчуўшы волю, пачаў качацца па вільготнай, асьвежанай вясною, зямлі. Фыркаў конь. Заграбаў нагамі падзолісты пясок двара—перакачваўся з аднаго боку на другі... Аж стагнаў перакачваючыся, адчуваючы волю ад скінутай вупражы, ад пакінутага плуга.

— ... тая жывёліна, а як рада!—прайшоў у Яўгенявых думках абрывак сказу.

Стаяў Яўгень, трымаў вобраць на руцэ і маўчаў. Хваля радасьці ад усяго клалася на сэрца: і ад таго, што ён разам з Анісем і ад таго, што конь сьмела фыркае,—рад сваёй волі і ад гэтага камарынага гулу... Радасьць клалася на сэрца шчыльным пластом, нябачным, але тугім упрасаваным.

Ня даў Яўгень стомленаму каню напіцца вады, каб ня было ахвату.

— Кладучыся спаць напаю,—памысьліў Яўгень пускаючы ў хлеў каня.

І скрозь усё гэта, не стасаванае, ня пэўна выразнае, як здань калматае,—стаяла ў думках Яўгеня ўяўленьне яе, Макрыны.

— Мяжа... Мы... Такі прыемны подых паўднёвага ветрыку... сьпелая канюшына. Пчолы:—гу-гу-у...—бяруць мёд. Пералятаюць з галоўкі на галоўку, смокчуць яе атожылкі. А каса ляжыць пад пракосам сьвежай канюшыннай жмені...

Зачыняючы хлеў чуў, як конь пачаў перш шамацець, а потым хрумкаць прырыхтаванае Анісем, загадзе, у ясьлях сена. І ізноў:—каса блішчыць пад сонца. Ня ўся, а яе вытаркшы канец—нос.

— Нагрэецца, адойдзе,—кажа Макрына, бяручы жменю канюшыны, прыкрываючы бліскучы яе канец—вострыё. Тупа будзе тады рэзаць...

— А лён дзе-ні-дзе расьцьвіў блакітным цьветам. Сінім, сінім... А мяжа такая доўга-доўгая! Як сядзіш на ёй—ня відаць за яе лагчыністымі выгібамі канца... Бyльнёг высокі, мятліца...

І Яўгень апавіты марамі пройдзенага, адыйшоў ад канюшніка, падыйшоў да паркана. Цэлую хвіліну, з ціхаю асалодаю прастаяў Яўгень. Поўны пачуцьця быў, таму і ня было думак.

А камары не пакідалі,—зьвінелі. Усёроўна як тыя пчолы на канюшынных галоўках...

Не заўважыў Яўгень, калі пералез цераз паркан, як пайшоў. А пайшоў. А пайшоў упэўнена, рашуча.

— Раз, два... раз два...

Чамусьці ідучы ізноў прабегла ў думках:

— ... сіні, сіні...

Калі ішоў Яўгень па вуліцы цень яго гойдалася, паласкалася ў мізэрным водблеску месяца. А ён, месяц, высунуўшы два клыкі чорнаму падцягнутаму чырвона-выліняўшаю фарбаю, небу, вісеў як на аборцы над покнуўшымі пупышкамі разгатай ліпы.

— Пайду, скажу,—вырашаў ідучы,—няхай ідзе, няхай ня сьмешыць людзей.

І ішоў Яўгень роўнамерным тахтам, вагаючыся з аднаго на другі бок. Цень варушылася на скабах Міхалкавых штакет, потым—Васілёвых... Ішоў з напорам імпэту, з чулаю радасьцю.

— ... Скажу ідзі да дому, нямаш там чаго кардыячыцца. Што гэта прасіць ці што? Скажу каб не мудравалася баба. Цудная. Нарабіла штукенцыяў, а цяпер некага хоча вінавациць. Сьвет!

І ізноў перастулаў з адмае нагі на другую.

Ад працы, за цэлы дзень нылі суставы, нылі косьці, шэрхлі лёгкасьцю рукі, ногі і ўсё цела. Ішоў переступаючы ўсё далей і бліжэй. Цераз тры хаты Цімохава хата. Вось і Аўласава чырвоная брама. Яго белыя вакаініцы. У хаце гарыць лямпа. Здаецца вячэрае Аўлас. Сам, адзін.

— Ён цёнгле асобна есьць. Сям'я яго асобна, а ён асобна. Яму асобная яда. Хлеб шатраваны, сеяны на падсітак... у маленькім пабеляным чыгунчыку нешта тлустае, заўсёды ў печы—з боку, за засланкаю. Ён кажа, што ў яго катар і яму абы чаго ня можна есьці...

Падыходзіў ідучы і падыйшоў да Цімохавых варот. Хацеў адчыніць калітку: узяўся за сьлясак як:—з другога канца нехта ішоў і хуткімі крокамі.

— Пачакай,—пачуў голас, калі падняў сьлясак у калітцы.—На пару хвілін.

І тады застаўся нездаволены перашкодаю; застаўся з памучанаю радасьцю, што састоялася, была, так чыста, так празрыста-крынічна.

Падышоў Васіль. Быў у Атрахіма і цяпер ішоў да дому. Пaздароўкаўся падышоўшы і, шырока расставіўшы ступні сваіх плоскіх як праніkі ног:

— Мы вырашылі!—сказаў—як выкіну з горну два гарачыя вуглі.

— Што?—паглядзеў Яўгень, бягучым зіркам на шырокія грудзі Васіля.– Хто што вырашыў?

— Я згодзен, Атрахім, Захара... Яны ўсе будуць згодны,—казаў трымаючы ў кішэні шарачковых штаноў сваю руку—падтрымліваючы ёю, раз-по-разу спадаючыя, не падпяразаныя папругаю порткі.

Яўгень не разумеў Васіля. Чуў яго словы, гарачыя, разьдзьмуханыя веснавою сьвежасьцю—чуў, задаваў пытаньне, глядзеў абыякава ў Васілёў твар. Думкі роіліся пра другое, таму і не адразу зразумеў.

А тут якраз нейдзе над галавою, над самым вухам ізноў той вячэрні камарыны клубок:

— Гу-у-у-у-у...

— У чым рахунак, што вырашылі вы?—глядзеў Яўгень у Васілёў не паголены твар.

— Запісвацца будзем, от што! Згодны мы. Яны прыдуць да вас,— казаў пераступіўшы з аднае нагі на другую.—Я загадаў усім: хто хоча няхай сёньня прыходзіць на запісю.

— Ты адкуль ідзеш? У цесьця быў?—Пойдзем,—не дачакаўшы Яўгенявага адказу, сказаў Васіль саступаючы з месца.

І Яўгень міжвольна выпусьціў з рук сьлясак Цімаховай каліткі

А ідучы ад Цімаховай брамы, ад варот:

— Сёньня быў у мяне з Камароў... Дзяніс. З камсамольскай ячэйкі... Ну-у што сакратарствуя... Дык мы завялі былі бяседу ў Атрахіма сабраўшыся. Я... Стапан Атрахімаў... Арцём Мікалайчыкаў...

— Пра што?—перапыніў Яўгень.

— ... Анця Лявонава навярзлася была... Дык вось пра што: гаманілі былі нашчот ячэйкі. Як ты на гэта пазіраеш?

— Як нашчот гэта ячэйкі?

— Ну як... Ну каб зрабіць і ў нас гэтакую ячэйку як і ў Камарох... Камсамольскую...

Васіль ішоў з заду за Яўгеням, глядзеў сабе пад ногі—у адзін праложаны сьлед, што быў каля самых штакетаў, ішоў Васіль, перахватваў рукамі то адну, то другую штакеціну не пасьлізгнуцца каб...

І пасьля некалькіх крокаў, пасьля некаторай маўклівасьці:

— Дык яны унь, казаў, горы варочаюць сваёю ячэйкаю... Што значыць! Казаў і чытальня наладжана: кніжкі, табе якіх душа хоча, і радыё прывезьлі—зладжыліся, хто скольки змог і, казаў, рыхтуюць унь-дзека цяпер у вучылішчы ціатар ставіць... От! Дык дзіва, што весяла будзе і ахвота тая падшыхаць будзе... А то—чорт яго матару ведае: жывеш... Як ты жывеш, да чаго жывеш? Жывеш і твайго жыцьця ніхто ня бачыць. І ты, можна сказаць, ня бачыш. Бо сам сабе самапасам, жывеш... як дзікун...

Яўгень ішоў з маўклівымі думкамі, а Васіль:

— Толькі і ёсьць адно, што карты... Узырала, прыкраю ўеліся ў косьці. Ашчэ-ж як летам, дык праца... У працы хоць знаходзіш уцеху—праходзіць час. А зіма прыдзе—рамс і ачко, рамс і ачко...

І цяпер асьвяжылася Яўгенява думка, і ён, азірнуўшыся на Васіля, зацікаўлена запытаўся:

— Адкуль гэта ты розуму набраўся?—А той пераступіўшы некалькі крокаў, нібы няўчуўшы Яўгенявых слоў:

— Дзяніс казаў у іх у месяц пяць заняткаў бывае на штот палітыкі: разьбіраюць як дзе, што, калі рабілася і як цяпер. Разьбіралі, казаў

нядаўна... Забыўся... дзе, здаецца ў немцаў, некалькі тысяч рабочых, хвабрычных... не пашлі на работу... За тое не пашлі, што ім збавілі плату. Ён як нарасказываў нам... дык колькі чаго на сьвеце робіцца, бра-а-тачка... Вось і набярэшся розуму.

— Дык ты мусіць, як наслухаўся Дзяніса,—казаў Яўгень, пераходзячы на другі бок вуліцы па ўкінутай у гразь штакеціне-аполку, па канчару абламанай жордкі,— як наслухаўся, дык і вырашылі вы цяпер аб запісу ў наш гурт?

— Не-э... ня тое што наслухаўся... наслухаўся. Зразумела, як сядзіш, як нідзе ня бываеш, то здаецца ўсё як па масьле ідзе. Чалавек агоўтаецца, звыкнецца, яму, здаецца, гэтак яно і патрэбна...

— Але я ўжо і раней меркаваў... марыў аб новым жыцьці... і яшчэ з большым запалам Васіль казаў: ячэйка іхная ў Камарох ураз зладзіла калякты ў... І ўсе здаўмеліся аб яго карысьці... Вось што, значыцца, ячэйка...

Яны ўзышлі на Анісаў двор. Аўгень маўчаў. Яму прыемна было. Лагоднасьцю слалася пачуцьцё слухаючы чалавека... трэйцяга па ліку... Хацелася толькі запытацца Яўгеню ў некага: „Хто наступны?..“

І, зачыняючы варота бачыў ён як:

Месяц глыбей запусьціў у чорнае неба свае клыкі, больш сярдзітым зрабіўся... як дзікі кабан, наставіўшы хіб, хацеў рынуцца і распароць адвіслы жывот чорна-зорнаму небу—парадзісе ваўчыцы, хацеў раніць яго аж да самай крыві.

## II

Цэлы вечар меркавалі ў Анісевай хаце. Меркавалі як яно будзе, з чаго пачынацца будзе.

У Лявона Махавіка былі цэлыя жмукі сваіх сталых думак. Лявон, клапатлівы загадзе, чалавек, ня мог выпусьціць з рук так проста, на ўзьві-вецер, сваіх меркаваньняў.

Глядзеў Лявон у твар—то Анісю, то Васілю, то Яўгеню,—прыгінаў кулакі рук да грудзей— нібыта меркаваўся бегчы навыперадкі.

— Добра! Няхай сабе ты ета даводзіш—і так яно будзе. Няхай ета, як ты кажаш, мы ўжо сабе і далучымся адзін да другога. Дык мне не даведзена, ета, ніяк усё-ж нашчот работы?—Скажам мне трэ' куды паехаць, а мой конь у плузе: Васіль ці каторы другі арэ ім, альбо скародзіць... альбо нават, на што тут ета доўга; *мая* унь цяперака 'ччэ кросна, дык як-жа яно тады будзе, як—калі іці трэ' будзе на гуртавую работу?—З гурту-ж ня вылучышся: гурт табе, што на ета скажаш...

— Лявон? слухай, Лявон,—казаў Васіль падхопліваючы Лявонавы думкі,—ты, што ты кажаш нашчот твайго каня,—сьмех гэта, як той казаў...

— Ня сьмех,—умяшаўся Аніс,—Лявон правільна робіць. Лявон павінен выказываць чаго ня ведае: як яно будзе. Каб ня было якогась-ці сумненьня.

— Дык ніхто-ж не забараняе,—паправіў Васіль,—толькі-ж тут яно, вытлумачана...

— Мала што для цябе вытлумачана, а раз чалавек ня ведае...

— Вось што,—казаў Аніс да Лявона,—калі табе ехаць прыдзецца, і паедзеш. Раз твой конь у плузе будзе, другога конь, скажам, Васілёў конь, будзе ня ў плузе—возьмеш і паедзеш. Што гэта ты прысягнуў свайму каню, ці што?

— Не прысягнуў, ета. Ня ў гэтым. Мне мо' нават і ня прыдзецца ехаць, мне ета карціць толькі: як-жа яно будзе?

— Вось так і будзе,—казаў Аніс.—А работа, адлучка ад работы, як ты кажаш на шчот красён... дык гэта-ж той самы калякты́ў будзе. Што ты, Лявон, а каб ты, а бадай ты цяміўся!

І яшчэ паўставалі пытаньні і яшчэ былі меркаваньні ў Лявона. І ўсе яны былі даведзены Анісем.

Рашпіліўшы каўнер у кужэльнай кашулі, расьціраючы далоньню кроплі поту, што застывалі на грудзёх ад духаты ў хаце, Аніс тлумачыў мужчынам:

— Наперад кажу і сьцьвярджаю: раз упішашся каторы—чалавекам павінен быць. Павінен глядзець за сабою, за другімі. Каб не падымалі на сьмех якія-небудзь Карпусі, табе, Аўласы... Павінен кожны, адзін—нос ім падцерці, даказаць па чым фунт ліха, а ня то што!

І стукаючы ўпілаваным канцом алоўка па лісту чыстай, разьлінаванай паперы, кідаючы то на адзін, то на другі, на пяты—твары, свой востры зірк, казаў Аніс:

— Зараз мы складзем сьпіс хто ўпісуецца, а потым напішам заяву. Напішам і ўсё разам пашлём рыку каб ён увёў у сілу наш калякты́ў. Патаму, як бяз рыку, мы ня маем права нічога рабіць. Мала што: мо' тута мы якую контру робім.

— Канешна рыку...—уставіў Яўгень.—Нават цераз сельсавет гэта патрэбна... Патапчык раіў.

У хаце, сярод мужчын, расплыўся вялікі шум. У лямпе моргаў ад духаты агонь. Шум быў, а ня было выразных слоў, ня было на адзін момант гэтых слоў.

Аніс сутрымаўся як-бы,—глядзеў яшчэ больш вострым зіркам, чакаў як-бы нечага суцэльнага з гэтага шуму. І нехта сказаў гэтую суцэльнасьць аж з ложку, аж з самага кутка:

— Запісвай... мяне.

— Хто там?—Кінуў зірк Аніс цераз Васілёву галаву.—А-а...—убачыў і перакручваючы алоўак:—Матруна, Матруна. Маладзец, далібог, Матруна.

Тады яшчэ большы ўтварыўся шум, а скрозь гэтую шумлівасьць паасобныя словы:

— Мяне запішы...

— Запішы, Анісь!

— І мяне...

— Хто... каго там?

— Мяне... Захару...

А Лявон падышоўшы да самага стала, да Аніся, жмурачы свае маленькія сьлязьлівыя вочы, гледзячы на канец алоўка, што хадзіў па белым лістку паперы:

— Пачакай Анісь,—раптам абарваў Лявон шум і галасы.—Пачакай!

— Чаго пачакаць?

— А ты ета скажы...

— Што?

— А як з гаспадаркаю ета будзе?

— Аб чым... што з гаспадаркаю?

— А калі ў мяне большая ета як у цябе, як да гавэнды, у Матруны, у Захары...

— Ну, то што ты гэтым...—умяшаўся Яўгень, але Анісь перапыніў: Анісь тлумачыў:

— Гаспадарка паем будзе. Твой, Лявон, пай большым будзе.

— Дык добры ета рахунак: Матруна будзе жыць і я буду жыць... на раўне. Дык якая-ж мне ад етага выйгранка?

— То-то ж што няма выйгранкі,—казаў Анісь.

— У гэтым увесь факт.

— Дык тады ета і лякціву ня трэба?

— Пачакай! Я даводзіў, Лявон, дзесяць разоў: лягчэйшая жызьня будзе! Я спытаюся ў цябе,—казаў Анісь далей,—што табе, Лявон, трэба для пражыцьця?

Лявон не разумеў пытаньня. Шумлівасьць зусім зьнікла ў хаце і на цэлы момант. А потым:

— Як ты ета фацэтна ставіш пытаньне?—парушыў Лявон ціхату.

Яўгень падхапіў:

— Гэта не фацэтнае, а самае галоўнае. Як казаў той Савёнак, прадстаўнік ад рыку, што быў у нас на пляну му—дык як казаў ён—хто гэтага не зразумее, калектыўнасьці не зразумее.

— От-жа!—Менш каб працаваць і больш каб карысьці,—спружынячы вусну сплюнуў Васіль.—Але! Не ў гаспадарцы загвастка тут, не ў набыцьці па сабе, а ў лягчэйшым жыцьці, мой ты Лявонка.

* * *

На заўтра на Анісявых варотах, на шуле была прыклеена папера. На гэтай паперы было напісана няроўнымі буквамі, грубым алоўкам. Перш-на-перш уверсе было напісана:

## СЬПІС.

А далей, лявей, з другога радку пачыналася:

*„Грамадіян вёскі Брод, што захацелі, каб разам працаваць на сваіх гаспадарках, калякцівам, знацца“:*

І яшчэ ніжэй, было наступнае:

*„1. Анісь Саладуха.*
*2. Яўгень Бурцелік.*
*3. Васіль Бурак.*
*4. Атрахім Апалонік.*
*5. Захара Крупнік.*
*6. Матруна Штыль.*
*7. Міхалка Каленік.*
*8. Арцём Мікалайчык“.*

Арцём Мікалайчык быў запісаны на свой адказ. Ён учора сказаў Анісю, што бацька яго кажа як хочаш сабе, так і рабі, што для яго бацькі—як людзі, так і ён.

Таму, калі Анісь пішучы ўчора запытаўся—„а як-жа бацька: ці будзе згодзен“,—Арцём сказаў, што ён за гэта будзе адказваць сам.

Унізу пад сьпісам калякты ўшчыкаў, было дапісана:

*„Хто жадае яшчэ ўпісацца, няхай зойдзе да таварыша Яўгеня і ўпішацца на працягу трох дзён. Бо сьпіс прыдзецца адсылаць у рык, дык тады ўжо будзе позна“.*

Раніца была спырскана, пакрэплена, сьвежаю расою. Гэтая сьвежасьць навісала на маладую, адскочыўшую траву. Туман востры, імжысты, сеяўся—мяшаўся з дымам, што вылятаў з комінаў хат вёскі Брод.

Паладзя сустрэла каля студні Юстыну. Тая прышла па ваду, а Паладзя шукала рудзенькага падсьвінака.

— Дзе ён дзеўся: ці не пабег у той канец, падышоўшы да Юстыны пытала, глядзела на яе сваім непакойным зіркам.—Ці ня бачыла ты кабеціна?

Юстына цягнула,—падхоплівала то адною, то другою рукою доўгі вочап, глядзела проста перад сабою, чула Паладзіна запытаньне ды:

— Ня відаць было: я толькі-ж адтуль.

Паладзя хацела ісьці, але—ні то замарудзіла, ні то наўмысьле затрымалася. А як вылівала Юстына ваду з акутага вядра, у сваё бляшаное дык Паладзя:

— Як-жа там, як—ці зжыліся асэсары нашы?

— Анісь з Яўгенем?

— Ну?—Ты-ж павінна ведаць... Суседзі-ж ..

Тады Юстына паставіла вядро—падыйшла бліжэй да Паладзі. Мацней заціснула вузел хусткі пад барадою—пацягнула разам за абодвы адтапыраныя ражкі; залажыла ўсяёю далоньню за край хусткі разбэрсаную пасму вытаркшых валасоў, дый:

— Учора араў. Аж да самага цямочку. А *сам*—нябось, не пайшоў на поле. Цэлы дзень то на прыгуменьню, то каля заплоцьцю абціраўся.

— А мая-ж ты... а матачкі—дык гэта гэтак ужо з першых дзён?!

— Дык вось тото-ж: дай-жа ты рады.

І прыгнуўшыся, пачухаўшы лытку сваёй нагі, Юстына казала:

— А днём ужо, калі ён на прыгуменьні неважта там для прыкладу ляпаў, дык яна, гэтая самая Наталечка выйшла на ганак ды: „Аніс, Аніс—ідзі палуднаваць!“ *Той*, нябось на полі бяз полудню, а яны ў дваіх —гарачая, сабе, страва, мо' і ў цаганчыку—тлустае што, як у таго Аўласа. Дык вось ты, мая любая, яны, якія мяргуюцца аляктывы. Што ты ня можаш здаўмецца. Тут усякі,—дзіва што—здаўмеецца.

Паладзя слухала, што кажа суседка. Забылася на рудага парсючка, забылася што дрова падпалены ў печы і што не папрыстаўляны гаршкі.

А Юстына казала:

— Прыклеіў на шуле нейкую паперу. „Ведайце, што ён ужо нейкі рыцар“! Сьмяхоцьце з чалавека. Ня ведае, як той казаў, ні цэ ні бэ, а на каралеўства прэ!

— Якую паперку?—перапыніла Паладзя,—што пішацца на ёй?

— А што я... што ты ў мяне пытаеш?—мабыць, гітацыя якаясь. Чаго людзкага не начэпіць.

— Мо' з сельсавету, мо' пра вайну што?—Некалі-ж, як бралі, дык прыклейвалі. Глядзі, мо' твайму Лёксу іці прыдзецца?

Юстына схамянулася:—аж холад дрыжакамі прабег па яе целе.

— Што ты... —перш сказала ў слух, а потым сама сабе пад нос:—вансач яе ведае, што за яна, пра што на ёй, на паперы?

І мяркуючы ў маршчыністым сваім твары, пытліва гледзячы на суседку Паладзю:

— Мо' і пра вайну. А што ты, любая мая, думаеш?—Учора ў Камарох соль у дныск расхапілі. Мой быў у млыне, дык казаў...

Тады шукаючы парсючка-падсьвінака, ідучы вуліцаю, разьмінаючыся на другім баку вуліцы з Тэкляю, з Лявонаваю жонкаю—Паладзя ёй наўздагон:

— Вайна пачалася. Каля нашага, каля члена, папера прыбіта.

Тэкля падыходзіла да свайго двара,—меркавала ў сваіх думках і— з перапоўненаю баязьлівасьцю, сустрэўшы Лявонаву Аньцю:

— Кажуць вайна... Ці чула ты Аньцячка?—Божухна-бацюхна!

А цераз паўгадзіну па ўсім Бродзе насіліся чуткі пра вайну. І ніхто ня ведаў адкуль што ўзялося. Бо сьцёрся першы сьлед, не засталося ад яго нават пылу-пацяру́хі.

Займаючы з Цімаховага двара рудага парсючка, пыталася Паладзя ў Цімашыхі:

— Ці праўда гэта, што кажуць пра вайну? Хто гэта першы ўзьегліў— зажадаў яе?—І чаго іх дрэнчыць, ліха іх матары. Няхай-бы ўжо спакой быў. Ці хіба мала з іх, з гэтых гудуноў...

Парсючок рохкаў праз плот з Цімаховымі сьвіньнямі, а Паладзя размахвала рукамі. То закладала іх адна за другую, то ізноў размахвала і ў тахт сваёй гутаркі:

— Ці то не падзеляць чаго, ці то іншая якая немач?—Успадзе-ж на людзей нейкі паралюш.

І гледзячы на Цімашын разарваны па цэламу рукаў у каптане:

— Дзіва што ўспадзе: недавяркамі, нехрысьцямі парабіліся людзі. Адзін другога, каб прымеў, зьеў-бы.

— А хіба гэта работа,—падняла вочы на твар Цімашыхі,—твой зяцёк—у парабкі да Аніся пайшоў. Небарака, арэ ўчора цалюткі дзень; а яны, нябось, удваіх дома. То-ж-бок.

Казала Паладзя і ня ведала, не адчувала які боль, які моцны боль, наносіла яна суседцы сваімі словамі і бяз таго—дачкою нанесены—яе матчынаму пачуцьцю.

## III

Вечарам Карпусь зайшоў да Пракопа, а ў Пракопа сядзеў Аўлас.

— Добры вечар!—сказаў пераступіўшы парог.

— Вечару добры!—адказаў Пракоп.

І гледзячы на суседа, каб ня было перапынку пасьля прывітаньня (бо бывае зойдзе ў хату чалавек і ня ведае—шукае, з чаго пачынаць-бы гамонку):

— Праходзь, Карпусь, да лавы: садзіся гэна...—дадаў Пракоп самастойнаю чыннасьцю.

У хаце яшчэ не палілі агню. Быў вечар-шчэдрык. Была такая часіна, калі і агонь паліць яшчэ рана і не паліўшы яго—прыцемна.

Змрок скакаў па кутках поўнаю даўжынёю. А з надворку ўвайшоўшы—большая цемень у хаце. Таму і сказаў Карпусь падыходзячы да стала, да лавы:

— Сядзіцё ў пацёмку, як тыя начн'цы...

Аўлас паварушыўся на лаве:

— Ранавата 'шчэ: відна,—сказаў за Пракопа.—Гэта-ж табе не даўніна, што газа—на капейку па фунту было...

— На капейку то ня было...—парушыў Пракоп сваю гаспадарскую маўклівасьць. А Карпусь сеўшы на лаве, усьпіраючыся над сталом:

— Што гаварыць... Даўней, даўней! Што гаварыць пра даўніну. Было ды сплыло. Даўней цябе каторага не вадзіў-бы за нос які-небудзь падшывалец. Даўней, калі ты меў у кішэні рубель, сотню рублёў о-ў—ты пан і воінскі начальнік!

— Калі-б мне прышлося бывала...—пачаў Пракоп, але Карпусь перапыніў—хацеў выказаць усё за адзін раз:

— Даўней бывала... ліха іх матары—гэтых самых хоць сабе і дваравікоў: чаго ім, бывала, здаецца не хапала?—І андынарыя тая, і хата

бяз клопату панская... дармо што еглілі, камячылі за панскімі плячыма кулакі. Бывала трэ' быў катораму пуд жыта, другі, трэйці—абы зьвяркнуўся да пана, ніколі не адмовіць. Хоць на перад, хоць і вылічыць потым з першай андынарскай палучкі, але выдасьць пан. А цяпер... Яны рызыкуюць...

— Што гаманіць, гэна, пра цяпер...

— ...Мне давялося трапіць на гутарку з Камароўскім Тадэвушам, што быў некалі ў нашага пана за кухара, дык—фі-ы:—мне, кажа, цяпер не патрэбна здымаць шапкі. У мяне, кажа, цяпер аднае шапкі хватае на пяць гадоў: яна не шмаруецца ад частага здыманьня...

— Яны-ж гэтым і рызукуюць—перабіў Аўлас,—што не патрэбна здымаць...

— Дык то-то-ж! А я кажу, паглядзім 'шчэ, дачакаемся—прыдзе коза да воза...

— Як-бы яму, катораму, ад гэтага,—уставіў Пракоп,—ад гэтага, што скідаў шапку перад панам—карона з галавы спадала.

— От-жа... А-агга! Паспрабуй, згаварыся з ім, з каторым. Ён-жа табе зьмяніцца не дасьць: яго павінен быць верх. Ён шышка. Ён-жа што-та ён! Як-бы нехта ня ведае,—хоць-бы ўзяць таго самага Тадэвуша, як бацька ў падсудзьдзях некалі сядзеў, як галеў—ня меў кавалка хлеба.

Пракоп уздыхнуў цяжка і сапуча праз нос. У хаце ўтварылася на момант руплівая ціхата.

Карпусь у цемені цыркнуў скрозь зубы сьлінаю на падлогу. Аўлас прымушана кашлянуў. Кожны з трох хацеў казаць нешта. Бо якраз было закранута важнае для трох, хоць і прыкрае, але смакавітае, картлівае пытаньне.

Карпусь першым далей казаў—абарваў маўклівую нітку:

— ...Нарабілі, табе, нейкіх рыкаў-тыкаў. Кожны, гэна, камандуе, загадвае. Носа ня ўмее ўцерці, 'шчэ матчына малако на губах—а загадвае, правіць. Ён ужо ўправіцель!

Аўлас падхапіў Карпусёвую думку—ухапіўся за яе, як топельнік за саломінку, аж прыпадняўся з лавы ды:

— То-ж-та! Даўней, гэта, пойдзеш у воласьць, а там—адзін старшыня з пісарам. Двох, а ўсяёю воласьцю правяць.

Пракоп устаў з лавы і пачаў шукаць на зымсе сярнічак. Мацаў вобмацкам, лэпаў рукою па запыленаму зымсу і чуў:

— ...ведама, пане мой, выбран чалавек, гаспадар, быў. Ня тое, што бясхлебнік які, а гаспадар! Калі што якое, калі-б прышлося і спракудзіўся—ён гаспадаркаю сваёю мог выручыцца...

А Пракоп шморгаючы сярнічкаю па карабку:

— А цяпер, каб прышлося, што ты возьмеш, гэнам, з гэтакіх скажам Анісяў?

Сярнічка загарэлася і Пракоп пачаў запальваць вісячую, заседжаную мухамі, лямпу. Калі надзеў нявыцертае шкло—засадзіў яго за берагі

рашоткі—убачыў муху. Яна лапатала пад шклом, пакуль не разгарэўся кнот. Пракоп пачаў падкручваць кнот—большаць агонь ды:

— Ага, ліханька табе, папалася...

— Што?—запытаўся Карпусь.

— Муха.

— Му-уха...

І вярнуўшыся да Пракопавых слоў:

— Ты кажаш пра Аніся... У Аніся... Анісем злыдух завалодаў А *твой*...—і ён папярхнуўся, закашляўся.

Пракоп адышоў ад лямпы, сеў на лаве, абапёрся аб рубец лавы абедзьвемі рукамі, ды гледзячы ў Карпусёвыя вочы, перабіваючы:

— Твой... Што, гэна, мой. Мне шкода толькі, шкода, што не давядзецца ўсяго бачыць, не давядзецца бачыць канца. А хацелася-б, гэнам, хацелася-б паглядзець на свайго вісуса, сукінага сына, як будзе пухнуць з галадэчы ў Анісявай капэлі. Хацелася-б сказаць тады:—от як вам, няслухаючы бацькоў. Так вам, ліха вашай матары, і трэба.

Не бядуй! Ша! Чаго ты вельмі дрэнчыш,—падхапіў Аўлас, і ў тахты ўзмаху сваёй рукі:—не за гарамі. Убачыш. Пасьпееш з козамі на торг. Убачыш як твой гэты самапас прыдзе да цябе, як будзе прасіцца... будзе скарынцы хлеба рад. Дажывёш. Іх гэтыя работы, што бурбалка. І не ад мыла бурбалка, а дажджавая. Бо мыльная, як той казаў, мацнейшая за дажджавую.

Карпусь муляў нешта ў сваіх меркаваньнях, цёр гэтае нешта цэлую хвіліну, цісьнуў у вобмацку то з аднаго, то з другога боку—ня чуў апошніх Аўласавых слоў, а потым:

— Запісалі-ж... сьпіс на шуло пачапілі,—сказаў пакеплюючым галасам.—Так што і сапраўды, як ты, Пракоп, кажаш, залажылася Анісява капэля.

Пракоп раніцою даведаўся пра сьпіс калякгыўшчыкаў. Прыкрасьць узяла старога, калі даведаўся. Не хацеў думаць пра гэта, пра другое што, абы што, думаў.

Аўлас ня ведаў нічога пра ўчарашні сход, пра сьпіс. Аўлас езьдзіў у Войраўку. Войраўскі чалавек прадаваў кабыліцу. Дык Аўлас прачуў, быў...

Аўлас кажа:

— Я люблю сяды-тады, гады ў рады—пашчупаць конскія штотачкі. Люблю перакінуць вушка на вушка, цень-на-цень. Люблю, калі варта яно, індыка на быка.

Таму і ня ведаў Аўлас пра ніякія сьпісы, бо ня быў цэлы дзень дома.

І калі сказаў цяпер, быў, Карцусь пра запісь, пра сьпіс што на шуле,—Аўлас не зразумеў перш-на-перш.

— Што... Аб чым ты?—запытаўся ён, і Карпусь растлумачыў усё папарадку. Карпусь расказаў як учора пад Анісявым вакном стаяў ён, як слухаў і чуў усё да макулінкі. Чуў як ашалаплуцілі Лявона, як крычаў Аніс запеніўшыся аж... Як патакаваў Васіль яму з Яўгенем.

—...і Матруну, нават, запісалі,—сплюнуў Карпусь кажучы Аўласу пра ўчарашні вечар у Анісевай хаце.

Аўлас перш зьбіўся быў на хвілінку з панталыку, а потым прышоўшы да сябе:

— Ї Матруну?!—сказаў і дадаў.—Нават і Матруну ўвагналі чэрці— нячыстая сіла..

Пасьля гэтага сьвежая разгарнулася гаворка ў суседзяў. Гаманілі пра балючыя, пра суседзкія пытаньні.

Глядзеў Аўлас ня мігаючымі зрэнкамі ў Пракопаву, у густую бараду ды:

— Чаго не навымысьляюць, чаго не навыдумляюць ужо ў гэтым савеце! Ї кулачкі, і кулачыкі, і жменькі і прыгаршчыкі... і—ліха іх матары...

Карпусь уставіў:

— Да, яно што казаць, у мяне то ёмкі кулачок. Ї нават кулак. Так што калі-б спусьціць катораму другому па крэсіву,—успамянуў-бы родных з таго сьвету...

Пракоп загарачыўся:

— Што, гэнам, ты мне даў каторы? Ну, я маю... маю, скажам і хлеб і да хлеба... Ї ты, Карпусь і Аўлас мае... Дык і ты... і ты каторы май. Май, гэна, хоць цэлыя маёнткі!—Я і слова не скажу. Ї павагу аддам: бо тваё-ж гэта, тваё, нажытае тое! Дык што, мне ты, ці другому, каторы, зайздросьціш? Ня гультуй, а нажыві... Тады і зайздросьць, цешся, гэна, сам сабе.

— То-ж то: чужым, тым, лягчэй яно цешыцца.

— Мала што лягчэй,—казаў Карпусь—я мо' хацеў-бы цешыцца залатымі яблыкамі... Але-ж наперадзе трэба іх мець. Я, пане мой, плойму грошай высыпаў на жней, на касцоў, на трасцу розную, за год. Дык гэтага ніхто ня бачыць і ня бярэ на ўніманя. У савеце толькі бачаць, што ты маеш. У цябе ёсьць. Дык нажыві, трасца тваёй савецкай матары, нажыві сваё ды і камандуй ім, а ня то што.

Ї каляктуй тады нажыўшы, і што хочаш.

— То-ж та...

Ї яшчэ гаманілі ў гэты вечар. Першы гэта быў збор у Пракопавай хаце, пасьля Яўгенявай адлучкі.

Як быў Яўгень—часьцяком зьбіраліся ў Пракопаву хату. Жывасьць была нейкая ў гэтых бродаўскіх зборах. То сёй, то той зьбяруцца бывала і весялей ён, час праходзіў. Прывык Пракоп да вясёлага разгарненьня. Таму і напаў сум на Пракопа, калі застаўся адзін пасьля Яўгеня. Ня ведаў да чаго рукі, перш, прылажыць. Ліст у той-жа дзень выслаў Гіляру. А Гіляра ня было дома.

Што ён будзе рабіць? Ён адзін душою, што будзе рабіць, калі няпрыедзе сын?

Ї яшчэ большы агортваў сум, большая скруха.

Але сёньня праходзіў вечар ня прыкметна. Нібы толькі пачаўся, а было позна. Доўга засядзеліся Аўлас з Пракопам. Ня было ў Пракопавым нутру тае ўчарашняй, пазаўчарашняй... адзіноты. Ня было таго што:

Глянеш у адзін куток—далёка ён, аж вунь-вунь, у другі глянеш—таксама. Цішыня зьвініць нейкім цягучым, ашаламочаным гулам. Застылая цішыня, нямая, прыкрая. Ніхто не парушыць, калі сам не захочаш.

Кашляе Пракоп наўмысьле каб ускалыхнуць гэты застой, каб узварушыць нямое гудзеньне ў вушшу. І ізноў асядае гук. Нікне, растае, нямаведама дзяецца дзе. І ізноў...

Вялікі сум у такой адзіноце, бязьмеры сум.

На адыходзе суседзяў, калі ўсё было ў гэты вечар пераказана, узварушана і тырчэла трушанкаю—Пракоп успароўся, быў:

— Добра,—казаў Пракоп,—запісаліся яны—скуру ім няхай абпішуць чэрці,—добра. Ну, а цяпер?—што будуць рабіць яны цяпер?—пытаўся Пракоп, пазіраючы тупа ў Карпусёвыя грудзі.

І ні Карпусь і ні Аўлас не адказалі на гэта. Маўчалі сусёдзі і датуль, пакуль трэ' было хоць што-небудзь а сказаць. Тады Пракоп сам адказаў на сваё запытаньне:

— Паглядаць будуць на паперу,—адказаў Пракоп. Будуць глядзець на запісы і будуць гэтым самым жывы. Бо... дармо што запісаўся—уцягнулі, як ты кажаш Карпусь,—Лявон, Захара... Што, Захара табе, гэнам пойдзе ў калякцівы?—Ды яму-ж яго жонка такога дасьць дыхту... Яна, гэнам, дасьць яму такую запісю, што аж яго чэрці абліжуць, далібох! Яна пакажа яму дзе расьце горкі перац, пакажа за дзесятаю гарою гэтыя Анісевы мудрыкі.

А калі ішоў Карпусь ад Пракопа, агнёў ня было на Бродзе.

Цемень дробна рассыпаная чаплялася на частакол, на штакеты. Месяц-маладзік даўно заліўся нейдзе на краі неба-прорвы.

Праходзіў Карпусь каля Анісявых варот і неяк сьліны шмат сабралася ў роце. Плюнуў з прыкрасьці, кінуўшы косы зірк на шуло з начэплянаю папераю. І пайшоў быў, мінуў... А папера белая вісіць і дражніцца. Вельмі-ж выразная была бель паперы сярод ночы.

Унурыў галаву і пайшоў. Хацеў ня думаць і чуў: на двары забурчэў Анісеў Лямпар.

— Здох-бы ты...—сказаў сам сабе пад нос і ўсё роўна:

Белым кляймом вісіць папера. На Мікалаевым шуле... На Арцёмавым... Ён ідзе і папера ідзе. Яшчэ ідзе і яна...

— Ліха іх матары...—зашаптаў Карпусь злоснымі пырскамі.—Нагліца, пача, насланьнё...

Наўмысьле вярнуўшыся падышоў шумнымі крокамі да Анісевага шула.

— Вот, вам... вот, вам.. вот, вот...—ліха вашай матары...—асыпаў застыўшую бродаўскую калатушу гразі бела-сьнежнымі лёгкімі камякамі.

## IV

Атрымаўшы бацькаў ліст Гіляр вырашыў зьезьдзіць у Брод.

Ён ішоў з цягніка, з паўстанка, што за васямнаццаць кілёмэтраў ад Броду. Ён падыходзіў цяпер да сваёй вёскі. Ён ішоў, а вясеньняя раніца ўплятала ў свае косы краскі-пралескі.

То перад вачыма, то тамака вунь, у воддалі—тышчылася вясеньняе зеляніво,—лезла на пралом, станавілася на кончыках карэньняў, хацела зеляніво быць большым, паўнейшым, выдзеленым.

Кляновыя пыпушынкі на разгатым гальлі, раптоўна, за адну ноч, калоліся-трэскаліся, падаваліся ва ўсе бакі—выпускалі з-пад сваёй ліпкай скарынкі жмук шырокіх мяккіх, цянюткіх, як кураняцін пух, далікатных лісточкаў. А трава шаўковая, а кусты ружовай радасты... Турэцкія касачы, сінія касачы—усё, усё лезла з зямлі пішчаніцаю—вырастала цераз суткі, цераз ноч.

Балота ў гэтую раніцу, што наўкол Броду, было апавіта дымкаю-пялёнкаю. Нейдзе над ім, над балотам, над бродаўскімі палоскамі—высока, высока ў гары, у небе—зьвінелі пераліваліся чыстаю поўнаю песьняю галасы маленькіх птушак-жаваранкаў. Ня відаць яе, гэтай маленькай птушачкі, а чуваць песьня. Льецца песьня празрыстаю крыніцаю, пераліваецца срабрыстымі ладамі—яна жыватворчая, маладая, вяснавая.

І зьвініць і зьвініць у трымцячай вышыні блакітнае далі.

А ў Атрахімавай кузьні, таксама чуцен звон... ад спусьцістага малатка па накавальні. Ён, Атрахім, накладае цяпер нарогі. Вясна.

— Га-ах-цін! Га-ах-цін!—цін-цінн...

І напаўняецца раніца распырсканымі гукамі, уплятае іх—дрыжачыя, жывыя, млечна-ружовыя, зьвінючыя.

Гіляр узышоў, ідучы з-па загуменьня, на бацькава гумно, на сваё гумно. Чуў у кузьні Атрахімаў гэты жалезны звон; ішоў і кідаў трымцячы зірк па абапал сябе.

Бачыў Гіляр узадраны рог шчыту на старой адрыне.

— Віхар быў, мусіць, вялікі,—падумаў Гіляр, каля адрыны праходзячы. Бачыў назьмятанае ў кучу па восені апаўшае лісьцё, бачыў каля адрыны кола старое з выкінутаю сьпіцаю. А калі пераходзіў вуліцу—багна, а ня вуліца. На дварэ бачыў бацькаўскі панарад.

Учора віліся думкі ў Пракопа пра сына, а ў сёнешнюю раніцу...

Пракоп наліваў ваду ў пабяляны чыгун, калі адчыніліся дзьверы яго хаты...

— Як маешся, бацька, як крэпішся,—сказаў Гіляр, пераступаючы цераз бацькаў парог.

Пракоп перш—ніто не пазнаў сына, ніто ніякавасьць ад раптоўнасьці зьбілі стрыбу старога—глядзеў на Гіляра ня міргаючымі вачыма. А потым:

— Вось і прыехаў... а што. Праходзь, разьдзявайся.

— Дык давайце-ж... давай, ці што...—і Гіляр, узяўшыся рукамі за абодвы бацькавы плячукі, пацалаваў старога ў яго валасатую шчаку.

Тады пачаў Пракоп абціраць мокрыя, апырсканыя вадою, рукі, пачаў па адным пальцу абціраць аб полы свайго зашмальцаванага кажуха.

Гіляр адзін прыехаў; паглядзець-разглядзець прыехаў. Бо не наўда пакінуць службу, а ці варта гэта, ці будзе якая выйгранка.

Калі атрымаў ліст ад бацькі, розныя паўставалі меркаваньні ў Гіляравай галаве. Даведаўся, што калякты ў складаецца ў Бродзе—розныя ўсплылі думкі.

— Як ты мяркуеш,—саймікаваўся Гіляр з сваёю жонкаю Просяю.— Хочаш працаваць на зямлі, ці любіш гэтую працу? Хачу аб гэтым паставіць пытаньне ў партыйным камітэце...

Прося ні сяго, ні таго не сказала.

— Як хочаш,—сказала.—Па мне абы дзе: будзеш працаваць, будзеш жыць. Я не баюся працы.

З такім і прыехаў Гіляр меркаваньнем, з такім разважаньнем і зайшоў ён цяпер у бацькаву хату.

Пракоп кешкаўся каля печы—паліў у печы, прыстаўляў да агню чыгуны з вадою, каб нагрэлася вада, каб запарыць аржаное амецьце.

Гіляр скінуў з сябе сваю скураную тужурку, сядзеў на лаве і бачыў: не засланае ложка, і пад ім натрэсяная пацяруха-салома. Сьцёртая расплюснутая, пакрытая тонкім пластом асеўшага пылу.

Глядзеў Гіляр на вянок вісячай на шастку цыбулі, на лапці-атопкі каля запечку, на венік-дзяркач.

Курыца грабла сьметнік каля прыпечку, каля лаўкі, і бачыў Гіляр, як выпучвала яна валяк, раскідала сьмецьце вострымі кабдзюрамі ўва ўсе бакі.

— Ак-кышш!—сказаў Пракоп, лопнуўшы рукою па крысе свайго кажуха,—каб ты здохла, гэнам!

І гледзячы на сына вачыма не вінанаватага чалавека дадаў Пракоп:

— З яйцом яна... дык не выпускаю на двор. На двары Анісяў Лямпар, каб яго нараду ня было, гэнам,—усьлед зьесьць — ня дасьць залежацца яйцу.

— А я пад рэшата яе...—распасьціраючы шырока свае ногі, растапырваючы ня зграбна свае рукі, прысядаючы, каб злавіць курыцу, казаў Пракоп—...пад рэшата. Накрыю яе рэшатам...—Пы-ыр-села!—Ды няхай нясецца там.

За сталом, сьнедаючы, Пракоп жаліўся сыну. Апавядаў пра дзяльбу, пра Анісяя, глядзеў у Гіляравы вочы, лавіў выраз гэтых вачэй і казаў:

— Навядзі лад! Бачыш чаго ён, гэнам, сукін сын натварыў. Кінуў. Нібы-то я ня бацька. Як гадаваў арыштанта. Трэба быў яму тады. Тады патрэбен быў бацька. А выгадаваў—ось яна, гэна, падзяка бацьку. Разарваў гаспадарку. Сьветам пачаў муціць. Звадыяшаў пачаў слухаць, а ня бацьку. Давядуць яны яго да торбы, да галечы. Растрасе бацькаўшчыну. Хутка згуляе што нажыў бацька за свой век.

Гіляр маўчаў, калі выказваў бацька сваю крыўду. Слухаў сьнедаючы і ня важыўся пачаць адразу-ж апраўдваць Яўгеня. Бо добра ведаў старога. Ведаў яго раптоўную злосьць, ведаў яго цьвёрдую волю.

А хацелася сказаць бацьку пра другое. І сказаў-бы, каб ня быў госьцем; адразу выказаў-бы сваю думку. А так:

— Скажу, але пачакаўшы,—вырашыў Гіляр.—Разгледжу, расслухаю, што, як.

Яшчэ едучы да бацькі меркаваў Гіляр:

— Ці сёе, ці тое, скажу, калі хоча ён майго гаспадараньня; альбо без мяне, альбо мая каманда.

І каб ведаў Пракоп думку сына, ніколі-б не сказаў ён так сьмела, так ахвотна „навядзі лад". Бо пра другі, зусім пра другі лад у гаспадарцы, меркаваў Гіляр на выпадак свайго пераезду.

* * *

Наталя мыла бялізну, калі днём зайшоў да Аніся Гіляр. Была адна яна ў хаце, узьбівала мыльную пену ў начоўках аберучкамі. Церла, адцірала—пырскала белаю шумаю на берагі пелюсьцяў. А на твары ляжала ў яе задумёнасьць вялікай сталасьці; нешта важнае ляжала, цяніла яе твар.

Аж зьлякнулася Наталя ўбачыўшы Гіляра. Бо было гэта раптоўнасьцю, неспадзяванасьцю для яе: яна ня чула, што прыехаў ён да Пракопа.

— Дзе-ж мужчыны?—запытаўся Гіляр, аглядаючы хату, сядаючы на шырокі і тоўсты тапчан.

Наталя не адказала адразу. Стаяла яна каля начовак, абцірала мыльную шуму з берагоў, з пелюсьцяў, а потым: то адну, то другую руку абціскала яна ад вады ад мыльнае пены.

Стаяла і, нібы не разумела: ня ведала, што адказаць сьвежаму чалавеку. А потым:

— Анісь у рык паехаў...—сказала і дадала.—Нашчот каляктыву паехаў. А Яўгень на полі: барануе нейдзе расьсеяны авёс.

— Чаго-ж ён нашчот каляктыву...—Не апускаючы вачэй з Наталінага твару запытаўся Гіляр.—Як гэта нашчот каляктыву?

І Наталя пачала апавядаць Гіляру, як яно робіцца, што робіцца ў іхным Бродзе.

З вады, з начовак, ішла і падымала аж да столі белая пара. Гэта стыла вада, стыла бялізна. А Наталя казала:

— Было перш восем гаспадароў запісалася ў сьпісак. Дык адцягнулі былі на тры дні. Анісь мой казаў, няхай раздумаюцца нашы мужчыны. Дык яшчэ дабавілася пяцёх... за гэтыя тры дні. Цімох запісаўся, Андрэй Маленькі... Ціт Халімонаў, Антось і Кандрат. Ну, гэты. . што быў некалі ў Сікірыцкага за фурмана, гэты самы Кандрат.

— Жонка мо' і ведае. Я бываў там наездамі. Наш полк стаяў у Слоніме.

— Суседзі. Аж вісялей бачыць-ма з свайго рыднага краю чалавека. А шмат каго хацелася бачыць-ма...

Ї сьцярпеўшы момант у зацятай маўклівасьці, гледзячы тупа на Гіляра:

— ...Тай міжа не пускае, паганка.

* * *

Самым вечарам, змрокам, прыехаў Гіляр на машыне ў Брод.

Вельмі ж набраўся пераязджаючы Бродаўскую трэблю. Трактар западаў сваімі коламі ў клейкую гразь. Гіляр даваў больш і яшчэ больш трактарнай сілы. Лапатаў трактар па гразі зазубрыстымі шырокімі коламі. Пырскі ляцелі ва ўсе бакі—і яшчэ і яшчэ раз, два... затрататахкаў, рвануўся напружыўшы сваё жалезная цела, і вырваўся аблеплены камякамі гразі на аблог бродаўскага поля.

Уехаўшы ў вёску Гіляр пакінуў адціснуты драбінчата-лукатны сьлед, на ліпкай застыўшай гразі лагчыністай вуліцы.

Цэлы таўбун бродаўцаў—сустрэлі Гіляра.

Ї Анісь—скрозь неакрэсьлены шум, што мяшаўся ў асядаючым змроку:

— На сваё прыгуменьне... едзь. Адтуль выезд спрытнейшы на поле... Прыгуменьне прасторнае.

А цераз некаторы час Макрына адыходзячы ад найтоўпу—ідучы да сваёй хаты:

— Вось ён які... аж сьпех нeяк: як гэта, што там у ём будзе цягнуць, араць без каня.

...Сіла тая: па вуліцы аж толькі пырскі ў бакі, у бакі... Заўтра разгледжу дзе тое, што націскаць каб жаць, каб разьбіваць гной... дзе знаходзіцца... От што значыцца, калі наважылі... аж радасьць... весела...

Ужо запалілі агонь, калі прыйшоў у хату Гіляр і сеў выціраючы пот.

— Жыў я ня буду...—сказаў сам сабе.—Пакуль сенакос—уваштобы ня было, а трэба каб грэбля нашая была грэбляю, а ня нейкім патопам. Ух!

Прося паведаміла свайму чалавеку пра навіну.

Паставіла на стол міску з вячэраю, прысела—абаперлася на ўзлокаць, глядзела Гіляру ў твар ды:

— Лявон прадаў сваю Маліну. Узяў сто сорак рублёў. Млечная вельмі-ж карова... Дык колькі вэрхалу было як ты пайшоў, сваркі... Кажа я прадаў на сваю патрэбу і мне ніхто не забароніць. Кажа, у мяне-ж яшчэ засталася карова і сёе тое—дык і хопіць для паю. Ай ня ведалі-б што прадаў. Але Макрына хадзіла да Ярэміхі пазычаць чорных шпульковых нітак, дык тая: „Учора прадаў Лявон сваю Маліну, а заў-

тра Васіль прадасьць свайго стрыгуна:—мо‘ ці не далякціўіцеся да ручкі, дасьць бог“—цешылася бачыш?

А Лявон Махавік з жонкаю Тэкляю вырашалі перад тым, пакуль прадаць Маліну:

— Збыць-бы што, збольшага...—казала Тэкля.

— Дурная ты ета.

— А то як-жа: я ў цябе цёнгле дурная.

— Ня ў гэтым... Я аб тым ета:—без цябе цямлю. Хіба ты маеш розум, а я дурань? Сам ведаю, што ета... Грошы... мала што ета патрэбна: цёплаходы-б на зіму купілі-б... Толькі што-ж збыць?

— Каня...—вырашыла Тэкля.

— Адзін конь... Нельга ета.

— Ну, дык з быдляці каторую небудзь?

Так вырашалі Лявон з жонкаю ў той дзень, як запісаўся Лявон, як прышоў з сходу ад Аніся.

А ўчора, калі быў ахутак вечар дрыжача памутнеўшым змрокам—цераз Лявонава прыгуменьне, на загумнішча, павёў перакупшчык Кароль—камароўскі чалавек—Лявонаву дойную Маліну.

Гіляр, праглынуўшы цяпер кусок разжованага, змочанага страваю хлеба, спытаўся ў Просі:

— Ну і што-ж вырашылі з Лявонам?

— Вырашылі...—прымаючы парожнюю міску з стала казала,—і Васіль і Яўгень і Цімох, Атрахім—усе, сабраўшыся каля Міхалкавай хаты сказалі:—ай, калі прадасьць хто што без папытаньня—выпісываць з сьпісу. А на гэты раз даравацъ. Толькі грошы за Маліну, казалі, каб аддаў на калякцыю. Бацька, таксама быў на гэтым вэрхалу.

— А што-ж бацька на гэта?

— Нічога... Маўчаў. І Макрына была...—сказала Прося накрываючы хлеб васьмінітным абрусам сваей, Просінай, работы.

## IX

Бляшнявы месяц шпурляў праз кутавое вакно Анісявай хаты сваё ватовае сьвятло, раскідаў яго па падлозе не расскубенымі камякамі, разьліваў бельлю ня сьвежага малака.

Макрына ня спала, а ляжала на сваім шырокім ложку і бачыла, як расьсякаўся месячны жмук сьвятла аб ваконную раму—перш напалам, а потым—раз, два—у папярок на шэсьць выцягнутых гумалясткаю вакенцаў, як клаўся ён прадоўжнымі пасамі на хатнюю падлогу.

З аднаго боку на другі перакідалася Макрына, адкідала да пояса саматканую коўдру, камячыла свае доўгія распушчаныя валасы і не ў пакідаючых яе думках не акрэсьлянае, але выразнае:

— Няўжо... Што мне набрыло ў маю галаву... Чаго я набрала на розум-м...

Скрыгалі зубы аб зубы, гарэў жарам бярозавых вугальляў малады яе твар, а яна адным звагам віла і віла клубок растрэсеных думак:

— ...Стары... бацька... Яўгень...

І ёй прыходзіў на памяць усё сьвежы, усё інакшы вобраз старога.

...Шырокія плечы... з жыва-бойкім завостраным зіркам. Засівераўшы дзесяцігодзьдзямі твар, пакарабачаны, але поўны, чырвоны—грыбам рыжком—уяўляўся ёй вобраз Пракопа.

Ізноў камячыла Макрына свае валасы, кідалася, штурхала незнарок соннага збоку Яўгеня.

А Яўгень моцна спаў. Ён зьвярнуўся з паўстанка самым падвячоркам—амаль у адну пару з Гіляром. Езьдзіў Яўгень у горад, азадачыў куплю жняяркі.

Усе вобразы сталі перад Макрынаю жывымі і суцэльнымі.

Тады як зайшоў ён у хату з Анісем, Патапчыкам—ня ведала Макрына, чаму такая дрыжачая істома перабегла ўсё яе цела. Ня ведала чаму пайшла Мыкрына на поле. Пайшла, бо ішлі-ж... А на полі тупым зіркам глядзела што робяць. Блукаў яе зірк па быльнігу межнаму—расьсеяна, абыякава.

Шукала... доўга, балюча шукала, а для чаго?—каб убачыць глядзела, а далей?...—Сама ня ведала што.

Ды і што-ж магло быць у яе, у Макрыны, з бацькам яе чалавека?

А бачыць хацелася вельмі-ж... Наўмысьля праходзіла ціхаю хадою, калі ішла вуліцаю каля Пракопавай хаты. І таксама:—а для чаго?

Хто-ж яго ведае для чаго.

Цяпер ляжала Макрына, і аддаўшыся на волю свайго адчуваньня:

... Тая самая, як і тады за вячэраю, цёмна-русага воласу самарослая барада, доўгія вусы зьлітыя з гэтаю барадою, чырвона абведзеныя вусны, шар здаровых, над'едзеных векам зубоў...

Зусім раскрылася Макрына, а духата ўсёроўна ціснула яе потнае цела і ізноў:

... Як ідзе—ступае цьвёрдым асьмеленым крокам:—... два, тры... Пакарабачаны гадавымі маршчынамі карак... аброслы ўскалмачаны не падстрыжанымі валасамі, як ніцаю лазою.

Глядзела Макрына на скрозь адчыненымі вачыма на асядаўшы месячны пух і далей праз трымцячую бель:

... Гаворыць не апускае вачэй. Важна гаворыць, пэўна, адразу. Галасам-басам гаворыць, вострым, а мяккім, жвавым суцэльным.

Калі прыходзіў пазычаць долата, яна была адна ў хаце і ён:

— А дзе-ж твае, гэна, гаспадары? Ну... што ў цябе, як ты... ну... Эх, ты—каза—дзераза!..

Ляжала Макрына і чула, як раптам апала на яе сьпелыя налітыя грудзі Яўгенева з просанку рука. Не хацелася зьнімаць з грудзей соннага цяжару, хацелася, каб яшчэ больш успацелі, адмяклі, сакавітыя грудзі, каб даўжэй трымалася ў целе томная ссэрхлая млявасьць.

А ціхата абмывалася ноччу і ізноў:

—... песьня зьвініць у вушшу. Зьвініць—цэлым хорам пяе. Не, не ў траіх яны—з Аньцяю, з Гэлькаю... Перш чуць-чуць пачынаецца песьня—запявае нейдзе нехта далёка, далёка...

Вой-да ты ня-ы-стой ня сто-о-й.

А потым усё бліжэй і бліжэй чуваць песьня—ярка і выразна:

На-а-га-ры-ы кру-той...

Ї ўжо моцным віхрастым узрывам, на тысячу рассыпаных стройна хорных густых галасоў:

Во-ой-да ня кі-да-ай гальля<br>У мо-о-ра сі-ы-ня-е...

... А ён ляжыць з расхрыстанаю грудзінаю на ложку. Штрыфлі яго кужэльнай кашулі разьвязаны. А з-пад кужэльнай кашулі—на грудзіне тое-ж самае іністае серабро, густое, зблытанае, не расчэсанае...

Ї ўсё гэта як сон, як здань.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Паволі адняла Макрына Яўгеневу руку і падняўшыся з ложку вышла на двор.

Месяц спускаўся над бродаўскімі стрэхамі гумён—зьвісаў, тапіўся ў неабдымным прасторы бляшнявай ночы. Зоры міргалі адна перад другою ціха і квола. Нібы плакалі зоры—міргалі павекамі, з навісла-поўнымі, на іх рожках, кроплямі сьлёз.

Макрына прайшла, як начная здань, як русалка, да варот свайго гумна і ўспомніла:

— Вуньдзе-ка, на тым баку частаколу, у адрыне, сьпіць стары...

Ї зусім безадказна і не сьвядома сама для сябе:

— Ня ведае ён... стары, што я тут стаю...

Стаяла Макрына, глядзела ў асьвечаную месяцам далячынь. Бяз думак стаяла—нібы акамянелая—над варотамі прыгуменьня, абапёршыся аб халодны, варотны стаўпец.

А зоры міргалі адна перад другою павекамі сарамлівай дзяўчыны.

Цішыня нема зьвінела.

Ападалі з вішнёвых лісьцяў, за частаколам, на лопух, буйныя кроплі расы.

А Макрына доўга стаяла ў начной вільгаці, а потым хацела іці—павярнула ад варот, як:

—... мне паказалася...—сама ў сваіх няўпэўненых думках.

Але ўрытаю застанавілася Макрына і прыслухалася кволым сваім слухам:

— Бразгае нехта... во... во... і ізноў—во!

Ї Макрына пачула выразна, сярод ціхай, апавіта-захутанай ночы асьцярожны бразг аб жалеза жалезам.

— Што-ж гэта...—сказала ўстрывожанымі думкамі.

А бразг чуваць быў адтуль, ад Пракопавай адрыны.

Тады паднялася на варота і, асьвечаная млечным сьвятлом месяца— зірнула цераз верх, цераз Пракопаў густы частакол.

— Што яны робяць?..—пазнала Макрына Пракопа, а з ім Карпуся,— што яны...—і яшчэ трэйцяю бачыла чалавечую постаць.—А-а...

Макрына пазнала... добра пазнала і рынулася да хаты, да дзьвярэй.

— Што яны робяць...—бегла, а з ёю гналася прыкрая думка—бацька... стары—што ён надумаўся... што... Што яны хочуць... Зглуміць...

Ня чула як бразнула моцна дзьвярыма. А бразнула моцна.

Убегла Макрына ў хату ды:

— Яўгень...—пачала будзіць, тармасіць.—Яўгень...—шаптала дрыжачым голасам над яго вуснамі.

А Яўгень спаў соладка і моцна.

Катурхала Макрына Яўгеня і ў сваім адчуваньні:

— Які ён нядобры... бацька, бацька... Што яны робяць... Трэба-ж заўтра араць... Людзі...

Пякучая крыўда абдала Макрынiна сэрца за мінулае, за жыцьцё... старым... бацькам... У якога ня чыстыя думкі...

Вялікі жаль ахапіў, сьціснуў яе маленькае, жаночае сэрца. Моцна, моцна сьціснуў... аж да кропелек балючае крыўды, пякучай, атрутнай, у якой купалася яно трапяткое.

— Трэба-ж араць...—шапталі яе вусны—Што яны робяць... Яўгень... Нехта на прыгуменьні... любы... залаты... Зглумяць...

І Макрына як ніколі, адчувала цяпер, дарагую, лагодную цяплыню гэтага соннага чалавека.

Тады нахінулася грузна на Яўгеня сваёю цяжкаю постацьцю, пачала цалаваць горача і моцна яго разаспаны і разьмякшы твар.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Анісь з Яўгенем агледзелі, абыйшлі наўкол, маукліва-стаячага трактару і знайшлі:

Дзьве адкручаныя нітэркі і нейчы ключ—туга ўзьдзеты на шрубу заваднога, трактарнага мэханізму.

Ліпень-лістапад 1929 г.

# АКОРДЫ ДЗЁН

*(Поэма)*

**Паўлюк Шукайла**

*ПЕСЬНЯ ПЕРШАЯ*

Сьвітае раньне,
Вуліца грахоча,—
Уздымам руху,
Акордамі дзён.
Спавіта дратамі
Воблакаў клочча,
І пажаўцелым лісьцём
Клён.

Краіна, росквіту,
Нязнанага нікім!
Краіна дзён
Бурлячых
У жэрлі сэрца!
Імчышся ты
Дынамікай гадзін,
Арганізуючы
Сталецьці!

І захоплены
Тваімі хвалямі...
Праз нажы
І праз выстрал
Абрэзаў,—
Ідуць
Магутнымі вяліканамі,
Паўстанцы новыя
Гарэзныя...

Ідуць...
І зоры
Плавяць у сэрцы,
Ідуць адзіным
Крокам дзён...
І пераплываюць
Сталецьці
Новы Рубікон.

Гарыць зара
Дынамаю зьяднаная,
Круціць вал
Нашых дум.
І пырскаюць словы
У вагнёвым накале,
Адбіваюць у акордах
Зару...

---

У барацьбе
Ці сьмерць,
Ці жыцьцё,
Грудзяць грымотныя
Рэволюцыі
Загады...
Ці сок жыцьця,
Ці вострае асьцё—
Уліваецца ў сэрцы
Атрадаў...

Рэволюцыя!
Я, слухаю
Твой загад.
За атрадам
Атрад,
За варштатам
Варштат,—
У бой ідуць,
Вялізарныя сілы
Мільён
Кілёват
Наліваем
У зарад
Там, дзе былі
Крыжы
І магілы.

Раз
Два
Плі!..
Направа
І налева
Бі!
Дарогаю простай
Ідзі!
Зброю
Вострай
Дзяржы!..

Хто з намі—
За нас
Пайшлі
На сустрэчу
Чырвонай зары.

Раз
Два
Плі!
Направа
І налева
Бі!..

Спатыкнуўся адзін,
Загінуў другі.
А мільёны ідуць
На сустрэчу вякоў...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Партызанскі мой
Баявы карабін
Устарэў
Сівізною гадоў.

На завод-бы
Цябе
У пераплаўку пусьціць...
Эх, радзімы,
І шкода,
А трэба:

Устарэўшае ўчора
Ня можа жыць
І шумець
Пажаўцеўшаю вербай.

* * *

Дніпрэльстан...
Асінбуд...
О, краіна,
Ці ты сьніла,
Ці марыла ты,
Зямля трактар,
Як роднага сына,
Прытуліла да грудзей.

Квітней,
Краіна!
Ня бойся
Здрады
Пажоўклых восеньню
Лістоў.
Ідуць мільёны
Ў тваіх атрадах—
Кастрычніка
Сыноў...

Ідуць
І зоры
Плавяць у сэрцы...
Ідуць
Адзіным
Крокам дзён.
І пераплываюць
Сталецьці
Новы Рубікон...

---

## ПЕСЬНЯ ДРУГАЯ

Гэй, вышэй,
сэмафор жыцьця!
Хай лятуць,
цягнікі нашых дзён...
Трэба ўмець
і шпалы кахаць,
І цалаваць
сэмафор...
Трэба ўмець
У кожным цьвіку,

Што змацоўвае
дынаміку руху,
Прасьпяваць
краіну сваю,
Прасьпяваць
будні й завіруху..

Альлё!.. Альлё!..
гавару радыём...
Слухай, сусьвет,
маю каманду:
Ад Лёндану,
да Ленінграду
Пачынайце
зары
Кананаду!
Ура!
Зара,
Гары, палай,
чырвані,
Чырвані,
аб-наў-ляй!

Клін
ў тлінь,
Рассячы!
Секачыце,
Секачыце,
Секачы!..

Чуйце!
Чуйце!
Выкарчуйце
Ўсе
Карчы!..

Эх, ляці-ж,
Зара,
На самалёце
маім,
Хочацца
сонца абняць
І гарэць
Удваіх.
А між іншым...

Трын-трава,
Зраблю я яго
ліхтаром.
Яно не пасьмее
ўцякаць
За шырму
хвасьцівых галоў.

Гэй, альлё...
горад—дынама!
Паварочвай вал!..
давай накал.
Закалі сонца
у майго ваконца.
Уключаю шнур
ў горадзе-Футур *)
Гэй, дынама,
і штаб мастацтва—
Зьяднайце
конструкцыю сіл.
Даволі сонца,
у ваконца—
Выключыць! Уключыць,
зоры на небасхіл.

І глядзіш,
і поглядам лялееш,
Зара, зара...
прайшла твая пара.
І сама мабыць,
Цяпер ня верыш,
Што ты...
зара.

Я ўключу
электраграмафон
І песьню
пачую мінулага.
І тут
Валеры Маракоў
Надрывае гітару
старую:
„І так усё, ўсё праляцела,
Чым сэрца некалі жыло.

*) Футур—будучыня

І над далінай гэтай белай
Іду, як мёртвы, за сяло".

О, Маракоў,
Маракоў!..
Ці не пакусаў
Пушчын сабака
за сялом?

Ўключаю я фатафон
І ўглядаюся
У юнацкія портрэты,
І думаю:
нашто ты юнаком
Лез ў старыя карэты.

Эх, карэты,
і старыя гітары,
І надломная кволасьць,
Пажоўклых лістоў!
Нашто юнака заляйцалі,
Каб ён пёр
супраць ветру гадоў...

Эх, Валеры,
Падаю аўто,
Уключаю ток
Мільёнаў сіл...

Сядай, браток-—
...Пакуль лістом
Пажоўклым
За сялом
Ня згніў—
Падумай,
Гэтакі юнак
З размахам дум,
І з зорамі вачэй,
Захацеў
Стары фрак
перашыць ля сваіх плячэй.

А тут пад руку,
Мусье-фотограф Кучар.
Сфотографваў
твой портрэт.

І... што-ж я бачу:
Пажоўклая лісьцяў куча
І ў ёй капошыцца поэт.

Эх, фатафон,
выключаю цябе,
І табе мабыць песьня
„адпета“.
Калі Кучар, Фото,
Пачынаў вярцець,
Не чалавек выходзіў,
А катлета.

Даёш жыцьцё—кінафон,
І поэта
ў дынаміцы руху.
Можа быць,
тады Маракову
Прыдзецца
пацісьнуць руку.

Можа быць,
Рэнтгэнам крытыкі
Мы знойдзем
нязнаную боль,
Што зрабіла
з чалавека—ныціка
І сьлязьмі
залівае агонь.

Клін
ў тлінь
Расьсячы.
Секачыце,
Секачыце,
Секачы...

Чуйце!
Чуйце!
Выкарчуйце,
Ўсе
Карчы!..

## ПАБУДОВА

### М. Хведаровіч

Вось на стале баявыя паперы
Стомлена вочы глядзяць інжынэра.
Творчая думка,
Бяссонныя ночы,
Бяссонныя ночы—
Напружная творчасьць.

Капáюць канавы,
Каб класьці фундамант
З пяском і бэтонам
Пашчэпаны камень,
Каб тут,
Дзе будынкі стаялі „наогул“,
Ступілі індустрыі коўкія ногі,
Лябараторый многаваконных—
Юнацтва ступіла
Ступнёю бэтоннай.

Капáлі канавы,
А кроплі кáпалі,
Кáпалі потным цурком.
Бэтонамяшáлкі сталёвымі храпамі
Грызьлі камéнны лом.
І ў захапленьні
І творчай няспыннасьці
Белыя крыльлі
Ўзьнялі рыштаваньні,
Вышай і шырай
Імкнуцца вырасьці
Новыя гмахі будаваньняў.
Чырвоная гліна,
Мяккая гліна,
Цэлыя стосы
Румяных цаглінак.
Белая, белая
Чыстая вапна...

Моладасьць!
            Ты, да работы сквапна!
Моладасьць!
            Ты, палымнеючым словам
Камень апошні паложыш аснове.
Сэрца хвіліны падлічвае тактам:
Як там,
      Як там,
            Як там,
                  Як там?
Мускулы можа адчулі істому?
Можа каморкі набілі аскому?
Стомленасьць можа сіньцом пад вачыма?
      Та-а-а-ак!!!
      На-а-дпа-чы-на-к!!!
Добрая работа,
Слаўная работа!!
Жыць ахвота!!
      Рабочая рота!
            Пе-е-сь-ню-у!!!

7-XII 29—г.
Менск

# СІБІР

**Аркадзь Куляшоў**

Люблю цябе, паўночная краіна—
Мяцежны звон марознае пары
І хрупкі сьнег,
І сьнег, як неба сіні,
І сьветлы сьнег таежнае зары...

Сібір мая!
Ты зноў знаёмай казкай
Трывожыш думак песенны простор,—
І залатой бясконцаю павязкай
Ўздымаюцца храбты Уральскіх гор...

А далей стэп шырокая, як мора,
Калісьці там, праз туманы ў стэпох
Мой дзед пранёс тугу сваю і гора
І сэрца палкае ў жалезных ланцугох...

Лілася кроў... Ў шляхох балелі ногі,
А людзі йшлі, таміліся...
ішлі...
На дальні шлях, на сьветлыя дарогі
Да новае, вялікае зямлі...

Мой любы дзед, мне часта гаварылі
Пра звон тайгі, пра сьнегавую даль,
Дзе ў катарзе гады цябе ссушылі,
Дзе ты жыцьцё за лепшы лёс аддаў...

І вось таму заву цябе радзімай,
Сібірскі край з далёкаю зарой,
Яшчэ даўно
назаўсягды, магчыма,
Нас парадніла дзедаўская кроў...

Чакай мяне, я да цябе прыеду
І ў той-жа сьнег падзе мая нага,
Дзе першы раз вятры сьпявалі дзеду
І плакала шумлівая тайга...

Дзе над маёй паўночнаю краінай
Гараць агні таежнае зары,
Дзе у вялікіх домнах і машынах
Ёсьць кроплі звонкай дзедаўскай крыві.

23-XI—29 г.
г. Мсьціслаў.

# ЛЕНІН І СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭКОНСТРУКЦЫЯ ВЁСКІ

*(Урывак з працы: „Ленінскае вырашэньне аграрнага пытаньня“)*

**В. Сэрбэнта**

Шостую гадавіну з дню сьмерці Леніна мы праводзім ва ўмовах самай упартай і настойлівай работы пролетарыяту і яго партыі над соцыялістычнай рэконструкцыяй усяе народнае гаспадаркі, увогуле, і сельскай гаспадаркі, у прыватнасьці. У справу соцыялістычнага будаўніцтва ўцягнуты мільёны. Векавыя формы сялянскай вытворчасьці рэзка мяняюцца. Ажыцьцяўляецца, ніколі ў гісторыі чалавецтва нячуваная па соцыяльна-экономічнай глыбіні і шырыні ахвату, рэволюцыя, пры тым такімі шпаркімі тэмпамі, аб якіх нават некалькі гадоў таму назад і самыя палкія фантасты сабе не прадстаўлялі. Ленінскія прадраканьні апраўдаліся. Гэта магло адбыцца толькі ідучы па ленінскаму шляху.

З кожным годам, па меры таго, як мы аддаляемся ад дню сьмерці У. І Леніна, перад намі ўсё больш настойліва высоўваецца задача— асьвятліць наш шлях, нашу работу соцыялістычнага будаўніцтва, лепш і глыбей, прожэктарам Ленінскага вучэньня, ленінскай тэорыяй.

Ленін надаваў найвялікшае значэньне рэволюцыйнай тэорыі: толькі выходзячы з яе і абапіраючыся на яе можна атрымаць правільнае кіраўніцтва для рэволюцыйнага дзейства. Ленін заўсёды настойваў на вывучэньні клясыкаў марксызму.

— „Толькі ідучы *па шляху* марксавай тэорыі,—пісаў Ленін,—мы будзем набліжацца да об'ектыўнай ісьціны ўсё больш і больш (ніколі ня вычэрпваючы яе), ідучы-ж *усялякім іншым шляхам*, мы ня можам прыйсьці ані да чаго іншага, апрача блытаніны і ілжы“ („Матар. і эмпірыокр.“). Толькі ідучы па шляху Леніна,—мы можам сказаць,—перафразуючы Леніна, прыдзем да ісьціны.

Чаму тэорыя Маркса, разьвітая Ленінам, выходзячы з практыкі змаганьня ў эпоху імпэрыялізму і пролетарскіх рэволюцый, толькі тэорыя марксызму-ленінізму мае такую вялікую сілу.

Чаму толькі яна адкрывае нам правільны шлях да соцыялізму, да комунізму?

На гэтае пытаньне даў нам адказ Ленін:

> „І калі-б вы высунулі такое пытаньне: чаму вучэньне Маркса магло аўладаць мільёнамі і дзесяткамі мільёнаў сэрцаў самай рэволюцыйнай клясы—вы зможаце атрымаць адзін адказ: гэта здары-

лася таму, што Маркс апіраўся на моцны фундамант чалавечых ведаў, заваяваных пры капіталізьме, вывучаўшы законы разьвіцьця чалавечага грамадзтва. Маркс зразумеў няўнікнёнасьць разьвіцьця капіталізму, вядучага да комунізму і, галоўнае, ён даказаў гэта толькі на аснове самага дакладнага, самага дэтальнага, самага глыбокага вывучэньня гэтага капіталістычнага грамадзтва пры дапамозе поўнага ўсваеньня ўсяго таго, што дала ранейшая навука.

Усё тое, што было створана чалавечым грамадзтвам, ён перапрацаваў крытычна, ніводнага пункту не пакінуўшы бяз увагі. Усё тое, што чалавечай мысьляй было створана, ён перапрацаваў, раскрытыкаваў, праверыўшы на рабочым руху і зрабіў тыя вывады, якіх абмежаваныя буржуазнымі рамкамі або зьвязаныя буржуазнымі прадрассудкамі людзі зрабіць не маглі“ (XVII, 316, 317).

Ленін далей разьвіў навуку Маркса: „Гэта вучэньне стала вучэньнем мільёнаў і дзесяткаў мільёнаў пролетараў ва ўсім сьвеце“ (Ленін). З дапамогай гэтага вучэньня Ленін павёў масы ў бой і перамог. Кіруючыся гэтым вучэньнем, Ленін пачаў будаваць соцыялізм. Завяршыць гэтую будоўлю пасьля Леніна засталося Комуністычнай партыі, заснаванай і выкаванай у клясавых бойках пад кіраўніцтвам Леніна. Ленінская партыя таму так удала вядзе масы па шляху соцыялістычнага будаўніцтва, што яна выконвае Ленінным намечаны плян.

Чым з большай адданасьцю мы будзем вывучаць Ленінскі плян, пакінуты нам у яго творах, тым менш мы будзем рабіць памылак, тым хутчэй дагонім і перагонім самыя перадавыя буржуазныя краіны, тым больш пераможнай зробім справу сусьветнага пролетарыяту.

У гэтым артыкуле мы можам толькі часткай закрануць Ленінскі плян у адносінах да аграрна-сялянскага пытаньня. Мы лічым, што ані якія выклады тэорыі вялікага правадыра ня могуць узбудзіць той глыбіні мысьляй, якія даюць самыя творы. Адно, што можа зрабіць выклад: таўхнуць чытача на чытаньне самых твораў. А для гэтага варта пісаць.

Аграрнае пытаньне займае ў Леніна надзвычай вялікае месца. Кожны этап рэволюцыйнага руху высоўвае новыя бакі вырашэньня аграрнага пытаньня. Самае аграрнае пытаньне для Леніна зьяўляецца ня толькі, вярней, ня столькі проблемай экономічнай, колькі жывой проблемай суадносін паміж людзьмі, паміж клясамі, жывой проблемай рэволюцыйнага клясавага змаганьня, сялянскай рэволюцыі, грамадзкай вайны на вёсцы. Цэлы рад твораў Леніна, найвялікшай тэорэтычнай глыбіні і значэньня, напісаны з поваду выпрацоўкі правільнай лініі партыі ў аграрным пытаньні. Асаблівую цікавасьць з гэтага боку мае артыкул Леніна „Аграрная програма рускай соцыял-дэмократыі“ (гл. т. III, „Збору твораў“ на бел. мове і III Ленінскі зборнік) з заўвагамі Плеханава, Аксельрода і др. Далей „Аграрная програма соцыял-дэмократыі ў рускай рэволюцыі 1905—1907 гадоў“, „Капіталізм у сельскай гаспадарцы“,

„Паны „крытыкі“ ў аграрным пытаньні“, „Новыя даныя аб законах разьвіцьця капіталізму ў земляробстве“, „Тэорэтычныя асновы нацыяналізацыі і муніцыпалізацыі“, „Аграрнае пытаньне ў Расіі ў канцы XIX веку“ ды інш. (IX том, 1-е рускае выданьне твораў). Нарэшце надзвычай многа самых каштоўных мысьляй і ўстановак мы можам знайсьці раскіданымі па ўсіх творах. Нават з папулярызацыяй усяго Ленінскага багацьця справа стаіць вельмі слаба. Між тым ідзе найвялікшая ў гісторыі аграрная рэволюцыя. Патрэбна ня толькі папулярызацыя, але і далейшая распрацоўка. Тав. Сталін тысячу разоў меў рацыю, калі на конфэрэнцыі аграрнікаў выставіў у якасьці баявой задачы дню, іменна папулярызацыю а затым і распрацоўку, разьвіцьцё *ленінскай* спадчыны.

* * *

Пры капіталізьме, сялянская гаспадарка няўнікнёна падпадала пад дзейства законаў разьвіцьця капіталістычнага грамадзтва. Твор Леніна „Капіталізм у сельскай гаспадарцы“, прысьвечаны разбору „Аграрнага пытаньня“ Каўцкага і разьвіцьцю капіталістычных адносін у вёсцы, з асаблівай яснасьцю паказвае накіраванасьць сельскай гаспадаркі ў бок утварэньня на адным полюсе буйных капіталістычных гаспадарак з вялікай продукцыйнасьцю працы, на другім—мільёны зьбяднелых, пролетарызаваных дробных продуктараў, якія засуджаны на поўгалоднае існаваньне. Капіталізм зрабіў у земляробстве „гіганцкую рэволюцыю“, „абярнуўшы рутыннае рамяство забітых нэндзаю і прыдушаных цемрай сялян у навуковае ўжываньне агрономіі, парушыўшы векавы застой сельскай гаспадаркі, даўшы (і далей даючы) штуршок для шпаркага разьвіцьця продукцыйных сіл грамадзкай працы“. „Дакапіталістычная аднастайнасьць зьмянілася ўсё ўсільваючайся featureнастайнасьцю, якая ідзе разам з тэхнічным прогрэсам усіх галін сельскай гаспадаркі“ (т. IX, ст. 5). Пранікаючы ў сельскую гаспадарку капіталізм, перарабляючы яе на свой манер, падымае продукцыйнасьць працы, і ў гэтым яго вялікая прогрэсыўная роля, выходзячы з чыста экономічнага пункту гледжаньня. Але на карысьць якіх груп, якіх соцыяльных пластоў сялянскага насяленьня ідзе гэта разьвіцьцё гаспадаркі? Хто выйгрывае?—„Носьбітам тэхнічнага прогрэсу ў сучасным (г. зн. капіталістычным—*В. С.)* земляробстве зьяўляецца *сельская буржуазія* (падкрэсьлена Леніным) як дробная, таксама і буйная“ (т. IX, стар. 4). Выйграюць, значыцца, вясковая буржуазія, кулакі. Аграмадная-ж большасьць сялян (серадзякі, бедната) ніколі (за выключэньнем адзінак) ня могуць падняцца вышэй. Гісторыя Францыі, Англіі, Германіі паказваюць на „такі нізкі ўзровень патрэб дробнага самастойнага земляроба, які аказваецца нават ніжэй за ўзровень сельскага рабочага“ (IX, 11). А машыны, якія ўсё больш уводзяцца ў сельскую гаспадарку, „будуць выганяць сельскіх рабочых у гарады“ (IX, 6), будуць пролетарызаваць, як і раней, дробнага продуктара і папаўняць

гарадзкую армію беспрацоўных. Машыны зьяўляюцца сродкам павялічэньня эксплёатацыі.

Капіталістычнае разьвіцьцё вёскі аддае перавагу буйнай гаспадарцы. Аднэй з прогрэсыўных форм гэтай буйнай гаспадаркі і пры капіталізьме зьяўляецца таварыства. „Вядома,—піша Ленін,—як носяцца з таварыствамі дробных земляробаў ідэолёгі мяшчанства наогул і расійскія народнікі ў часнасьці. Тым больш значэньня набывае таму дасканалы аналіз ролі таварыстваў, даных Каўцкім. Таварыствы дробных сельскіх гаспадароў зьяўляюцца, вядома, зьвяном экономічнага прогрэсу, але выражаюць яны *пераход да капіталізму, а зусім не да колектывізму* (курсіў Леніна), як часта думаюць і цьвярдзяць“ (IX, 11). Ленін ядавіта высьмейвае тых, якія пры капіталізьме прапанавалі сялянам выбавеньне ад пролетарызацыі шляхам утварэньня таварыстваў. Але ўжо тады (у 1900 г.) указваў на іншае значэньне таварыстваў пры іншых „экономічных, палітычных і інтэлектуальных умовах“. Але яны (гэтыя ўмовы) былі так далёка, што ўсур‘ёз аб гэтым гаварыць не наступіў час. Усякія-ж разважаньні толькі і маглі затушаваць актуальнае змаганьне з народнікамі і іншымі мяшчанамі.

Ітак, пры капіталізьме разьвіцьцё сельскае гаспадаркі ідзе па лініі ўзрастаньня эксплёатацыі буржуазна-кулацкай меншасьцю многамільённага працоўнага сялянства і вясковай беднаты. Капіталістычны горад эксплёатуе праз тавараабарот сельска-гаспадарчую вёску і падпарадкуе экономічна і ідэйна яе сабе. Па выражэньню Маркса, „Можна сказаць, што ўся экономічная гісторыя грамадзтва заключаецца ў руху гэтага супроцістаўленьня“ („Капітал“, т. I).

Кастрычніцкая рэволюцыя рашуча перавярнула соцыялістычныя адносіны. Нанесла рашучае паражэньне эксплёататарскім клясам. Зьнішчожыла клясу зямляўласьнікаў і буйных капіталістых. „Але чым чысьцей ачысьцілі мы глебу,—піша Ленін у „Вялікім пачыне“,—ад сьмецьця старых, буржуазных законаў і ўстаноў, тым ясьней становіцца для нас, што гэта толькі ачыстка зямлі для пастройкі, але яшчэ ня самая пастройка“ (XVI, 256). Пасьля давядзеньня да канца буржуазнай рэволюцыі ў кастрычніку ў першы раз у гісторыі, як вызначае Ленін, наступіла двухклясавае грамадзтва, з некаторым *выняткам* у адносінах *да дапушчэньня* існаваньня буржуазіі.

Замест дыктатуры буржуазіі і памешчыка ўстанавілася дыктатура пролетарыяту. Проблема суадносін паміж горадам і вёскай паўстала зусім у іншым сьвятле. Клясавае выражаньне адносін гораду да вёскі заключаецца ў адносінах пролетарыяту да сялянства. Ленін, маючы на ўвазе дыктатуру пролетарыяту і клясавыя суадносіны паміж пролетарыятам і сялянствам, падыходзіць з пункту гледжаньня выгаднасьці для сялянства пролетарскай рэволюцыі і ставіць пытаньне: хто ў першую чаргу і зараз-жа выйграў? „У сялянскім краі першымі выйгралі, больш за ўсё выйгралі, адразу выйгралі ад дыктатуры пролетарыяту сяляне наогул.

Селянін галадаў у Расіі пры памешчыках і капіталістых. Селянін ніколі яшчэ, на працягу доўгіх вякоў нашай гісторыі, ня меў магчымасьці працаваць на сябе; ён галадаў, аддаючы сотні мільёнаў пудоў хлеба капіталістым, у гарады і за граніцу. У *першы раз пры* дыктатуры пролетарыяту селянін працаваў на сябе і *харчаваўся лепш за гаражаніна*" (курсіў Леніна)... „Працоўныя вызвалены ад векавых прыгнятальнікаў і эксплёататараў—памешчыкаў і капіталістых. Гэты крок уперад сапраўднай свабоды і сапраўднай роўнасьці, крок,—па велічыні яго, па разьмерах, па быстрыні нябачаны ў сьвеце,—ня ўлічваецца прыхільнікамі буржуазіі". „Але працоўныя ўлічваюць іменна сапраўдную роўнасьць, сапраўдную свабоду (свабоду ад памешчыкаў і капіталістых) і таму так моцна стаяць за савецкую ўладу" (XVI, 351). Гэта зьяўляецца фундамантам таго саюзу пролетарыяту і працоўнага сялянства, на аснове якога магла перамагчы ўсіх ворагаў і ўзмацніцца дыктатура пролетарыяту для таго, каб прыняцца за галоўнае—павесьці працоўныя масы на соцыялістычную перапробку ўсёй народнай гаспадаркі, у тым ліку і сялянскай.

Аднак сялянства і пролетарыят ішлі ў рэволюцыю з рознымі мэтамі. Сялянства ў першую чаргу выступала супроць прыгоньніцтва і рашучага скасаваньня ўсіх форм прыгоньніцкіх перажыткаў. Атрымаць зямлю і свабодны абарот—такавы быў ідэал сялянства. Пролетарыят-жа, дарабіўшы да рашучага канца як ніхто і ніколі буржуазную рэволюцыю, перад Кастрычніцкай рэволюцыяй ставіў задачы пабудовы соцыялізму. Ленін яшчэ ў 1905 годзе ставіў пытаньне аб рознасьці мэт і неабходнасьці ўцягнуць сялянства, разгортваючы клясавае змаганьне ў пасьлярэволюцыйнай вёсцы, у соцыялістычнае будаўніцтва. „Чаго хоча,—пісаў Ленін у 1905 годзе,—сялянства ад рэволюцыі? Сялянства хоча зямлі і волі. Усе сьвядомыя рабочыя хочуць гэтага і дабіваюцца таго, каб сялянства атрымала ўсю зямлю і ўсю волю. Але чырвоны сьцяг азначае... змаганьне ня толькі за зямлю і волю, але і змаганьне супроць усякай эксплёатацыі чалавека чалавекам. Чырвоны сьцяг сьвядомых рабочых азначае, папершае, тое, што мы падтрымліваем усімі сіламі сялянскае змаганьне за ўсю волю і ўсю зямлю; падругое, ён азначае тое, што мы ня спыняемся на гэтым, а ідзем далей. Мы вядзем, апрача змаганьня за волю і за зямлю, змаганьне за соцыялізм" (VII, ч. I, ст. 18, 19, 20).

Значыць сялянства, як соцыяльная кляса, ня ставіць перад сабой мэты змагацца за соцыялізм. Соцыялізм—гэта сьцяг пролетарыяту. Соцыялізм не выплывае з неабходнасьцю з спосабу вытворства дробнага продуктара. Але соцыялізм ёсьць зьніштажэньне ўсякай эксплёатацыі чалавека чалавекам. І таму ён выгодзен і для асноўнай масы сялянства. Тым ня менш сялянства, як кляса дробных продуктараў, ніколі ня высуне лёзунгу змаганьня за соцыялізм. Соцыялізм-жа пабудаваць можна, як вучыць Ленін, толькі пры ўмове заваяваньня на бок соцыялізму аграмаднай бсльшасьці насяленьня. Які-ж шлях да ўцягненьня ў соцы-

ялізм сялянства пры дыктатуры пролетарыяту? Трэба разабрацца ў клясавай прыродзе сялянства, каб павесьці яе за соцыялізмам, па шляху соцыялізму. У 1902 годзе Ленін пісаў:

„У сучасным грамадзтве сялянства, вядома, не зьяўляецца ўжо адзінай клясай. Але хто прыходзіць у замяшаньне ад гэтай супярэчнасьці, той забывае, што гэта—супярэчнасьць ня выкладу, не доктрыны, а супярэчнасьць самога рускага жыцьця. Гэта—ня выдуманая, а жывая дыялектычная супярэчнасьць. *Паколькі* ў нашай вёсцы прыгоннае грамадзтва выцясьняецца „сучасным“ (буржуазным) грамадзтвам, *пастолькі* сялянства перастае быць клясай, распадаючыся на вясковы пролетарыят і вясковую буржуазію (буйную, сярэднюю, дробную і найдрабнейшую). *Паколькі* застаюцца яшчэ прыгонныя адносіны, *пастолькі* „сялянства“ прадаўжае яшчэ быць клясай, г. ё., паўтараем, клясай не буржуазнага, а прыгоннага грамадзтва“ (IX, 276).

Кастрычніцкая рэволюцыя ажыцьцёвіла імкненьні сялянства: зьнішчожыла памешчыкаў, перадала зямлю сялянам. У выніку Кастрычніцкай рэволюцыі адбылося значнае ўраўнаньне ўнутры самога сялянства. Аднак падзел сялянства на пласты ў асноўным застаўся такім-жа і надалей існаваць. Кожны з гэтых пластоў у сялянстве парознаму адносіцца да соцыялізму. Кулак цягне да буржуазіі. Серадняк у залежнасьці ад умоў вагаецца паміж пролетарыятам і буржуазіяй. Бядняк зьяўляецца лепшай апорай дыктатуры пролетарыяту ў вёсцы. У пэрыод грамадзянскай вайны бедната была самым актыўным памоцнікам і саюзьнікам пролетарыяту ў змаганьні супроць буржуазіі і кулакоў. Але бедната сама была меншасьцю ў вёсцы. Трэба было заваяваць серадняка, заваяваць яго на бок соцыялізму. „Партыя павінна ва што-б там ні стала дабіцца поўнай яснасьці і моцнага ўсьведамленьня ўсімі савецкімі работнікамі вёскі той, зусім устаноўленай навуковым соцыялізмам ісьціны, што сярэдняе сялянства не належыць да эксплёататараў, бо яно не здабывае прыбытку з чужой працы. Такая кляса дробных продуктараў *ня можа страціць ад соцыялізму* (курс. наш—*В. С.*), а наадварот, выйграе ў вельмі вялікай ступені ад зьвяржэньня іга капіталу, эксплёатуючага яго тысячай спосабаў ва ўсякай, нават самай дэмократычнай рэспубліцы“ (XVII, з прам. на IX зьезьдзе РКП(б).

Сярэдняе сялянства выйграе ад соцыялізму. Але яго трэба весьці ў соцыялізм, зацікавіць экономічна ў змаганьні за соцыялізм. Вядучую ролю выконвае пролетарыят і *соцыялістычная прамысловасьць*. Серадняк па прыродзе сваёй вагаецца, зьяўляецца ўнутры сваім супярэчлівым. Пролетарыяту трэба знайсьці формы саюзу з серадняком. Толькі апіраючыся на беднату, пры саюзе з серадняком можна ісьці да соцыялізму цьвёрдымі крокамі. Нэп павінен быў узмацніць саюз паміж пролетарыятам і сялянствам, даць экономічную базу для соц. рэконструкцыі, згуртаваць пад кіраўніцтвам пролетарыяту ўсіх працоўных для апошняга бою за соцыялізм, а далей і за комунізм. Ленін пра гэта

пісаў: „І для таго, каб ажыцьцявіць гэта ў нашай абстаноўцы, патрэбна тая экономічная сувязь, якая зьяўляецца ядына магчымай—сувязь праз гаспадарку. Вось прычына нашага адступленьня, вось чаму мы павінны былі прыйсьці да дзяржаўнага капіталізму, да канцэсій, да гандлю. Бяз гэтага, на грунце таго зруйнаваньня, у якім мы апынуліся, належнай сувязі з сялянствам нам не адстанавіць. Бяз гэтага нам пагражае небясьпека, што перадавы атрад рэволюцыі забяжыць так далёка ўперад, што ад масы сялянства адарвецца. Змычкі паміж ім і сялянскай масай ня будзе, а гэта было-б пагібельлю рэволюцыі. На гэта мы павінны глядзець асабліва цьвяроза, бо адсюль выплывае ў першую чаргу і больш за ўсё тое, што называецца ў нас нашай новай экономічнай політыкай. Вось чаму мы сказалі аднадушна, што гэтую політыку мы праводзім усур'ёз і надоўга, але, вядома, як правільна ўжо заўважана, *не назаўсёды*“ (XVIII, ч. I, 437). У другім месцы Ленін пра тое-ж пісаў: „Самкнуцца з сялянскай масай, з радавым працоўным сялянствам і пачаць пасувацца ўперад непамерна, бясконца павольней, чым мы марым, але затое так, што сапраўды будзе пасувацца ўся маса з намі. Тады паскарэньне гэтага руху ў свой час настане такое, аб якім мы цяпер і марыць ня можам. Гэта, па-мойму, першы асноўны політычны ўрок новай экономічнай політыкі“ (т. XVIII, ч. II, ст. 27). Толькі пад гэтай умовай,—захаваньня саюзу з асноўнай масай сялянства, з серадняком, мы змаглі ўступіць у пэрыод таго паскарэньня, аб якім 7—8 гадоў таму назад Ленін гаварыў:

„Дыктатура пролетарыяту,—як адзначыў XV зьезд УсеКП(б)—карэнным спосабам мяняе ўмовы, а значыць і ход разьвіцьця сельскае гаспадаркі, ствараючы прынцыпова іншы тып разьвіцьця аграрных адносін, іншы тып клясавых перагруповак у вёсцы і іншую накіраванасьць у разьвіцьці гаспадарчых форм. Дыктатура пролетарыяту, нацыяналізацыя зямлі, буйнай прамысловасьці і банкаў, ня толькі даюць магчымасьць весьці сельскую гаспадарку за сабой, але і ўтварае зусім іншыя, чым у капіталістычным грамадзтве, суадносіны паміж горадам і вёскай. Дыктатура пролетарыяту памагае соцыялістычнай прамысловасьці, праз коопэрацыйныя вытворчыя аб'яднаньні весьці сельскую гаспадарку *па рэйках колектывізацыі*.

Але паўстаюць пытаньні: ці толькі адзін ёсьць шлях пры дыктатуры пролетарыяту? Ці з няўхільнай неабходнасьцю ідзе разьвіцьцё сельскай гаспадаркі па соцыялістычнаму шляху? Ці ў самой сельскай гаспадарцы заложаны законы, якія пры дыктатуры пролетарыяту неабходна вядуць да соцыялізму? На гэтыя пытаньні Ленін даваў рашучы адмоўны адказ.

Разыходжаньне, раскол саюзу паміж пролетарыятам і працоўным сялянствам не выплывае з неабходнасьцю з экономічнага разьвіцьця вёскі. Пры правільнай політыцы пролетарыяту саюз паміж рабочай клясай і працоўным сялянствам, мяняючы формы, будзе ўзмацняцца. Уся справа заключаецца ў тым, „ці мы організуем дробнае сялянства

на аснове разьвіцьця яго продукцыйных сіл, падтрымліваючы гэтае разьвіцьцё пролетарскай уладай, ці падпарадкуюць яго капіталістыя,— ад гэтага залежыць зыход змаганьня",—піша Ленін. Зусім няправільна было б думаць, што соцыялістычная рэконструкцыя адбудзецца сама сабой, бяз самага энэргічнага актыўнага ўзьдзейства пролетарыяту і соц. прамысловасьці. „Соцыялізм ёсьць зьніштажэньне кляс"—гаварыў Ленін. У тым ліку зьніштажаецца і сялянства, як кляса: працоўны селянін праз перавод яго індывідуальнай гаспадаркі ў буйны колектыў з грамаджанымі сродкамі вытворства паступова становіцца такім-жа працаўніком, як і рабочы; больш гэтага, для зьнішчэньня кляс павінна быць зьніштожана і „розьніца паміж людзьмі разумовай і людзьмі фізычнай працы". „Каб зьніштожыць клясы трэба, па-першае, скінуць памешчыкаў і капіталістых,—піша Ленін,—гэту часьць задачы мы выканалі, але гэта толькі часьць і пры тым ня самая трудная,—каб зьніштожыць клясы, трэба, па-другое, зьніштожыць розьніцу паміж рабочым і селянінам, зрабіць усіх работнікамі" (т. XVI, ст. 351). Яе (гэту задачу) можна вырашыць толькі організацыйнай перабудовай усёй грамадзкай гаспадаркі, пераходам ад адзіночнай, абасобленай, дробнай таварнай гаспадаркі да грамадзкай буйнай гаспадаркі" (т. XVI, 352).

Між тым серадняк працуе не для соцыялізму, а для самога сябе, для свайго ўласнага накапленьня. Калі толькі можа, серадняк расшырае граніцы свайго накапленьня за кошт эксплёатацыі батракоў. Такім парадкам ён выходзіць „у людзі", становіцца заможным, эксплёататарам. Сама прырода дробнага продуктара таўкае яго на гэта. Паміж працоўным селянінам, які не эксплёатуе чужой працы, і рабочым ёсьць вялікая прынцыповая клясавая розьніца. Ленін асабліва гэта падкрэсьлівае:

„Мы бачым тут асабліва рэльефна розьніцу ў *клясавым* становішчы дробных зямляўласьнікаў і наёмных рабочых. Вядома, „працуюць" тыя і другія; вядома, падпадаюць пад эксплёатацыю з боку капіталу, хоць і зусім у розных формах, тыя і другія. Але толькі вульгарныя буржуазныя дэмократы могуць на гэтай падставе аб'ядноўваць гэтыя розныя клясы, гаварыць аб дробным „працоўным" земляробстве. Гэта значыць іменна прыкрываць і затушоўваць *грамадзкі* лад гаспадаркі, яго буржуазны ўклад, высуваючы на першы плян адзнаку, уласьцівую *ўсім* папярэднім укладам: неабходнасьць працы, асабістай працы, фізычнай працы для існаваньня дробнага земляроба" (IX, 254). Ленін з асаблівай выразнасьцю падкрэсьлівае гэтую дваістасьць, супярэчлівасьць становішча селяніна. З аднаго боку ён працаўнік, і па гэтай лініі ён зьвязан з рабочым. Але гэта ня самае важнае, не асноўнае. Асноўнае заключаецца ў тым, што ён *дробны продуктар*, і па гэтай лініі ўвязка ідзе з буржуазіяй, якая яго эксплёатуе. Пролетарыят павінен *дапамагчы* селяніну перайсьці да соцыялізму. Павінен у першую чаргу нанесьці рашучы ўдар тым капіталістычным рэшткам, якія ўтрымліваюць селяніна ад соцыялізму.

А гэта задача, як адзначыў Ленін, вельмі трудная. „Сялянства пазнае савецкую ўладу практычна. Але ў сялянства няма той згуртаванасьці, дысцыплінаванасьці, якія ёсьць у пролетарыята. Сялянства распылена экономічна; яно зьяўляецца часткова ўласьнікамі, а часткова працаўнікамі. Уласнасьць цягне яго да капіталізму. Селянін-уласьнік думае: „чым выгадней я прадам, тым лепш, а пры голадзе буду прадаваць даражэй“. А селянін-працаўнік ведае, што ад памешчыка ён бачыў толькі прыгнечаньне, ад якога вызваліў яго рабочы. Тут змаганьне дзьвёх душ, якое выплывае з экономічнага становішча сялянства“ (XVII, 103).

Такім парадкам тая дыялектычная супярэчлівасьць, якая зьяўляецца характэрнай для сялянства, як клясы, адначасова ляжыць і ў аснове ваганьняў серадняка. Пакуль існуе дзьве клясы—пролетарыят і сялянства—з зусім асобнымі формамі вытворства (буйная індустрыя і дробны продуктар), да тых часоў застаецца і супярэчнасьць паміж горадам і вёскай. Але дыктатура пролетарыяту, пры правільных адносінах да серадняка, захаваньне саюзу з серадняком робіць для абодвух бакоў карысным і неабходным. На гэтай аснове ідзе разьвіцьцё гаспадаркі, закладваецца фундамант для пераводу ўсёй гаспадаркі да соцыялізму, да зьніштажэньня кляс, да канчатковага зьняцьця супярэчнасьці паміж пролетарыятам і сялянствам, а, значыцца, і для канчатковага вырашэньня аграрнага пытаньня.

„Усе ведаюць, што марксызм імкнецца да зьніштажэньня кляс, але што-ж гэта, у існасьці, значыць?

Гэта значыць—зьніштожыць розьніцу кляс паміж рабочымі і сялянамі. Сялянства апынулася ў такім становішчы, што з аднаго боку, гэта—працоўныя, якіх дзесяткі гадоў і вякамі прыгняталі памешчыкі і капіталістыя і якіх пролетарская рэволюцыя вызваліла ад гэтага прыгнечаньня, з другога боку—гэта дробныя ўласьнікі. Кожны выпадак продажу збожжа на вольным рынку, мяшэчніцтва і спэкуляцыя ёсьць адстанаўленьне гандлёвай гаспадаркі і, значыцца, капіталізму. Сялянства засталося ўласьнікам у сваім вытворстве і яно параджае новыя капіталістычныя адносіны,—вось асноўныя рысы нашага экономічнага становішча. Мы вядзем клясавае змаганьне, і наша мэта—зьніштожчыць клясы, бо пакуль застаюцца рабочыя і сяляне, да той пары соцыялізм застаецца неажыцьцёўным і на практыцы, на кожным кроку адбываецца няпрымірлівае змаганьне“ (XVI, 102).

Правыя ўхілістыя, якія два гады таму назад высунулі лёзунг узбагачэньне індывідуальнага селяніна, якія лічылі, што „мы не павінны перашкаджаць вытворству кулацкіх гаспадарак“ па той простай прычыне, што ўся іх продукцыя ідзе для павялічэньня рэсурсаў пролетарскай дзяржавы, зусім не зразумелі, што адначасова кулацтва экономічна ўзмацняецца і атрымлівае матэрыяльную апору для змаганьня супроць будуючай соцыялізм дыктатуры пролетарыяту. Яны забываюць і тое,

што кулак можа ўзбагаціцца толькі за кошт эксплёатацыі бедматы. А пролетарская дзяржава, індустрыялізуючы краіну, закладвае фундамант ліквідацыі ўсякай эксплёатацыі. Правыя ў даным выпадку зьяўляюцца рупарам кулацтва, буржуазіі. Ленінская партыя па гэтаму шляху ісьці ня можа.

Колектывізацыя вёскі, будаўніцтва савецкіх буйных гаспадарак— вось той шлях, аб якім не пераставаў цьвердзіць Ленін. Яшчэ ў 1917 годзе ён пісаў: „Мы ня можам скрываць ні ад сялян, ні тым больш ад пролетараў і поўпролетараў у вёсцы, што дробная гаспадарка, пры захаваньні тапарнай гаспадаркі і капіталізму, ня ў стане выбавіць чалавецтва ад убоства мас,—што трэба думаць аб пераходзе да буйнай гаспадаркі за грамадзкі кошт і брацца за яе зараз-жа, навучаючы масы і навучаючыся ў мас, практычна, ужываць мэтазгодныя меры для такога пераходу". Гэтую мысьль Ленін неаднокраць паўтараў. Самае кіраўніцтва пролетарыятам сялянства Ленін разумеў у сэнсе вядзеньня сялянства да буйнай колектыўнай гаспадаркі, да зьніштажэньня кляс: „Цяпер пролетарыят трымае ў руках уладу і кіруе ёю, ён кіруе сялянствам. Што гэта значыць—кіраваць сялянствам? Гэта значыць, папершае, весьці лінію на зьніштажэньне кляс, а не на дробнага продуктара. Калі-б мы з гэтай лініі, карэннай і асноўнай, зьбіліся, тады мы перасталі-б быць соцыялістымі і папалі ў лягер тых дробных буржуа, у лягер эсэраў, меншавікоў, якія зьяўляюцца цяпер самымі зьлейшымі ворагамі пролетарыяту" (XVIII, 270).

Соцыялізму нельга пабудаваць, калі сялянская гаспадарка прадстаўляе сабою дробных, распыленых продуктараў. Ленін сьледам за Марксам і Энгельсам з асаблівай настойлівасьцю праводзіць гэтую мысьль. Цікава адзначыць, што яшчэ Энгельс у „Прынцыпах комунізму" пісаў: „Драбленьне земляробскага насяленьня ў гарадох і скапленьне прамысловага ў вялікіх гарадох зьяўляецца становішчам, якое адпавядае толькі невыстарчальна высокаму ўзроўню сельскай гаспадаркі і прамысловасьці і якое перашкаджае далейшаму разьвіцьцю".

Пасьля Кастрычніцкай рэволюцыі гэтае драбленьне надзвычай вырасла. Выстарчае толькі ўказаць, што перад рэволюцыяй было каля 14 мільёнаў сельскіх гаспадарак, а ў 1927-28 годзе іх налічалася каля 26 мільёнаў. У значнай меры дзякуючы гэтай раздробленасьці і з ёю зьвязанай надзвычай малой продукцыйнасьці сельскай гаспадаркі, мы маем за апошнія гады затрудненьні ў продуктах харчаваньня. І поўную рацыю мае тав. Сталін, калі ён, выступаючы супроць правага ўхілу, з асаблівай энэргіяй падкрэсьліваў: „Нельга бясконца, г. ё. на працягу вельмі доўгага пэрыоду часу, асноўваць савецкую ўладу і соцыялістычнае будаўніцтва на дзьвёх розных асновах: на аснове буйнай і аб'яднанай соцыялістычнай прамысловасьці і на аснове самай раздробленай, адсталай дробнатаварнай сялянскай гаспадаркі. Трэба паступова, але сыстэматычна і ўпорліва пераводзіць сельскую гаспадарку на новую тэхнічную базу, на базу буйнага вытворства".

У апошнія гады свайго жыцьця Ленін асабліва многа гаварыў аб пераводзе вытворчасьці дробнага продуктара на шлях буйнай значна больш продукцыйнай гаспадаркі.

„Тэхніка, ужываньне трактараў і машын у землеробстве ў масавым маштабе, электрыфікацыя ў масавым маштабе—вось што ў корані і з аграмаднай быстрынёй перарабіла-б дробнага земляроба“,—піша Ленін.

Мы ведаем, з якой упорлівасьцю трымаецца дробны селянін за сваю дробную гаспадарку. Як перамагчы гэтую ўпорлівасьць, каб ня вышла-б той размычкі, супроць якой так перасьцерагаў Ленін. І на гэтае пытаньне мы знаходзім дасканальныя адказы і ўказаньні ў Леніна. Коопэрацыйны плян Леніна—гэта тыя організацыйныя формы, якія даюць шлях да пераходу дробнага продуктара ў буйную колектыўную гаспадарку. Дыктатура пролетарыяту—організатар. „Тут перад намі,—піша Ленін,—выступае значэньне дыктатуры пролетарыяту ў новым сьвятле: пролетарыят павінен выступіць у цяперашні момант у ролі організатара. Мы павінны *зорганізаваць* гаспадарку на новых асновах“ (XVII, 102).

Значэньне коопэрацыйнага пляну Леніна заключаецца ў тым, што ён у змаганьні за соцыялізм ня толькі не аслабляе саюзу пролетарыяту з асноўнымі масамі сялянства—серадняkамі, а, наадварот, гэты саюз узмацняе на новай аснове. Коопэрацыя, зьвязваючыся з соцыялістычнай прамысловасьцю, становіцца самым магутным фактарам соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы. „Пры нэп‘е,—гаворыць Ленін,—у коопэрацыі мы знайшлі тую ступень злучэньня часнага інтарэсу з грамадзкім, якая складала раней камень праткнавеньня для многіх соцыялістых“.

Мы бачылі, як зьдзекваўся Ленін над тымі, якія прапанавалі для выбаўленьня сялян ад убоства організоўваць іх у вытворчыя коопэратывы. Але пры дыктатуры пролетарыяту коопэрацыя набывае зусім іншае значэньне. „На коопэрацыю,—піша Ленін,—у нас глядзяць з пагардаю, не разумеючы таго, якое выключнае значэньне мае гэта коопэрацыя, папершае, з прынцыповага боку (уласнасьць на сродкі вытворства ў руках дзяржавы), падругое, з боку пераходу да новых парадкаў шляхам магчыма больш *простым, лёгкім і даступным для сялянства*“ (курсіў Леніна). І далей Ленін піша: „Нясумненна, што коопэрацыя ў абстаноўцы капіталістычных дзяржаў зьяўляецца колектыўнай капіталістычнай установай. Нясумненна таксама, што ў абстаноўцы нашай цяперашняй, экономічнай рэчаіснасьці, калі мы злучаем прыватна-капіталістычныя прадпрыемствы, але няйначай, як на грамадзкай зямлі, і няйначай, як пад контролем дзяржаўнай улады, прыналежачай рабочай клясе, з прадпрыемствамі пасьлядоўна-соцыялістычнага тыпу (сродкі вытворства належаць дзяржаве і зямля, на якой стаіць прадпрыемства, і ўсё прадпрыемства ў цэлым), дык тут паўстае пытаньне яшчэ аб трэцім відзе прадпрыемстваў, якія раней ня мелі самастойнасьці з пункту гледжаньня прынцыповага значэньня: іменна аб прадпрыемствах коопэрацыйных“ (XVIII, ч. II, 133).

І далей: „Пры нашым існуючым ладзе прадпрыемствы коопэратыўныя адрозьніваюцца ад прадпрыемстваў прыватна капіталістычных, як прадпрыемствы колектыўныя, але не адрозьніваюцца ад прадпрыемстваў соцыялістычных, калі яны аснаваны на зямлі, пры сродках вытворства, якія належаць дзяржаве, г. ё. рабочай клясе.

Вось гэта акалічнасьць у нас невыстарчальна ўлічваецца, калі разважаюць аб коопэрацыі“ (XVIII, ч. II, 133).

Такім спосабам вытворчыя коопэрацыйныя аб'яднаньні, пачынаючы ад самых нескладаных форм і пераходзячы далей да поўнага аб'яднаньня сродкаў вытворства, становячыся разгорнутай формай колектыўнай гаспадаркі,—зьяўляюцца тым шляхам, па якому ідзе соцыялістычнае будаўніцтва на вёсцы.

Бедната непасрэдна зацікаўлена ў пераходзе на такія вытворчыя формы аб'яднаньня. Пры разьвіцьці колектыўных гаспадарак бедната становіцца соцыяльнай апорай усеагульнай колектывізацыі.

А як-жа з серадняком? Першай формай коопэрацыйнага аб'яднаньня для серадняка зьяўляецца абарот. К XV зьезду партыі аграмадная часьць бядняцкай і серадняцкай вёскі была ўцягнута ў коопэрацыю праз абарот. Гэта, так сказаць, першая ступень коопэрацыйнага аб'яднаньня, ад якой для серадняка застаецца пераход да вытворчага аб'яднаньня, да колектыву.

Ленін сьледам за Энгельсам указваў на труднасьці ўцягваньня серадняка ў аграмаджаныя формы вытворства. Энгельс пісаў: „Мы рашуча стаімо на баку дробнага селяніна: мы будзем рабіць усё магчымае, каб яму было больш зручна жыць, каб палегчыць яму пераход да таварыства ў выпадку, калі ён на гэта адважыцца; у тым-жа выпадку, калі ён яшчэ ня зможа адважыцца на гэта, мы паклапоцімся даць яму больш часу падумаць аб гэтым на сваім кавалачку“. І далей Энгельс піша: „Чым больш будзе сялян, якім мы не дамо апусьціцца да пролетараў і якіх мы прыцягнем на свой бок яшчэ сялянамі, тым быстрэй і лягчэй будзе зроблена грамадзкае ператварэньне“. Ленін, спасылаючыся на гэта і выходзячы з гэтага, вызначае задачу пролетарыяту ў тым, што пролетарыят павінен кіраваць серадняком, змагацца за ўплыў на яго. „Весьці за сабою хісткіх і няўстойлівых—вось што павінен рабіць пролетарыят“ (XVI, 354). У другім месцы Ленін указвае, што ў адносінах да серадняка „задача зводзіцца не да экспропрыяцыі, а да таго, каб улічыць асаблівыя ўмовы жыцьця селяніна, каб вучыцца ў селяніна пераходу да лепшага строю“.

Асабліва значэньне Ленін надае паказаньню на прыкладзе, наколькі зьяўляецца выгоднаю для селяніна буйная гаспадарка і непасрэднай дапамозе. Ленін указвае на савецкія гаспадаркі, як на тып гаспадаркі, якая прыкладам сваім можа ўцягваць селяніна да новых форм вытворства. Нясумненна, што толькі добра пастаўленыя савецкія гаспадаркі і буйныя колектыўныя аб'яднаньні зьявіліся тым фактарам, які рашыў у

нашы дні пытаньне, куды трэба ісьці селяніну. На прыкладзе селянін, даведваецца, што яму трэба ісьці іменна па лініі колектыўных форм вытворства.

Але самае важнае рашаючае значэньне ў соцыялістычным перакшталтаваньні земляробства і ў быстрым значным пад'ёме продукцыйнасьці працы мае ўзьдзейства соцыялістычнай індустрыі. Сярэдняе сялянства,—кажа Ленін,—у комуністычным грамадзтве толькі тады будзе на нашым баку, калі мы палегчым і палепшым экономічныя ўмовы яго жыцьця. Калі-б мы маглі даць заўтра 100.000 першаклясных трактараў, забясьпечыць іх бэнзынай, забясьпечыць іх машыністымі (вы вельмі добра ведаеце, што пакуль гэта—фантазія), то сярэдні селянін сказаў-бы: „Я за комунію" (г. ё. за комунізм). Але для таго, каб гэта зрабіць, трэба спачатку перамагчы міжнародную буржуазію. трэба прымусіць нам даць гэтыя трактары, або трэба падняць нашу продукцыйнасьць настолькі, каб мы самі маглі іх дастаць. Толькі так будзе верна пастаўлена пытаньне" (XVI, 153).

Калі пісаў гэта Ленін, сапраўды, 100.000 трактараў—гэта была мара, фантазія. У гэтым годзе мы будзем мець на нашых палёх 60.000 трактараў, у наступным—100.000, праз некалькі год, праз 4—5 гадоў, калі заключыцца пабудова новых трактарных і іншых сельска-гаспадарчых машынных фабрык,—соцыялістычная індустрыя зможа забясьпечыць сельскую гаспадарку больш чым мільёнам трактараў.

Тэхнічная база—база для аграмаджанага буйнага земляробства—падведзена. Праўда, Ленін гаварыў аб патрэбнасьці вялікай культурнай рэволюцыі для таго, каб зрабіцца „ў поўнай меры соцыялістычным краем". Пакуль што мы гэтай умовы ў поўнай меры ня выканалі. Але ці можа гэта затрымаць той вялікі экономічны пераварот, тую вялікую рэволюцыю, якая цяпер ідзе ў вёсцы. Ні ў якім разе. І на гэта мы маем таксама ўказаньні з боку Леніна. Гэта адказ Суханаву, калі ён указваў на культурную непадрыхтаванасьць для пролетарскай рэволюцыі. „Калі для пабудаваньня соцыялізму патрабуецца пэўны ўзровень культуры (хоць ніхто ня можа сказаць—якавы гэты пэўны „ўзровень культуры"), то чаму нам нельга пачаць сьпярша з заваяваньня рэволюцыйным шляхам прадпасылак для гэтага пэўнага ўзроўню, а потым ужо на аснове рабоча-сялянскай улады і савецкага строю пайсьці даганяць іншыя народы" (XVIII, ч. II, III). Гэтай мысьлю мы можам кіравацца і пры вялікіх тэмпах колектывізацыі.

Соцыялістычнае перакшталтаваньне вёскі, усеагульная колектывізацыя, якая распачалася і ідзе ніколі нячуваным тэмпам, ня можа праходзіць без напружанага клясавага змаганьня. Капіталістычным элемэнтам у савецкім краі наносіцца рашучы і апошні ўдар. Быстра звужаецца база для іх эксплёатацыі. Зразумела, што без шалёнага супраціўленьня соцыялістычным мерапрыемствам яны загінуць ня могуць. Аб гэтым Ленін ня раз указваў. „Соцыялізм гэта ёсьць зьніштажэньне кляс",

але гэтае зьніштажэньне адбываецца ў формах самага рашучага клясавага змаганьня. Пры дыктатуры пролетарыяту клясавае змаганьне толькі прыймае другія формы, іншыя на кожным этапе разьвіцьця. Забываць аб гэтым могуць толькі правыя ўхілістыя.

Кулак выступае супроць колектывізацыі і ў форме непасрэднай агітацыі супроць колгасаў, і ў форме запалохваньня сераднякоў, адцягваньня іх на свой бок, і ў форме падніманьня цаны на збожжа. Калі гэта ім не памагае, кулак пераходзіць да шкодніцтваў, падпалаў, руйнаваньня машын, подкупу беднаты, пранікненьня ў колгасы для іх разбурэньня і інш. і інш.

Серадняк пад націскам кулацтва праяўляе сваю хісткую прыроду.

Для пролетарыяту, каб весьці за сабою сялянства, застаецца перайсьці ад політыкі выцясьненьня кулацтва, як клясы да політыкі зьніштажэньня яе. Толькі такі рашучы ўдар па ворагу можа забясьпечыць пролетарыяту далейшае кіраўніцтва сялянствам, накіраванай да зьніштажэньня кляс, да соцыялізму.

Пасьля зьніштажэньня кулацтва, як клясы, саюз паміж пролетарыятам і сялянствам узмацняецца яшчэ больш на вышэйшай організацыйнай і гаспадарча-тэхнічнай аснове. Аграрнае пытаньне канчаткова вырашаецца ў тым сэнсе, што зьнікае розьніца паміж горадам і вёскай, пролетарыятам і сялянствам. Сялянства і пролетарыят, як указваў Ленін, становяцца работнікамі.

Бліжэйшыя гады соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы апраўдаюць гэтыя ленінскія прадраканьні.

# НАВУКА І БАРАЦЬБА КЛЯСАЎ

Проф. С. Вольфсон

Навука зьяўляецца аднэй з найбольш высокіх, калі ня самай высокай ідэолёгічнай надбудоўкай. Ад таго, хто ёю займаецца, навука вымагае самае шчырае адданасьці (паводле выразу аднаго францускага філёзофа, гэта самая зайздросьлівая жанчына ў сьвеце), вялізарнейшага напружаньня чалавечага розуму, агромністых творчых намаганьняў. Навука дае неперeможныя ўзоры, асабовае самаахвярнасьці. Мы ня будзем казаць пра гістарычныя прыклады. Прыпомнім толькі гэроічныя эпізоды навуковае самаахвярнасьці апошняга году: пагібель Амундсэна ў часе выратаваньня ў імя навуковай салідарнасьці італьлянскага авантурыстага Нобіле—яго асабовага ворага; сьмерць А. А. Богданава—філёзофа і лекара, які аддаў жыцьцё ў імя навуковага экспэрымэнту; экспэдыцыю, якая на чале з профэсарам Кулікам шукала мэтэорыта, што ўпаў у Тайгу і якая ледзьве не каштавала жыцьця яе ўдзельнікаў і г. д. Дзякуючы паказаным яе асаблівасьцям, навука часта ўспрыймаецца, як найбольш „надзорная“ з усіх ідэолёгій, найбольш далёка адлеглая ад „жыцьцёвых хваляваньняў“, ад „карысьці“ і ад „боек“. І гэтыя-ж яе асаблівасьці робяць навуку найбольш ужытнай у якасьці магутнага сродку соцыяльнае маскоўкі. Сувязь паміж навукай і соцыяльна-экономічнымі прычынамі, што яе дэтэрмінуюць, настолькі затушавана, яна перадаецца праз такую складаную псыхолёгічную трансмісію, што часта гэтая сувязь нібы зьнікае ня толькі для староньняга вока, але нават і для таго, хто непасрэдна займаецца навукаю.

Вось чаму выяўленьне гэтае сувязі набывае вельмі істотнае значэньне. Паспрабуем гэта зрабіць, хаця-ж-бы ў разрэзе тае ролі, якую навука адыгрывае ў процэсе клясавае барацьбы.

Тое, што так званыя гуманітарныя навукі,—навукі аб грамадзкім чалавеку, выконваюць функцыі магутнае зброі ў руках клясаў, якія змагаюцца, гэта зьяўляецца зусім відавочным зьявішчам ня толькі для марксыстых, але і для такіх буржуазных вучоных, як Гумпловіч, або Зомбарт. На гэтым палажэньні мы можам ня спыняцца, бо элемэнтарная соцыялёгічная пісьменнасьць вядзе ўжо да разуменьня тае ісьціны, што прававыя навукі, гісторыя, палітычная экономія зьяўляюцца адным з найважнейшых сродкаў, якім карыстаюцца бакі ў процэсе клясавае барацьбы. Ніводная з гуманітарных навук не зьяўляецца выключэньнем з гэтага правіла. Вазьмецеся, напрыклад, за такую галіну, як філёлёгічная. І нават

тут, у панстве мовазнаўства, вы натыркаецеся на калючы дрот усялякіх клясавых загарод, і тут цягнуцца траншэі клясавае барацьбы. Паспрабуйце падыйсьці з соцыялёгічнай меркаю ў руках да такое зьявы, як асобныя кастaвыя дыялекты акадэмічных вярхоў, якія складаюцца з мэтаю зрабіць навуковыя веды недаступнымі шырокім масам. Акадэмічная „лацініка“ зьяўляецца як найлепшым сродкам монополізацыі навукі ў руках жменькі людзей і недапушчэньня да яе крыніц „не посвященной черни“. Адзначым тут мімаходам і тую акалічнасьць, што індоэўропэйская лінгвістыка стварыла фікцыю нацыянальнае пазаклясавае мовы, якую яна абараціла ў мэтодолёгічны стрыжань свайго навуковага досьледу, у той час, як першыя датыркненьні да гэтае фікцыі гісторыка-матэрыялістычнага аналізу (тут у першую чаргу трэба мець на ўвазе работы школы Н. Я. Мара),—загалілі клясавы характар гэтае фікцыі...

У якасьці паказьніка таго, якім парадкам разгортваецца клясавая барацьба на навуковым фронце, можна ўзяць проблему сям'і, навокал якой у навуцы кіпіць самая сапраўдная барацьба клясавых сіл.

Мы добра ведаем, як зацікаўлена буржуазія ў захаваньні сям'і, якая зьяўляецца адным з аплотаў капіталістычнага правапарадку. захоўнікам буржуазнае моралі, інстытутам спадчыннага кансэрваваньня сьвятое прыватнае ўласнасьці. Буйнейшыя філёзофы буржуазіі выконвалі ў гэтым сэнсе яе соцыяльны заказ. У маёй кнізе „Социология брака и семьи“ я спрабаваў гэта давесьці. Я там канстатаваў, што Кант адлюстраваў погляды дробнага буржуа, Філістэра, з яго піэтэтам да законнага шлюбу, санкцыянаванага ўладаю і благаслаўлёнага богам, што Шопэнгаўэр выражаў настроі грубага самаўпэўненага ўласьніка, які ставіць сябе ў шлюбе, як і спрэс у прывілеяванае становішча, што Ніцшэ даў ідэолёгічную інтэрпрэтацыю поглядаў на шлюб драпежніка-эксплёататара імпэрыялістычнае эпохі.

Усё тое, што адбываецца ў сучасны момант на капісталістычным Захадзе навокал проблемы сям'і, як найлепшым чынам паказвае, як навука выконвае функцыю клясавае зброі. Буржуазныя вучоныя ўсіх радоў зброі ратуюць капіталістычную сям'ю, што раскладаецца. Этнографы і антрополёгі даводзяць першапачатковасьць моногамічнага шлюбу і ўваскрашаюць на псэўданавуковым жаргоне біблейскую легэнду аб тым, што чалавецтва нібы-та з самага пачатку свайго існаваньня жыло парамі. Соцыолёгі ідуць паходам супроць гэрэтычнае тэорыі пра групавы шлюб і абяртаюць гістарычны факт матрыярхата ў міт. Экономістыя ідуць у паход супроць профэсыяналізацыі жаночае працы, як нявыгоднае для народнае гаспадаркі. Мэдыкі прагалашаюць недастатковую поўнацэннасьць дзяцей, якія народжаны па-за шлюбам і ствараюць навуковыя фальшыўкі пра фізычную дэгенэратыўнасьць і разумовую адсталасьць „незаконароджаных“. Псыхіятры зацьвярджаюць, што жанчыны, якія займаюцца простытуцыяй—дэфэктыўны, ідыётычны, злачынны ад самага нараджэньня. Юрыстыя практыкуюцца ў вынаходжаньні артыкулаў, якія

паралізуюць магчымасьць разводзін і г. д. і г. д. Усё гэта для таго, каб сцэмэнтаваць будынак буржуазнае сям'і, які руйнуецца на нашых вачох. І ўсё гэта, зразумела, у імя „чыстае навукі“, усё гэта пад сьцягам навуковага „нэўтралізму і об'ектывізму“, усё гэта пад акомпанімэнт акадэмічных мэлёдый пра „пазаклясавасьць і надклясавасьць“ навуковае ісьціны.

Клясавы інтарэс, ідэолёгічным выразьнікам і абаронцам якога зьяўляецца вучоны, уладна кіруе яго думкамі. Гэты інтарэс формуе сабою навуковую концэпцыю вучонага, дае ёй пэўную палітычную ўстаноўку. Der Wunsch ist der Vater des Gedankes—„жаданьне—айцец мысьлі“, як кажуць немцы.

Калі вучоны зьяўляецца ідэолёгічным абаронцам гістарычна-засуджанае клясы, ён часта стыркаецца твар да твару з трагічнай колізіяй. Навуковы досьлед даводзіць яму, што кляса, з якою ён сябе зьнітаваў, гіне, зыходзіць з гістарычнае арэны, што экономічная формацыя, на чале якое стаіць гэтая кляса, зьнікае. Адкрыта прызнацца ў гэтым, скласьці сваю ідэолёгічную зброю да ног ворага,—на гэта хапае муства ў адзінак. Пераважная большасьць вучоных пачынае ў такіх выпадках ліквідаваць у сваіх работах элемэнты навуковага прадбачаньня, яны выганяюць з свае творчасьці ўсё, што мае характар прогноза, яны заяўляюць, што навука бязмоцна падняць „заслону будучыні“.

Пад знак такога беспэрспэктыўнага, пэсімістычнага агностыцызму ставіць сваю работу мноства буржуазных вучоных Захаду. У іх не хапае рашучасьці на духоўнае самагубства, г. ё. на прызнаньне гістарычнае засуджанасьці капіталізму. Тхарлівае самазавязваньне вачэй перад тварам неадхільнае будучыні яны спрабуюць узьвесьці ў ступень навуковага постуляту: соцыяльная навука, бач, бясьсільна гаварыць пра гістарычную будучыню, бо будучыня, бач, ірацыянальна. Гэта адзначае: aus der Not eine Tugend,—прымусовую неабходнасьць абяртаць ва ўласную цнатлівасьць.

Толькі адна конкрэтная ілюстрацыя да гэтага палажэньня:

Надоечы Вэрнэр Зомбарт выступіў на агульным сходзе „Саюза соцыяльнае політыкі“ ў Цюрыху з дакладам пра лёс капіталізму, у якім гаворыць пра сузмрок капіталізму, які насуваецца, і пра тое, што чалавецтва стаіць „на парозе новае гаспадарчае эпохі“. Зомбартаўскія, як выразіўся адзін з яго опонэнтаў, „васеньнія прадраканьні“ выклікалі ажыўленую дыскусію.

Найхарактэрнейшым момантам гэтае дыскусіі была нотацыя, якую стары маэстро буржуазнае політычнае экономіі Шульцэ—Гевэрніц прачытаў Зомбарту. „Я думаю“,—казаў ён,—„што, спрабуючы стварыць навуку пра будучыню, мы стаім на коўзкай пуцявіне, якая вядзе да Карла Маркса...“ „Трэба,—казаў ён далей,—строга адхіліць малюнкі будучыні, якія грунтуюцца на асабовай ацэнцы і якія выходзяць з ідэалаў, якія нават у самай невялікай ступені не зьяўляюцца об'ектамі навукі і

выпрацоўка якіх перад усім—справа прарокаў". Далей Шульцэ-Геўэрніц заклікаў сваіх колег засяродкавацца на вывучэньне сучаснасьці, што здаецца яму „непараўнальна больш важным, чымся ўсялякая музыка будучыні"... Асабліва,—дадамо мы,—калі гэтая музыка гучыць прыгнятальна-мэлянхолічнымі тонамі хаўтурнае мэлёдыі. Стары маэстро буржуазнае політэкономіі па-свойму мае рацыю: калі навуцы не застаецца нічога іншага, як толькі прадракаць капіталізму канец, які мае хутка надыйсьці, дык няхай яна пакіне пры сабе свае прароцтвы. Няхай яна не наводзіць тугі на думкі тых, хто стаіць на варце ля брамы капіталістычнага панства... Шульцэ кажа пра гэта ў зусім не двухсэнсоўных выразах. Ідэалы будучыні, паводле яго думак, ажыцьцяўляюцца чыннымі гэроямі, дзяржаўнымі дзеячамі, політыкамі, гаспадарчымі організацыямі. Калі навука ня ў змозе ўзмацняць іх энэргію і волю прадраканьнямі, здольнымі іх падбадзёрыць,—няхай яна лепш маўчыць. Вось клясычнае зацьверджаньне сучаснага буржуазнага вучонага: „Навука паралізуе політыку. Калі мы аднабакова ведаем кірунак разьвіцьця, мы можам скласьці рукі". „Аднабакова",—г. зн. не на карысьць буржуазіі...

Так буржуазны экономісты прыходзіць да свайго навуковага разброеньня, абумоўленага ўсьведамленьнем таго, што яго зброя ня можа больш служыць капіталістычнаму ладу. Такава ўлада клясавасьці над буржуазным вучоным...

Дыскусія, якая разгарнулася навокал Зомбартавага рэфэрату, паказала таксама, што ў часткі буржуазных вучоных не стае сьмеласьці, каб публічна разброіцца так, як гэта зрабіў Шульцэ-Геўэрніц. І тады яны гарэзьліва гуляюць у жмуркі з гісторыяй, ды цешаць сябе і іншых зацьверджаньнямі нібы-та ўсё як найлепей у гэтым найлепшым з усіх сьветаў. Так, адзін з опонэнтаў Зомбарта, Артур Файлер, прагаласіўшы, што будучыня за капіталізмам і што ніякія рэволюцыі „рашуча немагчымы ў галіне буйна-капіталістычнае прамысловасьці", заявіў: „Гэтаму факту супроцьстаіць факт існаваньня рэлігіі, якая завецца марксысцкім соцыялізмам. Рэлігія гэтая працягвае існаваць, ня гледзячы на тое, што яе вучэньне адвергнута фактамі, бо прогнозы гэтага вучэньня: абжабрачаньне рабочых мас, якое прогрэсуе, з'асяродкаваньне багацьцяў у руках усё больш вузкага кола капіталістых, якое таксама прогрэсуе, далейшае абвастрэньне экономічных крызісаў, нарэшце няўхільная катастрофа капіталізму—усе гэтыя прадраканьні ня спраўдзіліся і ня спраўдзяцца... Навука паказала, што „разьвіцьцё соцыялізму ад утопіі да навукі", у выкладзе Фрыдрыха Энгельса зьяўляецца утопіяй". І якой бессаромнай насьмешкаю над сапраўднасьцю гучаць гэтыя словы вучонага эквілібрыстага перад тварам хаця-ж бы аднаго нагадваньня, якое тут-жа на дыскусіі робіць адзін з яго колег Альфрэд Вэбэр: „Мы знаходзім,—кажа ён,—антыкапіталістычную сфэру (г. ё. СССР—*С. К.*), якую ня трэба ігнараваць, бо чацьвертая ці пятая частка ўсіх сухазем'яў, так ці іначай занята гэтай сфэрай"...

Такі другі ўзор карыстаньня зброяю навукі ў зусім пэўных клясавых мэтах.

Мы ўзялі гэтую ілюстрацыю, зьвязаную з дыскусіяй па дакладзе Зомбарта, маючы на мэце паказаць, якія рознастайныя прыёмы ўжываюцца ў сучасны момант на клясавым фронце гуманітарных навук. Дужа часта тут маюць месца зусім пэўныя клясава-палітычныя выступленьні, пакрытыя лёгкай амальгамай філёзофскае або экономічнае фразэолёгіі.

Я ня буду ўжо казаць пра „навуковую", калі дазволена так сказаць, творчасьць расійскае эміграцыі. Тут вы маеце і маніфэсты на тэму аб тым, што „эпоха навукі зноў зьменьваецца эпохаю веры" (прадмова да евразійскага зборніку „Восход к востоку"). Тут вы сустрэнецеся і з адрасаванымі Бердзяевым цару Пятру Першаму абвінавачаньнямі ў тым, што ён „изнасиловал женственную душу русского народа" і такім парадкам зрабіўся роданачальнікам бальшавізму, які працягвае гвалтаўніцтва і распуства Пятра. Тут Красавін уваскрашае тэолёгічны фаталізм зацьверджаньнямі на тэму аб тым, што „калі ты створаны, як пэўная „якасная" асоба, ты ня можаш спрачацца з богам, бо творца мае магчымасьць у кожнае імгненьне цябе зьнішчыць" і г. д. Усё гэта, зразумела, ня столькі навука, колькі палітыка. Але выкінутым рэволюцыяй за межы Савецкае краіны вучоным прыкашчыкам „отечественного" капіталізму сам госпад бог не загадаў займацца нічым іншым, як толькі палітыкай.

Аднак, як-жа робяць і такія служкі „чыстае", „об'ектыўнае", „спакойнае" навукі, якія, паводле іх уласных зацьверджаньняў, лунаюць толькі ў надзорных вышынях філёзофскіх катэгорый і мэтафізычных пастраеньняў?

Летась вышла, напрыклад, у Нямеччыне дванаццатае выданьне клясычнае работы Івэрвэг—Гэйнцэ „Grundgriss der Geschichte der Philosophie". Рэдактар выданьня проф. Острэйх у зробленым ім да новага выданьня дадатку датычна расійскае філёзофіі дае наступныя „об'ектыўна-навуковыя" і, зразумела, ужо надклясавыя вынаходкі: першая,—пра тое, што „бальшэвізм забараніў навуковую філёзофскую работу і выгнаў профэсараў філёзофіі"; другая, пра тое, што „для вучоных, пакольki іх не забілі, навуковая работа зрабілася немагчымай з прычыны сыстэматычнага недаяданьня і пазбаўленьня жыльлёвых і рабочых памяшканьняў"; трэцяя, пра тое, што ў Савецкім Саюзе „дазволены адзін толькі марксызм і радыкальны матар'ялізм найгрубейшае формы, які ў бытавой галіне дае поўную вольнасьць беспарадкавым палавым зносінам і членам партыі жаночага полу гатоўнасьць да гэтага ўводзіць у ганаровы абавязак. „Назіраць і выкрываць тое, што адбываецца на фронце гуманітарных навук—параўнальна лёгка. Тут мы маем зусім відавочны факт, які застаецца толькі вывучыць і рабіць з гэтага вывучэньня адпаведныя высновы. Значна больш складаная справа на фронце навук природазнаўчых.

Думка пра клясавасьць прыродазнаўства часам сустракаецца яшчэ гарэзьлівай усьмешкаю і „дасьціпнымі“ гутаркамі на тэму пра пролетарскі закон расшырэньня цел і пра буржуазную табліцу лёгарыфмаў.

Тымчасам кожны, хто хаця крыху знаёмы з тым, чым зьяўляецца, напрыклад, сучасная біолёгія, добра ведае, што яна разьбіта на мноства варожых плыняй: мэханістычную, віталістычную, містычную, стыхійна-матар'ялістычную. Кожная з іх падзяляецца на мноства аддзелаў. За сьпіною кожнае з гэтых плыняў хаваюцца зусім пэўныя клясавыя плыні, якія часта выкарыстоўваюць даныя гэтае плыні ў сваіх мэтах, якія вядуць да саюзу з рэлігіяй, якія апраўдваюць пэўныя палітычныя мерапрыемствы ў галіне расавае гігіены і г. д. і г. д.

Надзвычайна цікавую карціну клясавае барацьбы на прыродазнаўча-навуковым фронце паказвае гістарычны лёс тэорыі эволюцыі.

Калі геніяльны Дарвін даў гэтай тэорыі яе навуковае абгрунтаваньне, дык на яе адразу абурыліся найбольш рэакцыйныя сілы капіталістычнае грамады, якія правільным клясавым чуцьцём адчулі, што тэорыя эволюцыі наносіць надзвычайна цяжкі ўдар рэлігіі, што яна ўзрывае рэлігійны сьветапогляд, разбурае яго ў самых асновах. З дарвінізмам адбылося тое самае, што ў свой час адбылося з геліоцэнтрычнай сыстэмай:—ён акурат таксама, як і думка пра сонца—цэнтр сусьвету разбураў адвечную будыніну рэлігійнае мітолёгіі і дзеля гэтага ідэолёгі клясавае эксплёатацыі і соцыяльнага прыгнечаньня абурыліся на Дарвіна таксама, як сярэднявечныя інквізітары на Джыордано Бруно, або на Галілея. Праўда, у XIX стагодзьдзі ўжо немагчыма было паліць вучоных на агні і вырываць ім языкі, але яшчэ магчыма было весьці тую тупую і заўзятую барацьбу з магутнай навуковай тэорыяй, якою адзначаны ўвесь гістарычны шлях дарвінізму. У першы-ж год пасьля апублікаваньня няўмірушчае работы Чарльза Дарвіна пра пахаджэньні відаў Біскуп Оксфордзкі Вільбэрфорс зганьбаваў яго тэорыю, як тэорыю, якая супярэчыць „пісьму сьвятому і боскаму адкравеньню“, бо эволюцыйная ідэя „адхіляе творцу і несумяшчальна з паўнатою яго славы“. „Несумяшчальная з паўнатой славы“ госпадавай, навуковая тэорыя зрабілася об'ектам самае сапраўднае клясавае барацьбы. Профэсыяналы рэлігіі, рэакцыянэры ад навукі, ідэолёгічныя ляндскнэхты кіраўнічых клясаў наперагонкі выкрывалі, адвяргалі, крытыкавалі, ганьбавалі дарвінізм. На гэтым ганьбаваньні зрабіў кар'еру не адзін гарэзьлівы асыстэнт, не адзін бойкі прыватдоцэнт адпачыў, дзякуючы Дарвіну, на профэсарскіх лаўрах... Пра кожнага з іх можна было-б сказаць словамі Дарвіна наконт першага рэцэнзэнта яго кніжкі ў часопісу „Атэнэум“: „ён, праўда, ня стаў-бы паліць мяне, але ён прынёс-бы гальля і паказаў-бы чорным бэстыям, як мяне зламіць“. „Чорныя бэстыі“ рэакцыі цкавалі Дарвіна не дарма, яны бачылі ў яго асобе прадстаўніка таго матар'ялістычнага сьветаразуменьня, якое было варожым кіраўнічым клясам эксплёататарскае грамады. Гэтая думка была выразна выказана былым настаўнікам Дарвіна геолёгам Сэджвікам.

„Я не магу,—пісаў ён,—ня выказаць маёй нянавісьці да тэорыі за яе рашучы матар'ялізм... Ня тое, каб я думаў, што Дарвін атэіст, хаця я і не магу не разглядаць ягоны матар'ялізм, як атэістычны“.

У гістарычным лёсе дарвінізму можна вызначыць два этапы. На першым з іх ідэолёгі прыгоньніцка-фэодальных клясавых пластоў спрабавалі зьнішчыць антыбіблійскую і багахульную тэорыю ангельскага вучонага. Калі-ж высьветлілася, што гэта немагчыма, змаганьне з дарвінізмам зьмянілася на прыяцьце яго і на імкненьне выкарыстаць яго ў клясавых мэтах. Гэтую місію выконваюць тыя ідэолёгі драпежніцкага капіталізму, якія імкнуцца пашырыць дарвіністычныя прынцыпы на грамадзкае жыцьцё. Гэтыя, так званыя, соцыяльныя дарвіністы імкнуцца ўзьвесьці дарвінаў прынцып барацьбы за існаваньне ў ступень нейкае унівэрсальнасьці. Такім парадкам клясавая барацьба з катэгорыі *гістарычнае* ператвараецца імі ў катэгорыю *лёгічную*, „натуралістычную“.

Перанесьці дарвінізм у грамадзкае жыцьцё гэта значыць паказаць, што капіталістычная конкурэнцыя „натуральная“, што яна ажыцьцяўляецца паводле неадменных і непахісных законаў „барацьбы за існаваньне“ і дзеля гэтага утопічна. Соцыяльны дарвінізм ператварае такім чынам соцыялізм у утопію. Ён даводзіць разам з тым, што грамадзкае жыцьцё пры капіталізьме цячэ „паводле Дарвіна“—слабыя непрыстасаваныя гінуць; моцныя, дужыя перамагаюць. Такім парадкам вялікая навуковая тэорыя ператвараецца ў псэўданавуковую санкцыю капіталістычнага драпежніцтва і эксплёатацыі. Няма чаго і гаварыць пра ўсю няпісьменнасьць і антынавуковасьць гэтых спроб пашырыць законы прыродазнаўства на грамаду і зьвязанае з гэтымі спробамі ігнараваньне соцыяльных законаў. Няма чаго гаварыць і пра тое, што пры капіталістычнай конкурэнцыі перамагаюць ня людзі, а капіталы; ня лепшыя, але найбольш пранырлівыя, шахраяватыя, неразборчывыя ў сродках драпежніцка-паразітычныя экзэмпляры. Няма чаго, нарэшце, гаварыць і пра тое, што менавіта соцыялізм упяршыню ў гісторыі стварае ўмовы, пры якіх будзе магчымым вольнае спаборніцтва асоб пры максымальным выяўленьні індывідуальных здольнасьцяй і даравітасьці [1]). У сувязі з гэтым для нас важна толькі падкрэсьліць, як у процэсе клясавае барацьбы адна і тая самая навуковая тэорыя часам можа сустракаць з боку кіраўнічых клясаў капіталістычнае грамады шалёнае супраціўленьне, часам можа зрабіцца об'ектам выкарыстаньня ad majorem capitalismi gloriam.

Найбольш рэакцыйныя клясавыя групоўкі капіталістычнае грамады спрабуюць дагэтуль утрымацца на глебе „няпрыяцьця“ дарвінізму. Паказальным эпізодам зьяўляецца ў гэтым сэнсе славуты „малпавы про-

[1]) Соцыялізм,—кажа В. І. Ленін у артыкуле „Як арганізаваць спаборніцтва“,—упяршыню дае магчымасьць уцягнуць сапраўдную большасьць працоўных у арэну такой работы, дзе яны здолеюць праявіць сябе, разгарнуць свае здольнасьці, выявіць таленты, якіх у народзе непарушаная крыніца, якія капіталізм мяў, давіў і душыў тысячамі і мільёнамі.

цэс“ 1925 году, які зрабіў, паводле слоў Бэрнарда Шоў, сьмех з цэлага контынэту. Кулацка-фэрмэрскія верхавінкі Паўднёвых Штатаў Амэрыкі выступілі на малпавым процэсе з адкрытым шаломам супроць тэорыі эволюцыі, як тэорыі, якая падрывае веру ў бога і, што самае галоўнае,—санкцыянуе роўнасьць рас. Бліжэйшыя патомкі рабаўласьнікаў няздольны прымірыцца з роўнасьцю чорнага беламу—продкам таго і іншага Дарвін,—о, жах!—, абвясьціў малпу... І таму яны выступаюць супроць тэорыі эволюцыі ўзброеныя з галавы да ног тэолёга-нацыяналістычнай доктрынай фундамэнталізму. Фундамэнталізм зьяўляецца нічым не замаскаваным, цынічна-шчырым адмаўленьнем навукі ў імя клясавага інтарэсу. Навука сапраўдна толькі да тае пары, пакуль яна абараняе мой клясавы інтарэс, гаворыць буржуа-фундамэнталісты. З таго моманту, калі яна ўваходзіць у конфлікт з гэтым інтарэсам, яна пакідае быць навуковай, яна робіцца шкоднаю гарэзіяй і як гэткая яна павінна быць зьнішчана. У выніку—так званыя „антыэволюцыйныя більлі, прынятыя парлямэнтамі Тэнэсі, Місісіпі, Флёрыды і іншых Штатаў Амэрканскага Поўдню.

У чым выключная цікавасьць „малпавага процэсу“, дарэчы, незаслужана мала асьветленага ў нашым друку? Процэс па абвінавачаньні маладога профэсара Дайтонскага Коледжа Джона Скопса ў тым, што ён навучаў вучняў „некаторым тэорыям, якія адмаўляюць гісторыю боскага стварэньня чалавека, як яна выкладзена ў бібліі і, наадварот, вучыў заместа гэтага, што чалавек паходзіць ад жывёлін ніжэйшага парадку“,—гэты процэс быў сапраўднай клясавай бойкаю, якая разгарэлася навокал магутнае навуковае тэорыі Дарвіна.

Абвінавайца Скопса, адзін з лідэраў амэрыканскага фашызму, былы дзяржаўны сакратар Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў і неаднакратны кандыдат у прэзыдэнты рэспублікі Уільлям Брайян так ахарактарызаваў клясавае значэньне процэсу: „Спрэчка між эволюцыяй і хрысьціянствам—барацьба не за жыцьцё, а на сьмерць. У мінулым гэта была сьмяртэльная бойка ў цемры. Цяпер яна будзе сьмяртэльнай бойкай пры дзённым сьвятле. Калі эволюцыя переможа, хрысьціянства зьнікне; не адразу, зразумела, але паступова, бо абодва яны ня могуць існаваць разам. Яны варожыя адзін аднаму, як сьвятло і цемра, як дабро і зло. Ворагі хрысьціянства ўсьведамляюць характар гэтае барацьбы, і хрысьціяне, пачынаючы ад сёнешняга дня, таксама будуць мець уяўленьне аб ёй. Веручы, што богаадкравенная рэлігія толькі адна дае чалавецтву ісьціну, хрысьціяне будуць змагацца з эволюцыяй, як з найвялікшым ворагам. Калі яны няправы, яны будуць пераможаны..., але калі інформацыя, прадстаўленая на процэсе, пакажа, што эволюцыя не даведзена... навука павінна будзе адступіць“.

Усё насельніцтва глухога мястэчка было захоплена клясавай бойкаю, якая разгарэлася навокал дарвінавае тэорыі, і дайтонскія крамнікі вывешвалі ў вытрынах сваіх крам непераймальныя па сваёй прыгожасьці плякаты: „малпавым людзям тут не прадаюць“.

Двухтыднёвы „малпавы процэс“ закончыўся, як вядома, абвінавальным прысудам Скопсу. Буржуазны суд яшчэ раз прадэманстраваў „бесстароннасьць“ і „надклясавасьць“. Малпавы процэс паказаў сапраўдную цану ўсёй балбатні пра клясавы нэйтралітэт прыродазнаўства.

„Малпавы процэс“—гэта справа Бэйліса сучаснае Амэрыкі, гэта рэстаўрацыя сярэднявечча, скок да XVI стагодзьдзя, да процэсаў ведзьмаў. Дзеля гэтага адносіны да дарвінізму сучаснага буржуа характарызуюцца ня столькі дайтонскім фашысцкім эксцэсам, колькі тым нястрыным прыяцьцем дарвінізму, пра якое мы казалі вышэй.

Тэорыя Дарвіна прарабіла той клясычны цыкль, які даводзіцца прарабляць у капіталістычнай грамадзе ўсялякай навуковай тэорыі, якая сустракаецца з варожымі адносінамі з боку пануючых клясаў гэтае грамады. Такая тэорыя праходзіць, паводле выразу Карла Вітфогеля, чатыры стадыі:

1. Фаза замаўчваньня (не зьвяртаюць ніякае ўвагі на новую думку).
2. Фаза высьмейваньня (яе ня прымаюць усур'ёз).
3. Фаза адкрытае барацьбы (да яе ўжываюць гвалт).
4. Фаза капітуляцыі (заяўляюць: „ды-ж мы гэта заўсёды казалі“).

Трэба яшчэ дадаць, што побач з капітуляцыяй звычайна ідзе скажэньне тае тэорыі, перад якой капітулююць—імкненьне сьцерці ў ёй соцыяльна-небясьпечныя для капіталізму элемэнты і выкарыстаць тыя яе бакі, якія могуць быць карыснымі для капіталізму.

Побач з дайтонскім судовым процэсам я-б хацеў спыніцца на адным дужа яскравым прыкладзе таго, як віхор клясавае барацьбы ўрываецца ў „нэйтральныя“, „пазаклясавыя“ лябораторыі натуралістых,—на трагічным лёсе аўстрыйскага біолёга, нябошчыка Паўля Камэрэра.

Камэрэр выступіў як прыхільнік спадчыннае перадачы набытых адзнак. З найвялікшым энтузіязмам і энэргіяй на працягу паўтара дзесятка год даводзіў Камэрэр правільнасьць гэтае гіпотэзы, здавалася-б вельмі далёкай ад тлуму і грукату клясавых боек. Але Камэрэр меў сьмеласьць пайсьці, як ён сам выразіўся, „супроць навуковае моды“. І тады об'ектыўна-бяспалкія абаронцы „навуковае моды“ распачалі такое нястрымнае цкаваньне, якое прывяло Камэрэра да трагічнага канца. Адзін з ворагаў Камэрэра сказаў, што яго вопыты могуць пайсьці на карысьць толькі яўрэям і бальшавікам, якія зацікаўлены ў спадчыннай перадачы набытых адзнак:—зацьверджаньні Камэрэра даюць яўрэю надзею на тое, што яго дзеці будуць „падобныя да хрысьціян“, а ў бальшавіка-рабочага на тое, што яго ўнукі „зробяцца шляхэтнымі і арыстакратызуюцца“. Об'ектыўныя вучоныя ня могуць, бязумоўна, пагадзіцца з такім унясеньнем палітычных тэндэнцый у чыстую навуку. Бязглузьдзіца гэтая цікава тым, што яна кідае яскравы прамень сьвятла на прычыны цкаваньня, якое давяло Камэрэра да самагубства. Жрацы „чыстае навукі“, гэтыя, паводле выразу старога Дыўгена—дыплёмаваныя лёкаі буржуазіі, не здаволіліся тым, што пазбавілі Камэрэра лябораторыі, імя

яго залілі клейкай граэнаю брахнёй, якая прымусіла вучонага энтузыястага ў канцы 1926 году забіць самога сябе...

У той-жа час „пазаклясавыя вучоныя“, накшталт профэсара зоолёгіі Іенскага унівэрсытэту Плятэ, займаліся тым, што рабілі ў сваіх лябараторыях спэцыяльныя акварыумы, якія павінны былі дэманстраваць зоомілітарызм і, такім парадкам, даводзіць утопічнасьць усялякіх спроб разброеньня, якія супярэчаць асноўнаму закону зоолёгічнага сьвету— мілітарызму. Гэта, зразумела, „чыстая навука“ так, як яе разумее буржуазія... Гэта-ж, назіраючы акурат падобную „чыстую навуку“, Леў Таўстой у свой час пісаў: „Калі-б разбойнікі, якія жывуць грабежніцтвам, або вары, якія жывуць вараўствам, склалі сваю навуку, дык навука іх ня здолела-б быць нічым іншым як толькі ведамі аб тым, як найбольш выгодным спосабам рабаваць, абкрадваць людзей, якія трэба мець для гэтага прылады і як найбольш прыемным парадкам карыстацца нарабаваным. Тое-ж і з навукаю людзей нашага стану, які пануе“...

Перайду ад клясавае барацьбы на навуковым фронце ў умовах капіталістычнае дзяржавы да тае-ж барацьбы ў умовах дзяржавы пераходнага пэрыоду. Няма чаго і гаварыць пра тое, што ў дзяржаве пераходнага пэрыоду гэтая барацьба ня толькі не затухае, ня толькі не прытупляецца, але, наадварот, уваходзіць у новую абвостраную фазу. У тойжа час у гэтую фазу ствараюцца больш складаныя, часам больш завэлюмаваныя формы гэтае барацьбы і дзеля гэтага іх значна цяжэй распазнаць. Я ўжо не кажу пра тое, што карэнным парадкам зьмяняецца яе зьмест...

Калі Талстой убачыў, як выкарыстоўваюць эксплёататарскія клясы капіталістычнае грамады навуку для замацаваньня свайго панаваньня, як яны ставяць яе сабе на службу ў мэтах эксплёатацыі, ён зрабіў так, як толькі мог зрабіць гэты геніяльны мэтафізік: адышоўшы ад навукі, якая служыць паразытычным клясам, ён разам з тым абараціўся сьпіною *да ўсялякае навукі.* Рабочая кляса—ня вучань Льва Таўстога. Верная навуцы Маркса і Леніна, яна інакш вырашае проблему навукі. Яна ставіць сваёй мэтай зрабіць навуку са зброі *запрыгоненьня* народных мас, фактарам іх *распрыгоненьня,* з монополіі кіруючых дзесяткаў яна намагаецца зрабіць яе здабыткам працоўных мільёнаў. Пролетарыят, які дыктатарствуе, імкнецца выкарыстаць навуку як магутны падважнік у справе пабудовы соцыялістычнае грамады. У гэтым сваім імкненьні ён сутыкаецца з процідзейнічаньнем ідэолёгаў розных варожых пролетарскай дыктатуры клясавых груповак. У выніку—жорсткая клясавая барацьба на навуковым фронце. Барацьба гэта надзвычайна цікава, акрамя іншага і з кропкі гледжаньня рознастайнасьці тых прыёмаў, якімі карыстаюцца ў гэтай барацьбе ідэолёгі розных выбітых рэволюцыяй з сядла і ўшчымленых ёю груповак.

У першыя гады рэволюцыі, калі сусьветна гістарычны сэнс Кастрычніка быў зразумелы толькі тонкім пластом навуковых працаўнікоў, а пера-

важная большасьць навуковых працаўнікоў займала або шчыра варожыя пролетарскай рэволюцыі позыцыі, або позыцыі пасыўнага „неприяцьця“ яе,—у гэты час адным з найбольш улюбёных прыёмаў, якім карысталіся ворагі рэволюцыі ў навуцы, былі самыя рознастайныя тагобочныя, ідэалістычныя, містычныя, тэософскія імкненьні, якія адбіваліся ў выступленьнях паасобных вучоных. У гэты час Карсавін выпускаў свае сумнае вядомасьці „Noctes Petropolitanae“, свае багаслоўскія „Уводзіны ў гісторыю“ ды іншыя настолькі-ж „навуковыя“ працы, у якіх даводзіў, што „ўсялякая больш-менш прадуманая і глыбокая філёзофская сыстэма прыводзіць нас да ідэі абсолютнага быцьця, або бога“. У гэты час група так званых „вольфілаў“—членаў „вольнае філёзофскае акадэміі“ на чале з Радлавым і Лоскім выдавала часопіс „Мысль“, які абвяшчаў, што „філёзофія гэта катастрофа здаровага сэнсу“, і даводзіў, што для навуковае творчасьці трэба „вырвацца са сьвету звыклае рэальнасьці, трэба выпопеліць, узарваць, зьнішчыць рэчы, якія загразьлі ў палавінчатай об'ектыўнасьці“. У гэты час профэсар Флёрэнскі матэматычным досьледам „Мнимость в геометрии“ даводзіў існаваньне быцьця двох парадкаў: зямнога і нябеснага, і заклікаў навуку вярнуцца ад Копэрніка да Птолёмэя. У гэты час Франк апублікаваў сваю „Мэтодолёгію грамадзкіх навук“, у якой прастырэкаваў, што: „грамадазнаўства ёсьць самаведаньне чалавечага духу і ў аснове яго ляжыць жывы зьмест у форме самапаглыбленьня“. У гэты час проф. Введзенскі (ня мітрополіт) пытаўся ў чытачоў: „Ці сапраўды з дастаткова шырокім распаўсюджаньнем навуковых ведаў зьнікае вера ў бога?“ і адказваў: „Не, вера ў бога ніколі ня зьнікне“. Можна было-б назваць яшчэ дзесяткі выступленьняў ідэолёгаў варожых пролетарыяту клясаў, у якіх гэтыя, у той час „унутраныя“ (але якія хутка зрабіліся „замежнымі“) эмігранты, пад відам навукі пашыралі самыя беспардонныя містыка-тэолёгічныя забабоны, што мела на мэце адцягнуць увагу грамадзкасьці ад вялікіх соцыяльных задач дню.

Побач з гэтым прыёмам пад сьцягам экономічнае і соцыолёгічнае „об'ектыўнае“ навуковасьці разгортваўся наступ на асноўныя прынцыпы савецкае політыкі, наконт якой даводзілася, што яна „ня ўзгоднена з навукаю“ і таму засуджана на няўдачу. Штабам гэтага наступу быў славутны часопіс „Экономіст“, наконт якога У. І. Ленін у сваім артыкуле „Аб значэньні ваяўнічага матар'ялізму“ пісаў, што ён зьяўляецца „органам сучасных прыгоньнікаў, якія прыкрываюцца, зразумела, мантыяй навуковасьці“. Па меры таго, як у краіне зьмяняліся клясавыя адносіны, па меры таго, як дыктатура пролетарыяту рабілася ўсё больш моцнай, па меры таго, як у шырокія масы інтэлігенцыі пачало прасочвацца разуменьне вялікага гістарычнага сэнсу Кастрычніка, па меры таго, як ваяўнічы матар'ялізм усё больш упэўнена займаў мэтодолёгічныя позыцыі, клясавая барацьба на навуковым фронце зьменьвала свае формы. А гэтыя формы прыстасоўваліся да легальных магчымасьцяй

моманту, яны рабіліся ўсё больш завэлюмаванымі, усё цяжэй рабілася іх распазнаць. Але існасьць іх ад гэтага ня зьменьвалася: ідэолёгі варожа-клясавых груповак паказалі толькі значныя прыстасавальныя навычкі...

Калі, скажам, яшчэ ў 1922 годзе савецкія правазнаўцы маглі на манер проф. Магазінэра даводзіць, што паводле сваіх задач дзяржаўная ўлада „павінна стаяць па-над клясавай барацьбой: формальна яна зьяўляецца судзьдзёю ў барацьбе клясаў і нават больш таго: яна выпрацоўвае правілы гэтае барацьбы" („Соцыяльнае дуэлі"—паводле тэрмінолёгіі проф. Магазінэра), дык пяць год пасьля гэтага з тэю-ж мэтаю затушоўваньне клясавае прыроды дзяржавы і права некаторыя вучоныя правазнаўцы спрабуюць проста ігнараваць у сваіх работах клясавы момант. Яны прысьвячаюць гэтыя работы формальна-лёгічнаму аналізу прававых інстытутаў, ня выходзяць за межы абстрактна-схэматычных пабудоў, апэруюць формальнымі юрыдычнымі катэгорыямі і г. д. і г. д. За ўсёй гэтай формальна-юрыдычнай лёгістыкай зьнікае, зразумела, тое, што павінна складаць сапраўдны зьмест навуковага, г. зн. матар'ялістычнага падыходу да прававых інстытутаў, г. зн. устанаўленьне іх соцыяльна-клясавага коэфіцыенту, аналіз іх функцый у процэсе клясавае барацьбы. Іншай варыяцыяй таго-ж прыёму зьяўляецца вузка-тэхнічная пастаноўка проблем,—прыём улюбёны некаторымі вучонымі экономістымі, якія такім парадкам унікалі патрэбы шырокіх тэорытычных абагульненьняў і прынцыповых установак у сваіх працах. Хаваючыся за сваю некомпэтэнтнасьць у проблемах тэорэтычнае экономікі, такія эмпірыкі, якія поўзаюць, замыкаюцца ў вузкім коле тэхнічна-апісальнага парадку, дасягаюць таго, што з пэўнага экономічнага інстытуту выціскаецца ўвесь яго клясавы зьмест і ён пачынае выступаць як нейкая бесьцялесая схэматычная існасьць, пазбаўленая ўсялякае клясавае крыві і цела. У трэцяй сваёй варыяцыі гэты прыём прыводзіць вучонага-гісторыка або этнографа да зьбіральніцкага „самаабмежаваньня". Пад гэтым сьцягам адбываецца публікаваньне ўсялякае схолястычнае, тэолёгічнае, містычнае і іншае макулятуры ў якасьці „матар'ялаў" для будучага гісторыка, для якога пакідаецца ганаровая задача навуковага выкарыстаньня і крытычнага аналізу гэтых матар'ялаў.

Такі ў сваіх рознастайных выяўленьнях, толькі адзін з асноўных прыёмаў, пры дапамозе якога ажыцьцяўляюцца клясавыя вылазкі на навуковым фронце пролетарскае дыктатуры. Так, у ўмовах савецкае сапраўднасьці, робяць тыя „буддыстыя навукі", з якіх злосна сьмяяўся яшчэ стары Герцэн.

Коратка спынюся на некаторых з гэтых прыёмаў.

Адным з іх зьяўляецца дзяляцкая аполёгетыка пэўных экономічных зьяў капіталістычнае сапраўднасьці: тэйлёрызму, фордызму, розных прыёмаў капіталістычнае вытворчасьці і капіталістычнага гандлю без належнае соцыяльна-клясавае ацэнкі гэтых зьяў, але затое побач з ёю ідуць спробы мэханічнага ўвядзеньня гэтых элемэнтаў у савецкую эко-

номіку. Скэпсіс у адносінах да нашага соцыялістычнага будаўніцтва, пэсымістычныя прогнозы, змрочныя ацэнкі пэрспэктыў,—усё гэта на мове адмысловае акадэмічнасьці, усё гэта ў формулях „аб'ектыўнае навуковасьці“, усё гэта з вышынь бяспалкае „надклясавасьці“—вось яшчэ адзін з відаў зброі, якою карыстаецца ідэолёг клясава-варожых рабочай клясе груповак пры дыктатуры пролетарыяту. Калі славуты украінскі акадэмік Ефрэмов ужо стаяў на чале контр-рэволюцыйнае організацыі, г. ё., калі ён зьбіраўся ўжыць да савецкае ўлады крытыку зброяю, ён не адмаўляўся ї ад зброі крытыкі. Ефрэмов друкаваў у працах украінскае акадэміі гісторыка-літаратурныя работы, у якіх праводзіў, напрыклад, думку аб тым, што ўлада цара-голаду непераможна і ніхто яшчэ гэтае ўлады зламаць ня здолеў і ня здолее. Зусім відавочна, што ефрэмаўская зброя крытыкі служыла для тых-жа мэт, якія ён сабе ставіў, зьбіраючыся крытыкаваць савецкую ўладу зброяй загаворшчыкаў і контр-рэволюцыянэраў.

У цікавай кнізе тав. Загорскага „Клясавая барацьба ў сібірскіх ВНУ“ мы знаходзім шмат аналёгічных прыкладаў. Вось проф. агульнага землеробства Стальгані, які адвяргае погляды „экономістых марксысцкае школы пра магчымасьць сыстэматычнага падвышэньня ўраджайнасьці“. Вось проф. зоотэхнікі Соколов, які навучае слухачоў, што „ўздым гаспадаркі залежыць ад багатага гаспадара“. Вось томскі проф. Кузьнецов, які непахісна-навукова ўпэўнены ў тым, што: „падобна да таго, як рознастайныя паводле свайго характару крышталі ня здольны скласьці адзінае цэлае, таксама і нашы комуны ня могуць існаваць“. Вось проф. Омскага мэдычнага інстытуту Корхов, які ўстанаўляе ўсім аўтарытэтам навуковага дасьледчыка, што: „людзі, якія прышлі ў ВНУ ад варштату ці плуга, ня могуць быць навуковымі працаўнікамі: іх організм да гэтага не прыстасаваны і не вытрымлівае. Дзеля гэтага яны на другім курсе пачынаюць хварэць на сухоты і паміраюць“... Вось іркуцкі соцыолёг Дорогосьценскі, які дэкрэтуе, што: „калі-б дасягнулі комунізму, тады разьвіцьцё грамады прыпынілася-б, дзякуючы адсутнасьці конкурэнцыі“... Як мы бачым, гэта сапраўдныя змагары на клясавым фронце навукі, яны апранаюцца ў мантыі навуковае об'ектыўнасьці, але гэта, зразумела, не перашкаджае ім быць патэнтаванымі носьбітамі ідэолёгіі скінутых рэволюцыяй клясаў... Праўда, мэтодолёгічнае ўзброеньне гэтых байцоў далёка не на належнай вышыні: у іх—стрэльбы дапатопных гатункаў, але ў гэтым, зразумела, ня віна іх, але іх бяда.

Бясконцыя тыя хітрыкі і выкрунтасы, якімі карыстаецца клясава-варожая пролетарыяту навуковая думка. Толькі калі-не-калі тут мае месца „ёмкі“ фортэль якога-небудзь дасьціпнага Одысэя, накшталт таго аўтара гісторыі расійскае філёзофіі, які, расказаўшы пра разгром філёзофіі за цара Мікалая І, з цнатлівым выглядам дадаў, што: „гэта паўтарылася праз 75 год“... З большага мы сустракаемся з больш асьцярожнымі, але часам ня менш атрутнымі выпадкамі.

Нацыянальную палітыку савецкае ўлады таксама былі зроблены спробы эксплёатаваць з тэй-жа мэтаю. Тут таксама рабіліся спробы пад відам навуковага об'ектывізму ахутваць романтычным флёрам гістарычныя фігуры, ідэалізацыя якіх нічога, акрамя шкоды рабочай клясе, даць не магла. Тут таксама спрабавалі скрозь браму „нэйтральнае" філёлёгічнае навукі працягнуць контрабанду выразна клясавага зьместу: узяць хаця-б такія эпізоды, якія ў свой час нарабілі ў нас на Беларусі цэлы гармідар, як пераклад расійскага „бедняк"—„злыднем", або як ператварэньне Беларусі ў „Беларутэнію". З-пад глыбока нахлабучанага брыля вучонага філёлёга тут так выразна стырчаць доўгія вушы клясавага ворага...

Нарэшце, кажучы аб тэй клясавай барацьбе, якая разгарэлася ў СССР на навуковым фронце, нельга абмінуць яшчэ аднаго яе эпізода, які паўтараецца вельмі часта. Эпізод гэты абумоўлены тым, што ў нас у дзяржаве, упяршыню ў гісторыі, рэволюцыйны матар'ялізм, марксызм, з прыгнечанае, гэрэтычнае навукі ператварыўся ў пануючы сьветапогляд, што яго навуковы мэтод зрабіўся ідэолёгічным узброеньнем клясы дыктатара.

У савецкім саюзе разьвіцьцю тэорыі дыялектычнага матар'ялізму дадзены нябачаныя дагэтуль магчымасьці. Навуковая літаратура дыялектычнага матар'ялізму выдаецца ў нас у такой колькасьці і ў такім відзе, як ні ў воднай краіне сьвету. У нас ствараюцца магутныя дасьледчыя цэнтры для распрацоўкі проблем дыялектычнага матар'ялізму. Дыялектычны матар'ялізм выступае, як ваяўнічая мэтодолёгія, г. зн. такая, якая прэтэндуе на сваю значнасьць ва ўсіх галінах, ва ўсіх ведах—як усеагульная мэтодолёгія навукі.

У нас, нарэшце (і гэта мае зусім значную важнасьць), дыялектычны матар'ялізм выступае як кіраўніцтва да чыннасьці, якое рэалізуецца. Ва ўсім процэсе савецкага будаўніцтва ажыцьцяўляецца генэральная практычная праверка тэорыі дыялектычнага матар'ялізму.

Усё гэта прыводзіць да таго, што да дыялектычнага матар'ялізму ў нас пачынаюць часам „туліцца" элемэнты клясава-чужыя пролетарыяту, якія „прыймаюць" марксызм з прычыны „абставін, якія стварыліся". Гэтыя дробна-буржуазныя спадарожнікі тэорыі дыялектычнага матар'ялізму, якія часам мысьляць лібэральна, прытупляюць яе рэволюцыйнае лязо, вылегчваюць яе соцыяльна-клясавы зьмест, робяць яе „хатняй". З другога боку, яны спрабуюць схэматызаваць марксызм, ператвараюць яго ў шаблён, падменьваюць яго надзвычайна складаны і тонкі інструмант навуковага дасьледу мэханічнай адмычкай. У выніку—об'ектыўнае шкодніцтва, прытупленьне клясавае зброі, якою пролетарыят змагаецца на навуковым фронце. Гэтае об'ектыўнае шкодніцтва павінна быць намі таксама ўлічана, як і тыя многалікія прыёмы гэтага змаганьня, пра якія мы казалі вышэй.

Мы казалі ўвесь час пра *клясавасьць* навукі, пра *клясавасьць* вучонага. Ці сваячасова будзе, нам у такім разе зацікавіцца пытаньнем, як-жа

трэба разумець клясавасьць вучонага? Гэтае пытаньне мы лічым патрэбным паставіць дзеля таго, каб перасьцерагчы ад мэханічнага, упрашчэнскага, і, значыць, антымарксыцкага разуменьня яго.

Для правільнага адказу на пастаўленае намі пытаньне трэба раней за ўсё ўлічыць тую акалічнасьць, што націск соцыяльна экономічных фактараў на вучоных і праз іх на навуку адбываецца далёка не аўтаматычна і зусім не непасрэдна, але што яно перадаецца праз складаную трансьмісію грамадзкае псыхолёгіі, якая дзейнічае праз шэраг прамежных „надбудовачных“ зьвенчакоў. Нельга нам забывацца і на тое, што процэс узьнікненьня ідэолёгічнае надбудовы цячэ няпрыкметным для людзей парадкам. Тое, што зьяўляецца ў гэтым процэсе толькі продуктам пэўных гістарычных умоў, што мае часовы, пераходны характар набывае ва ўяўленьні паасобных вучоных значэньне нечага натуральна-патрэбнага, вечнага, няўхільнага. Такім парадкам вучоны часта робіцца об'ектам абстракцыі, якая не дазваляе яму зразумець клясавы характар тых ідэй, на якіх ён выхоўваўся і атмосфэрай якіх ён дыша. Той або іншы вучоны, які асабіста не зацікаўлены ў тым, каб служыць сваёй творчасьцю якой-небудзь пэўнай клясе, ня ўлічвае, што гэтая творчасьць у выніку об'ектыўных прычын, у выніку міжклясавых адносін, ідзе на патрэбу гэтае клясы.

У свой час, імкнучыся паказаць, як марксызм трактуе клясавасьць вучонага, Г. В. Плеханаў казаў: „Погляд Маркса на гісторыю, напрыклад, філёзофію часта разумеецца прыблізна так. Калі Кант займаўся пытаньнямі трансцэдэнтальнае эстэтыкі, калі ён гаварыў пра катэгорыі рассудку або пра антыноміі розуму, дык у яго гэта адны толькі фразы: яму ў сапраўднасьці зусім ня цікавы былі ані эстэтыка, ані антыномія, ані катэгорыі; яму трэба было толькі адно: даць клясе, да якой ён належаў, г. зн. нямецкай дробнай буржуазіі, як мага больш смачных страў і „прыгожых нявольніц“. Катэгорыі антыноміі здаваліся яму найпрыгажэйшым сродкам для гэтага, вось ён і пачаў „разводзіць“ іх.

Ці трэба запэўняць, што гэта сапраўднае глупства. Калі Маркс казаў, што даная тэорыя адпавядае такому і такому пэрыоду экономічнага разьвіцьця грамады, дык ён зусім ня хоча гэтым сказаць, што прадстаўнікі, якія мысьляць, клясы, што панавала ў працягу гэтага пэрыоду, сьвядома падганялі свае погляды да інтарэсаў сваіх больш або менш багатых, больш або менш шчодрых дабрачынцаў“.

Плеханаў імкнуўся паказаць, што ў буйнага вучонага, у руках якога веды зьяўляюцца нібы падважнікам абароны пэўных клясавых інтарэсаў, клясавая прыслужніцтва абумоўлена месцам данага вучонага на клясавай орбіце, але зусім не прадыхтавана яго сьвядомым імкненьнем скажаць навуковую ісьціну на патрэбу клясы. І калі Пэтты або Сміт, напрыклад, выступалі вучонымі аполёгетамі капіталізму, дык усё-ж такі недапушчальна разглядаць іх як „хітрых сікофантаў“. „Гэта былі чэсныя мысьліцелі, але гэтыя мысьліцелі не маглі пакінуць быць тым, чым яны былі

ў сапраўднасьці, г. зн. сынамі свае эпохі, продуктам яе клясавых адносін". І зусім зразумела, што несьвядомая служба клясе не пакідае быць службаю, і той вучоны, які нясе гэтую службу, не пакідае быць абаронцаю зусім пэўных клясавых інтарэсаў.

Становішча кожнае рэволюцыйнае клясы, якая выходзіць на гістарычную арэну ў якасьці грамадзкага гегемона, выгодна тым, што яе клясавы інтарэс ляжыць на лініі змаганьня за об'ектыўную нефальсіфікаваную і не калечаную навуковую праўду. У свой час гэтая акалічнасьць шмат чым дапамагла францускай буржуазіі, якая разбурыла тэолёго-схолястычны будынак фэодальнае навукі. У наш час гэтая акалічнасьць робіць шмат лягчэйшым для рабочае клясы яе змаганьне за зьнішчэньне эксплёататарскага грамадзтва...

Рабочая кляса нашае краіны ішла на штурм цытадэляй гэтага грамадзтва, узброеная ня толькі кулямётамі, але ўзброеная і цьвёрдай сьвядомасьцю гістарычнае няўхільнасьці перамогі тае справы, за якую яна змагаецца. Марксызм—гэта ня рэлігія, як думае буржуазны профэсар Файлер. Марксызм—гэта навука. І таму барацьба, якую вёў савецкі пролетарыят у 1917 годзе, была вынікам *навуковае* політыкі, а не утопічнае веры. І той геніяльны аналіз суадносін клясавых сіл у краіне і тэндэнцый яе грамадзкага разьвіцьця, які даў У. І. Ленін, быў *навуковым* аналізам, быў праявою непераможнае сілы сапраўднае, не фальсіфікаванае соцыяльнае навукі. І параўнальна з гэтым ленінскім навуковым аналізам усе прадраканьні навуковых мандарынаў, усе акадэмічныя ўстаноўкі патэнтаваных жрацоў навукі, аказаліся знахарствам і чорнай магіяй.

Будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне зьяўляецца найвялікшай матар'ялізацыяй навукі ў справу. Соцыялізм, які будуецца—гэта навука, якая рэалізуецца і матар'ялізуецца. Генэральны плян пабудовы соцыялізму—гэта адзіная ў гісторыі спроба навуковае організацыі грамадзка-экономічнага жыцьця мільёнаў мас. Навука робіцца ва ўмовах савецкае дзяржавы адным з важнейшых падважнікаў соцыялістычнае перабудовы грамады. Але толькі рэакцыйныя утопісты могуць думаць аб тым, што гэты падважнік—уласнасьць жменькі профэсыяналаў ад навукі. Не, гэты падважнік можа быць прыведзены ў рух толькі працоўным энтузіязмам мільённых мас, ён можа дзейнічаць толькі пад магутным напорам працоўнае колектыўнае энэргіі, якая з падземных нетраў, куды яна была загнана пры ўладзе эксплёатацыі чалавека чалавекам, цяпер вырываецца вонкі.

Трыста год таму назад, калі толькі расьсейваўся сузмрок сярэднявечча, аднавіцель матар'ялістычнае філёзофіі Бэкон Вэрулямскі прадракаў надыход новае грамады, якая будзе пабудавана чалавекам—пераможцам прыроды і яе гаспадаром. Ён прадракаў, што гэтаю грамадою будзе кіраваць навука, яе кіраўнічым цэнтрам будзе навукова-дасьледчы інстытут. У нашы дні дробна-буржуазны соцыялісты Віньнічэнко выдру-

каваў роман-утопію „Сонечная машына“, які малюе надыход соцыялізму, як вынік геніальнае навуковае вынаходкі вучонага, які вызваліў чалавецтва ад змаганьня за хлеб штодзенны.

Мы-ж ведаем ня толькі тое, што навука—падважнік, які вядзе грамаду з панства неабходнасьці ў панства волі, але і тое, што гэты падважнік можа быць чынным толькі тады, калі да яго дадаецца энэргія і воля рабочае клясы. „Калі тэорыя пачынае ўладаць мільёнамі,—казаў Маркс,—яна абяртаецца ў сілу“... Навука—найважнейшая сіла ў справе пабудовы соцыялістычнае грамады, але гэткаю яна робіцца толькі тады, калі злучае свае імкненьні з жаданьнямі клясы, якая гісторыяй высунута на ролю будаўніка гэтае грамады.

# ПЯЦІГОДКА Ў ДЗЕЯНЬНІ

**А. Шэйнін**

## I

У сярэдзіне 1928-29 гаспадарчага году XVI партыйнай конфэрэнцыяй і V Усесаюзным Зьездам саветаў быў зацьверджаны пяцігадовы плян народна-гаспадарчага будаўніцтва СССР. З гэтага моманту пяцігадовы плян стаў програмай вялікіх работ, пад знакам якіх разгортваецца на вялізным пляцдарме гаспадарчая дзейнасьць усяго нашага Саюзу. Гістарычнае, політычнае і гаспадарчае значэньне пяцігодкі ўскрываецца ўсім ходам нашага разьвіцьця. Ідэі, пакладзеныя ў пяцігадовым пляне, зрабіліся здабыткам шырачэзных працоўных гушчаў. Падцьвярджаецца вядомае марксыцкае палажэньне, што ідэі становяцца матэрыяльнай сілай, калі яны аўладаюць масамі. „Пяцігодка“ ўвайшла поўнапраўным хадавым словам ня толькі ў нас у СССР, але нават за межамі, дзе гэтае слова ўжываецца без перакладу.

Праца над складаньнем пяцігадовага пляну працягвалася амаль тры гады. Няма патрэбы даводзіць, што пабудаваньне навукова-ўгрунтаванага пляну павінна было патрабаваць працяглых высілкаў вялікага колектыву плянавых працаўнікоў, што, як яшчэ адзначыў XV партыйны зьезд у сваіх дырэктывах па складаньні пяцігадовага пляну, „рэальны плян няўхільна складваецца фактычна ў меру сапраўднага росту організаванасьці народнае гаспадаркі і ў меру магчымасьцяй дакладнага вучоту і прадбачаньня на аснове растучага аграмаджаньня экономікі краіны“.

Навука плянаваньня яшчэ знаходзіцца ў эмбрыёнальным стане. Тэорэтычная сьвядомасьць, усьведамленьне багатае практыкі, якая накапілася, істотным чынам адстала ад плянавага жыцьця. Гісторыя разгортваньня прац над пяцігодкай яшчэ чакае свайго тэорэтыка. Шматлікія варыянты пэрспэктыўнага пляну, сыстэма контрольных лічбаў—усё гэта адчыняе шырачэзнае поле для абагульненьняў тэорэтычнай думкі. Асаблівае ўвагі і вывучэньня заслугоўвае той разьдзел гісторыі прац над пяцігодкай, які быў запоўнены дыскусіяй наўкола пытаньняў пэрспэктыўнага пляну.

Першая намётка пяцігадовага пляну была аформлена Дзяржплянам Саюзу ў 1927 годзе ў кнізе пад назвай: „Перспективы развертывания народного хозяйства СССР за 1926-27—1930-31 гг.“. Гэты першы нарыс пэрспэктыў гаспадарчага разьвіцьця СССР зараз у сьвятле дзейні-

чаючай у сучасны момант пяцігодкі выглядае вельмі і вельмі дасьціпна. Досыць сказаць, што паводле гэтага варыянту гадавы прырост агулавой продукцыі прамысловасьці вызначыўся для 1928-29 г. у 9,7 проц. (фактычны тэмп росту, як вядома, склаў кала 24 проц., г. зн. у два з паловай разы больш), а для бягучага 1929-30 году—у 9% (супроць + 32%, вызначаных зараз контрольнымі лічбамі). І гэтыя архіўмеркаваныя тэмпы разгортваньня нашай гаспадаркі зусім нядаўна былі спатканы літаральна ў штыхі плеядай буржуазных экономістых (Кандрацьеў, Нікіцкі, Дэзен, et tutti guanti).

У чым абвінавачвалі вучоныя профэсары-экономістыя першапачатковыя проектоўкі пяцігодкі? У сямідзесяці сямі сьмертных грахох, і больш за ўсё, у нерэальнасьці, утопічнасьці, вызначаных тэмпаў разьвіцьця. Вось як атэставаў адзін з крытыкаў пяцігодкі пабудаваньне пляну: „Як можна прымаць усур'ёз гэтыя тэмпы росту, калі нават у пэрыод бурнага экономічнага разьвіцьця, які, напрыклад, перажывала Расія ў 1900—1913 гг. рост фізычнага аб'ёму продукцыі і рост нацыянальнага прыбытку не дасягаў таго тэмпу, які вызначаны па пяцігадоваму пляну“ („Экономическое обозрение“ № 5 за 1927 г. артыкул А. Дэзена). Асабліва ня добра гучыць гэтае славечка „нават“. Падумаць толькі, у пяцігодцы (у першым яе набліжэньні) вызначаліся такія тэмпы разьвіцьця, якіх ня ведае *нават* капіталістычны сьвет.

Буржуазныя крытыкі вымяралі годнасьць нашых плянаў меркай капіталістычных краін. Жыцьцё нанесла рашучы ўдар па ўсіх квазі-навуковых вынаходках гора-крытыкаў пяцігадовага пляну. Такога дзівака, які зараз кваліфікаваў-бы тэмп росту прамысловасьці ў 9 проц., як нерэальны і непасільны для краіны, трэба было-б пасадзіць у кунсткамеру. Але-ж зусім нядаўна такая ацэнка давалася пад навуковым соусам у пісаньнях крытыкаў першай намёткі пяцігодкі.

Вядома, якую вялікую зацікаўленасьць праяўляюць зараз буржуазія і яе агенты да пяцігадовага пляну, да ходу яго выкананьня. Калі праглядзець „альбом“ водгукаў буржуазнага друку аб пяцігадовым пляне, то перад намі стане досыць шырокая гамма рознастайных ацэнак рэальнасьці значэньня пяцігодкі. Адны крытыкі падобны таму пэрсонажу,—архіварыусу,—з твору Салтыкава-Шчэдрына, які казаў з прычыны паперак,—„разумець не разумею, а адказваць магу“. „Блеф“, „дзікая фантазія“, „утопія“—вось лексыкон значнай групы буржуазных „крытыкаў“ пяцігадовага пляну. Замест аналізу і членападзельных аргумантаў—злобнае выцьцё, налітыя кроўю вочы і сьціснутыя кулакі. Другія, больш дальнабачныя, разумеюць, якую грозную небясьпеку нясе з сабой выкананьне пяцігодкі для капіталістычнага сьвету. У іх ацэнцы зусім нядвухсэнсоўна выступае *страх*, боязьнь паражэньня капіталістычнай сыстэмы гаспадаркі ў выніку ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну. Быўшы корэспондэнт газэты „Berliner Tageblatt“ у СССР не-невядомы Пауль Шэфер так пісаў, што выкананьне пяцігодкі нават на тры чвэрці будзе азначаць

жорсткае паражэньне капіталістычнай сыстэмы гаспадаркі і перавагі соцыялістычнай плянавай экономікі.

Што збліжае большасьць ацэнак пяцігадовага пляну з боку закардоннай буржуазіі з ацэнкамі крытыкаў „ацечасьтвеннага“ паходжаньня? Гэта ігнараваньне таго, што савецкая сыстэма гаспадаркі непамерна больш прогрэсыўная, чым сыстэма капіталістычная. Мы прывялі ўжо наконт гэтага досыць акрэсьленае крэдо аднаго з крытыкаў першай намёткі пяцігадовага пляну. Для паўнаты, як кажуць, ансаблю, будзе цікава працытаваць погляд такога экономістага, як В. А. Базараў,—аўтара, да слова кажучы, славутай тэорыі „патухаючых тэмпаў“. У сваім артыкуле, апублікаваным у часопісі „Экономическое Обозрение“ (№ 6 за 1928 г.) ён спрабаваў давесьці, „што наша сыстэма гаспадаркі, па сутнасьці справы, ніякімі перавагамі не ўладае, і што *каб* конкрэтны балянс нашых пераваг“ і даў станоўчае сальдо на баку савецкай гаспадаркі, сальдо гэтае ні ў якім выпадку не магло-б дасягнуць такіх разьмераў, якія забясьпечылі-б для савецкага ладу магчымасьць рэгулярна, з году ў год, ажыцьцяўляць тэмпы росту, у некалькі раз перавышаючы рэкордныя дасягненьні капіталізму“.

Спрэчкі сапраўды адбываліся па пытаньні аб тым, можа ці ня можа наша сыстэма гаспадаркі разьвівацца шпарчэй і пры тым значна шпарчэй, чым капіталістычная сыстэма. Зацятая атака буржуазных экономістых на пабудаваньне пяцігадовага пляну ішла па лініі ацэнкі рэальнасьці дырэктывы—дагнаць і выперадзіць у тэхніка-экономічных адносінах найбольш перадавыя капіталістычныя краіны. Адмаўленьне пераваг нашай савецкай гаспадаркі над капіталістычнай, па ўсіх правілах элемэнтарнай лёгікі, прыводзіць да адмаўленьня магчымасьці пабудаваньня соцыялістычнага грамадзтва ў аднэй краіне.

Дыскусія наўкола шансаў нашага гаспадарчага разьвіцьця, якая разгарнулася ў сувязі з першай намёткай пяцігадовага пляну, захапіла таксама круг проблем, якія адносяцца да ацэнкі прыроды нашага пляну. Буржуазныя экономістыя бачылі задачу пляна ў тым, каб прадбачыць вынікі гаспадарчага разьвіцьця. Пэрспэктывы народна-гаспадарчага разьвіцьця, вызначаныя ў пляне, казалі яны, досыць дружным хорам,—павінны базавацца на об'ектыўным вывучэньні тэндэнцыі, якія гістарычна вызначыліся, на прадбачаньні вынікаў гэтых тэндэнцый. Дыскусія аб прыродзе пляну, аб месцы мэтавых заданьняў у пляне, якая вялася пад заслонай „найвучонейшых“ гутарак аб суадносінах генэтыкі і тэлеолёгіі, па сутнасьці справы, органічна зьвязана з адмаўленьнем соцыялістычных пэрспэктыў нашае гаспадаркі. Бо і сапраўды, што значыць зводзіць ролю пляна да задач прадбачаньня об'ектыўных „тэндэнцый“, гаспадарчага разьвіцьця нашага Саюзу, якія стыхійна складваюцца. У сваёй прамове на VIII Усерасійскім Зьезьдзе саветаў Ленін падкрэсьліваў, што „пакуль мы жывем у дробна-сялянскай краіне, для капіталізму ў Расіі ёсьць больш трывалая экономічная база, чым для комунізму. Гэта

трэба запомніць...“ Такога роду плян ёсьць „плян“ рэстаўрацыі капіталізму. Складаньне пляну накшталт гороскопу—справа заняткаў для вучоных аполёгетаў капіталізму. Багатую практыку такога роду „плянаў“ даюць нам ПАЗШ. Прадсказаньні гаспадарчай пагоды, працы над барометрам кон‘юнктуры, г. зн. над прадбачаньнем тых-жа, так званых, об‘ектыўных тэндэнцый шляхам прыстасаваньня апошняга слова буржуазнай экономічнай навукі—атрымалі там шырачэзнае пашырэньне. Усе гэтыя працы, аднак, вельмі мала дапамаглі амэрыканскаму капіталізму. Бязьлітасныя законы капіталізму аказаліся мацней „плянавых“ заклінаньняў буржуазнай навукі.

Як неба ад зямлі, далёкі выказваньні буржуазных экономістых аб прыродзе пляну ад вядомага адзінаццатага тэзісу Карла Маркса аб Фэербаху. Філёзофы толькі розным чынам *тлумачылі* сьвет, але справа заключаецца ў тым, каб *зьмяніць* яго“ (Курсыў Маркса, Архіў Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса, т. I, выд. 1924 г. стар. 202).

Дыскусія аб прыродзе савецкага пляну, спрэчкі аб тым, ці павінен плян быць пабудаваны на аснове актыўнае зьмены сыстэмы вытворчых сіл і вытворчых адносін, ці быць толькі бесстароннім рэгістратарам об‘ектыўнага процэсу, па сутнасьці справы, вырашаны ўжо самой пролетарскай рэволюцыяй.

Не выпадкова М. Г. Бухарын—ідэёвы правадыр правага ўхілу ў шэгарах УсеКП(б) у сваіх „нататках экономіста“ зьвёў сутнасьць плянавае асновы да ідэі роўнавагі, затушаваўшы соцыялістычны твар нашых плянаў, іх клясавы зьмест. Адыход правых ухілістых ад генэральнай лініі партыі ў пытаньнях тэмпу соцыялістычнай індустрыялізацыі, у пытаньні аб разьвіцьці і ўзмацненьні соцыялістычных форм у вёсцы, тэорыя ўрастаньня кулака ў соцыялізм,—усё гэта органічна ўвязваецца з ігнараваньнем прымату соцыялістычнай мэтавай установкі ў пяцігадовым пляне.

Пяцігадовы плян у процівагу буржуазным поглядам на сутнасьць пляну, уяўляе сабой актыўную програму дзеяньняў ідучых па магістральнай лініі соцыялістычнага ператварэньня гаспадаркі. Пяцігадовы плян конкрэтна паставіў перад сабой задачу забясьпечыць рэалізацыю ленінскага лёзунгу,—дагнаць і выперадзіць у тэхніка-экономічных адносінах найбольш перадавыя капіталістычныя краіны ў гістарычна-мінімальны пэрыод. Наўпрэкі маркотным ауспыцыям буржуазных прарокаў, пяцігадовы плян, базуючыся на ўлічэньні пераваг савецкай сыстэмы гаспадаркі над капіталістычнай, вызначыў такія тэмпы экономічнага і культурнага разьвіцьця краіны, якія непамерна перавышаюць вядомыя да гэтага часу найбольш высокія тэмпы капіталістычных краін.

Вось надзвычайна навучальныя даныя, супастаўляючыя тэмпы, вызначаныя пяцігодкай, з тэмпамі разьвіцьця ПАЗШ за 1922-27 гг. г. зн.

за пэрыод так расхваленага „проспэрыці“ (росквіту) такой магутнай капіталістычнай краіны, як заатлянтычная рэспубліка.

| | У ПАЗШ | У СССР |
|---|---|---|
| | За 1922-27 г. | Па пяцігодцы за 1927-28—1932-33 |
| Штогодны прырост продукцыі ў %% . . . . . . . . | 5.81 | 23,0 |
| Штогодны прырост продукцыйнасьці працы ў %% . . | 6,69 | 16,0 |
| Штогодны прырост ліку рабочых у %% . . . . . . | 0,36 (зьмяншэньне) | 5,9 |
| Штогодны прырост рэальнай заработнай платы . . . . | 1,9 | 11,1 |

Нават незалежна ад шэрагу істотных агаворак, яшчэ больш узмацняючых ступень адрыву нашых савецкіх плянавых тэмпаў ад высокіх капіталістычных тэмпаў ПАЗШ, гэтыя лічбы навочна дэмонструюць той гіганцкі крок наперад, які павінна зрабіць наша краіна ў выніку выкананьня пяцігодкі.

У кніжцы Л. Сабсовіча („СССР праз 15 год“) зроблена спроба вызначыць верагодныя тэмпы разьвіцьця СССР на прадстаячыя 15-20 год. Разьлікі аўтара грунтуюцца выключна на выйсьцёвых позыцыях пяцігодкі. Яны зьяўляюцца, зразумела, толькі самым чарновым эскізам генэральнага пляну. Тым ня менш разьлікі Л. Сабсовіча ўяўляюць выключную цікавасьць для ацэнкі маштабаў і шпаркасьці нашага разьвіцьця з пункту гляджаньня ажыцьцяўленьня вырашаючай дырэктывы „дагнаць і выпаредзіць“. Асноўныя вывады Сабсовіча заключаюцца ў тым, што па маштабу прамысловай вытворчасьці мы ўжо праз 15 год значна пераравысім сучасны ўзровень ПАЗШ і што мы, такім чынам, маем усе магчымасьці, у недалёкай будучыні, а ў гістарычна відавочным пэрыодзе сапраўды пабудаваць пазаклясавае соцыялістычнае грамадзтва.

## II

Паглядзім цяпер, як выконваецца пяцігадовы плян. Ацэнка ітогаў выкананьня пяцігодкі ў 1928-29 г. і пэрспэктыў, вызначаных контрольнымі лічбамі для 1929-30 году на аснове дэтальнейшага ўлічэньня ўсіх новых фактараў, якія выявіліся ў процэсе розьвіцьця, дазволіць нам адказаць перш за ўсё на асноўнае пытаньне— ці адзначаўся пяцігадовы плян лішнім оптымізмам у проэктаваньні тэмпаў гаспадарчага разьвіцьця Саюзу, ці, наадварот, было недаўлічэньне магчымасьцяй, пакладзеных у сыстэме нашае гаспадаркі? Аналіз гэтых ітогаў, далей, павінен быў даць адказ на пытаньне аб тым, хто аказаўся праў у ацэнцы гас-

падарчых тэндэнцый краіны—ці правільная генэральная лінія партыі, ці, наадварот, правыя опортуністыя, якія лічылі курс пяцігадовага пляну не адказваючым об'ектыўным умовам. Нарэшце, якія новыя пэрспэктывы і задачы ўстаюць перад намі ў сувязі з балянсам першых двух год пяцігодкі.

Вынікі выкананьня пяцігодкі ў 1928-29 г. агульна-вядомыя. Першы год пяцігодкі ўвойдзе ў гісторыю, як год вялікага пералому. Само сабой зразумела, што кожны год гаспадарчага разьвіцьця краіны пролетарскай дыктатуры поўны вялізарнага гістарычнага сэнсу і значэньня. Трэба, аднак, сказаць, што 1928-29 г. быў годам выключным, выдатным, годам вялікай праверкі пяцігадовага пляну, сапраўды пераломным годам. У 1928-29 годзе рабочая кляса пачала браць прыступам самыя глыбокія позыцыі капіталізму, якія караняцца ў дробна-таварным характары сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Ня гледзячы на вялізарныя цяжкасьці, зьвязаныя з энэргічным пераходам гаспадаркі на рэйкі соцыялістычнай рэконструкцыі, 1928-29 год даў у шэрагу рашаючых вучасткаў перавышэньне наметак пяцігодкі.

Рэзолюцыя лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) „аб контрольных лічбах народнае гаспадаркі на 1929-30 год" сьведчыць, што рост народнае гаспадаркі і яе соцыялістычнага сэктару суправаджаўся і быў у значнай ступені абумоўлены ростам творчай актыўнасьці шырачэзных мас рабочае клясы, што знайшло свой выраз у соцыялістычным спаборніцтве, разгортваньні самакрытыкі, правядзеньні „дню індустрыялізацыі", шырачэзнай падпісцы на пазыку індустралізацыі, значна перавысіўшай агульную суму выпуску пазыкі і г. д. Г. М. Кржыжаноўскі—дакладчык контрольных лічбаў на 1929-30 г. на 2-й сэсіі ЦВК СССР V скліканьня—так характарызуе асноўныя вывады, выплываючыя з ацэнкі выкананьня пяцігадовага пляну: „Мы сапраўды адчулі, што пасьля таго, як пяцігадовы плян быў агалошаны з высокай катэдры V Усесаюзнага Зьезду саветаў, за намі ўсталі нейкія асобыя сілы. Ён безакладна зьявіўся нейкім асабліва дзейнічаючым фактарам, фактарам паскараючым процэс нашага гаспадарчага росту. Сапраўды, нейкі паскаральнік умяшаўся ў увесь наш процэс, дзіўны паскаральнік, таму што, калі чужаземцы лічылі цудам, што мы не пабаяліся рызыкі выступіць перад усім сьветам з такім плянам, то яшчэ большае цуда, што гэты плян ня толькі выкананы, але з перавышэньнем" (артыкул у № 11 часопісі „Плановое Хозяйство" за 1929 г.).

Ітогі 1928-29 г. з выключнай яскравасьцю далі забойчую ацэнку разважаньням правых ухілістых аб нерэальнасьці, неажыцьцявімасьці і непасільнасьці вызначаных тэмпаў індустрыялізацыі: „Гэтыя ітогі мінулага гаспадарчага году поўнасьцю сьцьвердзілі правільнасьць усёй політыкі партыі і канчаткова давялі *банкруцтва* позыцый правых ухілістых (група т. Бухарына), якая зьяўляецца ні чым іншым, як выражэньнем націску дробна-буржуазнай стыхіі, панікай перад абвостранай клясавай

барацьбой, капітулянствам перад цяжкасьцямі соцыялістычнага будаўніцтва". (Рэзолюцыя лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) „аб контрольных лічбах народнае гаспадаркі на 1929-30 год“).

Пэрспэктывы 1929-30 году ператвораны ў кроў і плоць контрольных лічбаў. На аснове дасягнутых вынікаў першага году пяцігодкі і вызначаемых народна-гаспадарчым плянам пэрспэктыў на другі яе год, мы можам у сучасны момант меркаваць аб ходзе выкананьня пяцігадовага пляну.

Калі супаставіць аб'ём заданьняў, пастаўленых контрольнымі лічбамі на другі год пяцігодкі, з намёткамі пэрспэктыўнага пляну, то мы атрымаем такі малюнак, пачне з сельскае гаспадаркі: засеўная плошча саўгасаў і колгасаў па оптымальнаму варыянту пяцігодкі павінна была дасягнуць к канцу пяцігодзьдзя каля 18 проц. усёй засеўнай плошчы. У сувязі з гэтым пяцігадовы плян—толькі крыху больш паўгода таму назад выходзіў з таго, што „асноўным вытворцам сельска-гаспадарчай продукцыі (ня менш 70 проц. таварнай яе часткі) у канцы пяцігодкі, *пры самым пасьпяховым ходзе вызначанага аграмаджаньня* (курсіў наш—*А. Ш.*) зьявіцца індывідуальны сэктар сельскае гаспадаркі. Пытаньні харчовага забесьпячэньня краіны, экспорту, стварэньне базы сыравіны для прамысловасьці ў асноўным будуць вырашацца вытворчымі высілкамі бядняцка-серадняцкага масыву індывідуальных сялян“ (Пяцігадовы плян народна-гаспадарчага будаўніцтва СССР, т. I, стар. 89). Аналёгічны былі позыцыі ў гэтым пытаньні і пяцігадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі БССР.

Процэс соцыяльнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі адбываецца такім імпэтам, што зараз ужо нельга казаць толькі аб зьменах адных толькі колькасных паказальнікаў пяцігодкі ў галіне разьвіцьця процэсаў аграмаджаньня ў краіне. У выніку шырокага струменя колектывізацыі, мы маем *якасна* другую расстаноўку клясавых адносін у краіне, параўнальна з проэктаваньнямі пяцігадовага пляну. У гэтым уся сутнасьць вынікаў першых двух год пяцігодкі па лініі разгортваньня процэсу соцыяльнай рэконструкцыі ў сельскай гаспадарцы.

Возьмем паказальнікі, якія адносяцца да прамысловага сэктару нашае гаспадаркі. Тэмп індустрыялізацыі ў 1929-30 г. характарызуецца прыростам продукцыі на 32,1 проц. (супроць 21,5 проц. росту паводле пяцігадовага пляну), у тым ліку па галінах, вытвараючых сродкі вытворчасьці—на 45,1 проц. (супроць 26 проц. па пяцігодцы). Па аб'ёму гадавога заданьня ў галіне капітальных укладаньняў плянуемай прамысловасьці 1929-30 году амаль адпавядае ўзроўню, вызначанаму на чацьверты год пяцігодкі. У выніку капітальных укладаньняў у прамысловасьць за два гады, мы выканаем програму і трэцяга году ў разьмеры 40,5 проц. Абгон намётак оптымальнага варыянту пяцігадовага пляну ў адносінах капітальных укладаньняў вызначае значны рост капітальных укладаньняў у наступныя гады: у сілу ланцужнай залежнасьці адных галін пра-

мысловасьці ад другіх і разгортваньне новага будаўніцтва, не прадугледжанага пяцігодкай, наступныя гады пяцігодкі павінны будуць прынесьці яшчэ большае выпярэджваньне меркаваньням пэрспэктыўнага пляну. Само сабой зразумела, што ўзмацненьне матэрыяльна-тэхнічнай базы нашай прамысловасьці павінна будзе даць значнае перавышэньне намёткі пяцігодкі, і ў частцы так званых якасных паказальнікаў—продукцыйнасьць працы, зьніжэньне сабекошту і г. д. Ужо ў 1929-30 годзе ўздым продукцыйнасьці працы контрольнымі лічбамі Дзяржпляну Саюзу вызначаўся ў 25 проц. супроць 17 проц. вызначаных пяцігадовым плянам для другога году пяцігодкі. 1928-29 г. закончыўся з павялічэньнем продукцыйнасьці працы на 16 проц. Праўда, плян вызначаў рост на 17 проц., аднак, у гэтай галіне дасягнуты сур'ёзьнейшыя посьпехі і зусім слушна т. Сталін падкрэсьлівае вялізарнае прынцыповае значэньне гэтага дасягненьня. „Адным з самых важных фактаў,—піша т. Сталін,—калі ня самым важным фактам нашага будаўніцтва, за апошні год зьяўляецца той факт, што нам удалося дабіцца рашучага пералому ў галіне продукцыйнасьці працы. Пералом гэты выразіўся ў разгортваньні творчай ініцыятывы і магутнага працоўнага ўздыму мільённых мас рабочае клясы на фронце соцыялістычнага будаўніцтва. У гэтым наша першае і асноўнае дасягненьне за мінулы год“.

Успомнім, якое вялізарнае значэньне надаваў Ленін проблеме падвышэньня продукцыйнасьці працы.

„Продукцыйнасьць працы,—казаў Ленін,—гэта ў асноўным ліку самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу. Капіталізм стварыў продукцыйнасьць працы нябачную пры паншчыне. Капіталізм можа быць канчаткова пераможаны тым, што соцыялізм створыць новую, значна больш высокую продукцыйнасьць працы“. (Ленін, т. XVI, стар. 254). За мінулы і будучы год (за два гады), продукцыйнасьць працы ў прамысловасьці павялічылася на 44 проц., у той час, як прырост продукцыйнасьці працы ў ПАЗШ за трынаццацігадовы пэрыод (з 1914 па 1927 г.) складала толькі 40,8 проц.

Яшчэ больш відавочны малюнак адрыву фактычнага тэмпу разьвіцьця прамысловасьці ад проэктаваньняў пяцігадовага пляну мы маем у БССР. 1928-29 год даў прырост продукцыі на 43 проц. Паводле дапушчэньняў пяцігодкі, 1929-30 год павінен быў даць рост продукцыі толькі на 26%. Контрольныя лічбы на другі год пяцігодкі вызначылі прырост на 65,4 проц., г. зн. такі тэмп росту, які ня меў месца за ўвесь пэрыод разьвіцьця прамысловасьці БССР. Удакладнены прамысловы плян на 1929-30 год ужо проэктуе рост продукцыі на 77,5 проц. Аб'ём продукцыі рэспубліканскай прамысловасьці, вызначаецца ў 307 млн. руб. (у цэнах 1926-27 г.) і мала чым адстае ад таго аб'ёму, які быў вызначаны для 1930-31 г. Такім чынам, у выніку высілкаў двух год прамысловасьць выконвае ў частцы продукцыі трохгадовую програму пяцігадовага пляну. Па асобных галінах проэктаваньні за 1929-30 год выходзяць

далёка наперад ад намётак пяцігадовага пляну. Па мэталёапрацоўчай галіне прырост продукцыі ў бягучым годзе павінен складаць 68,8 проц. супроць 12 проц. росту вызначанага пяцігадовым плянам. Дрэваапрацоўчая галіна дае коэфіцыент у + 62,4 проц. супроць + 6,6 проц. у пяцігадовым пляне і г. д. і г. д. Прырост продукцыйнасьці працы па разьліках промфінпляну на 1929-30 год павінен скласьці 35,1 проц., а рост колькасьці рабочых на 31 проц. Мова гэтых лічбаў у выстарчальнай ступені красамоўная. І па лініі капітальных укладаньняў 1929-30 г. павінен выкрыць заметнае перавышэньне намётак пяцігадовага пляну—замест 35 млн. рублёў капітальных укладаньняў, запроэктаваных контрольнымі лічбамі на 1929-30 г., зараз прамплянам проэктуецца ўжо 52 млн. р.

Калі ўзяць капітальныя ўкладаньні аграмаджанага сэктару па Саюзу, то ўзровень прац, вызначаных на 1929-30 год мала адстае ад узроўню, вызначанага пяцігодкай для чацьвертага году пяцігодкі (мінус 7,4 проц.). Усяго за два гады капітальныя ўкладаньні ў аграмаджаны сэктар (у нязьменных цэнах 1926-27 г.) складаюць 17,1 млрд. руб. супроць 14,2 млрд. руб. паводле пяцігадовага пляну. Такім чынам, па тэмпу накапленьня ў народнай гаспадарцы, два гады пяцігодкі даюць выкананьне програмы ня толькі двух год, але і часткі програмы 1930-31 году.

Калі ўзяць, нарэшце, такі сумарны паказальнік, як рух народнага прыбытку, то вынікае, што тут мы маем рэзкі ўзрух ад тых вялічынь, якія былі запроэктаваны ў пяцігадовым пляне. 1929-30 г. у нязьменных цэнах павінен даць прырост народнага прыбытку больш чым на 20 проц. Гэтая адна лічба яскравей многіх статыстычных табліц, якія сьведчаць аб тым гіганцкім паскарэньні тэмпу разьвіцьця народнае гаспадаркі, якое мы маем параўнальна з вельмі оптымістычнымі разьлікамі пяцігадовага пляну ў гэтых адносінах. Ці трэба казаць аб тым, што такіх тэмпаў разьвіцьця ня бачыла ні адна капіталістычная краіна за ўсю сваю гісторыю. Па разьліках вядомага варожага нам экономістага С. Н. Пракаповіча, народны прыбытак на душу насельніцтва ПАЗШ да вайны складаў усяго толькі 1,2 проц., у Прусіі—0,2 проц., у Англіі—0,0 проц., а ў Францыі нават мінус 0,8 проц.

Досыць гэтых беглых лічбаў, каб адказаць на пытаньне, куды і як мы ідзем у сэнсе выкананьня пяцігадовага пляну. Ёсьць „прароцтвы“ і прароцтвы. Мы прыводзілі ўжо цытаты з пісаньняў буржуазных экономістых, якія ў вельмі цёмным сьвятле расцанілі пэрспэктывы нашага разьвіцьця.

А вось што казаў Ленін на XI партыйным зьезьдзе:

„Самкнуцца з сялянскай масай, з шэраговым працоўным сялянствам і пачаць рухацца наперад нязьмерна бясконца павальней, чым мы марылі, але за тое так, што сапраўды будзе рухацца ўся маса з намі. Тады і паскарэньне гэтага руху ў свой час наступіць такое, аб якім мы зараз і марыць ня можам“. (Стэнографічная справаздача XI зьезду РКП, стар. 13).

Прароцкія словы Леніна зьдзяйсьняюцца на нашых вачох. Мы сапраўды знаходзімся ў паласе вялізарнага паскарэньня тэмпаў нашага гаспадарчага разьвіцьця. Мінула ўсяго толькі паўгода з моманту зацьвярджэньня пяцігадовага пляну і за гэты пэрыод многія лічбы пяцігодкі належаць ужо мінуламу. Літаральна кожны дзень прыносіць нам істотнейшыя зьмены ставак пяцігадовага пляну.

Вось як зараз вырысоўваецца зьмена асноўных паказальнікаў на аснове перапрацаваных плянаў. Паводле „старога“ варыянту пяцігодкі агулавая продукцыя сельска-гаспадарчага машына-будаўніцтва павінна была выразіцца ў 610 млн. руб. Нанова перапрацаваны плян ужо называе 1.110 млн. рублёў, г. зн. на 64 проц. больш. Калі выработка каменнага вугалю к канцу пяцігодкі павінна была складаць 75 млн. тон супроць 35 млн. тон у 1927-28 годзе, то зараз проэктаваньне на канец пяцігодкі прыводзіць да велічыні 102,5 млн. тон. Здабыча нафты, вызначаная пяцігадовым плянам для 1932-33 году ў 21,7 млн. тон, зараз нанова перапрацаваным плянам павялічваецца да 40 млн. тон, г. зн. перавышае першапачатковыя меркаваньні пяцігодкі на 84 проц. Аб'ём вытворчасьці электратэхнічнай прамысловасьці вызначае да 1932-33 г.г. амаль у 2 млрд. рублёў (1.936 млн. руб.) у той час, як пяцігадовы плян проэктаваў 876 млн. рублёў. Вытворчасьць аўтомобіляй для 1932-33 году проэктуецца ў разьмеры 140 тысяч штук супроць 10 тысяч штук па пяцігадоваму пляну. Вытворчасьць комбайнаў была зусім не прадугледжана пяцігодкай, а зараз вызначаецца ў разьмеры 50 тысяч штук гадавой продукцыі.

Індустрыяльная сутнасьць пяцігадовага пляну характарызавалася паказальнікам вытворчасьці 10 млн. тон чыгуна, супроць 2,3 млн. тон у 1927-28 годзе. Зараз у сувязі з зьменай асноўных паказальнікаў пяцігадовага пляну вырысоўваецца неабходнасьць павялічэньня продукцыі па чыгуну ня менш чым да 17 млн. тон. Павялічэньне продукцыі чыгуну больш чым у 7 раз за пяцігодзьдзе ўяўляе сабой надзвычайна яскравую характарыстыку тэмпаў індустрыялізацыі СССР. Досыць сказаць, што для таго, каб узьняць вытворчасьць чыгуну менш як у 3 разы, ПАЗШ патрабавалася 19 год, а Нямеччыне—17-18 год.

Прыведзеныя лічбы, выразна характарызуючыя, якія істотныя зьмены ўносіць выкананьне пяцігадовага пляну ў самы пяцігадовы плян, могуць служыць толькі ў якасьці ілюстрацыйнага матэрыялу. Справа ў тым, што і гэтыя новыя лічбы яшчэ не зьяўляюцца апошнімі „фінішнымі“ паказальнікамі тых колькасных паправак, якія ўносяцца жыцьцём у проэктаваньне пяцігодкі.

Поэт Аляксандар Блёк бачыў, „жар халодных цыфр“. Калі сапраўды паглядзець, што хаваецца за бесстароннымі халоднымі лічбамі, то мы ўбачым вялічэзную, грандыёзную карціну пяцігодкі ў дзеяньні. Вялізарны, шматмільённы працоўны колектыў з рэволюцыйным тэмпэрамантам будуе новую соцыялістычную гаспадарку, бярэ з бою рашучую стаўку

пяцігадовага пляну. Мы перажываем такога роду пэрыод, які адчыняе новую паласу гістарычнага разьвіцьця чалавецтва, у параўнаньні з якой уся папярэдняя гісторыя будзе ні чым іншым, паводле слоў Маркса, як толькі „прадгісторыяй чалавецтва“.

III

Новы этап выкананьня пяцігодкі высувае шэраг надзвычайна складаных адказных задач гістарычнага значэньня.

Разьвіцьцё аграмаджаньня ў сельскай гаспадарцы шчыльна прывяло да задачы ліквідацыі кулацтва як клясы у нашай краіне. Тав. Я. Сталін, у сваёй прамове на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстых 27 сьнежня 1929 г.: такім чынам характарызуе проблему клясавых зрухаў у сучасны момант. „Характэрная рыса нашай працы за апошні год заключаецца ў тым, што мы, як партыя, як савецкая ўлада: а) разгарнулі наступленьне па ўсяму фронту супроць капіталістычных элемэнтаў вёскі і б) гэтае наступленьне дало і ня спыняе даваць, як вядома, вельмі адчувальныя, *станоўчыя* вынікі. Што гэта значыць? Гэта значыць, што ад політыкі абмежаваньня эксплёататарскіх тэндэнцый кулацтва мы перашлі да політыкі *ліквідацыі* кулацтва як клясы. Гэта значыць, што мы прарабілі і прадаўжаем рабіць адзін з рашаючых паваротаў ва ўсёй нашай політыцы“. І далей: „Цяпер мы маем магчымасьць павесьці рашучае наступленьне на кулацтва, зламіць яго супраціўленьне, ліквідаваць яго як клясу, і замяніць яго вытворчасьць вытворчасьцю колгасаў і саўгасаў. Цяпер раскулачваньне праводзіцца самімі бядняцка-серадняцкімі масамі, ажыцьцяўляючымі ўсьцяжную колектывізацыю. Цяпер раскулачваньне ў раёнах поўнай колектывізацыі ня ёсьць ужо простая адміністрацыйная мера, цяпер раскулачваньне ўяўляе там складаную частку ўтварэньня і разьвіцьця колгасаў“.

Процэс соцыяльнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі ставіць ва ўсёй паўнаце і проблему матэрыяльна-тэхнічнага ператварэньня сельскае гаспадаркі. Патрабаваньне сельскае гаспадаркі да прамысловасьці, у сувязі з пераходам яе на рэйкі буйнае аграмаджанае гаспадаркі, нязьмерна ўзмацняецца параўнальна з проэктаваньнямі пяцігадовага пляну. Мы стаім на рубяжы вялізарнага ўздыму вытворча-тэхнічнага ўзроўню сельскае гаспадаркі Саюзу. Яшчэ XV зьезд партыі адзначыў у сваіх пастановах аб неабходнасьці прадугледзець у пяцігадовым пляне найбольш шпаркага тэмпу разьвіцьця тых галін цяжкой індустрыі, якія садзейнічаюць ператварэньню сельскае гаспадаркі на аснове больш высокай тэхнікі і колектывізацыі гаспадаркі. У сучасны момант, канечнасьць такога разьвіцьця галін, вытвараючых сродкі вытворчасьці для сельскае гаспадаркі, становіцца асабліва і надзвычайна неадкладнай у сувязі з бурным разьвіцьцём процэсу аграмаджаньня сельска-гаспадарчае вытворчасьці. Выключная роля выпадае тут на той вучастак прамысловасьці,

які абслугоўвае электрыфікацыйныя патрэбы сельскае гаспадаркі. Шырокае ўнядрэньне электрыфікацыі ў працэсы сельска-гаспадарчае вытворчасьці стукае літаральна ў дзьверы. У прыватнасьці, вялізарная будучыня належыць так званай сельскай электрыфікацыі (у сучасны момант казаць аб *сельскай* электрыфікацыі можна толькі ў вельмі ўмоўным сэнсе), у нас у БССР, раёне інтэнсыўнага земляробства. Шлях арганізацыі сельскае гаспадаркі па тыпу агра-індустрыяльных комбінатаў, адкрывае шырачэзныя магчымасьці і пэрспэктывы ў справе скарыстаньня электрычнай сілы ў сельскай гаспадарцы БССР. Электрыфікацыя—вось зьвяно, за якое трэба ўхапіцца пры рэалізацыі програмы матэрыяльна-тэхнічнай рэконструкцыі сельска-гаспадарчае вытворчасьці.

Далей, умовы нашага разьвіцьця на надзвычайна большую вышыню ўзьнімаюць проблемы кадраў. У рэзолюцыі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) па дакладу т. Кагановіча, аб выкананьні пастаноў ліпеньскага пленуму ЦК аб падрыхтоўцы тэхнічных кадраў гаворыцца: „Гіганцкі размах соцыялістычнага будаўніцтва, ажыцьцяўленьне пяцігадовага пляну, які зьяўляецца практычным выражэньнем лёзунгу партыі „дагнаць і выперадзіць перадавыя капіталістычныя краіны“ і нарэшце, абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне ставяць перад партыяй ва ўсёй шырыні і вастрыні проблемы кадраў у рэконструкцыйны пэрыод. Недахоп у кваліфікаваных тэхнічных і кіруючых кадрах, існаваўшы ў працягу год, асабліва абвастрыўся ў сучасны пэрыод прамысловасьці, якая бурна разгортваецца, і соцыялістычнага перабудаваньня сельскае гаспадаркі. Мінулы год (фактычнае перавышэньне вызначаных пяцігадовым плянам тэмпаў гаспадарчага разьвіцьця, выкрыцьцё шэрагу новых шкодніцкіх спраў) ставяць з большай вастрынёй пытаньне аб усямерным форсаваньні і паляпшэньні справы падрыхтоўкі новых пролетарскіх спэцыялістых“.

Імпэтныя тэмпы народна-гаспадарчага соцыялістычнага разьвіцьця СССР ставяць ва ўсю шырыню проблему *генэральнага пляну*, конкрэтнага пляну пабудаваньня соцыялізму на аднэй шостай зямной кулі. Генэральны плян павінен даць контуры новай гістарычнай формацыі на шляхох да комуністычнага грамадзтва.

У сваёй гэніяльнай працы „Дзяржава і Рэволюцыя“ Ленін пісаў: „Экспропрыяцыя капіталістых дасьць *магчымасьць* гіганцкага разьвіцьця вытворчых сіл, і, бачучы, як цяпер ужо капіталізм непамерна *затрымлівае* гэтае разьвіцьцё, як многа можна было-б пасунуць наперад на аснове сучаснай ужо дасягнутай тэхнікі, мы ўправе з поўнай упэўненасьцю сказаць, што экспропрыяцыя капіталістых няўхільна дасьць гіганцкае разьвіцьцё вытворчых сіл чалавечага грамадзтва“. Толькі сьляпы можа ня бачыць вялічэзнага посьпеху рэволюцыйнай тэорыі Маркса—Леніна.

На нашых вачох зараз разгортваецца спустошальны крызіс у ПАЗШ, які зьяўляецца вырашэньнем супярэчнасьцяй, якія накапіліся ў капіталістычнай краіне. Пэрыод „росквіту“ заканчваецца. Наўпрэкі ідэолёгіі

„арганізаванага капіталізму“ навочная практыка ПАЗШ яшчэ раз і яшчэ раз сьцьвярджае старую марксыцкую ісьціну, што капіталізм ня стане разьвівацца бяз крызісу і што ён непамерна затрымлівае разьвіцьцё вытворчых сіл. Трэба толькі проціпаставіць пяцігодку ў дзеяньні і капіталізм у дзеяньні, каб пераканацца ў тым, наколькі рацыяналістычнае кіраўніцтва народнай гаспадаркай стварае перавагу перад капіталістычнай сыстэмай. Яшчэ Энгельс у „Антыдзюрынгу“ пісаў, што вызваленьне сродкаў вытворчасьці ад капіталістычных акоў зьяўляецца адзінай папярэдняй умовай беспарыўнага прогрэсыўнага разьвіцьця, якое ўсё паскараецца, вытворчых сіл, а значыцца, на практыцы, ва ўмовах бязьмежнага ўзрастаньня самое вытворчасьці“.

Мы ў пачатку артыкулу прыводзілі погляды шэрагу буржуазных экономістых, якія адмаўлялі перавагі савецкай сыстэмы гаспадаркі над капіталістычнай.

Толькі буржуазная абмежаванасьць магла зьявіцца крыніцай такога роду сьцьвярджэньняў. Пяцігодка ў дзеяньні—навочны прадметны вурок усім тым, хто не разумеў і не разумее сакрэту нашых высокіх тэмпаў разьвіцьця, хто за об'ектыўнымі цяжкасьцямі і непарадкамі ў нашым вялікім гаспадарчым організьме, ня бачыць і не адчувае подыху нараджэньня новай гістарычнай формацыі, якая павінна перамагчы, бо перамога новага грамадзкага ладу абумоўлена выключна шпаркім тэмпам разьвіцьця вытворчых сіл.

Пяцігодка ў дзеяньні разьбівае ўшчэнт шматлікія тэорыі з прычыны „вузкіх месц“, „значэньне пляну“ і г. д.

Пяцігодка ў дзеяньні—добрая люстрацыя словам, сказаным Ленінымі яшчэ ў 1918 г., што „соцыялізм ня толькі не пагашае спаборніцтва, а, наадварот, упяршыню стварае магчымасьць ужыць яго сапраўды шырока, сапраўды ў масавым разьмеры, уцягнуць сапраўды большасьць працоўных на арэну такой работы, дзе яны могуць праявіць сябе, разгарнуць свае здольнасьці, выкрыць таленты, якіх у народзе непачатая крыніца, і якія капіталізм мяў, давіў, душыў, тысячамі і мільёнамі“.

„Таямніца“ пасьпяховасьці выкананьня пяцігодкі заключаецца ў тым простым факце, што яе ажыцьцяўляюць шматмільённыя працоўныя масы, вызваленыя ад уціску эксплёатацыі. Апэляцыя да творчых сіл рабочае клясы чырвонаю ніткаю праходзіла праз усё пабудаваньне пяцігодкі, атрымала магутны водгук у краіне.

Масы будуюць соцыялізм—вось паказальны вынік насычанай найбагацейшым зьместам вялічэзнай карціны пяцігодкі ў дзеяньні.

# ТВОРЧЫ ШЛЯХ АЛЕСЯ ГУРЛО

*(Да 20-годзьдзя яго літаратурнай дзейнасьці)*

**Проф. М. Піотуховіч**

За 20 год сваёй літаратурнай дзейнасьці Алесь Гурло прайшоў значны жыцьцёвы і творчы шлях.

Нарадзіўся поэта ў 1892 годзе ў мастэчку Капылі. Бацька яго, у час сваёй вайсковай службы, скончыўшы фэльчарскую школу, апроч земляробства, займаўся яшчэ і прыватнай практыкай па вэтэрынарыі. Асьвету Алесь Гурло атрымаў у двох-клясавай вясковай школе; па сканчэньні яе ён застаўся ў Капылі і займаўся земляробскай працай; кожную вольную ад працы хвіліну імкнуўся будучы поэта выкарыстаць дзеля сваёй самаадукацыі, займаючыся чытаньнем кніжок і газэт. У 1909 годзе ім у рэдакцыю „Нашай Нівы“ быў пасланы прозаічны твор „Лясун“, які прадстаўляе сабой першую друкаваную спробу пісьменьніка; у далейшым ён пакідае вопыты мастацкай прозы і пераходзіць выключна на лірычныя вершы.

Яшчэ ў час свайго жыцьця ў Капылі Алесь Гурло зьвязваецца з рэволюцыйным рабочым рухам; ён прымае ўдзел у мясцовай соцыял-дэмократычнай організацыі, супрацоўнічае ў гэктаграфічна-рукапісных часопісах, якія ёй выдаваліся („Голос низа“, „Заря“, „Наша думка“). Вельмі рана Гурло пачынае задумляцца над проблемамі роднай мовы, жыва цікавіцца нацыянальным пытаньнем наогул.

У 1911 годзе А. Гурло пераяжджае ў Пецярбург і пачынае працаваць у якасьці рабочага на заводзе „Вулкан“. З 1913 году ён знаходзіўся на вайсковай службе, якая заставіла пасьля сябе ў п эты вельмі смутныя ўспаміны. Па яго словах, гэта служба „ня толькі не давала магчымасьці інтэлектуальнага разьвіцьця, але не давала магчымасьці і адчуваць сябе чалавекам. Штодзенныя ад ранку да вечара муштры, штодзенная чорная работа ў казарме і на кухні, пакорнасьць раба перад вялікім і малым начальствам,—усё гэта так ці іначай адбірала час і адварочвала ад працы над сабой. Са страявой вайсковай службы Алесь Гурло трапляе ў ваенна-морскую машынную школу; гэту школу ён канчае ў 1915 годзе і пападае на эскадронны мінаносец „Забіяка“. У час Кастрычнікавай рэволюцыі Алесь Гурло прымае непасрэдны ўдзел у рэволюцыйнай барацьбе; на мінаносцы „Забіяка“, які быў пасланы ў Петраград, Алесь Гурло са зброяй у руках вядзе барацьбу за перамогу Кастрычніка.



**АЛЕСЬ ГУРЛО**
**(Да дваццацігодзьдзя літаратурнай дзейнасьці)**

У пачатку 1918 году пісьменьнік прымае актыўны ўдзел у грамадзянскай вайне на Волзе, дзе ён атрымоўвае цяжкое раненьне. У 1921 годзе Алесь Гурло, згодна загаду Наркамасьветы БССР, пераяжджае ў Менск; тут ён працуе спачатку ў рэдакцыі газэты „Савецкая Беларусь", а потым з 1926 году—у Інстытуце Беларускай Культуры і нарэшце ў Беларускай Акадэміі Навук.

Муза поэты ўважліва прыслухоўвалася да рознастайнага рокату бурных жыцьцёвых хваляў; творчасьць песьняра ўпітвала ў сябе іх разнагучныя мэлёдыі; у пясьнярскай сымфоніі Алеся Гурло чуюцца ціхія ноты смутку і скаргі, адначасна гучаць у ёй настроі бадзёрасьці і надзеі, нарэшце, у гэтай сымфоніі грахочуць громы і пяруны барацьбы.

У нашаніўскі пэрыяд Алесь Гурло выступае, як выразны прадстаўнік сялянскіх мас, падкрэсьліваючы пры гэтым асаблівую сваю сымпатыю для бядняцкіх пластоў сялянства. У яго лірыцы абмалёўваецца вобраз беззямельнага селяніна, які мае вялікую ахвоту да працы, але прымушан згінацца пад цяжарам капіталістычнага ладу. У вершы „Беззямельнік", які напісан у 1910 годзе, мы чытаем:

Да работы ёсьць ахвота,
Сіла маю—хоць адбаў:
Ад цямноты да цямноты
Я-бы рупна працаваў.
Каб мець плуга, коняй цугам
Я-б пусьціў па цаліне,
І ўсе недругі і другі
Пазайздросьцілі-бы мне.

Другі вобраз, які з замілаваньнем абмалёўвае поэта, гэта вобраз малазямельнага селяніна: ніва вузкая, як стужка; „ні каняткі, ні зярняткі" а паміж тым трэба карміць вялікую сям'ю—гэткія і падобныя да іх рысы бядняцкага сялянскага жыцьця маляўніча занатоўвае поэта ў сваіх вершах („Нядоля" 1911 г.).

Побач з вобразамі беззямельнага і малазямельнага селяніна ў раньняй поэзіі Гурло выступаюць і іншыя соцыяльна-кантрастныя вобразы: ён малюе панскую раскошу, у яго вершах падаюцца вобразы соцыяльных трутняў, якія

І ня сеюць і ня жнуць,—
ім ўсё сьвята, хоць і будзень,
А нам некалі ўздыхнуць

*(На пашні. 1911 год).*

Так ужо ў раньні пэрыяд сваёй творчасьці Алесь Гурло ўскрывае соцыяльныя супярэчнасьці, якія разьядалі дарэволюцыйную вёску. Але з бядняцкімі пластамі сялянства Алесь Гурло зьвязаны ня толькі тэматычна,—з імі ён зьвязан і ўсім ладам свайго поэтычнага сьветаадчуваньня. Творчасьць Гурло прасякае ў даны момант чыста сялянскі індывідуалізм; у яго выяўляецца прывязанасьць да ўласнага кута. Поэта

імкнецца агаляць раны свайго маладога сэрца, у яго вершах нярэдка чуюцца скаргі на сіроцкую долю:

Дзе ты доля, дзе ты доля?
Сіратою я жыву,
Цяжка ў хаце, нудна ў полі,
Думкі кружаць галаву.

*(Дзе ты доля... 1911 год).*

Часам гэтыя скаргі пераходзяць у хваравіты енк; поэта жаліцца на жыцьцё наогул; ён гаворыць:

І агорк, як у турме,
Час жыцьця бяз долі,
І штодзень думак цень
Цісьне дух да болі.

Пясьняр параўноўвае сябе з зязюляй: ён бязродны, бяздольны, ня ведае, дзе сям'я („Бязродныя" 1911 г.). Усім сваім цяжарам навальваецца на песьняра соцыяльна-політычная рэакцыя, якая наступіла ўсьлед за рэволюцыяй 1905-6 г. Поэту абхапляе вялікі смутак, ён задумляецца над рознымі пытаньнямі чалавечага жыцьця: адкуль зло ў сьвеце, чаму столькі пакутаў на зямлі:

Бадзёры сёньня я, а заўтра—як труха:
Хваробы, голад, мор—няшчасныя здарэньні
Гарою валяцца, аж лопае цярпеньне;
Ў вялікім сьвеце я—нікчэмная блыха.

Сялянская існасьць поэзіі Алеся Гурло выяўляецца і ў тым, што ён ад сумнай рэчаіснасьці вельмі часта робіць уцёкі на матчынае ўлоньне ціхай і супакойнай *вясковай* прыроды. Побач з гэтым шмат увагі ён аддае мотывам каханьня; у яго творчасьці да пэўнай ступені зьяўляюцца некаторыя налёты эстэтызму. Але Алесь Гурло не паддаецца акончальна суму і эстэтызму, ня гледзячы на ўплывы цяжкой соцыяльна-політычняй рэакцыі. Побач са скаргамі ў яго вершах чуюцца і мажорныя ноты бадзёрасьці; у яго выяўляецца сузнаньне моцы, якая пераможа бесчасоўе, ён прадчувае лепшую будучыню, ім зазначаецца:

*Быць хачу і буду вольным*—
Гэтак кажа маё сэрца.

*(Хмары думкі, 1910 год).*

У вусны беззямельнага селяніна поэта ўкладвае бадзёрыя словы:

Долю брыдку, як ракітку,
*Буду сілай* дабівацьь.

У часы рэакцыі поэзія Алеся Гурло выконвала пэўную соцыяльную функцыю: яна імкнулася ўліць надзеі і энэргію ў сэрцы прыгнечаных; да іх песьняр, напрыклад, зварачаецца з такім бадзёрым заклікам:

Ня тужы, бядача,
Што сямейка плача,
Стогне, уздыхае,
Што шмат гора мае...
Гора яе душыць,
Гора яе сушыць.

Ня тужы, гаротны!
З хвіляй пералётнай
Гэта ўсё праміне,
Ў вечнасьці загіне.
Прахам ад нас пойдзе,
*І мы шчасьце знойдзем,*
Эх, тады ў нас, браце.
Болей сілы хваціць
Для змаганьня з злою
Крыўдай і нудою.

*(„Ня тужы", 1912).*

Поэта яскрава ўсьведамляе такую соцыяльную функцыю сваёй творчасьці; ён сваёй песьні ставіць мэту ўздымаць настроі барацьбы, сьпяваць аб тым, „каб прайшоў прыгон і зьдзек, каб жыў вольны чалавек".

Ночь рэакцыі абступала з усіх бакоў і душыла ўсё жывое; здавалася, зусім ужо пагасалі агні надзеі; шмат хто надламіўся, упадаў у роспач, паддаваўся містычным настроям. У гэты сумны час Алесь Гурло падае бадзёры голас, ён заклікае ня пужацца цемры, якая агортвала з усіх бакоў, не гасіць надзеі:

Не гасіце агнёў! хай гараць весялей,
Хай пылаюць іскрыста ў цьме ночы...
Не гасіце агнёў! хай праменьні ясьней
Асьвятляюць праспаныя вочы!
Не гасіце, бо досыць ўжо цьме панаваць,
Няхай полымя зыркае ўецца,
Ўжо дарогу ад цемры пара асьвятляць,
Ўдаль туман ужо рэдкі нясецца.

*(„Не гасіце агнёў", 1910).*

Крыніцай такой узьнятай бадзёрасьці песьняра бясспрэчна зьяўлялася глыбокая і органічная сувязь яго з шырокімі працоўнымі масамі.

У час царызма, такім чынам, поэзія Алеся Гурло адыгрывала з большага дадатнюю ролю; яна адбужала сьвядомасьць прыгнечаных пластоў грамадзянства, выклікала ў іх пачуцьцё бадзёрасьці, упэўненасьці ў будучым, давала зарадку дзеля барацьбы, організоўвала сьвядомасьць у напрамку змаганьня.

Наступіла імпэрыялістычная вайна; крывавыя зданьні агортвалі з усіх бакоў; малоху вайны прыносіліся гэкатомбы людзкіх ахвяр. Поэта ў гэты час кажа:

Наўкола льлецца кроў,
Наўкол людзкія цені.
Як-бы сшалелы, я ня знаю што рабіць.
А сонцэ кідае крывавыя праменьні.
Куды ісьці?..

Але гэта цяжкое задумленьне, якое на момант абхапіла поэту, разьвязваецца ў яго бадзёрым воклічам:

Я вольна хачу жыць.

*(„Я вольна жыць хачу", 1915).*

Жаданьні поэты зьдзейсьніліся. Кастрычнікавая рэволюцыя прынесла з сабой гэта вольнае жыцьцё, аб якім пясьняр марыў у часы рэакцыі і імпэрыялістычнай бойні. Ужо з першых дзён Кастрычнікавай рэволюцыі Алесь Гурло адчувае пульс новага жыцьця; ён бачыць, што над Беларусьсю ўзьнялася сьветлая зара новай долі: жахі-зданьні прошласьці адыйшлі ў нябыт.

Поэта заклікае сьпяваць новыя песьні; ён кажа:

> Замест хаты строй палацы
> Новых дзён шчасьлівых...
>
> *(„Бацькаўшчына“, 1921).*

Але гэта шчасьце выступае ў Алеся Гурло ў аспэкце яго сялянскае псыхолёгіі. Мэта-імкнёнасьць сялянства, як дробнай буржуазіі выяўляецца цяпер асабліва яскрава ў тых вобразах, якія рысуе поэта. Постаці безьзямельнага і малазямельнага селяніна зьмяняюцца цяпер іншым вобразам сытага і задаволенага селяніна. Пры гэтым гэтае задавальненьне мысьліцца ў рамках індывідуальнай гаспадаркі:

> У хаце чыста, бо мяцёлка
> Мая чысьценька мяце.
> У хляве кароўка, цёлка,
> І вунь сьвінка у куце.
> А мой конік аж ласьніцца,
> А хамуцік, а гужы.
>
> *(„Селянін“, 1921).*

Гэткія і падобныя да іх вобразы паказваюць, што поэта сялянскі дабрабыт у першыя гады Кастрычнікавай рэволюцыі мысьліў у рамках індывідуальнай гаспадаркі. Ён выяўляе асаблівае замілаваньне да сялянскага жыцьця. Яго ўвага прыкута да малюнкаў роднага побыта. Напрыклад, у вершы „Начлег“ (1921 год) пясьняр імкнецца абмаляваць поэтычны бок сялянскага жыцьця: сон у лузе, жарты з дзяўчынай, начлежныя вогнішчы, сьпевы навокал іх пад ціхі шум леса, пад далёкае ржаньне каня—усё гэтыя маляўнічыя рысы вясковага побыту схоплены ў кароткім абразку і агорнуты асаблівым замілаваньнем да вёскі. Поэта, як-бы зачараваны гэтай поэзіяй, якая ўсплыла ў яго ўспамінах, і ён з шчырым захапленьнем кажа: ці ёсьць лепшае раздольле, як начлег? („Начлег“, 1921).

Так у першыя гады Кастрычнікавай рэволюцыі ў Алеся Гурло выяўляецца чыста сялянская эмоцыянальнасьць. У яго заўважваецца ўсхваленьне свайго кута, прывязанасьць і, нават, поэтызацыя яго. Адначасна ў поэты назіраюцца пэўныя ўцёкі ад гораду, няпрыхільныя адносіны да яго. У горадзе шэрыя будоўлі засланяюць сонца. Там поэта пераважна бачыць социяльныя кантрасты: беднасьць, гандаль целам і, з другога боку,—раскоша і задавальненьне. Поэту абхапляе сум па ласкаваму сонцу, яго вабіць да сябе прывольле палёў, абшары ніў; ён успрыймае шум залатога жніва. Яго верш „Горад“ пабудаваны на кантрастах: гарадзкое

жыцьцё—шэрае, нуднае, прыціснутае камяніцамі; вясковая—поўнае поэзіі і задавальненьня. Адсюль у песьняра ўцёкі ад гарадзкога шума на ўлоньне вясковай прыроды. („Горад, 1921)“.

Так было ў першыя гады Кастрычнікавай рэволюцыі; поэта выяўляў у гэтую пару асабліва моцную сувязь з сялянскай псыхоідэолёгіяй.

Але ў далейшым, на рубяжы 1922-1923 гадоў намячаецца ўжо некаторы пералом у самасьвядомасьці поэты; у 1923 годзе ён робіць прызнаньне: „Я загартован—цяпер я знаю, куды ісьці“. Гэты ўсьвядомлены поэтай шлях прыводзіць яго да горада; гарадзкая стыхія пакрысе падпарадквае сябе песьняра; побач з сялянскімі мотывамі на яго ліры пачынаюць гучэць мотывы урбаністычныя, у поле яго зроку паступова ўжо ўваходзіць фабрыка і завод. Цяпер поэта замест звонаў касы падслухоўвае ўжо новыя звоны працы; ён кажа:

> У бегу дзён я чую звон,
> Машынны звон, стальны.

У досыць сакавітах фарбах поэта абмалёўвае цяпер жыцьцё завода з яго шумам калёс, мігаценьнем рамнёў, сьвістам пасаў. Ён прызнаецца

> Мяне кліча ў завод паравік,
> Мяне вабяць машынныя гукі.

Усё больш і больш падпарадкваецца поэта гэтым машынным гукам, у іх рытме ён схапляе новую музыку пераможнай колектыўнай працы. Пераліўныя рытмы фабрычных гудкоў гіпнатызуюць поэту, і ён з захапленьнем зазначае:

> Люблю я фабрык пераклічку,
> Іх раньні гук—
> Вядома працы мне прывычка,
> Мазольнасьць рук.

Побач у поэты ўсё больш і больш узмацняецца чыста рэволюцыйная канцэпцыя жыцьця; у нашаніўскія часы над ім у пэўнай меры панавалі настроі сялянскай ідыльлічнасьці, выяўлялася захапленьне супакойнай поэзіяй вясковых садочкаў з іх цішынёй і нярухавасьцю. Цяпер поэта ўжо інакш усьведамляе проблему чалавечага існаваньня.

Ён кажа:

> Жыцьцё—гэта мора,
> Яно—барацьба.
> Спрыяе змаганцу і сонца і неба,
> Яму незнаёмы нядужнасьць, хвароба.

Такой канцэпцыі жыцьця адпавядае марынізм поэты. Малюнкі мора займаюць у яго вершах асобнае месца; цыкль „Гоман мора“ працярэблівае самастойную каляіну ў пэйзажнай беларускай лірыцы, ён уносіць новыя мотывы ў беларускую поэзію наогул. Малюнкі мора ў Алеся Гурло вызначаюцца вялікай разнастайнасьцю. Ведае поэта ласкавае і супакойнае мора: у бязьмежнай шырыні разгарнаецца яно пад гарачымі прамень-

нямі сонца, само песьціцца і песьціць зрок чалавека. Але больш да спадобы песьняру іншы малюнак мора, калі яно ў час буры ўздымае свае пеністыя валы, шуміць і ракоча, як-бы на каго злуецца. Пераважна поэзіяй смутку і ўспамінаў агорнуты ў Гурло марскія пэйзажы, створаныя ў дарэволюцыйныя часы. Наадварот, у часы пасьлярэволюцыйныя гэтыя пэйзажы эмоцыянальна афарбаваны ў іншыя настроі, яны прасякнуты бадзёрасьцю, сузнаньнем улады нават над стыхіяй. Поэта з бадзёрым уздымам гавора:

Плыць хачу я к сьветлай далі
На чаўне пад парусамі
І сачыць, як плешчуць хвалі,
Расплятаюцца касамі;

Пад іх спрэчную гамонку
Я спрачацца хачу з бурай,
З песьняй вольнай, з песьняй звонкай,
Гору справіўшы хаўтуры...

Хібы я ня князь ўладарны
Над жыцьцём і над стыхіяй...

Усьведамляючы жыцьцё і прыроду, як арэну барацьбы, поэта адначасна выразна прадумвае мэты гэтай барацьбы. Ён асазнае, што такімі мэтамі зьяўляецца будаўніцтва новага ладу на камуністычных прынцыпах. Вышэйшая задача барацьбы, на думку паэты, гэта—выканаць „загад комуны". Верш пад гэтай назвай абмаўлёўвае пераможны ўздым працоўных: рвуцца аковы традыцый, жыцьцё напоўнена новым сэнсам, вышэйшая мэта гэтага жыцьця споўніць „загад комуны".

Бадзёры оптымізм усё больш і больш перамагае цяпер у творчасьці Алеся Гурло; сум, цяжкія задумленьні адыходзяць, як змрочныя цені, ў прошласьць. Поэта поўны радасьці, ён ня верыць, што жыцьцёвы пал можа астыць; ён зазначае:

І дарэмна кажуць, што жыцьцё астыне,
Мне яно здаецца вечна маладым.

Адсутнасьць упадніцкіх настрояў, бязгрунтоўнага ныцьця надае поэзіі Гурло яскрава юнацкія фарбы. І калі без пары састарыўшыяся юнакі зацягнулі ў беларускай поэзіі свае нудныя песьні, Гурло адзін з першых абурыўся супроць гэтых павеваў упадніцтва ў беларускай літаратуры. Напрыклад, „Апошняя песьня" Дубоўкі выклікала ў Гурло адказ, поўны жыцьцярадаснай бадзёрасьці. У сваім вершы „У. Дубоўку і А. Вольнаму" пясьняр гавора:

Вы не сьпявайце апошняй песьні,
Калі і першых яшчэ ня шмат,
Вы ня губеце шляхоў прадвесьні
Затым, што ў сэрцы пяе зіма.
Вясна і лета, вясна і восень
Жыцьцё ня могуць заліць смугой.

У пасьлякастрычнікавы пэрыод поэта не адразу, але паступова і ўпарта, крок за крокам, перамагае сялянскую абмежаванасьць і ўсё больш і больш набліжаецца да горада і пролетарыята. „Песьня малатоў“ у яго вершах усё больш і больш заглушае сялянскія настроі. У пэўных сваіх момантах поэзія Гурло ажыцьцяўляе змычку бядняцкага сялянства з гарадзкім пролетарыятам. Праўда, у гэтай поэзіі няма яшчэ поўнай перамогі пролетарскай ідэолёгіі; у ёй яшчэ адчуваюцца пэўныя налёты сялянскага індывідуалізму. Але ў вялікім полымі Кастрычніка пянькі гэтага індывідуалізму ўжо значна абгарэлі. Уся папярэдняя творчасьць Алеся Гурло служа парукай таго, што процэс соцыялістычнага будаўніцтва канчальна выкарчуе гэтыя ўжо абгарэўшыя пянькі, і песьняр можа яшчэ больш сьціслa падыйсьці да сучаснасьці і даць творы цалкам сугучныя нашай эпосе.

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ СТЫЛІ ПРОЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Я. Сякерская**

Пролетарская літаратура ўсяго Савецкага Саюзу і ў тым ліку Савецкай Беларусі ўступіла ў той пэрыод свайго разьвіцьця, калі з усёй вастрынёй паўстала пытаньне аб шляхох і задачах далейшага разьвіцьця пролетарскай літаратуры, больш дакладна—пытаньне аб новым стылі пролетарскай літаратуры, г. зн. аб такім разуменьні зьместу пролетарскай літаратуры, калі сам гэты зьмест можа быць пролетарскім, знайшоўшы толькі адэкватную сабе пролетарскую форму.

Пытаньне-ж аб тым, што робіць пролетарскім сам зьмест нашай літаратуры і якую форму павінен мець гэты зьмест, каб быць пролетарскім, можна зразумець і вырашыць толькі ў цясьнейшай сувязі з правільным разуменьнем адносін пролетарскага пісьменьніка да рэчаіснасьці, якая падаецца ў яго творчасьці.

Такім чынам, пытаньне аб стылі пролетарскай літаратуры, аб еднасьці яе зьместу і формы, гэта ў шырокім сэнсе слова таксама і проблема мастацкага мэтоду пролетарскай літаратуры, г. зн. пытаньне тых ці іншых адносін пролетарскага пісьменьніка да рэчаіснасьці, бо ў залежнасьці ад таго, чым зьяўляецца сама рэчаіснасьць для пісьменьніка, што і як ён у ёй бачыць, у далейшым вызначае сам зьмест і форму яго творчасьці.

У нашым артыкуле мы спынімся, галоўным чынам, на пытаньні аб адносінах пролетарскага пісьменьніка да нашай рэчаіснасьці і на значэньні і ролі гэтага пытаньня ў стварэньні стылю пролетарскай літаратуры.

Зразумела, проблема стылю пролетарскай літаратуры зьяўляецца ня толькі проблемай сёнешняга дня, але ў сувязі з сучаснымі этапамі экономічнага і політычнага разьвіцьця Савецкага Саюзу гэтая проблема набывае асаблівую політычную, а ня вузка літаратурную вастрыню і актуальнасьць.

Надзвычай шпаркі тэмп *соцыялістычнай* індустрыялізацыі краіны, соцыялістычнай перапробкі гораду і вёскі, зьяўляецца ў той-жа час найбольш вострай і радыкальнай формай экономічнага і політычнага наступленьня на клясавага ворага як ў горадзе, так і ў вёсцы.

Таму ясна павінна быць для ўсякага, хто ня згубіў здаровага політычнага чуцьця ў праваўхілісцкіх хістаньнях, што соцыялістычнае

будаўніцтва нашай краіны не зьяўляецца толькі мірным пэрыодам і ўрастаньнем кулака ў соцыялізм, а пералом, які прынёс абвастрэньне клясавай барацьбы на ўсіх франтох нашага будаўніцтва і ў тым ліку на літаратурным фронце (Пільняк, Замяцін).

Соцыялістычныя элемэнты ў нашай краіне растуць і ўзмацняюцца, але разам з імі пакуль што расьце і абвастраецца клясавая барацьба, супярэчліва, дыялектычна, але гэта факт.

Шпаркі тэмп соцыялістычнага будаўніцтва, які адбываецца побач з абвастрэньнем клясавае барацьбы, з усёй актуальнасьцю і іменна цяпер высувае *дзьве асноўныя задачы* на фронце нашай культурнай рэволюцыі і ў прыватнасьці, на фронце пролетарскай літаратуры.

Па-першае, шпаркі рост соцыялістычнага будаўніцтва ня можа адбыцца без такой-жа шпаркай рэволюцыйнай ломкі і пераборкі старых ідэалістычных перажыткаў старога быту, традыцый як у самой рабочай клясе, так і перш за ўсё сярод сялянства. У артыкуле аб коопэрацыі Ленін пісаў, што коопэраваньне сялянства немагчыма бяз культурнай рэволюцыі. „Пры ўмове поўнага коопэраваньня мы-б ужо сталі абедзьвюма нагамі на соцыялістычнай глебе. Але гэтая ўмова поўнага коопэраваньня ўключае ў сябе такую культурнасьць сялянства (іменна сялянства, як вялізарнай масы), *што гэтае поўнае коопэраваньне немагчыма бяз цэлай культурнай рэволюцыі*" (т. XVIII, ч. 2-я, стар. 145). Для соцыялістычнага будаўніцтва патрэбен новы чалавек—для соцыялістычнага будаўніцтва патрэбна, каб нашы пролетарскія ідэолёгіі (а ў тым ліку і літаратура) ня толькі адбівалі тое, што ёсьць, але і актыўна сваёй творчасьцю зьмянялі і нашу рэчаіснасьць з пункту гледжаньня задач і інтарэсаў соцыялістычнага грамадзтва, якое будуецца. Таксама як пры пераходзе ад аднаўленчага пэрыоду да рэконструкцыйнага, пытаньне аб *тэмпе* індустрыялізацыі ставілася генэральнай лініяй партыі, як пытаньне *асноўнае*, як пытаньне жыцьця ці сьмерці нашага Саюзу, так у сувязі з гэтым цяпер—пытаньне аб тэмпе ідэолёгічнай культурнай пераробкі нашай краіны, і ў прыватнасьці, сялянства, у бок пролетарскай, соцыялістычнай культуры—зьяўляецца адным з кардынальнейшых палітычных пытаньняў, вызначаючых пасьпяховасьць нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў цэлым. Таму трэба з усёй рэзкасьцю выступіць супроць усякага роду хвасьцісцкіх і опортуністычных галасоў, у асаблівасьці, калі яны раздаюцца з шэрагаў самой партыі, што быццам асноўнае-ж у экономіцы, і раз мы будуем соцыялістычную экономіку, то ўсякія там пролетарскія ідэолёгі і культуры прыдуць самі сабой. Але на такога роду опортуністычнае разуменьне задач нашай пролетарскай соцыялістычнай культуры можна было-б адказаць словамі Леніна, якія ён вельмі часта паўтараў, што „той рэволюцыянэр, які ня хоча адставаць, павінен умець забягаць наперад". Аб гэтых словах Уладзімера Ільліча ў нас вельмі часта, на вялікі жаль, ці забываюць, ці не разумеюць іх вялізарнага значэньня для нашага пэрыоду соцыялістычнага будаўніцтва і зьвя-

занай з ім культурнай рэволюцыі. Новы соцыялістычны чалавек, як і новая пролетарская культура ня родзяцца гатовенькімі: іх трэба стварыць, выхаваць—а гэта можна зрабіць толькі ў вострай барацьбе з усімі перажыткамі, традыцыямі і коснасьцю старога жыцьця, якое цісьне, у тым ліку і на пролетарыят.

Але задача стварэньня пролетарскай, і ў той-жа час соцыялістычнай культуры (пролетарская культура не агарожана кітайскім мурам ад соцыялістычнай у працэсе змаганьня, у працэсе росту адна пераходзіць у другую), задача стварэньня новага чалавека, задача культурнай пераробкі сялянства, для нас гэта ня пытаньне *гістарычнай пэрспэктывы*, а задача *сёньнешняга дню*, асабліва актуальная і палітычная задача.

У рэволюцыйнай пераробцы ўсяго нашага жыцьця бязумоўна вялізарная роля належыць пролетарскай літаратуры, як аднаму з найбольш магутных, жывых, падважнікаў культурнай рэволюцыі. Таму, з такой вастрынёй, іменна цяпер у рэконструкцыйны пэрыод перад пролетарскай літаратурай, як ніколі, глыбока і шырока стаіць пытаньне аб тым, *як, якім спосабам* уяўляе сабе пролетарскі пісьменьнік свае адносіны да нашай рэчаіснасьці і ў сувязі з гэтым як ён у сваёй творчасьці будзе адбіваць гэтую рэчаіснасьць, адначасна вазьдзейнічаючы на яе сваёй творчасьцю. А пытаньне аб тым, як пролетарскі пісьменьнік павінен адносіцца да нашай рэчаіснасьці і ў якой форме адбіваць і выражаць яе, зьяўляецца іменна ў самым шырокім сэнсе слова пытаньнем стылю пролетарскай літаратуры.

Па-другое, таксама як і само соцыялістычнае будаўніцтва, растучае побач з узмацненьнем клясавай барацьбы, так і разьвіцьцё пролетарскай літаратуры ня можа адбывацца бяз вострай клясавай барацьбы ўнутры самой літаратуры, інакш кажучы, пытаньне аб стылі пролетарскай літаратуры, гэта не акадэмічная проблема, а пытаньне вострай палітычнай барацьбы ў літаратуры. У конкрэтнай абстаноўцы вострай барацьбы, якая стварылася, калі мы цяпер з усёй сур'ёзнасьцю не паставім перад нашай літаратурай задачы стварэньня новага стылю (што, зразумела, нельга разумець у сэнсе барацьбы за аднастайнасьць літаратурных прыёмаў, жанраў пролетарскай літаратуры) у сэнсе большай выразнасьці, акрэсьленасьці і паглыбленьня новага зьместу і новай формы, у творчасьці пролетарскіх пісьменьнікаў і ў сэнсе паглыбленай тэорэтычнай пастаноўкі проблем марксысцкага літаратуразнаўства—калі мы гэтага ня зробім цяпер, дык тым самым адчынім лазейку для пранікненьня і ўзмацненьня клясавага ворага ў літаратуры. Небясьпека заключаецца ў тым, што гэты вораг, пад выглядам усякага роду марксыстых розных фраз і лёзунгаў (бяз выгляду марксызму і рэволюцыйнасьці цяпер досыць цяжка праводзіць клясава-варожую нам работу нават у літаратуры), а часам і адкрыта варожа (Пільняк, Замяцін) будзе весьці барацьбу супроць пролетарскай літаратуры і гэтым шляхам супроць пролетарыяту і пролетарскай дыктатуры.

Аднак, тая ўважлівасьць, настарожанасьць і актыўнасьць, якую праяўляюць да пытаньняў пролетарскай літаратуры ня толькі нашы літаратурныя колы, але ў цэлым рабочая кляса і працоўныя масы нашага Саюзу і ў прыватнасьці Савецкае Беларусі (барацьба з „Узвышшам", выкрыцьцё варожае пролетарыяту творчасьці Міхася Зарэцкага) даказвае, што працоўныя масы ў асноўным разумеюць асаблівую політычную актуальнасьць нашай барацьбы за пролетарскую літаратуру. У данай абстаноўцы клясавай барацьбы трэба зразумець, што ўсякі наш тэорэтычны і практычны промах, таксама і ў галіне літаратуры будзе зараз-жа супроць нас скарыстаны клясавым ворагам. Таму, задача паглыбленай прапрацоўкі, на аснове марксысцка-ленінскай тэорыі, проблем пролетарскай літаратуры, а таксама ўменьне на практыцы ў творчасьці пролетарскіх пісьменьнікаў правільна вырашаць гэтыя проблемы, зьяўляецца аднэй з актуальнейшых нашых задач, адным з пробных каменьняў пасьпяховасьці нашага соцыялістычнага будаўніцтва і актыўнае перамогі над нашым клясавым ворагам. Толькі так політычна, а не акадэмічна трэба ставіць пытаньне, калі мы кажам пра выпрацоўку стылю пролетарскай літаратуры.

### Рэалізм, романтызм і стыль пролетарскай літаратуры.

Барацьба, якая разгарнулася ў нас наўкола пытаньня аб стылі пролетарскай літаратуры цясьнейшым чынам зьвязваецца з пытаньнем аб вучобе ў клясыкаў, ці конкрэтней, з пытаньнем аб адносінах пролетарскай літаратуры да асноўных стыляў і кірункаў ранейшай дваранскай і буржуазнай літаратуры—рэалізму і романтызму. Зразумела, той факт, што барацьба за новы стыль пролетарскай літаратуры, зьвязваецца з пытаньнем нашай ацэнкі і адносін да рэалізму і романтызму, зьяўляецца не выпадковым. Яно тлумачыцца тым, што сама-то пролетарская культура, як марксызм і ленінізм, зьяўляюцца вынікам, сынтэзам усяго лепшага, усіх дасягненьняў ранейшай чалавечай культуры, Ленін неаднакраць падкрэсьліваў гэта, кажучы пра марксызм і аб пролетарскай культуры:

„Узорам таго, як зьявіўся комунізм *з сумы чалавечых ведаў*, зьяўляецца марксызм (Ленін, т. XVIII, стар. 316) ці нават „пролетарская культура не зьяўляецца выскачыўшай невядома адкуль, не зьяўляецца выдумкай людзей, якія называюць сябе спэцыялістымі па пролетарскай культуры. Гэта ўсё поўная лухта. Пролетарская культура павінна зьявіцца *законамерным разьвіцьцём тых запасаў ведаў, якія чалавецтва выпрацавала* пад уціскам капіталістычнага грамадзтва, абшарніцкага грамадзтва, чыноўніцкага грамадзтва" (Ленін, т. XVII, стар. 317).

Такім чынам і пролетарская літаратура, зьяўляючыся новым зьявішчам, разам з тым вырастае з крытычнае перамогі і ўсваеньня заваёў ранейшых літаратур. Таму, пытаньне аб пролетарскай літаратуры і аб яе стылі цесным чынам зьвязана з пытаньнем крытычнай ацэнкі і адносінамі да ранейшых асноўных стыляў літаратуры, г. зн. рэалізму і роман-

тызму. Таксама як марксызм і дыялектычны матэрыялізм узьнік у процэсе барацьбы, крытычнага ўсваеньня і разам з тым перамогі, з аднаго боку мэтафізычнага матэрыялізму і з другога боку дыялектычнага ідэалізму, што таксама, кажучы аб стылі пролетарскай літаратуры, патрэбна ставіць пытаньне аб крытычным усваеньні і адначасова ўхіленьні рэалізму і романтызму на аснове дыялектычнага матэрыялізму.

З такой пастаноўкі пытаньня, аднак, нельга рабіць таго спрошчанага вываду, што рэалізм у буржуазнай літаратуры ў поўнай меры адпавядае мэтафізычнаму матэрыялізму, а романтызм ідэалізму. Бязумоўна, што ў гісторыі разьвіцьця буржуазнай філёзофіі і літаратуры меліся пункты суадносін і радзтво паміж рэалізмам і матэрыялізмам з аднаго боку, і ідэалізмам і романтызмам—з другога. Аднак, гэта асобнае складанае пытаньне гісторыі разьвіцьця і ўзаемадзеяньня кірункаў і плыняў у такіх ідэолёгіях, як філёзофія мастацтва. Мы гэтым пытаньнем тут займацца ня будзем. Нам важна, узьняць і высьветліць усю спэцыфічнасьць рэалізму і романтызму іменна, як *літаратурных* стыляў і кірункаў ранейшых кляс.

Але таксама, як крытычнае ўхіленьне і ўсваеньне ранейшага мэтафізычнага матэрыялізму і дыялектычнага ідэалізму, магчыма толькі з вышэйшай ступені дыялектычнага матэрыялізму, то гэта таксама правільна зразумець, усвоіць і ўхіліць рэалізм і романтызм можна толькі ўжываючы мэтод дыялектычнага матэрыялізму да аналізу ранейшых клясавых ідэолёгій, у прыватнасьці да такой формы ідэолёгіі, як літаратурная творчасьць людзей.

У сувязі з гэтым, як мы ўбачым у далейшым, уся вартасьць рэалізму і романтызму для пролетарскай літаратуры можа быць пазнана толькі выходзячы з разуменьня асобных задач пролетарскай літаратуры ў адзнаку ад усіх ранейшых літаратурных плыняў і школ.

Калі мы кажам аб романтызьме ці рэалізьме, як асноўных стылях буржуазнай літаратуры, то аднэй з важнейшых проблем, вызначаючых розьніцу гэтых стыляў зьяўляецца пытаньне аб адносінах мастака, пісьменьніка, да адбыцьця і выяўленьня ў сваіх творах рэчаіснасьці. Мы-ж ставім тут сваёй задачай разглядзець розныя фазы і ступені гістарычнага разьвіцьця романтызму і рэалізму, а таксама разгляд розных плыняў унутры гэтых асноўных кірункаў (напр., пытаньне аб дваранскім і буржуазным романтызьме). Але мы спрабуем адказаць на пытаньне ў асноўным, у чым сутнасьць рэалізму і романтызму, ці больш верна, у чым істотная адзнака ў адносінах да рэчаіснасьці романтыка і рэалістага.

У марксысцкай літаратуры, па пытаньнях літаратуразнаўства ёсьць спробы даць зазначэньні як романтызму, так і рэалізму. Гэтыя зазначэньні і характарыстыкі расходзяцца ў дробязях, у ацэнцы таго ці другога пісьменьніка, поэты, але ў асноўным яны прыблізна супадаюць. Праўда, існуючыя да гэтага часу ў марксысцкай літаратуры зазначэньні рэалізму і романтызму вельмі агульныя, бо ніхто з марксыстых гэтае-

пытаньне сур'ёзна яшчэ не распрацоўваў. Найбольш ясная і выразная характарыстыка романтызму і рэалізму ёсьць у т. Фрычэ:

„Романтызм быў фантастычны, аддаваў перавагу ўсяму патаемнаму і казачнаму, усяму страшному і нязвычайнаму... романтызм быў ідэалістычным, лічыў ідэальны сьвет больш рэальным, чымся матэрыяльны сьвет... романтызм будаваў творчасьць на выбражэньні. Романтызм аддаваў перавагу выбражэньню перад назіраньнем і вывучэньнем. Дакладнасьць адбыцьця жыцьця становіцца галоўным патрабаваньнем поэзіі. У сваёй часопісі „Рэалізм" францускі пісьменьнік Дзюран вызначаў рэалізм, як дакладны адбітак грамадзкага асяродзьдзя, як такі адбітак, у якім няма ілжы і падробку". Ангельская пісьменьніца Джордж Эймот у прадмове да роману „Адам Бад" заяўляе, што яе задачы паказваць жыцьцё з такой-жа „дакладнасьцю", з якой сьведка дае свае паказаньні на судзе пад прысягай".

Браты Гонкур у Францыі прапанавалі назваць новую рэалістычную школу „Школай чалавечых дакумантаў" (Фрычэ, „Очерк развития западных литератур", стар. 135).

Характарыстыка рэалізму і романтызму, падобная да дадзенай тав. Фрычэ, вельмі часта сустракаецца сярод нашых літаратурных крытыкаў і пісьменьнікаў (Фадзееў, Ермілаў). Аднак, мы лічым, што пры марксысцкім падыходзе да мінулых асноўных плыняў у літаратуры, нельга абмежавацца такімі зазначэньнямі рэалізму і романтызму. Гэтыя зазначэньні павярхоўныя і невыстарчальныя і з гэтага пункту гледжаньня ня верны сам мэтодолёгічны падыход да іх ацэнкі.

Справа ў тым, што пытаньне аб разглядзе рэалістычнага ці романтычнага стылю буржуазнай літаратуры, нельга ставіць *ізолёвана незалежна* ад пытаньня аб характары мінулых ідэолёгій, у капіталістычным грамадзтве, аб магчымасьці адэкватнага адбіцьця гэтымі ідэолёгіямі самой рэчаіснасьці.

Інакш кажучы, калі мы падыходзім да крытыкі ацэнкі і скарыстаньня рэалістычнага стылю і таго мастацкага мэтоду, пры дапамозе якога рэалістыя (Флёбэр, Золя, Талстой) выяўлялі ў сваіх творах рэчаіснасьць, то было-б не па-марксысцку, напрыклад, думаць, што ранейшыя рэалістыя іменна правільна матэрыялістычна разумелі і адбівалі тую рэчаіснасьць, тыя грамадзкія клясы, якая дадзена ў іх творах толькі таму, што яны да гэтага суб'ектыўна імкнуліся.

Калі Маркс і Энгельс характарызуюць усе ранейшыя ідэолёгіі, і ў тым ліку ідэолёгіі капіталістычнага грамадзтва, як ідэолёгіі няправільна, неадэкватна, а скажона адбіваючыя грамадзкія адносіны людзей, то гэта адно з асноўных палажэньняў марксызму аб ідэолёгіях прыстасавальна таксама і да такой ідэолёгічнай формы, як мастацтва і літаратура.

„Людзі да гэтага часу складалі сабе заўсёды няправільнае ўяўленьне аб саміх сябе, аб тым, што яны ёсьць ці чым павінны быць. Паводле сваіх уяўленьняў аб бозе, аб нормальным чалавеку, яны наладжваюць

сваё жыцьцё. Пачварныя параджэньні іх галавы перарасталі праз іх галовы. Яны тварцы схіляліся перад сваімі тварэньнямі".

Гэтае палажэньне марксызму, што людзі складалі сабе няправільнае ўяўленьне аб саміх сябе, верна, зразумела, ня толькі ў адносінах да рэлігійных поглядаў і ўяўленьняў, але таксама і ў адносінах да літаратуры, і ня толькі ў адносінах да романтычнай, але і ў адносінах да рэалістычнай, як гэта ні дзіўна здаецца многім „марксыстым".

Аднак, сьцьвярджэньне марксызму, што людзі стварылі сабе няправільнае ўяўленьне аб саміх сабе і рэчаіснасьць нельга разумець мэтафізычна, абсолютна, г. зн. няправільнасьць, скажонасьць уяўленьняў, ня значыць іх адарванасьці і неабумоўленасьці соцыяльным клясавым быцьцём людзей, наадварот, мяркуе якраз абумоўленасьць гэтым быцьцём.

„Калі сьвядомае выражэньне рэальных адносін гэтых індывідаў ілюзорна, калі ў сваіх уяўленьнях яны ставяць сваю рэчаіснасьць на галаву, *то гэта ў сваю чаргу зьяўляецца вынікам іх абмежаванага матэрыялістычнага способу дзейнасьці і выплываючых адсюль абмежаваных грамадзкіх адносін*". (Архіў Маркса і Энгельса, т. I, стар. 215). (Падкрэсьлена намі, *Я. С.*) „...Сузнаньне ніколі ня можа быць чымсі іншым, як толькі ўсьвядомленым быцьцём, а быцьцё людзей, гэта рэальны процэс іх жыцьця. Калі ва ўсёй ідэолёгіі людзі і іх адносіны здаюцца пастаўленымі на голаў, то гэта таксама выплывае з гістарычнага процэсу іх жыцьця, падобнае таму, як узваротны адбітак рэчаў на сетчатцы выплывае з непасрэднага фізычнага процэсу іх жыцьця". (Архіў Маркса і Энгельса, том I, стар. 215).

Такім чынам, сама ілюзорнасьць, скажонасьць сузнаньня ідэолёгіі абумоўлена грамадзкім быцьцём людзей, г. зн. самі тыя ідэолёгіі, хоць часта ў фантастычным выглядзе (як, напрыклад, асабліва ў рэлігіі), зьяўляюцца ні чым іншым, як адбіткам грамадзкага быцьця людзей. Конкрэтызуючы гэтыя палажэньні марксызму ў адносінах да такой ідэолёгіі, як літаратура, і ў прыватнасьці ў адносінах да рэалізму і романтызму, мы можам сказаць, па-першае, што рэалізм хоць і выходзіў з імкненьня адэкватна адбіць рэчаіснасьць і сьвядома не ўцякаў ад яе і не скажаў яе, як романтызм, аднак у ранейшых дваранскіх і буржуазных літаратурах не адбіваў і не выяўляў гэтай рэчаіснасьці такой, якой яна зьяўлялася ў сапраўднасьці, бо правільнасьць адбіцьця рэчаіснасьці знаходзіла свае межы ў абмежаванасьці клясавага буржуазнага об'ектывізму і рэалізму. Па-другое, адносна романтызму трэба адзначыць, што, ня гледзячы на сьвядомы адыход романтыкаў ад сучаснай ім рэчаіснасьці, ня гледзячы на містыцызм, фабульнасьць, ідэалістычны характар романтычнай літаратуры,—у самой фантастычнай романтыцы мы можам ускрыць ні што іншае, як завуаліраванае, замаскаванае соцыяльна-клясавае быцьцё людзей.

Такім чынам, пры марксысцкім падыходзе да рэалізму ў літаратуры нельга верыць яму на слова, што ён правільна рэалістычна адбіваў

сапраўднасьць, таксама, як з другога боку нельга верыць на слова романтызму, што яму, пры дапамозе фантазіі, выабражэньня ўдавалася адыйсьці ад рэальнай рэчаіснасьці і стварыць сваю незалежную ад жыцьця, больш удасканаленую рэчаіснасьць чыстага мастацтва.

Няўжо найвялікшы рэалісты Талстой, не прыхарошвае, не ідэалізуе і не скажае ў гэтым сэнсе дваранскую рэчаіснасьць у „Войне и мире“. Няўжо ў асобе Каратаева ў той-жа „Войне и мире“ не скажаецца Талстым ідэолёгія сялянскай масы, хоць часткова Каратаеў і адбівае настроі гэтай масы. А ці-ж, з другога боку, Шыльлераўскія „Разбойники“, як і ўся романтыка Шыльлера, не зьяўляецца рэальным выражэньнем клясавага быцьця і ідэолёгіі дробнай буржуазіі, бунтуючай, нездаволенай тэмпам капіталістычнага разьвіцьця, і разам з тым бездапаможная ў сілу свайго-ж клясавага становішча, стварыць свой ўласны шлях разьвіцьця, сваю ўласную ідэолёгію, таму бездапаможна барахтаецца паміж адмаўленьнем і прызнаньнем капіталізму. З аднаго боку, немагчымасьць стварэньня ўласнага шляху разьвіцьця, а з другога боку, „шал“ супроць сучаснасьці, стварае ілюзію адыходу ад гэтай рэчаіснасьці ў галіну быццам патустароньніх романтычных ідэалаў. У гэтым, аднак, романтычным ідэалістычным протэсьце романтыка Шыльлера і адыходзе ў сьвет патустароньніх ідэалаў ёсьць і рэалістычнае зярнё протэсту супроць існуючага зла і крытыка існуючага ладу. У гэтым сказваецца рэальнае выражэньне клясавага становішча дробнай буржуазіі, у той-жа час нерэальнай, фантастычнай, ідучай у сьвет патустароньніх ідэалаў, у сьвет чыстага мастацтва. З аднаго боку, непасьлядоўнасьць рэалістычнага, больш верна, матэрыялістычнага падыходу да рэчаіснасьці перш за ўсё заключаецца ў тым, што пры ўсёй устаноўцы на правільнае адбіцьцё рэчаіснасьці, рэалістыя ўсё такі паказваюць сапраўднасьць. З другога боку, романтыкі (Шыльлер, Віктор Гюго), ня гледзячы на напышчанасьць, нязвычайнасьць, (Карл Мор, Жылавер), і звышнатуральныя сілы сваіх герояў. Гэрой „Труженик моря“ Гюго ня толькі скажона ідэалістычна і містыфікавана адбіваў рэчаіснасьць, але і рэалістычна ў сэнсе выкрываньня і протэсту супроць зла і супярэчнасьцяй клясавай рэчаіснасьці, ад якой яны шукаюць паратунку ў патустароньніх ідэалах, у романтычным звышнатуральным прыхарошваньні парочнай ці дабрадзейнай магутнасьці сваіх герояў. Пры марксысцкім аналізе рэалізму і романтызму, нельга выходзіць з аднабокага не дыялектычнага ўяўленьня аб мастацкім мэтодзе рэалізму, як толькі матэрыялістычным мэтодзе, а романтызму, як толькі ўсяго ідэалістычным, скажаючым рэчаіснасьць, мэтодзе.

Таму, калі т. Фадзееў у сваім артыкуле „Далоў Шыльлера!“ заяўляе, што рэалістыя былі матэрыялістымі, г. зн. правільна адбівалі рэчаіснасьць, і што іх непасьлядоўнасьць заключалася толькі ў тым, што пісьменьнікі гэтыя не маглі бачыць процэсу разьвіцьця грамадзтва, яго заўтрашняга дню, то т. Фадзееў пры гэтым забывае, што з пункту гледжаньня дыялектычнага матэрыялізму, правільна можна адбіваць сапраўд-

насьць, іменна яе сёньнешні дзень толькі тады, *калі бачыш процэс разьвіцьця грамадзтва*, і падыходзіш да гэтае сапраўднасьці ня з пункту гледжаньня яе вытлумачэньня, а яе зьмены (Маркс, 9-ты тэзіс аб Фэербаху). Такім чынам, калі т. Фадзееў правільна сьцьвярджае, што буржуазныя рэалістыя ня бачылі ў сёньнешнім дні нараджэньня заўтрашняга дню, то пасьлядоўна, даводзячы да канца сваю думку, ён павінен быў-бы зрабіць той вывад, што ня бачучы ў сёньнешнім дні процэсу магчымага ўсяму заўтрашняму дню, рэалістыя тым самым няправільна адбівалі і скажалі сёньнешні дзень, г. зн. сучасную ім рэчаіснасьць. Інакш кажучы, нельга лёгічна адлучыць правільнае разуменьне сёньнешняга дню ад няправільнага разуменьня заўтрашняга дню. Адно цясьнейшым чынам зьвязана з другім. З другога боку, ня праў т. Фадзееў і тады, калі ён, крытыкуючы ідэалістычны падыход да рэчаіснасьці романтыкаў і ў прыватнасьці Шыльлера, бачыў у яго творчасьці толькі ўсяго скажоны фантастычны адбітак рэчаіснасьці, бо пры гэтым т. Фадзееў забывае тое, што было сказана Марксам у першым тэзісе аб Фэербаху, аб ідэалістычнай філёзофіі, і Леніным у адносінах да ідэалістычнай філёзофіі і тое, што ў прыватнасьці, прыстасавальна да романтызму.

А іменна, Ленін кажа, што з пункту гледжаньня дыялектычнага матэрыялізму, ідэалізм не ўяўляе сабой абсолютнай ілжы і абсолютнага скажэньня рэчаіснасьці, але мае зерня ісьціны.

Таксама, як філёзофскі ідэалізм не зьяўляецца толькі ілжой, таксама і романтызм не зьяўляецца толькі няправільнымі скажонымі адносінамі і адбіцьцём рэчаіснасьці.

Ці трэба адсюль рабіць той вывад, што і романтызм і рэалізм, з пункту гледжаньня дыялектычнага матэрыялізму, аднолькава правільна і аднолькава скажона выяўлялі рэчаіснасьць? Гэта, зразумела, было-б няверна. У кожным з гэтых стыляў і літаратурных кірункаў, ня гледзячы на розную ступень багацьця форм адценьняў таго ці другога стылю ў розныя гістарычныя эпохі, у розных кляс і пісьменьнікаў, маюцца спэцыфічныя рысы, якія адрозьніваюць рэалізм ад романтызму, дакладней, рэалістычная літаратура правільней, матэрыялістычней адбівала пэўныя бакі рэчаіснасьці, чымся літаратура романтызму, рэалістычныя моманты якой, галоўным чынам, сказваліся ў актыўнасьці дзейнасьці, мастацкага мэтоду романтызму, хоць і насіўшага на сабе пячатку фактычнай ідэалістычнай актыўнасьці.

Такім чынам, ужо з самага агульнага разгляду рэалізму і романтызму, у сувязі з характарам і роляй ідэолёгіі наогул у клясавым грамадзтве павінна быць ясна, што далейшы, больш конкрэтны і паглыблены марксысцкі аналіз асноўных літаратурных кірункаў ня можа адбывацца паўзуча, эмпірычна без цясьнейшай мэтодолёгічнай увязкі з марксысцкім вучэньнем аб ідэолёгіях. Больш таго, само гэтае марксысцкае вучэньне аб ідэолёгіях павінна ў далейшым разьвівацца і паглыбляцца на базе конкрэтнага крытычнага аналізу тых ці іншых відаў і форм ідэолёгій.

Цяпер узьнікае пытаньне, калі рэалізм ранейшых кляс ня быў поўным матэрыялізмам у літаратуры, а романтызм поўнай ілюзіяй і скажэньнем сапраўднасьці, то чым-жа ўсё такі яны больш конкрэтна адрозьніваюцца адзін ад другога, у чым адносная каштоўнасьць таго і другога для пролетарскай літаратуры. Разьвіцьцё буржуазнай рэалістычнай літаратуры (як, напрыклад, творчасьць Бальзака Золя, Флёбэра) выражае сабою тую ступень і тыя тэндэнцыі капіталістычнага разьвіцьця, калі буржуазія, усё вышэй узьнімаючыся на хвалі свайго росту, умацоўвае сваё панаваньне шляхам разьвіцьця тэхнікі і прыродазнаўчых навук. Такім чынам, у сувязі з гэтым мы назіраем у капіталістычным грамадзтве ва ўсіх галінах яго жыцьця і ў прыватнасьці ў саміх ідэолёгіях, тэндэнцыю да правільнага адбіцьця і пазнаньня рэчаіснасьці, бо без яго немагчыма далейшае разьвіцьцё вытворчых сіл ні само панаваньне буржуазіі. Аднак, гэтая тэндэнцыя, гэтае імкненьне да правільнага пазнаньня рэчаіснасьці, унутрана супярэчыць і непасьлядоўна ў капіталістычным грамадзтве. З аднаго боку, само экономічнае панаваньне буржуазіі немагчыма без навукі, бяз тэхнікі, г. зн. бяз правільнага разуменьня пэўных процэсаў, якія адбываюцца як у грамадзтве, так і ў прыродзе, з другога боку, з пункту гледжаньня свайго экономічнага і палітычнага панаваньня, як клясы ўціскаючай большасьць, буржуазія зацікаўлена ў зацямненьні, у скажэньні процэсаў, якія адбываюцца ў капіталістычным грамадзтве. Таму і само разьвіцьцё буржуазнай навукі адбываецца пад уплывам гэтай дваістай супярэчлівай ідэолёгіі. Калі, напрыклад, пазнаньне законаў прыроды ўскрывала іх дыялектычную істоту, то гэта не перашкаджала вучоным з дыялектычных вынаходак рабіць мэтафізычныя філёзофскія вывады. У сувязі з гэтым Энгельс робіць геніяльную заўвагу адносна разьвіцьця навук: „Гісторыя навук, гэта ёсьць гісторыя паступовага ўхіленьня гэтай (г. зн. рэлігійнай, ідэалістычнай, *Я. С.*) бяссэнсіцы ці замена яе новай, але ўсё-ж менш бязглузднай бяссэнсіцай". Навуку ня трэба фэтышызаваць і ўяўляць сабе яе разьвіцьцё мэтафізычна. Патрэбна ў самой навуцы бачыць дыялектычны процэс барацьбы навуковага з ненавуковым, скажоным, з бязглузднным.

Гэтая думка Энгельса прыстасавальна ня толькі да навукі, але і да разьвіцьця літаратуры.

Бязумоўна, што ў разьвіцьці рэалістычнай літаратуры адбілася імкненьне буржуазіі, адносна правільна пазнаць сьвет у тэй меры, у якой гэта патрэбна буржуазіі і ў якой яна наогул здольна яго пазнаць. У рэалістычнай літаратуры, як і ў прыродазнаўчых навуках, адбілася імена адна з неабходных тэндэнцый буржуазнай ідэолёгіі да правільнага пазнаньня акаляючай рэчаіснасьці.

Але гэта адна тэндэнцыя капіталізму да правільнага пазнаньня як у навуцы, так і ў мастацтве літаратуры, нельга фэтышызаваць, трэба разглядваць гэтую тэндэнцыю, як дыялектычны супярэчлівы процэс, дзе, побач з элемэнтамі правільнага адбіцьця рэчаіснасьці, неабходна бачыць

і разумець скажэньне гэтае рэчаіснасьці як у буржуазнай навуцы, так і ня толькі ў романтычнай, але і ў рэалістычнай літаратуры.

Без элемэнтаў, скажаючых рэчаіснасьць, ідэй разуменьня ўяўленьняў, без самаашуканьня і ашуканьня мас, яскравым прыкладам чаго зьяўляецца буржуазная пропаведзь аб свабодзе, справядлівасьці, дэмократыі наогул,—бяз гэтых элемэнтаў, таксама як і без элемэнтаў аднесна правільнага пазнаньня жыцьця, немагчыма было-б само панаваньне буржуазіі.

Таму, калі для пролетарскага пісьменьніка вельмі навучальна рэалістычная літаратура, з пункту гледжаньня спроб матэрыялістычна без аздабленьняў паказаць рэчаіснасьць, то побач з гэтым пролетарскі пісьменьнік павінен разумець, што гэты рэалізм не пасьлядоўны, абмежаваны, сузіральны. А адсюль вельмі часта нават сярод рэалістых (як, напрыклад, Золя), мы знойдзем моманты скажэньня і прыхарошваньня рэчаіснасьці, а ня толькі правільнага матэрыялістычнага яе паказу. Калі мы кажам аб элемэнтах правільнасьці і аформленасьці, ілюзорнасьці і скажонасьці буржуазных форм ідэолёгіі, то ўзаемаадносіны і сувязі гэтых элемэнтаў нельга разумець мэханічна, а іменна, ня верна будзе ўяўленьне, што ўсё правільнае адбіцьцё рэчаіснасьці згрупавана ў рэалістычнай літаратуры, а ўсё, што скажае рэчаіснасьць, сувязі і адносіны людзей, гэта ў літаратуры романтызму. Бясспрэчна, што ў сілу ўжо сьвядомай установкі пісьменьнікаў-романтыкаў, выходзячы, з уяўленьня аб патустароньніх ідэалах, у літаратуры романтыкаў у большай меры ў ілюзорным, і часта фантастычным выглядзе ўяўляліся і адбіваліся рэальныя жыцьцёвыя сувязі і адносіны людзей, і з гэтага боку романтычная літаратура менш каштоўная наўчальная для пролетарыяту, як рэалістычная літаратура. Але, з другога боку, ня трэба забываць, што выдатныя звышнатуральнымі сіламі і пачуцьцямі, напрыклад, героі шыльлераўскіх драм, ці романаў Віктара Гюго выражаюць сабой часта, іменна, такім нязвычайным і звышнатуральным чынам рэальны протэст супроць нікчэмнай агіднай эксплёататарскай рэчаіснасьці. Наўмысьля нязвычайнае, нават фантастычнае ўяўленьне рэчаіснасьці, романтыкамі, мастацкае свавольле романтыкаў над рэчаіснасьцю, усё такі няверна, не дыялектычна было-б тлумачыць і разумець, як толькі поўнае ідэалістычнае скажэньне рэчаіснасьці, адносна каштоўных для пролетарыяту і нават рэалістычных момантаў у романтычнай літаратуры зьяўляецца *актыўнасьць* романтычнай літаратуры, якая хоць і ў надуманых, вычварных вобразах (часам з чарцямі, ведзьмамі, рознымі духамі) усё такі спрабавала зьмяняць сваёй творчасьцю існуючую рэчаіснасьць.

Пры больш конкрэтным дасьледваньні і рэалізму і романтызму ня трэба забываць і таго, што конкрэтна ў творах аднаго і таго-ж пісьменьніка, поэты, зьліваецца часам і рэалісты і романтык. Ці Гётэ не зьяўляецца ў той-жа час вялікім рэалістым і романтыкам, і ці ў Гётэўскім Фаусьце, можна рэзкай граніцай адмежаваць рэалізм ад романтызму?

Бязумоўна, нельга. Таму, пры спробе даць конкрэтны аналіз творчасьці таго ці другога рэалістага ці романтыка, ці таго і другога адначасна, зусім ясным стане аднабаковасьць і вузкалобасьць такога пункту гледжаньня, які патрабуе рэзкага вызначэньня адкіданьня якога-небудзь аднаго з стыляў і прызнаньня другога. Такім чынам пры конкрэтным аналізе як романтычных, так і рэалістычных момантаў у творах таго ці другога пісьменьніка нельга правесьці рэзкай граніцы паміж тым і другім, як нельга, наогул, з пункту гледжаньня задач пролетарскай літаратуры адбіваць і захоўваць ў асноўным той ці другі з стыляў. Больш таго, ні адзін з стыляў ранейшай літаратуры, ні адзін з яе кірункаў ня можа стаць выйсьцёвым пунктам пролетарскай літаратуры, хоць рознастайныя моманты гэтых кірункаў і перш за ўсё мастацкая культура, ранейшых вялікіх мастакоў слова, можа і павінна быць скарыстана і вывучана пролетарскай літаратурай.

Цяпер мы перайдзем якраз да разгляду асноўных момантаў і задач пролетарскай літаратуры і такім шляхам больш ясным стане, чаму пролетарская літаратура ня можа зрабіць ні рэалізм, ні тым больш романтызм выйсьцёвым пунктам свайго мастацкага мэтоду і свайго стылю, а гэтым мэтодам павінен быць мэтод дыялектычнага матэрыялізму.

* * *

Пытаньне аб скарыстаньні, аб уключэньні ў пролетарскую культуру, у пролетарскую літаратуру тых ці іншых элемэнтаў клясавай культуры і літаратуры, пытаньне дыялектычнага процэсу і ў гэтым заключаецца ўся яго складанасьць і цяжкасьць. Таксама, як мы ня можам мэханічна вырашаць пытаньня аб тым, што буржуазную тэхніку мы прымаем, а тэатр адкідваем, таксама нельга мэханічна вырашыць, які з стыляў літаратурных форм ранейшай літаратуры мы адбіваем ці захоўваем ў пролетарскай літаратуры.

Гэтае складанае дыялектычнае пытаньне аб конкрэтным уменьні скарыстаць патрэбныя і карысныя пролетарыяту элемэнты ранейшай літаратуры, можа быць правільна пастаўлена і вырашана толькі з вышэйшай ступені разуменьня *новых прынцыпова-другіх задач* пролетарскай літаратуры ў адзнаку ад усіх ранейшых клясавых літаратурных форм.

Толькі ідучы ад разуменьня новых задач пролетарскай літаратуры, у сувязі з задачамі пролетарскай рэволюцыі, толькі ідучы ад *проціпастаўленьня* пролетарскай літаратуры ранейшым літаратурам,—мы можам прыйсьці да *зблізжэньня* гэтых літаратур, мы зможам правільна зразумець значэньне тэй літаратурнай спадчыны, якую сынтэтычна аб'ядкае ў сабе пролетарская літаратура, мы зможам зразумець гістарычную пераймальнасьць пролетарскай літаратуры. Вярней, пры дыялектычным падыходзе да пытаньня аб стылі пролетарскай літаратуры і ў сувязі з гэтым да пытаньня аб літаратурнай спадчыне і вучобе ў клясыкаў,

трэба самым рашучым чынам адкінуць, з аднаго боку, усякага роду паўзуча-эклектычны падыход, калі бяз усякіх *прынцыпаў* спрабуюць тое ці другое вырваць ад клясыкаў для пролетарскай літаратуры і, з другога боку, трэба ўмець ужываць пролетарскі об'ектывізм у гэтым падыходзе і ня зьбівацца пад маскай чужой об'ектыўнасьці марксызму на пункт гледжаньня струвіянскага об'ектывізму (больш верна, буржуазнага об'ектывізму).

Таксама як правільна разумець процэсы, якія адбываюцца ў нашай рэчаіснасьці, мы можам толькі разглядваючы іх з вышыні задач соцыялістычнага будаўніцтва, таксама няправільна крытычна ўсвоіць і ўхіліць рэалізм і романтызм можна толькі з пункту гледжаньня пролетарскай літаратуры. Толькі з вышэйшай ступені наказу тварцоў соцыялізму ў нашай літаратуры, а не па-просту показу об'ектыўна бесстаронна, хоцьбы і жывога чалавека, можна правільна зразумець і аценіць рэалістычны і романтычны показ людзей, можна правільна зразумець і тое, чаму можна навучыцца ў ранейшых клясыкаў, для показу сучаснага будуючага соцыялізм чалавека.

Такое нясузіральна-пасыўнае, а дыялектычнае разуменьне об'ектывізму ў сувязі з дыялектычным падыходам да зьявішчаў рэчаіснасьці, Маркс добра выразіў, кажучы, што буржуазнае грамадзтва ёсьць ключ да разуменьня ранейшых ніжэйшых грамадзкіх формацый, таксама як анатомія чалавека, ёсьць ключ да анатоміі малпаў. Перафразуючы словы Маркса, мы маглі-б сказаць, што пролетарская літаратура павінна быць ключом для разуменьня ранейшых клясавых літаратурных форм, у тым ліку романтызму і рэалізму. Толькі правільна адказваючы на пытаньне аб тым, хто і як павінен бачыць і якія павінен мець адносіны да рэчаіснасьці пролетарскі пісьменьнік для таго, каб сваёй творчасьцю дапамагаць справе соцыялістычнага будаўніцтва, толькі выходзячы з гэтага можна правільна выразіць пытаньне, чаму ў гэтым бачаньні і выяўленьні рэчаіснасьці можа дапамагчы пролетарскаму пісьменьніку той ці іншы стыль, той ці другі пісьменьнік капіталістычнага ці дваранскага грамадзтва. І тым самым будзе дадзен навуковы аналіз ранейшых літаратурных кірункаў.

Цяпер мы і перайдзем іменна да разгляду таго, у чым павінны складацца асноўныя задачы, асноўныя моманты стылю пролетарскае літаратуры ў сувязі з агульнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, у сувязі з усім сьветапоглядам пролетарыяту. Мы жывем у пэрыод шпаркага тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва, якое не адбываецца мірна, а адбываецца шляхам рашучага наступленьня на клясавага ворага, які, як і ўсякая гібеючая кляса, жорстка супраціўляецца. Такім чынам, само соцыялістычнае будаўніцтва ёсьць у той-жа час зруйнаваньне і жорсткая барацьба экономічная, політычная і ідэолёгічная з клясавым ворагам і з пражыткамі ўсяго старога, коснага, у самой рабочай клясе і сярод працоўных мас.

*„Сіла прывычкі мільёнаў і дзесяткаў мільёнаў—самая страшная сіла“*—кажа Ленін, і з гэтай сілай мы вядзем цяпер барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць, і экономічнымі мерамі, індустрыялізуючы і колектывізуючы ўсю нашу краіну, і палітычнымі мерамі пад кіраўніцтвам бальшавіцкае партыі, а таксама ідэолёгічнай барацьбой на фронце культурнай рэволюцыі. Наша пролетарская літаратура павінна быць адным з самых магутных падважнікаў вазьдзеяньня і перароблкі мільёнаў працоўных пры дапамозе таксама і літаратурнае творчасьці. А для гэтага наша літаратура можа і павінна ня толькі адбіваць рэчаіснасьць, але і зьмяняць, перарабляць яе і толькі выконваючы гэтую задачу, яна здолее быць пролетарскай літаратурай.

Але ці можа наогул і конкрэтна ў нашых умовах літаратура, як адна з форм ідэолёгіі, ня толькі адбіваць рэчаіснасьць, але таксама і зьмяняць яе.

Бо ўжо з азаў марксызму вядома, што быцьцё вызначае сузнаньне, а не наадварот, і што такім чынам сузнаньне зьяўляецца адбітым быцьцём. Далей, з азаў таго-ж марксызму вядома, што ў клясавым грамадзтве сузнаньне ў розных формах ідэолёгіі ня толькі адбівае быцьцё, а вельмі часта не пасьпявае за ім, г. зн. уплывае консэрватыўным затрымліваючым чынам на разьвіцьцё грамадзтва. Так, напрыклад, нацыяналістычная фразэолёгія і дурман пад час імпэрыялістычнай вайны, які ахапіў шырокія масы, найлепшы прыклад таго, як гэтая ідэолёгія ў эпоху драпежніцкай імпэрыялістычнай вайны, як консэрватыўная сіла, але адпавядаючая клясавым інтарэсам буржуазіі, садзейнічала адурманьваньню і ашуканьню рабочае клясы. Існаваньне і ўплыў рэлігіі зьяўляецца яшчэ больш яскравым прыкладам консэрватыўнай ідэолёгіі. Але для нас важна высьветліць, ці можа існаваць такая ідэолёгія, якая была-б ня толькі адбіткам быцьця, але такім адбіткам, якое-б рэволюцыйным чынам уплывала на зьмену быцьця і ў сувязі з гэтым, ці можа пролетарская літаратура быць часткай роўнакаштоўнай ідэолёгіі пролетарыяту ня толькі адбіваючай, але і зьмяняючай сьвет. Правільней было-б паставіць пытаньне так,—ці можа быць пролетарская ідэолёгія як і пролетарская літаратура, правільна адбіваючай сьвет і не зьмяняючая яго.

Адно з асноўных палажэньняў дыялектычнага матэрыялізму іменна ў тым і заключаецца, што ні ў галіне палітыкі, ні ў галіне філёзофіі, а таксама ні ў галіне літаратуры, *нельга правільна адбіваць рэчаіснасьць, у той-жа час не зьмяняючы яе.*

„Матэрыялістычнае вучэньне аб зьменах акалічнасьцяй і выхаваньня забывае, што *акалічнасьці зьмяняюцца людзьмі і што выхавацца сам павінен быць выхаваны...*

Супаданьне зьмен акалічнасьцяй і чалавечай дзейнасьці, ці самазьмены, *можа быць уцямлена і рацыянальна зразумета толькі як рэволюцыйная практыка*“. (Маркс аб Фэербаху).

Саму нашу рэчаіснасьць і яе зьмену можна рацыянальна і правільна зразумець толькі ў процэсе рэволюцыйнай практыкі.

Прыстасоўваючы гэта да пытаньня аб творчасьці пролетарскіх пісьменьнікаў, да пытаньня аб тым, як яны павінны падходзіць да рэчаіснасьці, якая імі адбіваецца ў іх творах, мы можам сказаць, што правільна адбіць нашу рэчаіснасьць пролетарскі пісьменьнік зможа толькі тады, калі само гэтае адбіцьцё будзе актыўна зьмяняючым рэволюцыйную рэчаіснасьць. Ужо гэта адно *дыялектычнае* разуменьне адносін пролетарскага пісьменьніка да рэчаіснасьці павінна паказаць, у якой меры крытычна і асьцярожна павінен падходзіць пролетарскі пісьменьнік да вучобы ў ранейшых рэалістых і романтыкаў, якія не разумелі дыялектычнага ўзаемадзеяньня паміж адбіцьцём і выяўленьнем і тварцом гэтага, не разумеючых таго, што само адбіваемае, г. зн. сьвет, можа быць правільна адбіты толькі тады, калі мы яго зьмяняем.

Адсюль узьнікае пытаньне, якім чынам конкрэтна нашы ідэолёгіі і конкрэтна спэцыфічна-літаратурная творчасьць пададзеная ў мастацкіх вобразах можа, зьмяняючы рэчаіснасьць, правільна адбіваць яе і, з другога боку, як правільна адбіваючы рэчаіснасьць яна тым самым можа яе зьмяняць.

Вырашэньне гэтага пытаньня, і ў прыватнасьці, для разуменьня тых шляхоў, па якіх павінна разгортвацца пролетарская літаратура, упіраецца з ўсёй вастрынёй у *дыялектычныя* проблемы марксысцкага вучэньня аб ідэолёгіях. З Марксавага вучэньня аб ідэолёгіях нам ужо вядома, што ў клясавых грамадзтвах ідэі ня толькі вызначаліся матэрыяльнымі ўмовамі быцьця людзей, але—што яны вельмі часта адставалі ад нарадзіўшага іх быцьця і тармазілі яго разьвіцьцё. Гэтае адставаньне ідэолёгіі адчуваецца і ў нашай рэчаіснасьці, у коснасьці, забабонах, у тэй „страшэннай сіле прывычкі мільёнаў", аб якой казаў Ленін. Разам з тым, для нас ясна, што індустрыялізацыя краіны, соцыялістычная пераробка гораду і вёскі ня можа адбывацца ня толькі пры панаваньні старых ідэй, адбіваючых мінулае, хоць-бы і самыя перадавыя капіталістычныя адносіны, але патрабуе і *новых ідэй, і новых ідэалаў.* Соцыялістычнае будаўніцтва ня можа адбывацца без пастаянных рэволюцыйных узрухаў у галіне тэхнікі, быту, мастацтва, літаратуры, бяз сталых пераваротаў ва ўсіх галінах нашага сьвядомага жыцьця.

Нам патрэбны такія ідэолёгіі, такая літаратура, якія не пляліся-б за экономікай, хоць-бы і не адстаючы ад яе, але якая-б, як перадавая ідэолёгія, дапамагала нам зрабіць скачок з царства неабходнасьці ў царства свабоды.

Асабліва ў сучасны пэрыод шпаркіх тэмпаў соцыялістычнай рэконструкцыі, якая штодзённа выклікае ва ўсіх галінах нашага жыцьця дзесяткі задач і пытаньняў,—проблема такой тэорыі, такой літаратуры, якая не плялася-б стыхійна за жыцьцём, а дапамагала-б нам яе ў кожным конкрэтным выпадку ўразумець і сьвядома штырхаць наперад—

зьяўляецца *кардынальнейшай палітычнай проблемай.* Стоячы перад такой важнасьці і палітычнымі і тэорэтычнымі проблемамі мы не бездапаможны, а можам быць узброены ня толькі матэрыялістычнай дыялектыкай, але і тым гэніяльным уменьнем ужываць яе, якім зьяўляецца ленінізм.

Разьвіцьцё і практыка бальшавіцкай партыі і ленінскай палітычнай тэорыі нагэтулькі бліскуча давялі рэальнае значэньне і вялікую ператтвараючую ролю правільнай рэволюцыйнай ідэолёгіі, што час ужо з усёй сьмеласьцю і рашучасьцю перанесьці гэты каштоўнейшы гістарычны і палітычны вопыт і ў іншыя галіны нашага жыцьця і ў прыватнасьці на літаратуру.

Сутнасьць ленінскага разуменьня ролі рэволюцыйнай ідэолёгіі і ў прыватнасьці ролі палітычнай ідэолёгіі і ролі партыі заключаецца ў тым, што, бязьлітасна выкрываючы філістэрскі, пошлы і фаталістычны характар разуменьня рэволюцыйнай ідэолёгіі меншавікамі і II Інтэрнацыяналам, якія сьцьвярджалі заўсёды аб неабходнасьці суадпаведнасьці палітыкі і экономікі для рэволюцыйных і соцыяльных выступленьняў пролетарыяту,—Ленін адказваў:

„З аднаго боку, непаправімай памылкай было-б абвяшчаць, што раз прызнана несуадпаведнасьць нашых экономічных сіл і сілы палітычнай, то значыцца, ня трэба было-б браць улады. Так разважаюць „чалавекі ў футлярах", забываючыя, што „суадпаведнасьці" ня будзе *ніколі,* што яе *ня можа быць у разьвіцьці прыроды, так і разьвіцьці грамадзтва,* што толькі шляхам шэрагу спроб, з якіх кожная, у паасобку ўзятая, будзе аднабаковая, будзе мець пэўную неадпаведнасьць, ствараецца каштоўны соцыялізм з рэволюцыйнага супрацоўніцтва пролетараў усіх краін". (Ленін, т. XV, стар. 251).

Такім чынам, самі спробы рэволюцыйнае клясы ў яе палітычнай ідэолёгічнай і іншай барацьбе, толькі яны могуць стварыць сапраўдны соцыялізм, а ня гутаркі аб соцыялізьме, патрабуючыя суадпаведнасьці надбудоў з базысам і ня бачучых, што гэтае суадпаведнасьці няма, што сваімі „спробамі" пролетарыят у рэволюцыйнай барацьбе ня толькі адбівае, выступае ў адпаведнасьці з базысам, але зьмяняе і гэты базыс.

І далей Ленін кажа:

„Да бясконца шаблённым зьяўляецца ў іх (меншавікоў, *Я. С.*) довад, які яны вывучылі напамяць пад час разьвіцьця заходня-эўропэйскай соцыял-дэмократыі і які заключаецца ў тым, што *мы не дарасьлі да соцыялізму,* што ў нас няма, як выражаюцца розныя вучоныя паны з іх, об'ектыўных экономічных прадпасылак для соцыялізму.

Калі для стварэньня соцыялізму патрабуецца пэўны ўзровень культуры (хоць ніхто ня можа сказаць, які гэты пэўны ўзровень культуры), то чаму нам нельга *пад час пачатку заваяваньня рэволюцыйным шляхам прадпасылак для гэтага пэўнага ўзроўню, а пасьля ўжо на аснове рабоча-сялянскай улады і савецкага ладу, рухацца, даганяць іншыя народы"* (Ленін, т. XVIII, ч. II, стар. 119).

Такім спосабам самі рэволюцыйныя спробы пролетарыяту, выплываючыя з рэволюцыйнай практыкі, само заваяваньне прадпасылак для социялізму, без чаканьня суадпаведнасьці базысу і надбудоў, дае магчымасьць будаваць соцыялізм. Такім чынам, ставячы пытаньне аб узаемаадносінах базысу і надбудоў, Ленін у гэтым пытаньні непасрэдна прымыкае да Энгельса, які незадоўга да сьмерці з усёй рашучасьцю падкрэсьліў, што з пункту гледжаньня правільнага разуменьня марксызму, ня толькі быцьцё вызначае сузнаньне і ня толькі базыс уплывае на надбудовы, але і самі надбудовы (і ў прыватнасьці ідэолёгіі) зваротна ўплываюць на базыс як консэрватыўна, так і рэволюцыйна.

У лісьце да Конрада Шмідта, Энгельс кажа наступнае:

„Маркс і я былі часткова вінаваты ў тым, што маладыя марксысты часам надавалі больш значэньня экономічнаму баку, чымся гэта трэба. Нам прыпадала, пярэчачы нашым супрацiўнікам, падкрэсьліваць галоўны прынцып, які яны адмаўлялі, і не заўсёды знаходзілася досыць часу, месца і повадаў аддаваць належнае і рэшце момантаў, якія ўдзельнічалі ва ўзаемадзеяньні. Але як толькі справа даходзіла да адбіцьця якога-небудзь гістарычнага пэрыоду, г. зн. да практычнага прыстасаваньня, справа зьмянялася, і тут ужо не магло быць ніякай памылкі“.

І ў другім лісьце, пярэчачы крытыкам марсызму, якія нічога ня бачылі ў марксызьме апрача экономічнага ўплыву, Энгельс кажа:

„Чаго ўсім гэтым паном не хапае, дык гэта дыялектыкі. Яны заўсёды бачаць тут прычыну,—там вынікі... Гегеля для іх не існавала“.

Іменна *дыялектычны бок* Марксава вучэньня аб узаемадзеяньні базы і надбудоў і ў прыватнасьці ідэолёгіі і разьбіў Ленін у прыстасаваньні да політычнай барацьбы пролетарыяту, у прыстасаваньні да будаўніцтва соцыялізму.

Такім чынам ідэолёгіі могуць ня толькі адбіваць рэчаіснасьць, але таксама зьмяняць яе, рухаць наперад, і гэта можна рабіць толькі на аснове рэволюцыйнай ідэолёгіі пролетарыяту.

Але ў чым жа сутнасьць такой, ня толькі адбіваючай, але і выпераджаючай сапраўднасьць ідэалёгіі і якім чынам конкрэтна яна можа выпераджаць рэчаіснасьць?

Для дамарксаўскага мэтафізычнага матэрыялізму, які толькі сузіральна адносіўся да рэчаіснасьці, ня можа быць нават такой проблемы, што правільнае адлюстраваньне рэчаіснасьці, павінна ісьці побач з яе зьменамі. Для многіх нашых гора-рэалістых і фактавікоў з Леф'а, бачачых сутнасьць пролетарскай літаратуры ў адбіваньні толькі фактаў, незразумела такая пастаноўка пытаньня.

Ленін-жа проста выражае пункт гледжаньня дыялектычнага матэрыялізму, кажа:

„Сузнаньне ня толькі адбівае рэчаіснасьць, але і творыць яе“. І далей Ленін заўважае па поваду паасобных палажэньняў Гегеля ў конспэкце навукі лёгікі „мысьль аб ператварэньні *ідэальнага ў рэальнае—глыбокая:*

вельмі важная для гісторыі. Супроць вульгарнага матэрыялізму розьніца ідэальнага ад матэрыяльнага таксама не бязумоўная, не надмерная". Што-ж гэта конкрэтна азначае?

Пролетарыят ня толькі не здаволены капіталістычнай рэчаіснасьцю, але апрача таго, ён мае магчымасьць, сам зьяўляючыся адбіткам гэтай рэчаіснасьці, правільна яе пазнаваць. Але пазнаньне пролетарыятам капіталістычнай рэчаіснасьці, ня толькі пролетарыят можа яе правільна об'ектыўна разумець і адбіваць, складае адзінства з яго рэволюцыйнай практыкай. Адзінства процілегласьцяй практыкі і тэорыі пролетарыят і ў гэтым сэнсе сузнаньня ня толькі правільна адбівае рэчаіснасьць, але і творыць яе і такім чынам усьвядомленая неабходнасьць ператвараецца ў свабоду.

Іменна дыялектычнае разуменьне правільнага разуменьня рэчаіснасьці ў яе непарыўным адзінстве з рэволюцыйнай практыкай пролетарыяту і складае сутнасьць і марксызму і ленінізму, Маркс гэта добра падкрэсьліў у сваіх тэзісах аб Фэербаху. Ленін-жа гэтае асноўнае марксава палажэньне, якое робіць марксызм ня толькі навуковай, але і рэволюцыйнай тэорыяй, ператварыў у жыцьцё ў процэсе стварэньня бальшавіцкай партыі, у процэсе барацьбы за дыктатуру пролетарыяту.

Неразуменьне *сутнасьці* марксызму іменна ў яго рэволюцыйным ператвараючым рэчаіснасьць разуменьні, ролі разуменьня рэчаіснасьці, сказалася, напрыклад, у тэорыі стыхійнасьці рэволюцыйнага руху, якую фантастычна прапаведвалі ня толькі меншавікі і соцыял-дэмократы, але няправільнасьць якой не разумелі нават лепшыя рэволюцыйныя марксыстыя. Лічылася, што досыць прапагандаваць соцыялізм сярод пролетарыяту, досыць пролетарыяту зразумець і адбіць у сваім сузнаньні насьпяваючую для соцыялізму рэчаіснасьць, і рэволюцыя, як у поўнай меры насьпеўшая, толькі тады і выбухне. Прыхільнікі тэорыі стыхійнасьці не зразумелі, што выпрацоўка рэволюцыйнай тэорыі павінна праходзіць у сувязі з выпрацоўкай тэорыі паўстаньня і організацыі перамогі рабочае клясы з організацыяй авангарду і самое рабочае клясы. З пункту гледжаньня правільнага рэволюцыйнага, не фаталістычна разумеючага марксызму і ленінізму, нельга весьці пропаганду соцыялізму і зразумець правільна соцыялізм, не організуючы рабочае клясы, ня бачучы актыўнае барацьбы за соцыялістычнае грамадзтва, ня ўвязваючы пропаганды з рэволюцыйнай справай. На гэтым прыкладзе відавочна відна, да якіх шкодных скажэньняў можа прывесьці на практыцы няправільнае і не дыялектычна зразумелае вучэньне аб адбіваньні. Трэба сказаць, што на фронце культурнай рэволюцыі і ў прыватнасьці на літаратурным фронце, асабліва шкодна сказваецца няправільнае, не дыялектычнае, а мэтафізычнае ўяўленьне аб тым, што быцьцё вызначае сузнаньне.

Толькі пры сапраўдных практычных адносінах да рэчаіснасьці можна яе правільна зразумець і адбіць. Гэта глыбокае рэволюцыйнае і дыялектычнае палажэньне Маркса—Леніна вельмі часта ці зусім не разумеецца,

ці разумеецца вузка, аднабока. Іменна ў сэнсе аднабокага, абывацельскага разуменьня практыкі. Для Леніна-ж, як і для Маркса само разуменьне як у навуцы, так і ў мастацтве, калі гэта не сузіральнае па знаньне, складае момант практыкі і таму само пазнаньне трэба разглядваць як выражэньне чалавечай практыкі, а з другога боку і практыка зьяўляецца пэўнай формай пазнаньня". (Дзеборын, прадмова да IX ленінскага зборніку, стар. 18).

Працы пролетарскага пісьменьніка, паказаныя ім людзі, таксама належаць даператвараючай рэчаіснасьць практыкі. Але патрэбна, каб пролетарскі пісьменьнік гэта разумеў. Патрэбна, каб ён разумеў, што дыялектычна мастацкі мэтод пролетарскай літаратуры заключаецца не ў пасыўным адбіваньні таго, што ёсьць, бо спроба так адбіць у літаратуры рэчаіснасьць не дае правільнага абстрактнага адбіцьця самой рэчаіснасьці і, апрача таго, хвасьцізм у літаратуры азначае яе няздольнасьць быць баявым вучасткам нашай культурнай рэволюцыі.

Пролетарскі пісьменьнік павінен умець ня толькі паказваць чалавека, але і весьці яго наперад. А весьці яго наперад ён здолее толькі, паказваючы яго з вышыні тварцоў соцыялістычнага грамадзтва і толькі з гэтай вышэйшай ступені ён можа яго ня толькі паказаць, але і правільна зразумець.

Але ў сувязі з гэтым узьнікае пытаньне, якія-ж *об'ектыўныя даныя ў самой рэчаіснасьці* і конкрэтна ў нашай рэчаіснасьці будаўніцтва соцыялізму павінны даць магчымасьць пролетарскаму пісьменьніку бачыць ня толькі тое, што ёсьць, але і тое, што будзе, каб яго прадбачаньні і забяганьні наперад насілі не фантастычны, а рэальны характар.

Калі мы кажам, што пролетарскі пісьменьнік можа правільна зразумець рэчаіснасьць толькі з вышэйшай ступені паказу тварцоў соцыялістычнага грамадзтва, то гэта ні ў якім выпадку ня значыць, што з пункту гледжаньня нейкага вышэйшага соцыялістычнага ідэалу, проціпастаўляючага рэчаіснасьці, можна правільна пазнаць рэчаіснасьць.

Гэта быў-бы не дыялектычны, а проста ідэалістычны падыход.

З вышэйшай ступені тварцоў соцыялізму пролетарскі пісьменьнік можа зразумець гэтую рэчаіснасьць іменна таму, што і будаўніцтва соцыялізму, і сам соцыялізм, зьяўляецца для нас *ідэалам, не супярэчачым рэчаіснасьці, але вырастаючым з самой рэчаіснасьці.*

Інакш кажучы, гэты ідэал у сэнсе выпераджаючай рэчаіснасьці, рэволюцыйнай ідэолёгіі, узьнікае не як чысты выдуманы ідэал, а выводзіцца з самой рэчаіснасьці ў поўнай меры навукова і матэрыялістычна ўгрунтаваны вучэньнем Маркса.

Правільна навукова пазнаючы рэчаіснасьць, мы тым самым пазнаем у ёй закон і розныя *тэндэнцыі* і кірункі яе гістарычнага разьвіцьця. Калі з вучоту об'ектыўных даных, г. зн., эканомічнага базысу клясавых сіл мы можам бачыць рознастайныя *тэндэнцыі* і вылучаць *асноўную* з іх, то тым самым мы можам бачыць і правільна разумець, *куды* расьце

данае грамадзкае зьявішча. Тады ўжо ад нашага разуменьня рэчаіснасьці і ў сувязі з гэтым ад нашай рэволюцыйнай дзейнасьці залежыць, якую з тэндэнцый мы пературым у рэчаіснасьці. Ведаючы *куды* расьце грамадзтва, мы можам *прадбачыць* будучыню, і тым самым вызначыць сучаснае, выперадзіць, зьмяніць, пературыць нашай дзейнасьцю тое быцьцё, з якога вырастае сама ідэолёгія, выпераджаючая гэтае быцьцё, у гэтым іменна сэнсе наша сузнаньне можа ня толькі адбіваць сучаснае, але і тварыць будучыню. Такім чынам, такое пазнаньне і ў навуцы і ў літаратуры, якое правільна разумее сучаснае, выходзячы з будучага, нельга ўяўляць сабе ідэалістычна, бо сама гэтая будучыня вырастае з тэндэнцый законаў сучаснага. Апрача таго, патрэбна мець на ўвазе, што наша рэчаіснасьць не аднародна, што ў ёй адначасова і побач адно з другім жывуць і змагаюцца самыя адсталыя косныя моманты мінулага разам з парасткамі будучага, соцыялістычнага будучага, разам з парасткамі будучага чалавека. І вось, задача пролетарскага пісьменьніка заключаецца іменна ў тым, каб не падыходзіць у якасьці бесстаронна-об'ектыўнага сузіральніка да ўнутраных супярэчнасьцяй рэчаіснасьці, а з пункту гледжаньня рэальных „ідэалаў“ соцыялізму ўмець у сёньнешнім дні і сёньнешнім чалавеку бачыць расткі заўтрашняга дню і заўтрашняга чалавека.

Бачучы, адчуваючы растучага ў соцыялізм новага чалавека, пролетарская літаратура тым самым будзе *актыўна ствараць соцыялізм*, а ня толькі зьяўляцца рэгістратарам і пасыўным сузіральнікам будаўніцтва соцыялістычнага грамадзтва. Больш таго, так іменна разумеючы задачы пролетарскай літаратуры, і так іх ажыцьцяўляючы, літаратура тым самым ідэальнае будзе ператураць у рэальнае, бо станаўленьне і рост новых людзей у літаратуры будзе *момантам* соцыялістычнага станаўленьня ўсёй нашай рэчаіснасьці.

Цікава адзначыць у сувязі з гэтым, што сярод вялікіх буржуазных пісьменьнікаў, Маркс вельмі высока цаніў тых, якія ня толькі адбівалі рэчаіснасьць, але і геніяльна ў мастацкіх вобразах прадбачылі будучыню Так, паводле пагляду Маркса, як заяўляе Ляфарт „Бальзак быў ня толькі бытапісьменьнікам свайго часу, але таксама творцом тых правобразаў, тыпаў, якія пры Людвігу-Пiліпе знаходзіліся яшчэ ў зародкавым стане, а дасягнулі разьвіцьця ўжо пасьля, пры Наполеоне III“. Тое, што Маркс высока цаніў у Бальзаку, мы яшчэ ў большай меры павінны цаніць і патрабаваць ад пролетарскай літаратуры, бо пролетарскай ідэолёгіяй і, упрыватнасьці, пролетарскай літаратурай, можна ў большай меры, чымся якой-небудзь другой ідэолёгіяй, ператураць і рэволюцыянізаваць сьвет, іменна таму, што яна яго правільна пазнае і тлумачыць, каб, з другога боку, самае правільнае разуменьне ў пролетарскай ідэолёгіі ня можа адбывацца бяз зьмены рэчаіснасьці. Адно цясьнейшым чынам зьвязана з другім.

Такім чынам, правільнае адбіваньне і разуменьне рэчаіснасьці ні ў якой меры не павінна сузіральна струвіянскаму об'ектывізму, які Ленін

так зло высьмейваў, як чыста буржуазны об'ектывізм, г. зн. вярней, як чыста буржуазнае ашуканства мас, пад выглядам магчымасьці быццам-бы бесстароннай і ўсеагульнай об'ектыўнасьці.

Ні пролетарская ідэолёгія, ні пролетарская літаратура ня маюць нічога агульнага з такога роду „об'ектывізмам“ і гэта з усёй сур'ёзнасьцю трэба зразумець, як усім марксысцкім крытыкам, трактуючым пра стыль, так і самім пролетарскім пісьменьнікам, ствараючым гэты стыль.

З усяго сказанага вышэй можна зрабіць, па-першае, той вывад, што пролетарская літаратура іменна таму можа быць найбольш пасьлядоўна рэалістычная, найбольш правільна можа адбіваць рэчаіснасьць таму што яна таксама „романтычна“—ня ў сэнсе ранейшага романтызму, які ішоў ад рэальнай сапраўднасьці ў галіну містыкі, але ў сэнсе сапраўднага „штурмуючага нябёсы“ (Маркс) адносін да сучаснага, з пункту гледжаньня соцыялістычнай будучыні, якая будуецца. Па-другое, неабходна зрабіць яшчэ і той вывад, што і ранейшы рэалізм, і ранейшы романтызм, зьяўляюцца клясава і гістарычна мінулымі ступенямі разьвіцьця літаратуры. Стыль пролетарскай літаратуры і яе мастацкі мэтод *прынцыпова* адрозьніваецца ў гэтых адносінах ад ранейшых літаратур школ клясавай літаратуры.

Таму ўсякаму, хто паспрабуе мэханічна і мэтафізычна падмяніць складанае пытаньне аб выпрацоўцы мастацкага мэтоду і стылю пролетарскай літаратуры, пытаньнем аб тым, ці павінен рэалізм ці романтызм стаць лёзунгам для пролетарскай літаратуры,—усякім такім спробам патрэбна даць самы рашучы адпор.

*(Працяг будзе).*

# КЛЯСАВЫ ТВАР ВЫДАВЕЦКАГА ПЛЯНУ БДВ на 1930 год

İ. Цьвікевіч

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва ёсьць найбуйнейшая ў БССР кніжная фабрыка. Продукцыя гэтай фабрыкі дзесяткамі і сотнямі тысяч экзэмпляраў ідзе ў школы, тэхнікумы, рабфакі, вышэйшыя навучальныя ўстановы, клюбныя бібліятэкі, хаты-чытальні, фабрыкі, заводы, колгасы і савгасы.

Комуністычная партыя і савецкая ўлада паставіла перад БДВ заданьне выпускаць такую кніжную продукцыю, якая-б у руках партыі і пролетарскай дыктатуры была магутным сродкам комуністычнай асьветы, комуністычнага выхаваньня мас і сродкам клясавай організацыі гэтых мас.

Партыя і ўлада паставілі выдавецтва на аванпосты культурнае рэволюцыі. Пад кіраўніцтвам партыі яно працуе на перадавой лініі ў клясавым змаганьні пролетарыяту за канчатковую перамогу соцыялізму. Фабрыка, якая знаходзіцца на перадавых позыцыях і штодзенна, штомінутна выпускае ідэолёгічную зброю, абавязана даваць у рукі пролетарыята зброю сапраўды пролетарскую, клясава адточаную, паленінску моцную і загартаваную.

У 1930 г. БДВ пачынае шосты год сваёй культурнай працы на карысьць пролетарыяту БССР. За мінулыя пяць год у выдавецкай працы БДВ здарыліся ідэолёгічныя прарывы. Часам друкаваліся і выпускаліся кнігі ідэолёгічна нявытрыманыя. Кнігавыдавецкая фабрыка часам давала культурную зброю з плямамі буржуазнай іржы. Лязо пролетарскай зброі было зашчэрблена, прытуплена і не магло сьмяртэльна паражаць ворага.

Партыя і пролетарская грамадзкасьць адразу-ж рэзка рэагавала на ідэолёгічныя прарывы ў выдавецкай працы і рашуча асуджала іх. Памятаючы аб гэтых памылках і таксама асуджаючы іх, Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва перабудоўвае сваю працу такім чынам, каб не дапускаць новых памылак.

Шосты год працы павінен быць пераломным годам у кнігавыдавецкай дзейнасьці БДВ.

У сучасны пэрыод баявога тэмпу соцыялістычнай рэконструкцыі гаспадаркі, пэрыод пераможнага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, пэрыод абвастрэньня клясавае барацьбы, пэрыод змаганьня

партыі супроць ухілаў ад ленінізму—Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва павінна таксама ўзяць баявыя тэмпы працы і больш рашуча праводзіць клясавую лінію ў сваёй дзейнасьці.

У наступнае пяцігодзьдзе БДВ ставіць сваёй мэтай:

1) орыентавацца ў сваёй дзейнасьці на эдавальненьне ў першую чаргу масавага чытача—рабочага і колгасьніка, каб узброіць мільёны пролетараў гораду і вёскі ведамі і культурай для больш пасьпяховай падрыхтоўкі кадра будаўнікоў соцыялізму.

2) Разьвіць такі тэмп выданьня масавай літаратуры, каб яна ішла поплеч з баявымі задачамі гаспадарчай і культурнай рэволюцыі і актыўна дапамагала партыі і ўладзе ўзмацняць дыктатуру пролетарыяту, выхоўваць масы ў духу інтэрнацыяналізма і комунізма.

3) Забясьпечыць партыйныя масы, рабочых і колгасьнікаў партыйнай і політычнай літаратурай, а таксама творамі Леніна, Маркса і Энгельса на беларускай мове.

4) Забясьпечыць поўнасьцю школы ўсіх ступеняў падручнікамі, навуковай літаратурай і навочнымі дапаможнікамі на беларускай мове;

5) Даць працоўным масам БССР даступную па цане мастацкую, ідэолёгічна вытрыманую літаратуру беларускіх пісьменьнікаў, пісьменьнікаў усіх народаў СССР і лепшыя ідэолёгічна-блізкія нам творы пісьменьнікаў Захаду.

6) Шырока разгарнуць выданьне вайсковай літаратуры на беларускай мове як спэцыяльнага характару, так і агульна політычнай і мастацкай літаратуры.

7) Даць піонэрам, комсамольцам і ўсім дзецям рабочых і колгасьнікаў новую пролетарскую кнігу, якая-б выхоўвала адданых і адважных змаганьнікаў за комунізм.

Прааналізуем тэматычны выдавецкі плян БДВ на 1930 год і паглядзім, як гэты плян пачынае выкананьне пастаўленае мэты. Разгляд тэматычнага пляну таксама пакажа нам клясавую сутнасьць, клясавы твар кніжнае продукцыі, якая будзе выпушчана ў гэтым годзе.

Папершае, зьвернем увагу на колькасныя паказчыкі пляну. Мова лічбаў ёсьць мова конкрэтная і ясная. Лічбы выдавецкага пляну на 1930 год паказваюць, што *найбольшае месца ў ім вызначана для масавай літаратуры ўсіх відаў*. Масавы разьдзел выдавецкага пляну пануе над іншымі. У сэнсе масавасьці найбольш характэрнай зьяўляецца колькасьць назваў і экзэмпляраў кніг:

| | Увесь плян. | Масавы разьдз. пляну. |
|---|---|---|
| Назваў . . . . . . | 1.601 . . . . . | 708 |
| Экзэмпл. кніг . | 11.847.500 . . . . . | 6.259.000 |

З гэтых лічбаў відаць, што масавая літаратура складае больш за палову ўсяго выдавецкага пляну. Выдавецтва ўзяло курс на максымальнае забясьпечаньне кнігай масавага чытача—рабочага і колгасьніка.

Калі параўнаць плян г. г. з плянам мінулага году, гэты курс выяўляецца надта яскрава:

| | Увесь плян. | Масавы разьдзел. |
|---|---|---|
| 1929 г. | Назваў . . . . . 539 | Назваў . . . . . 106 |
| | Экзэмпляр. 2.737.000 | Экзэмпляраў 513.000 |

Тэматычны плян масавай літаратуры складаецца з 12 разьдзелаў, якія ў сваю чаргу складаюцца з некалькіх сэрыяў.

Першы разьдзел—грамадзка-палітычная літаратура. Да гэтага разьдзелу належаць наступныя сэрыі:

а) культурная рэвалюцыя і новы быт—6 назваў;

б) пытаньні ўздыму прадукцыйнасьці працы—14 назваў. Тут ёсьць тэмы аб соцыялістычным спаборніцтве мас, аб соцыялістычнай працдысцыпліне, соцыялістычнай рацыяналізацыі, бесьперапыннай вытворчасьці і інш.

в) Пяцігодка. Гэта сэрыя складаецца з 17 тэм, якія павінны ахапіць галоўныя проблемы пяцігадовага пляну СССР і БССР.

г) Пытаньні партработы—10 тэм. Сюды належыць масавая партлітаратура кіраўнічага характару—рэзолюцыі партзьездаў, конфэрэнцый, пленумаў УсеКП(б) і КП(б)Б, а таксама популярныя тэорытычныя кніжкі аб ухілах ад ленінізму, ад генэральнай лініі партыі.

д) Гісторыя рэволюцыйнага руху—30 назваў. Дагэтуль на беларускай мове ня было масавай кніжкі па гісторыя рэволюцыйнага руху. Рэалізацыя гэтай часткі выдавецкага пляну дасьць масаваму чытачу цэлую бібліотэчку аб рэволюцыйным змаганьні рабочае клясы ў мінулым і сучасным. Ёсьць тэмы аб Парыскай комуне, аб паўстаньні дзекабрыстых, аб тэрорыстычных актах першых рускіх рэволюцыянэраў, аб рэволюцыі 1905 году, вайсковых паўстаньнях у часы царызму. Ёсьць тэмы аб рэволюцыях у Вэнгрыі (Вэнгерская комуна), Нямеччыне, Кітаі, аб паўстаньнях у колёніяльных краінах. Ёсьць кніжкі пра Кастрычнікавую рэволюцыю, пра клясавую барацьбу ў Заходняй Беларусі ды інш.

е) Гісторыя компартыі, комінтэрну і профінтэрну—4 назвы.

ж) Рэволюцыйны каляндар—10 назваў. Гэта популярныя масавыя кніжкі аб рэволюцыйных сьвятах. Адсутнасьць гэтай так званай кампанейскай літаратуры было слабым месцам у працы БДВ. Прад кожным рэволюцыйным сьвятам попыт на такую літаратуру бываў вялікі, а на рынку ня было аніводнае беларускае кніжкі.

з) Жыцьцёпіс рэволюцыйных правадыроў—8 назваў. Невялікія популярныя брошуркі з біографіямі Маркса, Леніна, Карла Лібкнэхта, Розы Люксэмбург, Сталіна, Дзяржынскага, Фрунзэ і інш.

і) Царская катарга і ссылка—18 назваў. Кніжкі гэтай сэрыі азнаёмяць масавага чытача з жахамі царскай турмы, катаргі і ссылкі.

У большасьці—гэта асабістыя ўспаміны рэволюцыянэраў, якія адважна змагаліся з царскім самаўладзтвам.

к) Інтэрнацыянальнае выхаваньне мас—19 назваў. Праклятая спадчына царскай палітыкі—нацыянальная абмежаванасьць і шовінізм розных відаў—патрабуюць упартага змаганьня з імі. Партыя праводзіць вялікую выхаваўчую працу сярод адсталых пластоў рабочых і палітычна маласьвядомых пластоў працоўнага сялянства. Партыя выхоўвае масы ў духу комунізма і інтэрнацыяналізма. Партыя вядзе барацьбу з усялякімі праявамі нацыяналізма, шовінізма і нацыянал-дэмакратызма.

Масавая літаратура—палітычнага і мастацкага зьместу—якая вядзе пропаганду ідэй інтэрнацыялізму, у сучасны пэрыод абвастрэньне клясавае барацьбы зьяўляецца надзвычайна актуальнай, надзвычайна патрэбнай. Выхаваньне мас у духу інтэрнацыяналізму адбірае ў нашага клясавага ворага яшчэ адзін спосаб палітычнай барацьбы—распальваньне нацыянальнай нянавісьці.

л) Розная літаратура—16 назваў. Сюды належаць масавыя кніжкі па агульных пытаньня соцыялістычнага будаўніцтва і палітычнага выхаваньня мас.

Другі разьдзел масавага пляну складаецца з 25 тэм аб „нашых дасягненьнях і пэрспэктывах".

11 год мінула, як пролетарыят на чале з комуністычнай партыяй будуюць БССР. Трэба падсумаваць, падлічыць усе дасягненьні і ў даступнай форме паказаць іх шырокім працоўным масам. Таксама трэба паказаць масам пэрспэктывы соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай рэспубліцы.

Масавая літаратура гэтага разьдзелу будзе ўсебакова асьвятляць моманты палітычнага і культурнага выхаваньня, прамысловасьць, дарожнае будаўніцтва і транспарт, гандаль, коопэрацыю, колектывізацыю с/гаспадаркі, гарадзкое будаўніцтва, профрух, экономічнае і культурнае жыцьцё нацменшасьцяй у межах БССР, нацыянальныя часьці Чырвонае арміі ды інш. Матэрыял будзе пададзены ў пэрспэктыве пяцігодкі БССР. Мяркуецца выдаць усе гэтыя кніжкі да дня вызваленьня БССР ад белапалякаў (11 ліпеня).

Вялікім разьдзелам пляну масавае літаратуры зьяўляецца трэці „*Антырэлігійны*". Ён складаецца з 52 назваў на самыя align рознастайныя антырэлігійныя тэмы. У мінулым годзе БДВ у галіне антырэлігійнай эрабіла праступна мала—выдала толькі адну антырэлігійную кніжку. Важны участак агульна-палітычнага фронту—антырэлігійны выдавецтва пакінула бяз культурнай зброі. Выпраўляючы гэту памылку, выдавецтва сьпешна рыхтуе бязбожніцкую бібліотэку з вялікім асортымэнтам. У гэтай бібліотэцы будуць кніжкі зусім популярнага характару, разьлічаныя на мала падрыхтаванага чытача, а таксама навукова-популярныя з больш глыбокім абгрунтаваньнем беспадстаўнасьці і клясавай варожасьці ўсіх рэлігійных культаў. Будуць кніжкі аб розных рэлігійных сэктах на Беларусі, аб іх варожай, шкоднай і антысавецкай чыннасьці.

Наступны разьдзел масавага пляну—„*Мастацкае слова—масам*".

Да гэтага часу БДВ выдала мастацкую літаратуру—прозу і поэзію—у выглядзе вялікіх зборнікаў, прыгожа афармленых з надворнага боку, ў вельмі абмежаванай колькасьці (2—3 тысячы паасобнікаў). Усё гэта адбівалася на цане кнігі, і яны былі абсолютна недаступны масаваму чытачу. Цана некаторых мастацкіх твораў сягала да трох рублёў і вышэй. Дзе-ж вы бачылі, каб масавік-рабочы, або селянін-бядняк і нават серадняк мог купіць такую дарагую кнігу?

І вось Выдавецтва з мэтай паблізіць мастацкую літаратуру да мас, узяло курс на выданьне масавай мастацкай кніжкі. Памер гэтых кніжак будзе ад 2 да 6 аркушаў, тыражом да 10 і 15 тысяч і цаной ад 15 да 40 кап.

Выданы будуць мастацкія творы ня толькі беларускіх пісьменьнікаў, але ў перакладзе на беларускую мову лепшыя творы пісьменьнікаў—расійскіх, украінскіх, яўрэйскіх і некаторых пісьменьнікаў Захаду, блізкіх да нас па сваёй ідэолёгіі.

У першую чаргу будуць друкавацца творы пролетарскіх пісьменьнікаў беларускіх і інш. Мастацкая творчасьць для мас павінна быць бездакорнай у сэнсе ідэолёгічным, клясава вытрыманай. Тыя-ж творы, якія вызначаюцца сваёй мастацкасьцю, але маюць у сабе элемэнты, далёкія ад пролетарскай ідэолёгіі, будуць выдавацца з спэцыяльнымі прадмовамі, якія-б тлумачылі масаваму чытачу клясавую сутнасьць ідэй аўтара, давалі марксыцкую ацэнку данага мастацкага твору.

Разьдзелы—„*Тэхнічная літаратура*" і „*На фабрыках і заводах*"—ставяць сваёй мэтай пашырыць тэхнічныя веды рабочых у сваёй спэцыяльнасьці і апроч таго ў популярнай форме пазнаёміць іх з рознымі іншымі відамі вытворчасьці.

„*Вайсковая літаратура*" займае ў масавым пляне значнае месца (56 назваў). Абслугоўваньне чырвонаармейскай масы кніжкай на роднай мове ёсьць адзін з момантаў практычнага ырашэньня нацыянальнай політыкі КП(б)Б і сав. ўлады. Вайсковая літаратура на нацмове паскорыць тэмп ваенізацыі насельніцтва. Наша рэспубліка, якая ляжыць на рубяжы з капіталістычным сьветам, павінна мець багаты асортымэнт вайскова-політычнай і вайсковай кнігі, каб завастраць увагу працоўных мас на пытаньнях абароны БССР і СССР і абароны соцыялістычнага будаўніцтва.

Зусім новым момантам у працы БДВ зьяўляецца выпуск спэцыяльнай *літаратуры для малапісьменных*. Штогодна стотысячная армія рабочых і работніц ад варштатаў, жон рабочых і хатніх работніц, батракоў і батрачак, сялян-беднякоў канчаюць курсы па ліквідацыі няпісьменнасьці. Трэба даць ім магчымасьць самастойна працягваць далей сваё культурнае і політычнае выхаваньне, каб прыймаць удзел у грамадзкім і політычным жыцьці. Трэба даць ім літаратуру, даць кніжку, якую-б яны маглі чытаць пасьля лемантара. БДВ пачало друкаваць невялічкія кніжкі бэлетрыстычнага характару, у якіх выразна праводзіцца клясавая

ідэя. Рыхтуюцца да друку кніжкі і на грамадзка-політычныя тэмы. Усе кніжкі для малапісьменных будуць друкавацца буйным шрыфтам і будуць даступны малапісьменнаму чытачу па зьместу і форме выкладаньня. У канцы кожнай бэлетрыстычнай кніжкі будзе зьмяшчацца тлумачальная гутарка аб прачытаным і кантрольныя пытаньні для больш глыбокага ўсваеньня галоўнай ідэі кожнага мастацкага твору.

Найбольш буйны разьдзел масавага пляну—*сельска-гаспадарчая літаратура*. Плян гэтай літаратуры розьніцца ад пляну мінулага году і па ліку тэм, і па зьместу. У мінулім годзе было выдадзена 60 назваў памерам у 160 аркушоў, а плян 1930 г. мае 307 назваў памерам у 709 аркушоў.

Па зьместу плян гэтага году сельска-гаспадарчай літаратуры мае на мэце ў першую чаргу даць масавую літаратуру, якая-б прысьпешыла і актыўна дапамагла колектывізацыі сельскай гаспадаркі. Гэта асноўнае, чым розьніцца плян 1930 году ад літаратуры, выданай у 1928-29 годзе. Апошняя насіла характар у пераважнай большасьці літаратуры, прысьвечанай тэхнічным пытаньням. Асноўным недахопам яе было адставаньне ад тэмпаў колектывізацыі, орыентацыя шэрагу кніжак на дробную, індывідуальную сялянскую гаспадарку.

Асноўныя прынцыпы, на якіх пабудованы плян сельска-гаспадарчай літаратуры, наступныя:

1) Задачы соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, шпаркі тэмп колектывізацыі і індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі вымагаюць ад БДВ тэрмінова і шырока забясьпечыць саўгасы, колгасы і ўсе вытворчыя сельска-гаспадарчыя аб'яднаньні, а таксама шырокія колы бядняцка-серадняцкага сялянства, яшчэ не ахопленага колектывізацыяй, популярнай і навукова-популярнай літаратуры па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі.

2) Сельска-гаспадарчая літаратура як політыка-экономічная, так і тэхнічная павінны адпавядаць наступным умовам:

а) мець выразную клясавую ўстаноўку, якая-б адпавядала рашэньням партыі і ўраду па пытаньнях перабудовы сельскай гаспадаркі;

б) асьвятляць задачу ліквідацыі кулацтва як клясы, на аснове суцэльнай колектывізацыі.

в) адбіваць, пропагандаваць і популярызаваць задачу суцэльнай колектывізацыі БССР на працягу бліжэйшых двух гадоў;

г) знаёміць шырокія колы колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства з неабходнасьцю і спосабамі мэханізацыі абагуленай сельскай гаспадаркі.

д) высьвятляць шляхі індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі БССР і азнаямляць шырокія колы колгасьнікаў і саўгаскіх рабочых з рознымі відамі і працай індустрыяльных установак па перапрацоўцы сельска-гаспадарчай сыравіны;

е) азнаямляць шырокія колы бядняцка-серадняцкага сялянства з вопытам і дасягненьнямі колгаснага будаўніцтва іншых раёнаў СССР;

ж) у сувязі з напрамкам сельскай гаспадаркі БССР шырока ахапляць пытаньні жывёлагадоўлі і разьвіцьця тэхнічных культур, не закідаючы і іншыя галіны сельскай гаспадаркі;

з) шырока высьвятляць як палітычныя, так організацыйныя і тэхнічныя задачы ў сувязі з веснавымі і асеньнімі сельска-гаспадарчымі кампаніямі;

і) уся сельска-гаспадарчая літаратура ў галіне тэхнічнай павінна быць раённага значэньня, г. зн. разьлічана на конкрэтныя ўмовы БССР, з паступовым прыстасаваньнем у недалёкай будучыні кожнай тэмы да ўмоў таго ці іншага сельска-гаспадарчага раёну БССР. Гэта патрабуе, каб кожная сельска-гаспадарчая кніжка грунтавалася на дадзеных дасьледчых устаноў БССР і, дзе магчыма, на дадзеных дасьледчых устаноў СССР і передавых краін Эўропы і Амэрыкі.

Вызначаныя ў пляне 1930 году тэмы ўсе пытаньні сельскай гаспадаркі разглядаюць з пункту погляду буйнай грамадзкай гаспадаркі. Непасрэдна-ж колгаснаму будаўніцтву прысьвечаны наступныя разьдзелы пляну:

1. Апісальная літаратура—20 тэм, 38 арк. Даецца апісаньне лепшых колгасаў БССР і іншых раёнаў Саюзу; гісторыя іх арганізацыі, пастаноўка гаспадаркі, культурнай працы, організацыя колектыўнага быту і г. д.

2. Жывёлагадоўля—52 назвы, 122 аркушы. Высьвятляюцца задачы жывёлагадоўлі ў буйных грамадзкіх гаспадарках як з тэхнічнага, так і з организацыйнага боку. Маецца на мэце, апрача таго, выдаць „Беларускую зоотэхнічную энцыклёпэдыю для колгасаў і саўгасаў памерам у 25 аркушаў, якая-б у сьціслай форме ахапіла ўсе пытаньні жывёлагадоўлі ў буйнай грамадзкай гаспадарцы.

3. Кармовае пытаньне—15 назваў, 33 аркушы. Гэты разьдзел павінен высьветліць дужа важнае для разьвіцьця жывёлагадоўлі пытаньне кармаздабываньня і кормазабесьпячэньня.

4. Садоўніцтва і гародніцтва—13 назваў, 40 аркушоў. Кніжкі набываюць вялікую вартасьць з прычыны важнасьці гэтай галіны ў сельскай гаспадарцы БССР.

5. Мэханізацыя і электрыфікацыя с.-г. Да гэтага часу на беларускай мове ня было ніводнай кніжкі па гэтаму пытаньню. Зараз мяркуецца прысьвяціць 31 назву, памерам у 96 аркушоў. Фактычна будзе выдана цэлая бібліотэчка па пытаньнях мэханізацыі сельскай гаспадаркі. Гэта бібліотэчка неабходна ў кожным колгасе і саўгасе.

6. Індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі.—Пытаньню індустрыялізацыі с.-г. прысьвячаецца 23 назвы, агульным памерам у 60 аркушоў. Гэта сэрыя ахапляе пытаньні малочнай, яічна-птушынай, ільняной прамысловасьці, пераапрацоўкі продуктаў садавіны і гародніны, пераапрацоўкі бульбы і прыгатаваньне штучных кармоў. Сэрыя па індустрыялізацыі мае на мэце шырока асьвятліць пытаньні організацыі індустрыяльных прадпрыемстваў, азнаямленьне з іх працай, з машынамі.

7. Торфавая бібліотэка—20 назваў, 60 аркушоў. Мае на мэце даць шырокім масам працоўнага сялянства і рабочым веды аб торфе, яго ўтварэньні, дасьледваньні і скарыстаньні яго як у прамысловасьці, так і сельскай гаспадарцы.

8. Пасяўной кампаніі—адводзіцца 15 тэм, памерам у 50 аркушоў. Высьвятляюцца палітычныя, гаспадарчыя і арганізацыйныя задачы, якія стаяць у сувязі з веснавой сельска-гаспадарчай кампаніяй 1930 году. Калі летась ня было выдадзена ніводнай, нават агульнай кніжкі, то сёлета выдаецца шэраг кніжок па пытаньні веснавой сяўбы для колгасьнікаў, рабочых, настаўнікаў, дэлегатак, комсамолу.

Вось галоўныя разьдзелы пляну сельска-гаспадарчай літаратуры.

Плян такім чынам ахапляе ўсе галіны сельскай гаспадаркі і мае асноўную мэтавую ўстаноўку: даць с.-г. літаратуру, якая адпавядае задачам соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і дапамагае хутчэйшаму вырашэньню гэтых задач.

Выразную клясавую ўстаноўку маюць і іншыя часткі тэматычнага пляну БДВ.

Так, у тлумачальнай запісцы да *пляну падручнікаў,* якую БДВ друкуе і рассылае як матэрыял для дакладаў аб пяцёхгодзьдзі БДВ, чытаем:

Савецкі падручнік, як і ўсякая іншая савецкая кніга, ёсьць клясавая зброя пролетарыяту ў барацьбе за комунізм. Вось чаму нашы падручнікі павінны мець выразна клясавы характар, павінны быць насычаны ідэямі комунізму і пабудаваны на прынцыпах дыялектычнага матэрыялізму. У дзень 5-е гадавіны сваёй працы БДВ абвяшчае вайну падручнікам, лёяльным, аполітычным, падручнікам, у якіх навука існуе для навукі, а не для барацьбы за перамогу матэрыялістычнага сьветапогляду, не для актыўнае дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву. Пэдагогічны каштоўны, клясава вытрыманы, пролетарскі падручнік—вучнёўскай пролетарскай моладзі!—вось лёзунг БДВ на наступнае пяцігодзьдзе.

Плян *дзіцячае і юнацкае літаратуры* на 1930 год пабудаваны такім чынам, што палова ўсяго пляну вызначана на літаратуру для піонэраў і комсамольцаў. Гэта літаратура дапаможа комсамольскім і піонэрскім арганізацыям, дапаможа школам выхоўваць з савецкае дзятвы стойкіх, адданых рабочай клясе барацьбітоў-рэволюцыянэраў. Рэалізацыя дзіцячага пляну дасьць школьнікам замест кісла-салодкіх аполітычных кніжок такую дзіцячую бібліотэчку, якая найбольш поўна, праўдзіва і мастацкі выявіць ідэі комунізму, пакажа сёнешні дзень і час непасрэднага будаўніцтва соцыялізму, пакажа пяцігодку, індустрыялізацыю краіны, колектывізацыю с.-гаспадаркі, культурную перабудову быту. Пакажа ў даступных для дзяцей формах капіталістычны сьвет, піонэрскі рух за мяжой, удзел дзяцей у клясавых бойках з капіталістычным сьветам. У пляне намечана выданьне дзіцячай антырэлігійнай літаратуры, літаратуры па інтэрнацыянальнаму выхаваньню, літаратуры проці алькоголізму, старога быту і інш.

У кніжнай продукцыі мінулых гадоў значна пераважала апалітычная прыродазнаўчая кніжка для дзяцей. Зараз БДВ узяло цьвёрды курс на грамадзка-палітычную кніжку. Трэба расказаць дзецям пра жыцьцё рабочых у часы царызму, пра гісторыю рэволюцыі ў Расіі, пра грамадзянскую вайну, пра рэволюцыйны рух у іншых краінах і г. д.

Трэба даць дзецям і мастацкую і навукова-прыродазнаўчую кніжку, але такую, каб яна выхоўвала ў маладой зьмены матэрыялістычны сьветапогляд, пазбаўляла яе ад забабонаў мінулага, прывучала дзяцей жыць і працаваць колектывам, разьвівала арганізаванасьць і дысцыплінованасьць, стварала з іх бадзёрых радасных будаўнікоў соцыялістычнай грамады.

Пролетарскім дзецям—лепшую пролетарскую кніжку!—такую задачу ставіць прад сабой БДВ на гэты год.

Трэба таксама адзначыць павялічэньне выдавецкага пляну па разьдзелу—*Творы Ў. І. Леніна.*

У мінулым годзе БДВ выпусьціла на беларускай мове толькі адзін том (трэці) поўнага збору твораў Леніна. У 1930 г. проэктуецца выпуск пяці томаў, пры чым два з іх знаходзяцца ў друку.

Выданьне твораў Леніна на беларускай мове мае вялікае палітычнае і культурнае значэньне. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва ўжывае ўсе захады, каб прысьпешыць гэтае выданьне, даць магчымасьць беларускім працоўным масам прачытаць думкі Леніна на роднай мове і аўладаць палітычнай зброяй ленінізму.

Такім чынам, разгляд тэматычнага пляну БДВ паказвае нам, што клясава-палітычная ўстаноўка яго заключаецца ў тым, каб у першую чаргу забясьпечыць пролетарскія масы БССР масавай кніжкай па ўсіх пытаньнях: праз *масавую палітычную кнігу* далучыць самыя шырокія пласты рабочых і працоўных сялян да ленінскага разуменьня барацьбы працоўных СССР за соцыялізм, барацьбы сусьветнага пролетарыяту і прыгнечаных народаў колёній і паўколёній, мобілізаваць увагу мас вакол асноўных палітычных, гаспадарчых і культурных задач. Праз *масавую вайскова-палітычную і вайсковую кнігу* прыцягнуць увагу мас да пытаньняў абароны СССР і абароны соцыялістычнага будаўніцтва. Праз *масавую вытворчую тэхнічную кнігу* ўзброіць рабочага ведамі ды ўмеласьцю, патрэбнымі для рацыяналізацыі прамысловасьці, падняцьця продукцыйнасьці працы, каб ён быў сьвядомым арганізатарам сваёй працы і сваёй вытворчасьці, актыўным удзельнікам індустрыялізацыі краіны.

Праз *масавую сельска-гаспадарчую кнігу, кнігу па коопэраваньні і колектывізацыі* дапамагчы бядняцка-серадняцкім пластом сялянства пераходзіць ад дробных індывідуальных да буйных аграмаджаных гаспадарак.

Уся культурная праца Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва павінна быць накіравана да адзінае мэты—дапамагчы комуністычнай партыі і савецкай уладзе ўзьняць культуру пролетарскіх мас, каб больш хуткімі тэмпамі будаваць соцыялістычную грамаду.

# КНІГАПІС

**„Штэрн“, штомесячная літаратурна-мастацкая і політычна-навуковая часопісь. Орган яўсэкцыі БелАПП. Выданьне „Акцябр“ № 10, 1929, Менск.**

Проза ў гэтым нумары прадстаўлена апавяданьнямі А. Кагана і Ш. Годынера. Першае апавяданьне („Гароднiна“) закранае вельмі цікавае бытавое пытаньне—рост коопэрацыі і яе барацьба з прыватнікам. Але мы маем у гэтым нумары покуль што толькі пачатак апавяданьня.

Другое апавяданьне „Памірай хутчэй“ М. Годынера зьяўляецца вельмі цікавым па фабуле і стылю. Пачатак гэтага апавяданьня быў у папярэдніх нумарох часопісі.

У рэцэнзуемым нумары маюцца два апавяданьні Крапівы: „Певень“ і „Гэрэлік і яго жонка“, перакладзеныя з беларускай мовы. Пераклад зроблены вельмі ўдала і апавяданьні чытаюцца лёгка. Было-б вельмі добра, калі-б і ў далейшым у часопісі „Штэрн“ зьмяшчалі пабольш перакладаў з лепшых твораў беларускіх пісьменьнікаў.

Рэцэнзуемы нумар вельмі багаты поэзіяй.

Верш вядомага яўрэйскага пісьменьніка Перец Маркіш „Родзі“ малюе нам трагэдыю жанчыны, дачкі вясковага каваля, якая ўцякла ад свайго мужа „зануды“, якога не кахала.

Гэты верш (правільней будзе: поэма) па сваёй мастацкасьці формы, эпічнасьці, вобразнасьці і рэдкай лірычнай сіле зьяўляецца адным з лепшых твораў гэтага таленавітага поэты.

Вершы Янкелевіча „Вагранкі“ каштоўны сваім інтэрнацыянальным зьместам і сьведчаць, што гэты поэта робіць вялікія посьпехі ў сваёй творчасьці. Вершы „Вагранкі“—гэта сапраўдная пролетарская поэзія, тут адчуваецца росквіт нашага соцыялістычнага будаўніцтва, тут вы сапраўды дышаце заводам, чыгуном, вагранкай.

А. Юдэльсон даў верш—малюнак Чырвонай арміі. Гэты верш зьяўляецца вынікам таго, што нашыя поэты пабывалі ў лягерах, на манэўрах. Верш Юдэльсона напісаны прачула, праўдзіва і падкупае сваёй лірычнасьцю.

У гэтым нумары ёсьць артыкул М. Каркліна—„Плян вялікіх прац“ (вынікі першага году пяцігодкі БССР).

Цікавым зьяўляецца артыкул Новіка „Паўстаньне ў Палестыне“, у якім даецца правільная ацэнка апошніх здарэньцяў у Палестыне і контррэволюцыйнай ролі сыянізму.

У літаратурна-крытычным аддзеле ёсьць тры артыкулы: Дунца, Жукоўскага і Фарбера.

М. Ліберман дае вельмі цікавыя лічбы на падставе матэрыялаў Менскага цэнтр. партыйнага яўрэйскага рабочага клюбу імя Леніна, аб тым, што чытае яўрэйскі рабочы.

Ёсьць і кнігапісная нататка пра кнігу Ліманоўскага „Над абрывам“.

**Н. Кабакоў.**

**Зьмітрок Бядуля, Язэп Крушынскі. Роман. Кніга першая. Беларускае Дзяржаўнае Выд-ва. Менск—1929. Тыраж 3000 экз. 332 стар. Цана 3 руб.**

Ня гледзячы на шпаркі рост беларускае літаратуры пасьля Кастрычніка, усе беларускія романы, якія дагэтуль зьявіліся ў друку, можна

пералічыць на пальцах аднае рукі. Праўда, ня трэба забывацца, што роман, як адзін з самых складаных жанраў, ня мог разьвіцца ў тых цяжкіх умовах, у якія было ўціснута разьвіцьцё беларускае літаратуры за царскай рэакцыяй. Беларускі роман — дзіцё рэволюцыйнае, ён ня вырас яшчэ з пары маленства. Некаторыя романы носяць характар экспэрымэнта, як, напрыклад, „Сястра“ Кузьмы Чорнага, большасьць романаў спавіта ў пялёнкі аўтобіографічнасьці і ў значнай меры ўсе яны занадта захапляюцца жыцьцём сваіх гэрояў, калі можна гэтак сказаць праблемамі індывідуальнага парадку. Другая справа, што яны стаяць высока па сваіх мастацкіх дасягненьнях і па сваёй ролі ў процэсе разьвіцьця беларускай літаратуры. Але ўсё-ж *сынтэтычны беларускі роман*, які адлюстроўваў-бы самую сутнасьць становішча пэўнай соцыяльнай групы ў пэўную эпоху (накшталт таго, што ў жанры вершаванага эпосу даў Колас у „Новай Зямлі“) і да сёньнешняга дню зьяўляецца недасягнутым 'шчэ ідэалам беларускае прозы.

А на мой погляд, якраз буйны твор, якраз роман, які паказвае не паасобны эпізод жыцьця (як апавяданьне), а цэлую эпоху ў яе дынаміцы, зьяўляецца найбольш сучасным жанрам. Апавяданьне, як жанр, памірае. Яго выціскае новэля (з яе больш жывым дынамічным сюжэтам, больш сучасным кампанаваньнем зьместу) і мастацкі нарыс. Сапраўды, хіба мы ня бачым, што ў расійскай літаратуры асяродак цяжэньня, які ў пачатку XX стагодзьдзя грунтаваўся на апавяданьнях, цяпер пераходзіць на буйныя жанры. І з асаблівым задавальненьнем трэба канстатаваць імкненьне да пераходу да гэтых жанраў ня толькі ў старых беларускіх пісьменьнікаў, але і ў цэлага шэрагу маладзейшых. Кожную сур'ёзную працу ў гэтым напрамку трэба толькі вітаць.

Пяройдзем цяпер да Бядулявага роману. Ён зьявіўся як завяршэньне дваццацігадовае творчае працы аўтара. Зусім натуральна, што гэты роман па сваёй формальна мастацкай апрацоўцы (дасканаламу выяўленьню пэрсонажаў, разгортваньню сюжэту, суладжанасьці компанэнтаў) стаіць бадай што вышэй за ўсе ранейшыя нашыя романы. Галоўныя асобы: Язэп Крушынскі, „агроном Шапавалаў“, стары Цыпрук, пададзены арыгінальна, жыва і яскрава. Ні з боку ідэолёгіі, ні з боку мастацкасьці аўтару нельга, здаецца, зрабіць грунтоўных закідаў. Бядуля ўзяў вельмі актуальную тэму, як дробна буржуазныя элемэнты „прымазваюцца“ да савецкай сучаснасьці, як гатовы яны, як той казаў, і зубамі і нагамі ўчапіцца за гучныя рэволюцыйныя фразы, каб, прыкрываючыся імі, рабіць сваю агідную справу шкурніцкае нажывы.

Цэнтральнае месца сярод іх займае Язэп Крушынскі. У мінулым лёкай у рэсторане свайго дзядзькі, дзе ён і атрымаў сваё выхаваньне, цяпер — тыповы кулак гарадзкое фармацыі. Асеўшы ў купленым пры паляках маёнтку, Крушынскі займаецца контрабандай і адчувае сябе поўным гаспадаром у „сваёй рэспубліцы“. Ён лоўкі прайдоха і вельмі добра ўмее заграбаць жар чужымі рукамі. А такія прыяцелі яго як „агроном Шапавалаў“ (пад маскай якога хаваецца правакатар-эсэр) і „селькор“ „Леў Талстой“ (былы чыноўнік) на ўсе лады расхвальваюць у газэтах „культурную“ гаспадарку Крушынскага, каб яшчэ больш умацаваць яго панаваньне ў „ягонай рэспубліцы“. Але ўсё-ж як ні пнецца Крушынскі, зрабіцца панам ва ўмовах савецкага ладу цяжка. Па-першае, пільнае вока пагранічнікаў не дае вельмі разагнацца з контрабандным гандлем, а па-другое, сярод вакольнага сялянства ўзьнятае імкненьне ўтварыць калгас і паводка калгаснага руху пагражае далейшаму існаваньню фіктыўна-культурнае, а на справе звычайна-эксплёататарскае гаспадаркі Крушынскага. Трэба чакаць, што

ў наступнай кнізе роману аўтар пакажа нам змаганьне гэтых процілеглых сіл у нашай вёсцы.

Але пакуль тое будзе, пагутарым яшчэ аб рэцэнзуемай першай кнізе. Як я ўжо казаў, яна мае цэлы шэраг дадатных момантаў. Бядуля паказаў сябе ў ёй, як дасканалага майстра портрэту. Пэрсонажы роману стаяць перад чытачом, як жывыя. Таксама і па свайму грамадзкаму значаньню гэтаму твору належыць віднае месца. Бядуля выставіў у ім цэлую галярэю прыліпшых да савецкага ладу шкурнікаў, аб якіх плача, па меншай меры, чыстка дзяржапарату.

Аднак, наяўнасьць гэтых дадатных момантаў зусім яшчэ не абумоўлівае поўнай адсутнасьці мінусаў. Значным мінусам зьяўляецца тое, што пэрсонажы роману пададзены ізолявана ад таго соцыяльнага асяродзьдзя, у якім яны дзейнічаюць. Напрыклад, з роману вельмі цяжка ўявіць сабе Шапавалава, як працаўніка савецкай установы. Чытач ведае толькі, што ён увесь час калоціцца з страху за сваё агіднае мінулае і любіць смачна пад'есьці. Не паказана таксама, якім гэта чынам брацэнікам Крушанскага ды іншым „быўшым" людзям удаецца ўладжваць усе свае шахрайскія махінацыі. Праўда, быць можа, паказваньне гораду зусім не ўваходзіла ў пляны аўтара, але на вёсцы, ізноўжа, не паказана сялянства, як соцыяльная група, інтарэсы якое разыходзяцца з кулацкімі прадпрыемствамі Крушынскага. Стары Цыпрук з хворымі зубамі выступае не як прадстаўнік сялянства ў паданым вышэй стане, а проста, як цікавы і орыгінальны тып беларускага сялянства наогул. „Дразды і дзятлы" пададзены аўтарам у цьмяным асьвятленьні нейкае патрыярхальнае ідыліі. Далей, адмоўныя (у грамадзкім сэнсе) пэрсонажы роману ня маюць сваіх антыподаў. Цыпрукоў сын рабфаковец Мікалай зьяўляецца амаль што адзіным савецкім чалавекам сярод асоб роману, але роля яго зусім нязначная.

Гэтыя акалічнасьці пазбаўляюць гэрояў „Язэпа Крушынскага" тае яскравасьці шматграннага асьвятленьня, якое можа надаць сваім гэроям аўтар соцыяльнага роману, даючы іх характарыстыку ў пляне ўзаемаадносін розных соцыяльных груп.

Ня будзем гадаць, як пойдзе разьвіцьцё роману ў наступных кнігах, але покуль што трэба констатаваць, што ён далёка стаіць ад сынтэзу існасьці соцыяльных процэсаў нашае эпохі. Аўтар покуль што не концэнтруе на іх увагі чытача і ў апошняга застаецца нарэшце ня зусім пэўнае ўражаньне ад гэтае першае кнігі Бядулевага роману.

Мяркуючы па характары выведзеных пэрсонажаў, (аўтар хацеў даць соцыяльны роман, а разгортваньне дзеі нагадвае чытачу палахлівую думку аб простай доўгай аповесьці, прысьвечанай сямейнай хроніцы Крушынскага і Шапавалава.

На гэтую думку наводзіць і бытавы ў пераважнасьці фон, на якім разгортваецца дзея роману. (Дразды і Дзятлы, малюнкі Цыпруковае хаты і хатняга быту Крушынскага, апавяданьні аб старадаўнім звычаі здабываньня агню, шлюб Марціна і Мэры, шаптун і г. д.). Праўда, аўтар малюе гэты фон вельмі цікава і вельмі мастацкі, але, на мой пагляд, ён усё-ж ня зусім увязан з дзеяй роману. Прычыну гэтае няўвязкі трэба шукаць у тэй ступені разьвіцьця, на якой стаіць зараз беларускі роман, аб чым я казаў у пачатку рэцэнзіі.

Хочацца пажадаць, каб Зьмітрок Бядуля сваёй вялікай па задуме працай сапраўды пасунуў наперад процэс стварэньня буйных жанраў у беларускай літаратуры.

**Аркадзь Лясны**

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

У Доме Пісьменьніка адбыўся сход членаў БелАПП'у, на якім з дакладам аб становішчы ВАПП'у і шляхох пролетарскай літаратуры выступіў прадстаўнік ВАПП'у т. Селівановускі.

Тав. Селівановускі ў сваім дакладзе падрабязна ахарактарызаваў задачы пролетарскай літаратуры ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі.

* У сувязі з 20-гадовым юбілеем літаратурнай дзейнасьці беларускага пісьменьніка А. Гурло, калегія Наркамасьветы прапанавала Белдзяржвыдавецтву ў тэрміновым парадку выдаць крытыка-біаграфічны нарыс аб А. Гурло.

* Сакратарыят БелАПП'у прыняў пастанову аб удзеле пролетарскіх пісьменьнікаў у трохмесячніку культуры. Сакратарыят прапанаваў усім членам БелАПП'у і акруговым філіям прыняць дзейны ўдзел у правядзеньні трохмесячніка. Пісьменьнікі павінны азнаёміць працоўныя масы і рабочую моладзь з разьвіцьцём і дасягненьнямі беларускай пролетарскай літаратуры і пролетарскай літаратуры нацшеншасьцяй БССР.

* Сакратарыят БелАПП'у пастанавіў скласьці ў Менскай філіі БелАПП'у ўдарную літаратурную брыгаду. Брыгада павінна абслужыць літаратурнымі выступленьнямі фабрыкі і заводы, якія прымаюць актыўны ўдзел у соцспаборніцтве.

* Беларускае таварыства драматычных пісьменьнікаў і композытараў вылучыла пяць брыгад пісьменьнікаў, якім даручана ў тэрміновым парадку напісаць п'есы на тэму аб вясновай сяўбе 1930 году. У брыгады ўваходзіць 15 пісьменьнікаў. Апошні дзень прадстаўленьня п'ес 15 лютага.

* Для азнаямленьня з жыцьцём калгасаў камандыруюцца ў акругі БССР пісьменьнікі: Сташэўскі, Каваль, Баранаў, Нікановіч, Хурсік, Шушкевіч, Вечар, Скрыган, Барашка, Каган і інш.

* БДзВ. выдае асобнай кніжкай поэму Андрэ яАлександровіча „Цені на сонцы“.

* Зьмітрок Бядуля закончыў цыкль нарысаў аб калгасах Менскай акругі, якія пачынаюць друкавацца з 1-га нумару „Нашага Краю“. Нарысы маюць краязнаўчы характар і зьяўляюцца першай спробай беларускага пісьменьніка даць краязнаўчы нарыс.

* Сяргей Фамін скончыў поэму „Новыя дні“, якая будзе друкавацца асобнай кніжкай у сэрыі „Мастацкая літаратура масам“.

* Выйшла з друку выданьнем БДзВ кніжка апавяданьняў Ян. Скрыгана „Затока ў бурах“.

* У бліжэйшым часе выходзіць з друку зборнік апавяданьняў М. Нікановіча „Вясновы прамень“ і асобным выданьнем яго аповесьць „Мяцеліца“.

* Калегія НКА згадзілася з меркаваньнем выдаваць газэту раз у 10 дзён для малапісьменных.

Адказным рэдактарам газэты вылучан Нам. Наркамасьветы т. Галавач. Газэта будзе выдавацца па прынцыпу самаакупаемасьці.

Наркамасьветы вырашыў абвясьціць конкурс на напісаньне тэксту масавай песьні на мовах розных нацыянальнасьцяй БССР. Тэрмін прадстаўленьня твораў на конкурс вызначан да 1 сакавіка г. году.

Побач з гэтым вырашана абвясьціць конкурс на лібрэта музычнай драмы (опэры) на тэмы: барацьба за Савецкую Беларусь, наша будаўніцтва, дарэвалюцыйная Беларусь, клясавая барацьба ў Заходняй Беларусі і г. д. Гэты конкурс будзе ўсесаюзным і павінен закончыцца 1 мая 1930 г.

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва і Народны Камісарыят Асьветы БССР абвясьцілі шырокі ўсебеларускі конкурс на лепшую дзіцячую кніжку і лепшую дзіцячую п'есу. Задачы конкурсу: даць добрую мастацкую кніжку нашым дзецям, якая-б поўна, яскрава і праўдзіва, у даступнай дзіцячаму разуменьню форме, адбівала ідэі комунізму, паказвала сёньнешні дзень—час непасрэднага будаўніцтва соцыялізму. і 2) прыцягнуць старых, выявіць новыя кадры пісьменьнікаў для стварэньня беларускай пролетарскай дзіцячай кніжкі.

* У хуткім часе Акадэміяй Навук будзе выпушчаны з друку проэкт беларускага правапісу. Проэкт правапісу будзе разасланы па ўсіх культасьветных установах для заключэньня.

* Па ініцыятыве камсамольскай ячэйкі Белмузтэхнікуму, у Менску організавалася Беларуская асацыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў і кампазытараў. Мэта асацыяцыі—разьвіваць і папулярызаваць новую рэволюцыйную музыку і пролетарскія песьні.

* Распрацаваны падрабязны плян лібрэта новае беларускае опэры паводле аповесьці Нёманскага „Ромэа і Джульета на Беларусі".

Канчаецца падрыхтоўка да пастаноўкі опэры „Сэвільскі цырульнік" на беларускай мове. Опэру ставіць т. Вастокаў.

* Белдзяржкіно закончыла працу над карцінаю „Волат". Пасьля грамадзкіх праглядаў карціна атрымала найлепшыя водгукі. Рэпэртком БССР гэту карціну правёў па 1-й катэгорыі, як высокую па ідэолёгічнай і мастацкай вартасьці.

* Пры разглядзе вытворча-фінансавага пляну Белдзяржкіно ЭКАНА ў сваёй пастанове даручыла Белдзяжкіно разам з Аршанскім АВК распрацаваць проэкт пабудовы кінотэатру ў г. Воршы.

Белдзяржкіно прапанавана таксама зьвярнуць належную ўвагу на падрыхтоўку кадраў і на пашырэньне і паглыбленьне сувязі з літаратурнымі і артыстычнымі сіламі шляхам уцягненьня іх у вытворчую працу Белдзяржкіно.

Гэтаксама зьвернута ўвага Белдзяржкіно на неабходнасьць палепшаньня працы ў галіне дзіцячых кіно-фільм і культурфільм.

* Культаддзел ЦСПСБ заключыў дагавор з кіраўніцтвам Дзяржцыркаў у Маскве аб камандыраваньні на гастролі ў Менск вандроўнага Мюзік-холу.

Мюзік-хол будзе абслугоўваць рабочыя клюбы і прадпрыемствы ў часе абедзеннага перапынку. Усяго Мюзік-хол у Менску зробіць 40 выступленьняў.

* Наркамасьветы даў дырэктывы Белдзяржкіно наладзіць 16 лютага кіно-сэансы на карысьць утварэньня фонду для пабудовы Ўсесаюзнага Палацу Мастацтваў у Маскве. Белдзяржтэатры таксама наладзяць пастаноўкі з тэю-ж мэтаю.

* Калегія Наркамасьветы зацьвердзіла плян работы дзяржтэатру БССР на сэзон 1930-31 году. БДТ I да 1-га сакавіка будзе працаваць у Віцебску і да канца сэзону ў Менску. БДТ 2 да 1 сакавіка—у Менску, а потым у Магілеве. Яўрэйскі дзяржтэатр будзе працаваць у Гомлі і Бабруйску.

* Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр рыхтуе да пастаноўкі п'есу Яноўскага „Ярасьць" на тэму аб колектывізацыі сельскай гаспадаркі і клясавай барацьбе ў вёсцы.

Паказ п'есы адбудзецца ў сярэдзіне лютага г. г.

Пастаноўка рэжысэра тэатру Ждановіча.

* 20 студзеня г. г. у Доме Пісьменьніка адбылося спатканьне пісьменьнікаў з Беларускім Дзяржаўным Вандроўным тэатрам.

З уступным словам аб задачах тэатру ў рэконструкцыйны пэрыод выступіў загадчык Галоўмастацтва НКА БССР т. Некрашэвіч і з дакладам аб пэрспэктывах БДВТ выступіў т. Галубок.

Пасьля дакладу выступалі артыстыя БДВТ і пісьменьнікі з чыткаю сваіх твораў.

* У Менск прыехала дэлегацыя ад Усеукраінскай Акадэміі Навук для заключэньня соцыялістычнага дагавору з Беларускай Акадэміяй Навук. У складзе дэлегацыі—старшыня кіеўскай сэкцыі навуковых працаўнікоў т. Акіншэвіч і акадэмік Краўчук—сакратар фізыка-матэматычнага аддзяленьня УАН.

19 студзеня адбыўся ўрачысты агульны сход супрацоўнікаў Беларускай Акадэміі Навук з удзелам дэлегатаў ад Украінскай Акадэміі Навук, на якім быў падпісаны соцыялістычны дагавор паміж абедзьвюма акадэміямі Навук. З боку Усеукраінскай Акадэміі навук дагавор падпісалі т. т. Акіншэвіч і Краўчук, з боку Беларускай Акадэміі Навук—сакратар мясцкому Акадэміі тав. Казак, член прэзыдыуму БАН'у тав. Бялуга і акадэмік Некрашэвіч.

Дагавор падзяляецца на чатыры разьдзелы. Першы разьдзел прысьвечаны пытаньням рацыяналізацыі структуры Украінскай і Беларускай Акадэміі Навук, другі разьдзел—арганізацыі плянавасьці навукова-дасьледчай працы, трэці—удзелу Акадэміі ў соцыялістычнай перабудове народнае гаспадаркі БССР і УССР і чацьверты—працы ў галіне культурнай рэволюцыі і сувязі з масамі. Усяго ў дагаворы—19 пунктаў.

* У лютым м-цы г. г. адбудзецца пяцігодзьдзе Бэлдзяржкіно. Юбілей мяркуецца шырока правесьці на прадпрыемствах, у раёнах суцэльнай колектывізацыі і г. д. Да юбілею ўжо зроблена карціна пад назваю „Кінофікацыя БССР".

* Спэцыяльная камісія Н. К. Асьветы выпрацавала проэкт будынку новага вялікага тэатру ў Менску.

Проэкт прадугледжвае пабудову тэатру, які-б зьмяшчаў: вэстыбюль—1000 чалавек, курыльню—на 100 чалавек, 5 пакояў для адпачынку, бібліотэку-чытальню з 3-х пакояў, пакой для дзяцей, кіно для 500 чал., канцэртную залю на 1500 чал. і г. д. Відоўня тэатру будзе зьмяшчаць каля 3000 чалавек.

* Калегія Наркамасьветы БССР зацьвердзіла плян кінофікацыі колгасаў на 1929-30 год. Белдзяржкіно, згодна пляну, арганізуе сетку кіноперасовак.

* 20 студзеня ў памяшканьні БАН быў выстаўлен для агляду проэкт на пабудову новага будынку акадэміі. Проэкт распрацаваны архітэктарам Лаўровым.

26 студзеня склікаецца нарада спэцыялістых для абгаварэньня заўваг па проэкту.

* Вясною бягучага году ў Менску пачнецца пабудова геофізычнай абсэрваторыі, проэкт якой распрацаваны архітэктарам тав. П. О. Валодзька.

Абсэрваторыя будзе мець наступныя аддзелы: агульнай мэтэоролёгіі з праверкай прылад, прыкладной аграмэтэоролёгіі і мікраклімату, антынамэтрыі і атмасфэрнай электрычнасьці, аэролёгіі і г. д.

Агульны склад спэцыялістых станцыі пры поўнай разгорнутай рабоце вызначана давесьці да 35 чалавек. Навуковае абсталяваньне для станцыі атрымана поўнасьцю.

* У гор. Баку ў мінулым годзе была організавана выстаўка друку нацыянальнасьцяй усяго сьвету. На выстаўцы прадстаўлены пэрыядычны друк 182 краін на 147 мовах. Цяпер гэта выстаўка ператворана ў перасовачную і наведае шэраг буйных гарадоў.

Беларуская кніжная палата паслала ў камітэт выстаўкі шэраг экспанатаў, якія адбіваюць усю гісторыю беларускага друку. Разам з тым на выстаўцы паказан і беларускі пэрыядычны друк.

* У сувязі з трохмесячнікам беларускай пролетарскай культуры і пяцігодзьдзем Белдзяржвыдавецтва, беларуская дзяржаўная бібліотэка наладзіла з 19 студзеня вялікую выстаўку беларускай кнігі.

На выстаўцы прадстаўлены наступныя аддзелы: будаўніцтва, паліграфвытворчасьць, будаўнічыя матэрыялы, паравыя катлы, рухавікі і інш.; дрэваапрацоўчая, гарбарная, тэкстыльная, харчовая і папяровая вытворчасьць; прафгігіена, ахова працы, а таксама багаты аддзел даведачнай літаратуры і бібліяграфіі.

* СНК прызнаў патрэбным організаваць пры Дзяржпляне БССР беларускі філіял усесаюзнага інстытуту эканамічных досьледаў. Інстытут організоўваецца з 15 студзеня 1930 г.

* У пабудове маўзалею т. Леніну ў Маскве прымаюць удзел усе рэспублікі Савецкага Саюзу. З гэтай мэтай СНК БССР даручыў ВСНГ і БАН організаваць у БССР спэцыяльныя пошукі адпаведнага будаўнічага матэрыялу. Спэцыялістыя спыніліся, урэшце, на вялізарным камні глыбе, вагою да 4-тонаў, які быў знойдзены ў Полаччыне.

Прымаючы пад увагу, што камень ляжыць у 5 кіл. ад чыгункі, ёсьць думка падзяліць яго на 4 кавалкі, але мажліва, што ён будзе адвезены цалкам. Камень у хуткім часе накіроўваецца ў Маскву. Трэба адзначыць, што полацкія організацыі выказалі актыўную дапамогу ў адшуканьні гэтага камня.

* У клюбе друкароў 13-га студзеня адбылося адчыненьне вялікай выстаўкі, прысьвечанай 5-цігадоваму існаваньню Белдзяржвыдавецтва. Выстаўка адлюстроўвае ўсю вытворчасьць БДВ за 5 год.

* ҐІЗ-ам РСФСР выдадзена кніжка выбраных вершаў Янкі Купалы ў перакладзе на расійскую мову.

* У Парыжы выйшла кніжка вядомага журналістага і літаратара Рэнэ Мартэля „Les blancs—russes“— нарысы гісторыі, географіі, політыкі і экономікі Беларусі.

## УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Хутка выйдзе ў выд-ве „Книгоспілка“ першы том роману Б. Антоненка-Данілевіча пад назваю „Січ мати“. Роман падае эпопею першых гадоў рэволюцыі на Украіне.

* У лістападзе м-цы мінулага году Наркам Унутраных спраў УССР зацьвердзіў статут Усеукраінскай Асацыяцыі Мастакоў Самавукаў (ВУАХС).

* 13 лістапада (мін. году) мінула 10 гадоў, як у Кіеве контрвыведкаю Дзянікінскай арміі былі закатаваны—юнак-камунар поэт Васіль Чумак і Ігнат Міхайлічэнка—Нарком Асьветы Украіны і пісьменьнік—піонэры украінскай пролетарскай літаратуры. Крытыка зазначае, што ў асобе Васіля Чумака Украіна з часам мела-б першараднага пролетарскага поэта.

Зараз габінэт савецкай літаратуры Інстытуту імя Шэўчэнка шырока разгортвае працу па вывучэньні творчасьці Ігната Міхайлічэнка, каб мець у бліжэйшы час усебаковую навуковую ацэнку яго творчасьці.

* Габінэтам савецкай літаратуры разам з украінскаю кніжнай палатай наладжана выстаўка, прысьвечаная Ігн. Міхайлічэнка, В. Чумаку і А. Заліўчаму. Старанна сабраны рэдкія фото, дакумэнты, часопісі і кніжкі, якія маюць цяпер вялікую бібліографічную рэдкасьць.

* Нядаўна „ГИЗ“ у сэрыі „Творчество Народов“ выдаў збор твораў Васіля Стэфаніка, у які ўваходзіць шэраг апавяданьняў пісьменьніка.

* У той-жа сэрыі ў выданьні гэтага-ж выдавецтва выйшаў роман В. Падмагільнага „Горад“ у перакладзе Е. Елісаветградзкага.

* У Кіеве знойдзены надрукаваныя творы Ів. Манжуры. У рукапісах ёсьць меткі цэнзуры. Аўтар выправіў творы і падрыхтаваў іх да друку, але відавочна нешта перашкодзіла зьдзейсьніць свой намер. Хутка гэтыя творы Ів. Манжуры выдасьць Інстытут імя Шэўчэнка.

* Выйшаў з друку статыстычны штогоднік „Украіна 1929 г.“, які мае весткі з усіх галін народнай гаспадаркі і культурнага жыцьця УССР.

* У гэтым тэатральным сэзоне ў Кіеве ўхвалена організаваць радыётэатр. У тэатры мяркуецца праводзіць концэртныя програмы з удзелам належных артыстычных сіл гораду.

* Габінэт для вывучэньня нацыянальных меншасьцяй пры этнографічнай камісіі УАН канчаткова сфармаваўся і перайшоў да практычнай навукова-дасьледчай працы. Кіраўнік габінэту профэсар Рыхлік зрабіў шэраг экскурсій пераважна па чэскіх колёніях УССР, непасрэдна зьвязаўся з культурным і політычным актывам, наладзіўшы сетку корэспондэнтаў. Да юбілейнай выстаўкі УАН габінэт прырыхтаваў шэраг экспонатаў.

* У гэтым годзе мінае 8 год з дня заснаваньня пры УАН камісіі ў справе досьледу пытаньняў геофізыкі, якою кіруе акадэмік В. І. Срэзьнеўскі. Галоўныя работы камісіі—вывучэньне азнак сухазем'я, кліматычнага раёнаваньня Украіны, кліматалёгіі, гідролёгіі, сельска-гаспадарчай мэтэоролёгіі, аэролёгіі і мэдычнай мэтэоролёгіі.

* Хутка ў Харкаве будзе новы опэрны тэатр, які будзе лепшым у Савецкім Саюзе. Конкурс на яго

будаваньне будзе агалошаны эўропэйскі.

Адкрыцьце тэатру будзе прыстасована на 1932 год да 15-годзьдзя Кастрычнікаўскай рэволюцыі.

* Упраўленьне ВУФКУ прыняло мастацкі фільм „Пять наречених“ (пастаноўка О. Салаўёва). Фільм падае ў глыбокіх псыхолёгічных тонах эпізод з часоў пятлюраўскага бандытызму ня Украіне.

* Мастацкі аддзел зацьвердзіў сцэнары Д. Мар'яна „Свято Почуттіє“ на тэму пра патос соцыялістычнага будаўніцтва нашых дзён.

* Рэжысэр Г. Тасын зараз здымае ў Самаркандзе натурныя кадры да фільму „Дорога вогню“ на тэму пра колёнізатарскую політыку капіталістычных дзяржаў на Ўсходзе. Групе даводзіцца працаваць у надзвычайна цяжкіх умовах. Здымаюць у сьпеку, якая даходзіць да 40 градусаў.

* Рэжысэр О. Шпакоўскі робіць натурныя здымкі па сёлах Украіны да фільму „Хліб“, па сцэнарыю В. Ярашэнка. Карціна мае выявіць узаемаадносіны гораду і вёскі ў харчовай справе.

* ВУФКУ рыхтуе вялікі мастацка-гістарычны фільм „Червонці“ з барацьбы мінулага і быту сучаснага чырвонага казацтва Украіны.

* Рыхтуецца да друку III альманах „Західня Украіна“, прысьвечаны пяцігодзьдзю існаваньня літорганізацыі „Західня Украіна“.

* 21 верасьня 1929 г. у колённай залі Кіеўскай Акрпрофрады адбыўся вечар памяці найвыдатнейшага украінскага пісьменьніка Міх. Кацюбінскага.

* У Кіеве адчынены першы ў СССР яўрэўскі тэатр рабочай моладзі.

* У ДВУ выйшла новае выданьне поэзіі Паўлы Тычыны. У кніжцы—поэзіі трох яго зборнікаў—„Соняшні клярнеты“, „Плуг“ і „Вітер з України“.

* Бібліотэка Кіеўскай карціннай галярэі, організаваная ў 1923 годзе, як навукова-дапаможны аддзел галярэі, мела на мэце абслугоўваць навукова-дасьледчую працу ўстановы і дапамагаць у рабоце популярызацыі. У дадатак да асноўнага фонду—закардоннай і расійскай літаратуры дарэволюцыйнага часу — бібліотэка ўвесь час комплектавалася літаратурай з вобразатворчага мастацтва.

Адпаведна з выданьнямі Галярэі і бібліотэка мае заданьні—падабраць як найпаўней выданьні па мастацтву, асабліва матэрыялы, якія высьвятлялі-б мастацкую продукцыю нацыянальных рэспублік, а таксама найпоўнае мастацтва Захаду.

Агульная колькасьць кніжных адзінак складае больш за 3.200. Бібліотэка мае каталёгі — сыстэматычны, альфабэтны і прарабляе прадметны каталёг.

* Нямецкі пісьменьнік Гэрварт Вальдэк, прадстаўнік нямецкага таварыства прыхільнікаў СССР, 25 верасьня 1929 г. наведаў Кіеў. Мэтаю яго падарожжа было азнаямленьне з мастацтвам і бытам Савецкай Украіны. Гэрварт Вальдэк піша кнігу пра СССР, якую абяцаў у першую чаргу надрукаваць у перакладзе на украінскую мову, аб чым зрабіў адпаведную ўмову з Кіеўскаю Філіяю ДВУ.

Гэрварт Вальдэк таксама зьвязаўся з украінскімі пісьменьнікамі з мэтаю популярызацыі украінскай літаратуры ў Нямеччыне. Як прадстаўнік левага фронту літаратуры ў Нямеччыне, ён дакляраваў прысьвяціць спэцыяльны нумар часопісі „Der Sturm“ леваму мастацтву Украіны, запрашаў прымаць сталы ўдзел у гэтай часопісі і абавязаўся выдаць асобнаю кніжкаю на нямецкай мове творы М. Сэмэнка, Гео Шкурупія, О. Влызька.

* З жніўня месяца пачала выходзіць новая часопісь „Радзянський книгар“—Орган Усеукраінскага Савету зьездаў і кнігагандлёвых організацый.

Часопісь бярэ за мэту дапамагаць усім працаўнікам кнігі ў справе абыходжаньня з кніжнаю продукцыяй і высьвятляць на сваіх старонках усе практычныя пытаньні працы з кнігаю на мясцох. Выходзіць часопісь два разы ў месяц.

* 25 кастрычніка наведала Харкаў дэлегацыя міжнароднага бюро пролетарскай літаратуры ў складзе вядомага нямецкага пролетарскага поэта Іоганэса Бэхэра, Бруно Ясенскага (аўтара роману „Я жгу Париж"), Вайскопфа, Рэна, Габора, Гэйнца, Бэла, Іеша, Кагана і прадстаўніка ЛАПП тав. Стаянава.

* 20-га верасьня ў Кіеве памёр гісторык Леанід Дабравольскі, якому належыць нізка прац па гісторыі і археолёгіі Кіеву.

* „Советский коллекционер", што выходзіць у Маскве, у № 4—5 зьмясьціў дакумэнтальны артыкул Е. Вайнштэйна—„Грошы Украіны", гэта дакладнае апісаньне грашовых знакаў Украіны за часы Цэнтральнай Рады, Гетманшчыны і Дырэкторыі.

* Камітэт па справах друку распрацаваў проэкт упарадкаваньня кнігагандлёвай сеткі, па якому злучаюцца дробныя сеткі ўсіх украінскіх цэнтральных выдавецтваў і ГИЗ'а РСФСР. Колегія Наркамгандлю зацьвердзіла пададзены проэкт і даручыла Камітэту па справах друку ўжыць захады да арганізацыі шырокай сеткі кніжкавых кіоскаў кнігарань у рабочых раёнах.

* Асьветныя арганізацыі Кіеву ўзьнялі перад адпаведнымі органамі хадайніцтва аб арганізацыі ў Кіеве Будынку дзіцячай культуры. Гэты будынак будзе зьмяшчаць у сябе ўсе ўстановы пазашкольнага выхаваньня: тэатр для дзяцей, лялькавы тэатр, і музычную і хорэографічную частку, аддзел цэнтральнай дзіцячай бібліотэкі і газэту „Більшовиченята".

* У Львове адбыўся зьезд украінскай культуры, організаваны з прычыны 60-гадовага юбілею украінскага культурна-асьветнага таварыства „Просьвіта".

Запрошаныя на зьезд прадстаўнікі савецкіх культасьветных організацый не маглі выкарыстаць запрашэньне, бо польскі ўрад адмовіў даць ім візу на ўезд.

* 15 сьнежня 1929 г. пасьля цяжкай хваробы, на 63-м годзе свайго жыцьця памёр сусьветны вучоны ў галіне мікробіолёгіі і эпідэміолёгіі, прэзыдэнт Усеукраінскай Акадэміі Навук і член Усесаюзнай Акадэміі Навук, член ЦВК і ВУЦВК'у акадэмік Даніла Кірылавіч Заболотны.

* Міністэрства ўнутраных спраў у Варшаве забараніла такія украінскія часопісі, брошуры і кніжкі: выданыя ў Харкаве часопісі — „Нова Генэрацыя", „Гарт" і „Робітніча Освіта", часопісь Мэлітополя — „Радзянський Стэп", часопісь „Світ Молоді", часопісь „L'Ukraine Nouvelle" выданы ў Парыжы на францускай мове, брошуру „Державна нацыя" і выд. у Вене брошуру „Великі роковіні України".

* Францускі інстытут Славяназнаўства ў Парыжы выдаў каталёг славянскай пэрыодыкі ў парыскіх бібліотэках. Гэты каталёг паказвае таксама і колькасьць і зьмест украінскіх часопісяй і газэт у Парыскіх бібліотэках.

* У Бэрліне выходзяць на правох рукапісу бюлетэнь для членаў Культурнага Сусьветнага аб'яднаньня Украінскіх работнікаў у Нямеччыне пад назваю „Украінський робітник". Бюлетэнь выходзіць раз у месяц.

# ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ РСФСР

* Сібірскі аддзел ФОСП намеціў арганізаваць шэраг сходаў літорганізацый Сібіры з дакладамі: „Пяцігадовы плян народнай гаспадаркі і задачы пісьменьнікаў“, „Аб Рэфе і літаратурных групоўках“ і інш.

У бліжэйшы час сібірскі аддзел фэдэрацыі возьме ўдзел у арганізацыі і выпуску літстаронак пры краявых і акруговых газэтах. Акрамя таго наладжваецца сувязь з радыёгазэтай.

* Работа з творчым актывам МАПП праводзіцца праз творчыя сходы, якія організоўвае часопісь „Октябрь“, аб‘яднаньнем „Молодая гвардия“ і творчым цэнтрам гуртковага актыву МАПП.

* Для пачынаючых рабочых-нарысаўцаў, драматургаў і крытыкаў МАПП організаваны агульнагарадзкія гурткі. Пры рэдакцыі часопісі „На литературном посту“ будзе працаваць крытычны гурток і пры новай часопісі РАПП „Рост“—гурток нарысаўцаў.

* Сэкцыя драматургаў МОДПКК рыхтуецца да ўсесаюзнай конфэрэнцыі драматургаў.

* Цэнтральны Савет Усерасійскага таварыства сялянскіх пісьменьнікаў заключыў умову з выдавецтвам „Земля и фабрика“ на выданьне кніг па сэрыі „Навінкі сялянскай літаратуры“. У кароткі тэрмін рэдакцыі ўдалося сабраць шэраг цікавых і значных прац, якія будуць выданы ў бліжэйшым часе.

Разам з сэрыяй „Навінкі“ ВОКП організавана выданьне свайго „Альманаху“, з мэтаю азнаямленьня савецкага чытача з магутным уздымам сялянскай літаратуры. Памер „Альманаху“ вызначаны, прыблізна, у 20 друкав. аркушоў.

* Л. Капылова скончыла аповесьць „Первое стихотворение“ і працуе над раманам „Бесславная слава“.

* Павел Максімаў (член растоўскай АПП) падрыхтаваў да друку кнігу нарысаў „Кавказ Советский“. Кніга прынята ГИЗ‘ам для бібліотэкі „Наши достижения“.

* Стары сялянскі поэта С. Дрожжын скончыў трэцюю частку сваіх дзеньнікаў. Усе тры часткі дзеньніка ахопліваюць больш 60 год яго творчай дзейнасьці. Акрамя таго, т. Дрожжын падрыхтаваў некалькі зборнікаў сваіх песень і працуе над успамінамі аб поэце І. З. Сурыкаве.

* 19 сьнежня (мінулага году) у Політэхнічным музэі адбыўся вечар поэтаў конструктывістых пад старшынствам Ільлі Сельвінскага.

Пасьля ўступнага слова Карнэлія Зелінскага, з дакладам аб шляхох конструктывізму выступіў проф. В. А. Асмус. Асноўныя тэмы дакладу: „Конструктывісты, як ён ёсьць“, „Наша гісторыя і географія“, „Дзяльцы альбо байцы“, „Воклікі крытыкаў“, „Поэтычная сыстэма конструктывістых“, „Мы і РАПП“, „Шыльлер альбо Шэльлер (Міхайлаў)“, „Мы і Рэф“, „Літаратура факту і факты літаратуры“, „Дыялектыку ў масы“, „Пяцігодка нашай поэзіі“.

На вечары выступалі поэты: Б. Агатаў, Н. Адуеў, Э. Багрыцкі, В. Інбэр, В. Луговскі, І. Паноў, І. Сельвінскі і Н. Ушакоў.

* Пры Цэнтральным бюро краязнаўства створана сэкцыя пісьменьнікаў-краязнаўцаў. Задача новага аб‘яднаньня—стварэньне краязнаў-

чай мастацкай літаратуры на асновах цеснай сувязі з нацыянальнай політыкай савецкай улады і соцыялістычнага будаўніцтва і, у прыватнасьці, з пяцігодкай.

Сэкцыя мяркуе ўцягнуць савецкія літаратурныя сілы ў пісьменьніцка-краязнаўчы рух і наладзіць сталы кантакт мастацкай творчасьці з навукова-дасьледчай працай пры вывучэньні Саюзу ССР.

* Мікалай Ціханаў скончыў вялікую аповесьць „Хитрецы", у якой разглядаюцца супярэчнасьці сучаснага быту.

* Вольга Форш працуе над вялікім романам „Символисты". У першай частцы роману падаецца сучасная рэчаістасьць за мяжою і ў СССР, у другой частцы—перагляда-юцца літаратурна-грамадзкія погляды і настроі літаратурнага асяродзьдзя.

* Віссарыон Саянаў скончыў аповесьць з сучаснага рабочага быту і цыкль новых вершаў.

* П. Романаў скончыў роман „Товарищ Кисляков", які будзе надрукаваны ў альманаху „Недра".

* І. Новікаў напісаў два апавяданьні з эпохі рэволюцыі 1905 году.

* Мастацка-політычны савет Тэатру Замсавету уключыў у рэпэртуар новую п'есу пролетарскага украінскага пісьменьніка І. Мікітэнка „Дыктатура". Гэтаю п'есаю адчынілі бягучы сэзон усе буйныя гостэатры Украіны. Пераклаў п'есу І. Круці.

На фоне хлебанарыхтовак аўтар паказвае ўзаемаадносіны пролетарыяту і сялянства, асьвятляе клясавую барацьбу ў сучаснай украінскай вёсцы і ролю рабочай клясы, якая разам з бядняцкімі і серадняцкімі масамі вядзе соцыялістычнае наступленьне на сяле. Мімаходам п'еса закранае пытаньні нацыянальнай політыкі партыі, соцыялістычнага спаборніцтва на вытворчасьці і рабочага быту ў эпоху рэконструкцыі.

* Бюро сэкцыі драматургаў МОДПІК організавала габінэт драматургіі, у задачу якога ўваходзяць праработка і вырашэньне актуальных проблем савецкай драматургіі і тэатру. Плян дзейнасьці габінэту прадугледжвае наладжваньне дакладаў і гутарак ня толькі тэарытычнага, але і соцыяльна-вытворчага характару. Кіраўніком габінэту драматургіі запрошаны В. М. Волькэнштэйн. Для сталага супрацоўніцтва намечана запрашэньне віднейшых нашых прадстаўнікоў марксыцкага тэатразнаўства.

* Усерасійскім саюзам савецкіх пісьменьнікаў 29 сьнежня мінулага году быў наладжаны вечар прысьвечаны 40-годзьдзю пісьменьніцкай працы Ал. Алтаева. Вечар праводзіўся спэцыяльным юбілейным камітэтам з прадстаўнікоў партыйных, савецкіх і літаратурных організацый пад старшынствам В. І. Неўскага. Ганаровым старшынёй камітэту была Н. К. Крупская.

Ал. Алтаеў—псэўдонім пісьменьніцы М. Ул. Ямшчыковай, якая нарадзілася ў 1872 годзе. Першы яе літаратурны твор, падпісаны „Ал. Алтаев" зьявіўся 16 сьнежня 1889 г. у часопісе „Всемирная иллюстрация". Гэта была казка для дзяцей „Встреча нового года". З гэтага часу ў працягу 40 гадоў імя Алтаева заўсёды зьяўлялася на старонках амаль ня ўсіх дзіцячых часопісяй, што выходзілі ў Расіі. Пад гэтым прозьвішчам выдадзена таксама некалькі дзесяткаў кніг для юнацтва.

З 1924 г. пад імем Алтаева пачалі зьяўляцца ня толькі кнігі для дзяцей, але і романы на гістарычныя тэмы. Нядаўна вышаў новы роман Алтаева з эпохі француская рэволюцыі „Когда разрушаются дворцы".

* На пашыраным пленуме Бранскай Асацыяцыі пролетпісьменьнікаў нядаўна былі заслуханы даклады аб выніках творчага агляду і аб верасьнёўскім пленуме РАПП у Маскве, а таксама паведамленьні дэлегатаў літгурткоў аб стане іх працы. Па рэзалюцыі пленуму—гадавы шлях БРАПП у асноўным адзначыўся ўздымам літаратурнага руху ў рабочых раёнах Браншчыны. Пры непасрэдным удзеле асацыяцыі пролет-

пісьменьнікаў газэта „Брянский Рабочий“ кожны тыдзень выпускае літстаронку. Выдадзены першы масавы альманах „Звенья“.

* 8 студзеня ў Політэхнічным музэі, пад старшынствам Міх. Кальцова адбыўся дыспут на тэму „Савецкая сатыра“. На дыспуце абгаварвалася продукцыя сатырычных часопісяй: „Чудак“, „Крокодил“, „Лапоть“ і інш., п‘есы: „Клоп“—В. Маякоўскага, „Выстрел“—А. Безыменскага, „Мандат“—Н. Эрдмана, „Квадратура круга“—В. Катаева, роман И. Ильфа і Е. Петрова—„12 стульев“, аповесьць В. Катаева—„Растратчики“ і інш.

* Дзяржаўны тэатральны музэй імя Бахрушына, з мэтаю популярызацыі паасобных літаратурных эпох, арганіз. шэраг выставак спэцыяльна для вучняў, вывучаючых літаратуру. У пэрыод часу з студзеня па май музэй мяркуе наладзіць наступныя выстаўкі: 1. Эпоха Гогаля. 2. Грыбаедаўская Масква. 3. Эпоха Астроўскага. 4. Пісьменьнікі рэволюцыйнага часу.

Першая выстаўка—Эпоха Гогаля—адчыняецца 7 студзеня.

* 7 студзеня памер расійскі поэт Іван Аляксеявіч Белавусаў, першы перакладчык „Кобзаря“ Тараса Шэўчэнкі.

* Нік. Сідарэнка здаў у выд-ва „Молодая гвардия“ кнігу рэволюцыйнай лірыкі „Разрушенная тишина“. Працуе над цыклем вершаў „Ночь Предзавкома“.

* А. В. Луначарскі рыхтуе да друку невялікі том аднаактовых п‘ес, пад агульнай назваю „Драмолеты“. У гэты зборнік, які выдае „Academia“ увойдуць акрамя п‘ес, раней друкаваных, тры новыя аднаактавыя творы.

* Георгі Лебедзеў (цыганскі поэт) здаў у Цэнтрвыдат зборнік вершаў „Гілы“ („Песьні“) на роднай мове.

* П. Дорохов канчае аповесьць „Ривкино наследство“. П‘еса пад тэю-ж назваю і на тую-ж тэму здадзена тэатру б. Корш і Дзяржаўнаму яўрэйскаму тэатру. У сучасны момант ён працуе над романам „Сверчок“.

* М. Герасімаў працуе над цыклем вершаў аб соцыялістычным будаўніцтве. Акрамя таго, ён выпускае ў Маскоўскім краёвым аддзеле дзяржаўнага выдавецтва „Московский Рабочий“ кнігу вершаў „К соревнованию!“ (у сэрыі „Навінкі пролетарскай літаратуры“). Кніга яго вершаў „Полет“ выходзіць у выдавецтве „Недра“.

* Вера Інбэр закончыла кнігу апавяданьняў „Чувство локтя“, якая выйдзе ў выд-ве „Пролетарий“.

* Пры „Кузнице“ організавалася сэкцыя дзіцячай літаратуры. Выдзелены савет „Кузницы“ па дзіцячай літаратуры ў складзе: т. т. Н. Ляшко, А. Насіможіча, В. Чэрэўкова, П. Дземенцева, Голубева і Былінкіна (ад нацсэкцыі „Кузницы“). Старшынёю Савету дзіцячай літаратуры „Кузницы“ выбраны т. Насімовіч.

Сэкцыя дзіцячай літаратуры „Кузницы“ правяла некалькі сходаў дзіцячых пісьменьнікаў, аб‘яднаных „Кузницей“. Намечаны плян бліжэйшай працы, сувязь з выдавецтвамі і ўсімі організацыямі, якія аб‘яднаюць дзіцячых пісьменьнікаў.

* Пры сэкратарыяце РАПП арганізавана сталая нарада навуковых працаўнікоў. Нарада будзе працаваць пад непасрэдным кіраўніцтвам сэкратарыяту, маючы галоўнай сваёй задачай тэорэтычную распрацоўку праблем творчага мэтоду і марксыцкага літаратуразнаўства.

* Дзякуючы асаблівасьцям структуры Рэфа, дзейнасьць яго адбываецца ня ў гуртках і не на паседжаньнях, а непасрэдна ў тых рэдакцыях і прадпрыемствах, з якімі зьвязана большасьць рэфаўцаў. Усе члены Рэфа зьбіраюцца па панядзелках у Доме друку. На гэтых штотыднёвых сходах абгаварваюцца пытаньні выключна тэорэтычныя і літаратурна-політычныя.

Вялікая ўвага даецца працы членаў Рэфу ў рэдакцыях, а таксама сувязі з маладым мастацтвам. Груп-

маладых архітэктараў-студэнтаў Вхутэіна зьвярнулася да Рэфа з заклікам дапамагчы ім у абгаварэньні пытаньня аб будове соцыялістычных гарадоў. Цяпер Рэф распрацоўвае пытаньне аб соцыялістычных гарадох і хутка пачне на старонках друку дыскусію па гэтых пытаньнях.

* Ударная брыгада пісьменікаў пры „Молодой Гвардии", якая складаецца ў большасьці з членаў Рэфа, кончыла зьбіраньне цікавых матэрыялаў аб масавай рабоце клюбаў. Гэтыя матэрыялы будуць злучаны ў адзін артыкул, які хутка зьявіцца на старонках часопісі „Молодая Гвардия".

* Скончана зьбіраньне матэрыялаў для выстаўкі „Маякоўскі за 20 год". У сувязі з выстаўкаю І. Маякоўскі падрыхтаваў да друку зборнік сваіх плякатаў пэрыоду работы ў Роста. Зборнік складаецца з рысункаў і тэксту плякатаў, называецца „Грозный смех", выданы будзе ГИЗ'ам.

* Член Рэфу Касіль рэдагуе юнацкі зборнік „Вторая ступень", які выдае „Молодая Гвардия". У гэтым-жа выд-ве выходзіць кніга Касіля „Кондуит"—нарысы дарэвалюцыйнай і пасьлярэвалюцыйнай школы. У Пэдагогічным тэатры прынята да пастаноўкі п'еса гэтага аўтара, якая разьбірае тэму антысэмітызму.

* П. Незнамаў выдае ў Фэдэрацыі кнігу крытычных артыкулаў „Літаратура і тэндэнцыя".

* Сэкрэтарыят МАПП вядзе падрыхтоўку да краявой конфэрэнцыі, прызначанай на 5 лютага. У парадку дню конфэрэнцыі: даклад члена ўраду; даклад т. Фадеева аб задачах літаратуры ў рэконструкцыйны пэрыод; даклад т. Селівано ўскага аб поэзіі (па гэтаму дакладу на месцы рассылаецца адпаведная літаратура для падрыхтоўкі дэлегатаў да выступленьняў); даклад т. Суркова аб організацыйных мэтодах у сувязі з новымі задачамі, якія стаяць перад маскоўскай краявой організацыяй.

* Пяцігадовы плян будаўніцтва тэатральных будынкаў і дамоў культуры ахоплівае буйнейшыя прамысловыя цэнтры СССР. Тэатральная сэкцыя ГАХН, з мэтаю максымальнага садзейнічаньня пасьпяховаму правядзеньню гэтага будаўніцтва, організавала спэцыяльную камісію па вывучэньню тэатральных будынкаў. Тэатральная сэкцыя намеціла таксама—склікаць у траўні 1930 году конфэрэнцыю па пытаньнях плянаваньня і абсталяваньня тэатральных будынкаў. Гэта конфэрэнцыя павінна прапрацаваць і высунуць шэраг конкрэтных пажаданьняў для правядзеньня конкурсаў на стандарт рознага роду тэатральных будынкаў і іх сцэнічнага абсталяваньня, з вучотам тэхнічнага ўзроўню сучаснага тэатральнага мастацтва і дырэктыў у галіне тэатральнай палітыкі.

У парадку падрыхтоўкі матэрыялу да конфэрэнцыі, Тэатральная сэкцыя ГАХН організуе шэраг паседжаньняў і нарад з удзелам архітэктараў, рэжысэраў, дэкаратараў, машыністых, тэатразнаўцаў, адміністратараў і асоб, блізкіх да тэатральнага будаўніцтва, а таксама тых, хто цікавіцца пытаньнямі гэтага будаўніцтва.

* Аддзел пролетарскай літаратуры Маскоўскага краёвага дзяржвыдавецтва „Московский Рабочий" наладжвае шэраг літаратурных вечароў на прадпрыемствах, у рабочых клюбах, з мэтаю прапаганды пролетлітаратуры. Літаратурныя вечары ўжо праведзены ў клюбе мэталістых „Пролетарый", на Каломенскім заводзе, Цэнтральным доме комсамола Краснай Прэсны і інш.

Інстытут Леніна мяркуе выдаць у ГИЗ'е шасьцітамовы збор выбраных твораў Леніна, з заўвагамі і ўступнымі артыкуламі пад рэдакцыяю т. т. Крыніцкага, Пакроўскага, Папова, Савельева і Яраслаўскага.

Мэта выданьня—даць магчымасьць вывучыць ленінізм у гістарычным і дыялектычным разьвіцьці шырокім колам партыйнага, комсамольскага і беспартыйнага актыву, а таксама найбольш перадавым колам сялянства.

# ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

## Англія

* Вядомы ірляндзкі рэволюцыйны пісьменьнік О' Фгяхерці выдаў новы зборнік апавяданьняў пад назваю „Горская таверна і іншыя апавяданьні" (the mountaine tavern and other stories). Большасьць апавяданьняў прысьвечана быту ірляндзкіх сялян, рыбакоў, пастухоў.

* Ангельская пісьменьніца Віргінія Вульф друкуе свой новы твор пад назвай „Room of one's Oron", прысьвечаны жанчыне-пісьменьніцы.

* „Manchester guardian" запрапанаваў сваім чытачом адказаць на пытаньні: якіх шэсьць ангельскіх пісьменьнікаў будуць яшчэ чытаць у Англіі 2029 году. Адказы далі цікавыя лічбы: Гелсуорсі названы 1180 разоў, Валза—993, Бенэта—654, Кіплінга—455, Барры—286, Вальполя—233.

## Бельгія

* Памёр ад сухотаў на 51 годзе жыцьця выдатны поэта Карэль ван дэ Віостынь, адзін з найлепшых прадстаўнікоў сучаснага флямандзтва. Дэкадэнцкі ўхіл набліжае яго творчасьць да францускіх літаратурных напрамкаў канца 19 веку. Але ўсе яго творы, поэзіі і проза, як і журнальныя працы, зьяўляюцца адбіткам жыцьця Флямандрыі. Служыў ён у Флямандзкай нацыі, доўгі час быўшы профэсарам Генцкага Унівэрсытэту. Лепшыя творы ван дэ Віостына „Родны дом", „Залатая цень".

## Голяндыя

* Панаваньне лірыкі, што адзначалася апошнія гады ў галяндзкай літаратуры, пачынае паволі зьмяншацца на карысьць мастацкай прозы. Голяндзкая крытыка зьвяртае ўвагу на тое, што сярод літаратурнай моладзі ўжо пачынаецца ўхіл у бок роману і гэта пад нясумненным уплывам маладых нямецкіх пісьменьнікаў. Але посьпехам сярод шырокіх кол чытачоў пакуль што карыстаюцца болей прадстаўнікі старой прозы.

* Літаратурная Голяндыя сьвяткавала ў кастрычніку 1929 г. сямідзесяцігадовы юбілей з дня нараджэньня вядомай поэтэсы Алены Сварт.

## Італія

* Італьянская літаратурная прэса адзначае зьяўленьне новага выдатнага пісьменіка Альбэрта Морвіа, зусім яшчэ маладога, які напісаў толькі адзін роман. Роман гэты называецца „gli indifferenti". Пабудова яго орыгінальна тым, што разгортваецца для ўсяго роману на працягу трох дзён. Вялікі талент апавядальніка, конструкцыйная моц, сваясаблівы стыль, жыцьцёвая праўдзівасьць дзейных асоб, усё гэта робіць роман выдатным літаратурным зьявішчам.

* Італьянскае выдавецтва атрымала ад поліцыі загад аб забароне продажу твораў Максіма Горкага, Гогаля, Дастаеўскага, Л. Талстога, Тургенева, Джэка Лёндана. У некаторых мясцох поліцыя нават конфіскавала гэтых аўтараў. Матывуецца гэта тым, што, нібы, творы гэтыя прадаюцца па вельмі таннай цане і даюць дэфіцыт. На справе-ж тутака тая прычына, што ў Італіі гэтыя кнігі супя-

рэчаць усякаму напрамку выхаваньня фашысцкай моладзі.

* Нядаўна памерлі славуты скульптар Джэміто і вядомы мастак Франчэско Карло Мікэцьці.

* У першым нумары новай флёрэнтыйскай часопісі „Пегасо“ (якую рэдагуюць Огіэцьці і Панкраці) зьмешчаны артыкул Папіні пад назваю „Пра тую літаратуру“. Артыкул гэты—напад супроць сучаснай італьянскай літаратуры.

**Нямеччына**

* Выхад Іоганэса Бэхэра і Е. Кіша з рэдакцыі „Die Nure Bücherschau“ выклікаў вялікую дыскусію ў нямецкай прэсе. Дзесяты нумар „Die Neue Bücherschau“ зьмясьціў ліст Готфрыда Бэна, артыкул якога як раз прыпаў да выхаду Бэхэра і Кіша. Ліст носіць назву: „Пра ролю пісьменьніка ў нашы часы“. У тым-жа нумары зьмешчаны і адказ Кіша, у якім ён яшчэ раз падкрэсьлівае розьніцу сваіх і Бэнавых поглядаў на ўзаемаадносіны між літаратураю, політыкаю, партыяю і пропагандаю.

* Гергарт Поль вядомы рэволюцыйны пісьменьнік і рэдактар часопісі „Die Neue Bücherschau“ надрукаваў кніжку соцыяльна-бытавых апавяданьняў пад назваю „Партыя прайграна“ („Partie verspielt“).

* З новых ваенных романаў, якія выклікаюць вялікія спрэчкі ў літаратурных колах, адзін з найцікавейшых гэта Parthenan Рэнэ Гэссэ—запіскі афіцэра генэральнага штабу. Мілітарыстычны настрой, якім прасякнута кніга, выклікае вялікі протэст у левай прэсе.

* Зьвяртае на сябе ўвагу „Антологія нямецкай лірыкі“, што зьявілася ў апошні час. З зусім яшчэ новых аўтараў, зьмешчаных у „Антологіі“, зьяўляюцца—Эміль Бэльцнэр, Артур Гокауф, Гельмур Бартушэк. Агульнае ўражаньне ад кнігі прыемнае.

* У Нямеччыне пачала выходзіць сэрыя, аналёгічна расійскай—роман-газэты. У яе ўваходзяць усе популярныя сучасныя пісьменьнікі. Вышлі ўжо творы: Калермана, Цвайга, Вэлза, Врынга. На чарзе кніга Лёндана, Шніцлера, Сынклера, Файхтвангера.

* У Дзюсельдорфе організаваны міжнародны камітэт для пабудовы помніка Гайнрыху Гайнэ. У камітэт уваходзяць прадстаўнікі розных эўропэйскіх і амэрыканскіх дзяржаў. Хутка будзе агалошаны міжнародны конкурс.

**Францыя**

* 22 лістапада мінулага году Андрэ Жыд сьвяткуе свой шэсьцідзесяцігадовы юбілей. Андрэ Жыд адзін з найвыдатнейшых пісьменьнікаў сучаснай Францыі.

* У Парыжы памёр вядомы літаратурны крытык Поль Судэй (Paul Souday). Поль Судэй загадваў у 1892 г. аддзелам літаратурнай крытыкі ў газэце „Temps“ і меў вялікае значэньне ў літ. жыцьці Францыі. З вялікіх прац Судэя трэба адзначыць працу пра Поля Балеры, прыхільнікам якога ён быў.

* „L' Europe Nouvelle“ друкуе нявыданыя лісты Густава Флобэра да Тургенева. У іх яскрава вызначаны адносіны Флобэра да Золя.

*Рэдакцыйная колегія:* **А. Менскі, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот, І. Шыпіла.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ „ПОЛЫМЯ“ ЗА 1929 г.

## Мастацкая літаратура



---

*) Рымскія лічбы паказваюць нумар часопісі, арабскія—старонку.

## Навуковыя, палітычна-грамадзкія, экономічныя і гістарычныя артыкулы

## Літаратурна-крытычныя артыкулы.



## Кнігапіс

## Хроніка

## Ілюстрацыі:

## ЗЬМЕСТ